В. В. ГАРБАЧОВА

# УДЗЕЛЬНІКІ ПАЎСТАННЯ 1830-1831 гг. НА БЕЛАРУСІ

## БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК



УДК 016:947.607(092)+947.607(092)(01)
ББК 91.9:63(4Беи)+63(4Беи)4-8я1
Г20

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук, прафесар *У. І. Навіцкі*

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук, прафесар *У. М. Міхнюк*;
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *У. А. Сосна*

**Гарбачова В. В.**
Г20 Удзельнікі паўстання 1830–1831 гг. на Беларусі: Біябібліяграфічны слоўнік / В. В. Гарбачова. – Мн.: БДУ, 2004. – 400 с.
ISBN 985-485-144-3.

У біябібліяграфічным слоўніку на аснове сабранага матэрыялу з архіўных і бібліятэчных сховішчаў Беларусі, Расіі, Літвы і Польшчы прадстаўлены персаналіі ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. на Беларусі. У адпаведнасці з вызначанай структурай артыкулы ўтрымліваюць звесткі пра месца жыхарства, узрост, сацыяльнае паходжанне паўстанцаў, іх маёмасны статус, род заняткаў, узровень адукацыі, ступень удзелу ў паўстанні, а таксама пра іх далейшы лёс.

Выданне разлічана на гісторыкаў, краязнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй.

**УДК 016:947.607(092)+947.607(092)(01)**
**ББК 91.9:63(4Беи)+63(4Беи)4-8я1**

**ISBN 985-485-144-3**

# ПРАДМОВА

Паўстанне 1830–1831 гг. займае адметнае месца ў айчыннай гістарыяграфіі. Па-ранейшаму захоўваецца ўяўленне аб абмежаванасці яго тэрытарыяльнага распаўсюджвання, а таксама нешматлікасці і ананімнасці пераважнай большасці яго ўдзельнікаў. Аднак тыя звесткі, якія ўдалося сабраць, сведчаць пра даволі цікавыя і вельмі розныя лёсы і характары, аб'яднаныя барацьбой за адраджэнне былых шляхецкіх вольнасцей і страчанай дзяржаўнасці. З вялікай колькасці паўстанцаў аўтарам выбраны менавіта ўраджэнцы беларуска-літоўскіх зямель (у межах сучаснай Беларусі), а таксама тыя, хто працяглы час пражывалі на гэтай тэрыторыі. У выніку слоўнік склалі 2300 персаналій.

У дачыненні да такіх вядомых асоб, як Г. Дмахоўскі, А. Рыпінскі, І. Дамейка, Ф. Кеневіч, у айчынных энцыклапедычных выданнях даецца даволі поўная інфармацыя. Перад аўтарам стаяла іншая мэта. Па-першае, папоўніць ужо існуючыя звесткі, падкрэсліваючы менавіта іх дачыненне да падзей 1831 г. А, па-другое, уключыўшы іх у агульны пералік удзельнікаў паўстання, даць магчымасць чытачам уявіць і прааналізаваць логіку і эвалюцыю паўстанцкіх падзей. З гэтай жа мэтай уключаны персаналіі польскіх генералаў, атрады якіх прыбылі на дапамогу паўстанцам былога ВКЛ і мясцовым кіраўнікам, – Ю. Двярніцкага, А. Гелгуда, Ф. Роланда, Д. Рамарына, С. Рожыцкага, Г. Дэмбінскага і Д. Хлапоўскага.

Выкарыстаныя пры складанні слоўніка архіўныя крыніцы можна класіфікаваць на асобныя групы, асноўную з якіх складаюць матэрыялы следчых камісій. Крыніцы гэтай групы змяшчаюць разнастайную інфармацыю пра ўдзельнікаў паўстання, што дазваляе вызначыць ступень удзелу ў паўстанцкіх падзеях, сацыяльны і маёмасны стан асоб, дачыненне да дзейнасці тайных павятовых камітэтаў і паўстанцкай адміністрацыі.

Следчыя матэрыялы па Мінскай губерні знаходзяцца ў фондах Мінскай следчай камісіі па справах аб паўстанні 1830–1831 гг., Канцылярыі мінскага губернатара, віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара, віцебскага цывільнага губернатара, фондах мінскага часовага ваеннага губернатара, мінскага губернскага дэпутацкага

кіраўніцтва (НГАБ, ф. 561, 295, 1297, 1430, 296, 319), Часовага дэпартамента ваенных пасяленняў і Канцылярыі галоўнага штаба яго імператарскай вялікасці (РДВГА, ф. 405, 35), матэрыялах Мінскай філіі Варшаўскага таварыства аховы помнікаў старажытнасці (AGAD, Zbiór materiałów Mińskiego Koła Warszawskiego Towarzystwa Opieki nad Zabytkami Przeszłości; далей: MMK).

Матэрыялы Віленскай губернскай следчай камісіі сканцэнтраваны ў фондзе Камісіі, створанай для вызначэння ступені віны ўдзельнікаў падзей 1831 г., дзе змяшчаецца інфармацыя аб дзейнасці паўстанцаў Дзісенскага, Ашмянскага, Свянцянскага, Віленскага паветаў (LVIA, f. 437).

Дзейнасць Гродзенскай губернскай следчай камісіі адлюстравана ў матэрыялах Галоўнага ваенна-судовага ўпраўлення (РДВГА, ф. 801), фондах Часовага дэпартамента ваенных пасяленняў і Канцылярыі галоўнага штаба я. і. в. (РДВГА, ф. 405, 35), фондзе Віцебскага губернскага праўлення (НГАБ, ф. 1416), фондзе Канцылярыі гродзенскага губернатара, фондзе Гродзенскай губернскай камісіі для вызначэння ступені віны ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. (НГАБ у г. Гродна, ф. 1, 4).

У адносінах да асоб, якія знаходзіліся пад наглядам паліцыі за дачыненне да падзей 1830–1831 гг. па Віцебскай і Магілёўскай губернях, складаліся спісы, якія знаходзяцца ў фондзе Канцылярыі генерал-губернатара віцебскага, магілёўскага і смаленскага (НГАБ, ф. 1297). Адсутнасць у Магілёўскай і Віцебскай губернях адпаведных следчых камісій не выключала правядзення расследавання ў адносінах да іх насельніцтва. Распаўсюджванне ў губернях супрацьурадавых адозваў выклікала стварэнне пад старшынствам віцебскага цывільнага губернатара ў 1833 г. спецыяльнай следчай камісіі, матэрыялы якой захоўваюцца ў фондзе Канцылярыі папячыцеля Беларускай вучэбнай акругі Міністэрства народнай адукацыі, а таксама ў ф. 1297 і 1430 НГАБ.

Каштоўныя звесткі ўтрымліваюцца таксама ў алфавітных спісах паўстанцаў. На аснове справаздач гарадскіх і земскіх паліцый, павятовых і губернскіх следчых камісій былі складзены пачатковыя спісы па асобных губернях. Так, па Мінскай губерні атрымалася 3 кнігі, якія ўвайшлі ў фонд Мінскай следчай камісіі па справах аб паўстанні 1830–1831 гг.[1] Сабраны матэрыял падзелены на 4 асобныя графы: прозвішча, імя, імя па бацьку, сацыяльны статус і месца жыхарства;

[1] НГАБ, ф. 561, воп. 1, спр. 2–5. Трэцяя і чацвёртая справы ўтрымліваюць аднолькавы матэрыял.

пазіцыі, па якіх падазроны абвінавачваўся; у чым прызнаваўся вінаватым і вынесенае камісіяй рашэнне; кім і калі выносілася канфірмацыя. Менавіта на падставе гэтых матэрыялаў у далейшым складаліся абагульняючыя спісы. Часам у іх адсутнічае нумарацыя, не поўнасцю вытрымліваецца алфавітны парадак, сустракаюцца шматлікія паўторы, але тут ёсць факты, якія не былі перанесены ў канчатковыя спісы.

Пазней у 1835–1839 гг. на падставе папярэдніх матэрыялаў былі створаны абагульняючыя і ўдакладненыя “Алфавітныя спісы асоб, якія прымалі ўдзел у мецяжы” па Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Валынскай, Падольскай, Кіеўскай губернях і Беластоцкай вобласці. Гэтыя крыніцы знаходзяцца ў ф. 1 Канцылярыі Ваеннага міністэрства РДВГА.

Па Віленскай губерні атрымалася 5 кніг, па Гродзенскай, Мінскай і Беластоцкай вобласці – па 1, па Падольскай і Валынскай – па 3, па Кіеўскай – 2. Канчатковыя “Алфавітныя спісы” ўключаюць ужо 7 граф, якія фіксуюць парадкавы нумар; прозвішча, імя, імя па бацьку, “стан асобы”; узрост; ступень удзелу ў паўстанні; від пакарання; час выканання следчай камісіяй рашэнняў; асобныя заўвагі. Акрамя таго, змест “Алфавітных спісаў” дазваляе вызначыць агульную колькасць асоб па губернях, якія прыцягваліся следчымі органамі за ўдзел у паўстанні.

Другая графа спісаў, акрамя прозвішча і імя, змяшчае інфармацыю аб сацыяльнай прыналежнасці, родзе заняткаў адзначанай асобы. У адносінах да дзяржаўных сялян пазначаецца месца жыхарства (павет, губерня), для прыватнаўласніцкіх сялян – прозвішча ўласніка, вёска, павет, губерня. Пра асоб прывілеяваных саслоўяў запісы найбольш нестандартныя: у адносінах да шляхецкага саслоўя адзначаецца месца жыхарства (павет, губерня); у дачыненні да студэнтаў – месца навучання і сталага жыхарства; у дачыненні да чыноўнікаў і службоўцаў – месца службы, пасада. Для духавенства ўказваецца кляштар, касцёл і месца іх знаходжання. Графа з адзнакай узросту звычайна застаецца незапоўненай. Графа з інфармацыяй аб прычыннасці да паўстання змяшчае і апісанне канкрэтнага ходу падзей, наступныя графы прыводзяць рашэнне судовых органаў у адносінах да далейшага лёсу падследных і іх маёмасці.

“Алфавітныя спісы” з’яўляюцца адной з важнейшых крыніц пры вызначэнні ўдзельнікаў паўстання. Так, у чацвёртай графе змяшчаюцца матэрыялы следчых спраў, большасць з якіх не захавалася да нашага часу. На жаль, пры састаўленні спісаў адсутнічаў стандартны падыход. У адносінах да асоб прывілеяваных саслоўяў маюцца даныя або пра ха-

рактар заняткаў, або пра маёмасны стан, што ўскладняе уніфікацыю наяўнай інфармацыі па саслоўнай прыкмеце.

Пры характырыстыцы крыніц перш за ўсё трэба адзначыць, што найбольшую вартаць маюць матэрыялы, якія захоўваюцца ў польскіх архіўных, бібліятэчных і музейных сховішчах. І на гэта ёсць пэўнае тлумачэнне.

Значная частка матэрыялаў, якія тычацца паўстання 1830–1831 гг., апынулася за межамі Беларусі, дзякуючы дзейнасці заснаванай у 1916 г. Мінскай філіі Варшаўскага таварыства аховы помнікаў старажытнасці, якая імкнулася захаваць каштоўную для польскай грамадскасці культурную спадчыну.

Мінская філія складалася з 5 аддзелаў: секцыі старога Мінска, бібліятэчна-гістарычнага, мастацкага, архітэктанічнага і культурнага. Супрацоўнікамі гэтай установы ў адпаведнасці з вызначанымі сферамі зацікаўленасці быў распачаты працэс састаўлення пералікаў каштоўных помнікаў, якія знаходзіліся на абшарах Мінскай, Віленскай і Віцебскай губерняў. Акрамя гэтага яны заняліся складаннем бібліяграфічных паказальнікаў як польскіх, так і расійскіх выданняў, прысвечаных польскай гісторыі і культуры. Пэўнае месца адводзілася папулярызацыі дзейнасці тых выдавецкіх цэнтраў, якія адыгрывалі адметную ролю ў распаўсюджванні навуковых дасягненняў на беларуска-літоўскіх тэрыторыях. Да найбольш важных накірункаў філіі трэба аднесці дзейнасць па збору каштоўных прадметаў, сярод якіх значнае месца адводзілася архіўным матэрыялам, а таксама стварэнне ўмоў для якаснага захавання сабранай спадчыны. У разглядаемы гістарычны перыяд цікавым момантам у функцыяніраванні пазначанай арганізацыі з’яўляецца яшчэ адзін накірунак. Супрацоўнікі займаліся інвентарызацыяй ужо эвакуіраваных культурных каштоўнасцей, а разам з тым і загінуўшых на шляхах бурлівага часу.

У склад Мінскай філіі ўваходзілі Я. Віткевіч, С. Дангель, С. Неканда-Трэпка, К. Біске. На працягу двух гадоў з моманту заснавання таварыства імі было арганізавана 50 экспедыцый, у выніку якіх на склады філіі было дастаўлена 600 скрынак, дзе налічвалася 36 000 прадметаў[1]. Сярод зброі, абразоў, вырабаў са шкла значную колькасць складалі рукапісныя матэрыялы. У лістападзе 1918 г., калі да Мінска наблізіліся нямецкія войскі, пазначаныя прадметы нацыянальнай спадчыны пакінулі межы Беларусі.

[1] Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Przewodnik po zasobie. T. II. Epoka porozbiorowa. Warszawa, 1998. S. 644.

У 1920-я гг. зборы Мінскай філіі трапілі ў Нацыянальны музей у Варшаве. Што тычыцца архіўных матэрыялаў, то частка з тых, якія захаваліся пасля другой сусветнай вайны, была перададзена ў 1950–1951 гг. у Галоўны архіў старажытных актаў (AGAD).

Важнай падзеяй стала перадача ў кастрычніку 1927 г. у адпаведнасці з пастановай сейма Рэчы Паспалітай ад 21 кастрычніка 1921 г. матэрыялаў Польскага нацыянальнага музея з Раперсвіля (Швейцарыя). Шматлікія рукапісы, кнігі, калекцыі малюнкаў і карт перайшлі ва ўласнасць Нацыянальнай бібліятэкі, музейныя прадметы трапілі ў Нацыянальны музей у Варшаве. У пасляваенны перыяд адбылося чарговае перамяшчэнне раперсвільскага збору, часткі яго зараз знаходзяцца і ў AGAD.

Перайшлі ва ўласнасць Польшчы таксама каштоўныя зборы Баціньёльскай бібліятэкі (разам са зборамі Версальска-Віленскай бібліятэкі) і атэля “Ламберт” (рэзідэнцыя А. Чартарыйскага ў Францыі). Гэта адбылося ў 1874 г., і першапачаткова матэрыялы знаходзіліся ў Курніку (каля Познані). У 1929 г. баціньёльскі збор быў перавезены ў Варшаву і на сённяшні дзень захоўваецца ў розных польскіх бібліятэках і архіўных сховішчах, у тым ліку і ў AGAD[1].

Пры характарыстыцы крыніцазнаўчай базы неабходна акрэсліць некаторыя праблемы, якія ўзнікаюць пад час яе выкарыстання. Адна з іх – вызначэнне воінскага звання паўстанцаў. Падаецца натуральным, што дадзеная акалічнасць павінна была фіксавацца адпаведнымі адміністрацыйнымі службамі польскай арміі. У сапраўднасці ўсё адбывалася больш складана. Ваенныя паўстанцкія сілы ў 1830–1831 гг. складаліся з шэрагу састаўных частак. Адной з самых шматлікіх з’яўляліся сілы рэгулярнай арміі, тым не менш яе асабовы склад змяніўся пасля лістапада 1830 г. Афіцэрскі корпус значна абнавіўся, старыя кадравыя сілы склалі пасля выступлення толькі нейкую частку. Наданне чыноў навяўленым вайскоўцам, як вядома, адбывалася пад час пастаянных змен у вярхоўным кіраўніцтве польскіх войскаў. За перыяд 1830–1831 гг. гэтымі паўнамоцтвамі валодалі галоўнакамандуючыя Ю. Хлапіцкі, М. Радзівіл, Я. Скшынецкі, Я. Крукавецкі, Г. Малахоўскі і М. Рыбінскі. Разам з тым наданне вайсковага звання ўваходзіла ў кампетэнцыю Вайсковай урадавай камісіі[2], а таксама кіраўнікоў асобных атрадаў, скіраваных на дапамогу паўстанцам на тэрыторыях былога ВКЛ, Ю. Двярніцкага, А. Гелгу-

[1] Archiwum Główne Akt Dawnych. S. 404–405.
[2] Komisja Rządowa Wojny (далей: KRW).

да, Г. Дэмбінскага, Ф. Роланда, Д. Рамарына, С. Рожыцкага, галоўнакамандуючага паўстаннем на беларуска-літоўскіх землях Д. Хлапоўскага. Акрамя гэтага адпаведныя правы мелі і кіраўнікі мясцовых партызанскіх атрадаў (Т. Мірскі, Ю. Кашыц і інш.). Хаця і тут мелася некаторая розніца: вышэйшыя вайсковыя органы валодалі правам надання генеральскіх чыноў, у кампетэнцыю астатніх уваходзіла наданне афіцэрскіх ступеняў ад падпаручніка да падпалкоўніка[1].

З-за адсутнасці цэнтралізаванага ўліку афіцэрскага саставу практычна немагчыма дакладна вызначыць перамяшчэнне па службовай лесвіцы прадстаўнікоў афіцэрскага корпуса. У такой сітуацыі застаецца магчымым пазначэнне ў дачыненні афіцэрскіх чыноў толькі нейкага часовага стану.

Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што паўстанцы з беларуска-літоўскіх зямель мянялі пад час выступлення па некалькі вайсковых структурных адзінак, што вымушае прасачыць матэрыялы партызанскіх атрадаў, а затым корпусаў ген. Д. Хлапоўскага, Г. Дэмбінскага і інш., каб вызначыць, дзе апынуліся паўстанцы пад час заканчэння ваенных дзеянняў. А гэта ў сваю чаргу патрабуе вывучэння дакументаў, якія тычацца Ф. Роланда, А. Гелгуда і інш.

Пры аднаўленні сапраўднай карціны значную дапамогу маглі б аказаць палкавыя архівы, дзе фіксаваўся асабісты афіцэрскі састаў, павышэнні па службе, удзел у ваенных дзеяннях, атрыманыя ўзнагароды, раненні, занатоўваліся даныя ў дачыненні тых, хто загінуў у баях і сутыкненнях. Аднак, на жаль, значная большасць з гэтых каштоўных дакументаў не захавалася. Частка іх загінула, трапіла да праціўніка ці ўвогуле была страчана яшчэ ў 1831 г. Аднак найбольшы ўрон быў нанесены пад час варшаўскага паўстання 1944 г., калі загінулі шматлікія архіўныя справы з Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве.

Адзін з нешматлікіх палкавых архіваў знаходзіцца ў фондах Музея польскай арміі ў Варшаве. Гэта архіў 4 уланскага палка, матэрыялы якога адносяцца да сакавіка – жніўня 1831 г. і ўключаюць інфармацыю аб перамяшчэнні па вайсковай службе асабістага афіцэрскага саставу, узнагародах, у некаторых выпадках пазначаюцца даты смерці[2]. У Рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага універсітэта ў фондзе губер-

[1] Гл.: Źródła do dziejów wojny polsko-rosyjskiej 1830–1831 r. / Wyd. B. Pawłowski. Warszawa, 1933. T. 3. S. 270–271.

[2] MWP, 42 H “Lista imienna oficerów wyższych i niższych do wypłaty żołdu i wynagrodzeń sporządzona”.

натара Варшавы Я. Крукавецкага захаваліся матэрыялы 1 уланскага палка [1]. У гэты ж фонд уваходзіць спіс асабістага саставу афіцэраў дзеючай арміі перыяду паўстання ад маёраў да генералаў дывізіі. Ён складзены па загаду Крукавецкага і змяшчае інфармацыю аб часе атрымання вышэйшага чыну пералічаных вайскоўцаў за жнівень 1831 г.[2]

Значнае месца сярод крыніц займае пералік асабістага саставу корпуса генерала Г. Дэмбінскага, дзе адлюстравана сітуацыя на пачатак жніўня 1831 г., час, калі ён падышоў да Варшавы са сваім амаль 4-тысячным корпусам, праследуемы расійскім генералам Е.Я. Саваіні. У складзе гэтага фарміравання апынулася вялікая колькасць патрыётаў з Віленскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў, уступіўшых у яго ў чэрвені – ліпені 1831 г. пад час рэйду па гэтых тэрыторыях. Польскі сейм і сенат высока ацанілі ваенны марш Дэмбінскага, прызнаўшы яго ўзорам ваеннага мастацтва, кожны са складу гэтага корпуса быў узнагароджаны дыпломам "добра паслужыўшага Айчыне". Захаваўся пералік вайскоўцаў 26 палка лінейнай пяхоты, 2 і 4 палка конных стральцоў, 13 уланскага палка, пазнанскай і навагрудскай конніцы, аддзелаў артылерыі і сапёраў[3].

У фондах Галоўнага архіва старажытных актаў Варшавы захаваліся таксама паперы генерала Ф. Роланда са спісамі асабістага саставу афіцэраў 7 і 19 палкоў лінейнай пяхоты, 2 і 4 палкоў пешых стральцоў, 6 палка конных стральцоў, 10, 11 і 12 уланскіх палкоў, якія 15 ліпеня 1831 г. пад кіраўніцтвам генерала перайшлі межы Прусіі[4]. На жаль, названыя дакументы не з'яўляюцца поўнымі, але тым не менш змяшчаюць каштоўную інфармацыю пра месца нараджэння афіцэраў і час паступлення на вайсковую службу.

Захаваліся матэрыялы і ў дачыненні тых асоб, якія пасля адыходу асноўных сіл за межы Прусіі, Аўстрыі, Галіцыі засталіся ў Варшаве. Афіцыйныя ўлады сабралі звесткі пра тых, хто з'явіўся з раскаяннем і аднавіў прысягу на адданасць расійскаму ўраду. Кожны з былых паўстанцаў, які прадстаў перад Вайсковай урадавай камісіяй, павінен быў назваць ваеннае званне, якое меў перад паўстаннем, вызначыць ступень і формы пры-

[1] Rps BUW, nr 562 "Lista imienna oficerów, podoficerów i żołnierzy w dywizjonie 1 pułku ułanów legionu nadwiślańskiego podana w dniu 25 maja 1831 roku".

[2] Rps BUW, nr 562 " Lista starszieństwa generałów i oficeryw wyższych Wojska Narodowego z dnia 25 sierpnia 1831 r."

[3] AGAD, Zespół Władz centralnych Powstania Listopadowego 1830–1831 r. (далей: WCPL), nr 724 "Akta obejmujące listę oficerów, podoficerów i żołnierzy korpusu jenerała Dembińskiego".

[4] AGAD, PFR, C. " Lista oficerów korpusu Rohlanda z sierpnia 1831 r."

чыннасці да падзей, атрыманыя на працягу 1830–1831 гг. ваенныя званні, па якой прычыне і адкуль прыбыў у Варшаву. У выніку правядзення расследавання ўзніклі тры аб'ёмныя справы (адна з іх з'яўляецца перакладам усяго матэрыялу на французскую мову), якія знаходзяцца ў фондах Галоўнага архіва старажытных актаў[1]. Часткова гэтыя матэрыялы з дабаўленнем асоб, якія вярнуліся з Прусіі, Галіцыі ці іншых месц, былі выдадзены ў "Gazecie Warszawskiej" у 1831 г.[2]

Значнае месца сярод крыніцазнаўчага матэрыялу займаюць друкаваныя выданні. Адным з найбольш інфармацыйных з'яўляецца пералік былых афіцэраў польскіх войскаў, якія адступілі на аўстрыйскія тэрыторыі, а пазней эмігрыравалі ў розныя краіны. Гэты дакумент, датаваны 3 снежня 1834 г., змяшчае больш за 900 асоб, сярод якіх знаходзяцца і ўраджэнцы беларуска-літоўскіх зямель[3]. Захавалася толькі некалькі экземпляраў дадзенага выдання, адзін з якіх знаходзіцца ў зборах Нацыянальнай бібліятэкі Варшавы.

Каштоўным таксама з'яўляецца пералік асоб, узнагароджаных крыжам "Virtuti Militari". Гэтую ўзнагароду атрымлівалі вайскоўцы розных званняў – як афіцэры, так і падафіцэры і радавыя салдаты. Спіс змяшчае дату атрымання ўзнагароды і яе нумар. Арыгінал дакумента знаходзіцца ў зборах Польскай бібліятэкі ў Парыжы. У 1881 г. з нагоды 50-й гадавіны паўстання гэты рукапіс быў выдадзены ў Львове[4].

Існуюць масавыя крыніцы і ў дачыненні да тых удзельнікаў падзей 1830–1831 гг., якія апынуліся ў ссылцы. Так, адна з іх выйшла, дзякую-

---

[1] AGAD, KRW, nr 477 "Protokoły oficerów wszelkiego stopnia i urzędników wojskowych chcących pozostać w Warszawie za rękojmią"; nr 478 "Lista imienna jenerałów, oficerów wyższych i niższych, tudzież urzędników wojskowych armii polskiej będących w służbie czynnej na dniu 29 listopada 1830 roku, którzy wykonali na nowo przysięgę wierności Najjaśniejszemu Cesarzowi i Królowi i dopełnili przepisanych formalności".

[2] Lista imienna jenerałów, oficerów wyższych i niższych, niemniej urzędników wojskowych, którzy nie udawszy się za wojskiem lub zaniósłszy żądanie o uwolnienie wykonali na nowo przysięgę wierności Najjaśniejszemu Cesarzowi Imci i Królowi lub udali się za granicę, gdzie są poddanymi, do 9/21 września włącznie // Gazeta Warszawska. 1831, nr 254–256.

[3] Lista ogłoszonych za wygnańców oficerów byłych wojsk polskich, którzy schroniwszy się do państw austriackich, stamtąd do innych przeszli krajów, niektórzy tylko z nich prosili o amnestię, i to po upływie najwyżej zakreślonego terminu, większa część nie podawała wcale próśb o przebaczenie i dozwolenie powrotu do Ojczyzny. Dnia 3 grudnia 1834 roku. Warszawa, 1834.

[4] Księga pamiątkowa w 50-letnią rocznicę powstania roku 1830, zawierająca spis imienny dowódców i sztabsoficerów tudzież oficerów, podoficerów i żołnierzy armii polskiej w tymże roku krzyżem wojskowym "Virtuti Militari" ozdobionych. Lwów, 1881.

чы намаганням былых паўстанцаў, у 1832 г. у прыватным выдавецтве Ліпска[1]. Тут змяшчаецца інфармацыя, сабраная Вайсковай урадавай камісіяй, пра 274 чалавекі, якія былі высланы ў аддаленыя губерні Расіі. Большасць з прадстаўленых у гэтым спісе складаюць былыя афіцэры, сасланыя ў Вяцкую губерню.

Асобную групу крыніц прадстаўляюць мемуары, пакінутыя польскімі вайскоўцамі[2], пасламі замежных дзяржаў[3], а таксама непасрэднымі ўдзельнікамі падзей – І. Дамейкам[4], Ю. Шчапінскім, Ю. Зянковічам (якія выдаў К. Браніkoўскі[5]), І. Клюкоўскім, Г. Клімашэўскім, К. Руткоўскім, В. Барткевічам (выдадзеныя Ф. Вратноўскім[6]). Цікавасць уяўляюць таксама ўспаміны К. Красіцкага, А. Млоцкага, А. Невяровіча[7].

Адным з першых гісторыкаў, хто зацікавіўся ўдзельнікамі паўстання 1830–1831 гг., а менавіта афіцэрскім корпусам, быў польскі даследчык Б. Ю. Халадзецкі. У 1913 г. ён выдаў працу, прысвечаную корпусу Ю. Двярніцкага[8]. Аўтар, выкарыстаўшы аўстрыйскія архіўныя матэрыялы, прадставіў каштоўны біяграфічны матэрыял прыкладна на 100 афіцэраў корпуса.

У 1925 г. выйшла даследаванне С. Дангеля, які ў паўстанні 1830–1831 гг. асобна вылучае падзеі на тэрыторыі Мінскай губерні[9]. У

[1] Spis imienny męczenników polskich obejmujący imiona oficerów i obywateli, którzy za udział w walce 1831 r. o narodową niepodległość zesłani zostali w dalekie głębie moskiewskiego carstwa. Lipsk, 1832. Як пазначае А. Баршчэўска-Крупа, падрыхтаваў дадзены дакумент да выдання А. Камарніцкі. Гл.: Barszczewska-Krupa A. Emigracja i kraj. Wokół modernizacji polskiej swiadomości społecznej i narodowej. 1831–1863. Łódź, 1999. S. 32.

[2] Chłapowski D. Pamiętniki. Cz. II. Wojna roku 1830–1831. Poznań, 1899; Dembiński H. Pamiętnik. Warszawa, 1911; Konarski S. Dziennik z lat 1831–1834 // Polska Akademia Nauk – oddział w Krakowie. Materiały Komisji Nauk Historycznych. № 23. Warszawa, 1973.

[3] Durand R. Depesze z powstańczej Warszawy 1830–1831. Warszawa, 1980.

[4] Domeyko I. Moje podróże. Pamiętniki wygnańca. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1962. T. 1; Powstanie 1830–1831 r. na Litwie // Powstanie 1831 roku na Litwie. Wspomnienia uczestników. Wilno, 1931. S. 1–28.

[5] Pamiętniki polskie / Wyd. K. Bronikowski. Przemyśl, 1883–1884. T. 1–2.

[6] Zbiór pamiętników o powstaniu Litwy w r. 1831 / Ukł. przez F. Wrotnowskiego. Paryż, 1835. Успаміны І. Клюкоўскага змясціў таксама Г. Масціцкі: Powstanie 1831 roku na Litwie. Wspomnienia uczestników / Wyd. H. Mościcki. Wilno, 1931.

[7] Zbiór pamiętników do historii powstania polskiego z roku 1830–1831. Lwów, 1882.

[8] Chołodecki B.J. Korpus Dwernickiego w granicach Austrii. Lwów, 1913.

[9] Dangel S. Rok 1831 w Mińszczyźnie. Warszawa, 1925.

дадатку да працы гісторык прыводзіць спіс каля 500 паўстанцаў з Міншчыны. З поўнай упэўненасцю складана вызначыць асноўную мэту аўтара пры састаўленні пераліку ўдзельнікаў. Хутчэй за ўсё падставай для гэтага стала выкарыстанне матэрыялаў Мінскай губернскай следчай камісіі. С. Дангель апускае біяграфічныя звесткі, а фіксуе толькі сацыяльнае паходжанне паўстанцаў, іх месца жыхарства, ступень прычыннасці да падзей і від вызначанага МГСК пакарання. Тым не менш, дадзеная праца прадстаўляе для нас пэўную цікавасць, таму што ў ёй выкарыстоўваецца шэраг матэрыялаў МГСК, якія не захаваліся да нашага часу.

Прынцып рэгіянальнага падыходу да падзей 1831 г. выкарыстаў яшчэ адзін даследчык – К. Бялінскі. Аб’ектам яго ўвагі сталі падзеі на тэрыторыі Свянцянскага павета[1]. Аднак аўтар прыводзіць толькі спіс прычынных да паўстання. У некаторых выпадках ён пазначае сацыяльнае паходжанне і месца жыхарства. Прадстаўленымі матэрыяламі, на наш погляд, неабходна карыстацца з асцярожнасцю: значная частка ўключаных у пералік асоб не ідэнтыфікуецца па іншых крыніцах.

У 1931 г. у “Roczniku Wołyńskim” з’явіўся матэрыял Я. Гофмана, прысвечаны персанальнаму складу Літоўска-Валынскага легіёна[2]. Трэба аднак адзначыць, што аўтар здолеў толькі часткова занатаваць склад гэтага ваеннага фарміравання.

Сярод даследаванняў, карысных пры вызначэнні колькаснага і персанальнага складу ўдзельнікаў паўстання, можна выдзеліць працы Ю. Бялінскага і Л. Яноўскага, прысвечаныя студэнтам і выкладчыкам Віленскага і Варшаўскага універсітэтаў[3]. У 1977 г. з’явілася яшчэ адна праца, прысвечаная студэнтам Варшаўскага універсітэта[4]. Гэтае грунтоўнае выданне, падрыхтаванае А. Барніцкім, А. Браўнам, М. Цылвік-Скаўронак, М. Казмянскім, Я. Трынкоўскім і Е. Скаўронкам пад кіраўніцтвам Р. Гербера, утрымлівае каштоўную крыніцазнаўчую базу – архіўныя матэрыялы розных замежных навучальных устаноў, архівы дэпартаментаў Манпелье, Грэнобля і інш.

[1] Bieliński K. Rok 1831 w powiecie zawilejskim (święciańskim). Wilno; Święciańy, 1930.

[2] Hoffman J. Legia litewsko-wołyńska 1831 r. // Rocznik Wołyński. 1931.

[3] Bieliński J. Uniwersytet Wileński (1579–1831). T. 1–3. Kraków, 1899–1900; яго ж: Królewski Uniwersytet Warszawski (1816–1831). T. 1–3. Warszawa, 1907–1912; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny dawnego Uniwersytetu Wileńskiego. Wilno, 1939.

[4] Gerber R. Studenci Uniwersytetu Warszawskiego 1808–1831. Słownik biograficzny. Wrocław, 1977.

У 1964 г. з'явілася першая праца, прысвечаная персанальнаму складу Вялікай эміграцыі. Польскі гісторык М. Тыровіч разгледзеў дзейнасць Польскага дэмакратычнага таварыства (ПДТ) і прадставіў яго кадравы склад перыяду 1832–1863 гг.[1]. Праца складаецца з некалькіх тысяч персаналій, прысвечаных былым удзельнікам паўстання і ўступіўшым у ПДТ у эміграцыі. Зразумела, што зварот да такой шырокай тэмы як пасляпаўстанцкая эміграцыя, а асабліва вывучэнне яе персанальнага саставу з'яўлялася складаным для аднаго даследчыка. Відаць таму аўтар абмежаваўся толькі адной са шматлікіх эмігранцкіх арганізацый і ахапіў толькі пэўнае кола крыніцазнаўчых матэрыялаў. Падставай для напісання яго працы паслужылі такія друкаваныя крыніцы, як цыркуляры ПДТ, "Almanach" А.Т. Красноўскага (выдаваўся на французскай мове) і інш. Трэба адзначыць, што аўтар дастаткова скрупулёзна занатоўвае ўсіх, хто меў хоць нейкае дачыненне да пазначанага таварыства. Што тычыцца іншых біяграфічных звестак, то тут сустракаюцца пэўныя памылковыя даныя.

У 1985 г. у сувязі са святкаваннем 150-й гадавіны паўстання з'явілася выданне Л. Краўца. Асновай для яго сталі матэрыялы, падрыхтаваныя яшчэ ў XIX ст. Я. Барткоўскім пра тых паўстанцаў, якія загінулі ў эміграцыі ў Францыі[2]. Разам з тым гісторык зрабіў свае каментарыі і дадаў у персаналіі значную колькасць біяграфічных звестак, выкарыстаўшы рукапісныя матэрыялы Польскай бібліятэкі ў Парыжы.

Грунтоўным па сваёй інфарматыўнасці з'яўляецца выданне, падрыхтаванае Р. Бялецкім на падставе матэрыялаў французскіх архіваў. Падлічыўшы, што на працягу 1831–1837 гг. у Францыю прыбылі 5784 вайскоўцы (толькі іх рэгістравалі пры перасячэнні мяжы), аўтар сканцэнтраваў сваю ўвагу на працэсе перамяшчэння эмігрантаў [3].

З моманту з'яўлення на тэрыторыі Францыі першых эмігрантаў мясцовы ўрад прыступіў да рэгламентацыі іх жыцця. Адным з першых мерапрыемстваў стала фарміраванне спецыяльных эмігранцкіх закладаў. Перамяшчэнне па краіне ці з закладу ў заклад без дазволу ўлад магло

[1] Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne Polskie 1832–1863. Przywódcy i kadry członkowskie. Przewodnik bio-bibliograficzny. Warszawa, 1964.

[2] Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych w Emigracji od roku 1831 (Cmentarzyk) / Wyd. L. Krawiec // Materiały do biografii, genealogii i heraldyki polskiej. T. 7–8. Rzym, 1985.

[3] Bielecki R. Zarys rozproszenia Wielkiej Emigracji we Francji 1831–1837. Materiały z archiwów francuskich. Warszawa; Łódź, 1986.

прывесці да страты субсідый і высылкі за межы Францыі. Першапачаткова французскія ўлады давалі дазвол на размяшчэнне эмігрантаў у Авіньёне і Безансоне. Першы прапаноўваўся для ўтрымання вайскоўцаў, а другі для цывільных асоб. Аднак пачынаючы з 5 красавіка 1832 г. геаграфія размяшчэння эмігрантаў пашыраецца на Шалі, Буржэ, Люнель і шэраг інш. гарадоў.

У 1832 г. французскі ўрад, выконваючы просьбы эмігрантаў, дазволіў працягваць вучобу былым студэнтам у мясцовых вучэбных установах. Неабходна было толькі пацвердзіць свой стан ці дакументальна, ці прадставіўшы сведку. І пачынаючы з восені 1832 г. эміграцыйны асяродак распаўсюджваецца на універсітэты і вышэйшыя школы. Студэнты-медыкі пераважна працягвалі навучанне ў Манпелье, у Парыжы ці Страсбургу. Студэнты-юрысты – у Дзіжоне. Акрамя гэтага эмігранты з былой Рэчы Паспалітай сталі вывучаць навукі ў такіх установах, як Горная школа, Школа дарог і мастоў, Цэнтральная школа, Школа ветэрынарыі, Школа мастацтва і рамёстваў і інш. З цягам часу эмігрантам дазволілі пакідаць заклады для папраўкі здароўя і перамяшчацца да межаў Іспаніі ці ў прыморскія мястэчкі.

Вясной 1833 г. колькасць закладаў павялічылася. Між тым паўстае пытанне ліквідацыі вялікіх закладаў, якія прыносілі небяспеку для французкіх улад. На 15 мая 1833 г. да найбольш шматлікіх закладаў адносіліся: Буржэ (1404 чал.), Ле Пюі (688 чал.), Авіньён (475 чал.), Бержэрак (395 чал.), Безансон (136 чал.). У Парыжы на гэты момант знаходзілася 113 чалавек. З вясны 1833 г. пачалося часам прымусовае рассяленне невялікіх па колькасці груп людзей (5–20 чал.) у розныя французскія гарады. Восенню 1833 г. налічвалася ўжо не меней 100 населеных пунктаў, дзе жылі эмігранты. Самыя вялікія заклады налічвалі не болей за 100 чалавек[1].

У 1986 г. была выдадзена яшчэ адна праца, прысвечаная пасляпаўстанцкай эміграцыі, Б. Канарскай[2]. Яна змяшчае біяграфічны слоўнік некалькіх соцень былых паўстанцаў, якія ў эміграцыі атрымлівалі адукацыю ці пацвердзілі атрыманыя раней дыпломы. Дадзеная праца прываблівае колькасцю апрацаванага архіўнага матэрыялу, змешчанага як у цэнтральных, так і архівах дэпартаментаў.

[1] Гл.: Bielecki R. Zarys rozproszenia Wielkiej Emigracji we Francji 1831–1837. S. 34–44.

[2] Konarska B. Polskie drogi emigracyjne. Emigranci polscy na studiach we Francji 1832–1848. Warszawa, 1986.

З 1986 г. у польскай гістарыяграфіі пачынае шырока распрацоўвацца мемарыяльная тэма ўраджэнцаў былой Рэчы Паспалітай, пахаваных на могілках Парыжа і яго наваколля. Пасля даследавання Л. Краўца з'яўляецца даведнік аб пахаваных на Манмарансі, выкананы пад кіраўніцтвам Е. Скаўронка[1]. Пры стварэнні гэтай працы ўпершыню былі выкарыстаны матэрыялы Таварыства аховы могілак палякаў у Францыі, што дало магчымасць увесці ў навуковы ўжытак шэраг новых невядомых фактаў.

Некалькі прац па дадзенай тэме падрыхтавана калектывам пад кіраўніцтвам А. Берната. У 1986 г. выйшла першая кніга, прысвечаная пахаваным на могілках Манмартра, Сант-Вінцэнта і Баціньёля[2]. У 1991 г. былі выдадзены апісанні могілак Пер-Лашэз[3]. У 1999 г. выйшла яшчэ адна сумесная праца, выкананая пад кіраўніцтвам Р. Бялецкага[4]. Акрамя персаналій у дадзеным выданні апісаны працэс пахавання палякаў і былых жыхароў ВКЛ, а таксама ўключаны найбольш значныя архітэктурныя помнікі, сярод якіх магілы А. Валадковіча, Ю. Кашыца, Л. Замбржыцкага і інш.

Пачынаючы з 1995 г. па 1998 г. выйшла 3 тамы фундаментальнага 4-томнага выдання, якое было распачата Р. Бялецкім яшчэ ў 1973 г. пад час яго знаходжання ў Францыі[5]. Асноўнай мэтай даследавання аўтара стаў асабовы афіцэрскі састаў удзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. Даследчык планаваў прадставіць персаналіі 12 тыс. чалавек. Прываблівае і ўражвае крыніцазнаўчая база выдання: даследчык апрацаваў матэрыялы каля 100 архіўных французскіх і польскіх сховішчаў, сярод якіх Нацыянальны архіў Францыі, Архіў Міністэрства замежных спраў, зборы Польскай бібліятэкі ў Парыжы, шэраг архіваў розных дэпартаментаў і інш. Акрамя гэтага даследчыкам выкарыстаны друкаваны крыніцазнаўчы матэрыял і ўспаміны нашчадкаў былых паўстанцаў. Чацвёрты том з-за смерці аўтара не пабачыў свет. Аднак напрацаваныя Р. Бя-

[1] Skowronek J. Cmentarz polski w Montmorency. Warszawa, 1986.

[2] Biernat A. Inskrypcje grobów polskich na cmentarzach w Paryżu – Montmartre, Saint-Vincent, Batignolles. Warszawa, 1986.

[3] Biernat A. Inskrypcje grobów polskich na cmentarzach w Paryżu – Père-Lachaise. Warszawa, 1991; Inskrypcje grobów polskich na cmentarzach w Paryżu – Montparnasse. Warszawa, 1991.

[4] Bielecki R. [et al.]. Polacy pochowani na cmentarzu Montmartre oraz Saint-Vincent i Batignolies w Paryżu. Warszawa, 1999.

[5] Bielecki R. Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. T. 1–3. Warszawa, 1995–1998.

лецкім матэрыялы з'яўляюцца даступнымі для даследчыкаў і захоўваюцца ў Рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага універсітэта[1].

У 1998 г. выйшла даследаванне В. Сліvoўскай[2], прысвечанае ссыльным у аддаленыя губерні Расіі на працягу 1815–1856 гг. Значнае месца сярод прадстаўленых асоб адведзена ўдзельнікам падзей 1830–1831 гг. Немагчыма пераацаніць гэтую працу: аўтар здолеў апрацаваць па вызначанай тэме шырокае кола крыніц не толькі Польшчы, а таксама Украіны, Літвы, Беларусі і Расіі. Нягледзячы на пэўную распрацаванасць прадстаўленай тэмы ў польскай гістарыяграфіі, В. Сліvoўская ў падрыхтаваных каля 3,5 тыс. персаналіях дае шмат новых фактаў, у тым ліку і ў дачыненні да ўраджэнцаў беларускіх зямель.

Трэба адзначыць, што персаналіі, прадстаўленыя ў біябібліяграфічным слоўніку, не аднолькавыя па сваёй факталогіі. Улічваючы ступень распрацаванасці дадзенай праблемы ў айчыннай гістарыяграфіі, аўтар імкнуўся як мага больш поўна пералічыць удзельнікаў падзей 1830–1831 гг., з вызначэннем нават мінімальнай знойдзенай інфармацыі. Самі артыкулы будуюцца ў адпаведнасці з агульнай схемай і ўмоўна складаюцца з чатырох частак, тры з якіх тычацца біяграфічнай інфармацыі. Першая ўключае звесткі, якія нам удалося сабраць у дачыненні да паўстанцкага перыяду: прозвішча, імя, даты нараджэння і смерці, саслоўная прыналежнасць і маёмасны стан, месца жыхарства, месца нараджэння, імёны бацькоў, адукацыя, сфера прафесійнай занятасці.

Некаторыя складанасці ўзнікаюць пры пазначэнні імён паўстанцаў. Намі выкарыстоўваецца прынцып арыентацыі на крыніцазнаўчы варыянт. Таму ў тэксце сустракаецца напісанне Міхайла – Міхал, Ян – Янка – Іван, Венядзікт – Бенядзікт, Іосіф – Юзаф. У большай ступені гэта абумоўліваецца адсутнасцю даных пра веравызнанне, у такіх абставінах імя Іван у польскіх крыніцах аўтаматычна ператвараецца ў Яна. У дачыненні ж да некаторых асоб імя не ўдаецца вызначыць наогул, у такіх выпадках прыходзіцца абмяжоўвацца адным прозвішчам.

Другая частка артыкулаў прысвечана ўдзелу ў паўстанцкіх падзеях, дзе пазначаецца час далучэння да паўстання, форма прычыннасці, вайсковыя званні, дзейнасць у вайсковых фарміраваннях, атрыманыя ўзнагароды, час пераходу мяжы Польшчы ці вяртання на месца жыхарства. Трэцяя частка ўключае звесткі пра пасляпаўстанцкі перыяд: час і форма

[1] Rps BUW, Spuścizna Roberta Bieleckiego.

[2] Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim w pierwszej połowie XIX wieku: Słownik biograficzny. Warszawa, 1998.

пакарання, месца яго адбывання, час адыходу ў эміграцыю, месца знаходжання ў эміграцыі, месца смерці і пахавання.

Апошняя інфармацыйная частка прадстаўляе бібліяграфічны матэрыял. Спачатку ўказваюцца творы персаналіі, потым рускія і беларускія архіўныя і друкаваныя крыніцы, а затым у адпаведнай паслядоўнасці – лацінамоўныя крыніцы. Бібліяграфія даецца ў скарочаным выглядзе (разгорнутае апісанне чытач знойдзе ў канцы слоўніка).

Пад час работы над слоўнікам, якая заняла досыць працяглы перыяд, аўтару давялося супрацоўнічаць з работнікамі архіўных, бібліятэчных і музейных сховішчаў, калегамі-гісторыкамі. Словы шчырай удзячнасці хочацца выказаць перш за ўсё вядомай польскай даследчыцы гісторыі XIX ст. прафесару, доктару габілітаванаму Вікторыі Слівоўскай (Інстытут гісторыі ПАН) за каштоўныя метадалагічныя заўвагі і кансультацыі.

Шчыра ўдзячны аўтар таксама вядучаму навуковаму супрацоўніку Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Герману Брэгеру, аднаму з кампетэнтнейшых даследчыкаў гісторыі паселішчаў Беларусі. Толькі дзякуючы яго дапамозе нам удалося лакалізаваць шэраг населеных месц, назвы якіх сустракаліся пад час працы з друкаванымі крыніцамі.

Асобна хочацца адзначыць дапамогу, аказаную з боку польскага фундатара – Касы імя Ю. Мяноўскага, які падтрымаў навуковы праект аўтара па стварэнню дадзенага слоўніка і прадаставіў магчымасць стажыроўкі ў архіўных і бібліятэчных сховішчах Польшчы, што дазволіла аўтару апрацаваць шэраг архівазнаўчых матэрыялаў і ўпершыню ў айчыннай гістарыяграфіі ўвесці іх у навуковы ўжытак.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ І АБРЭВІЯТУР

адв. – адваротны
АПЭ – Аб’яднанне польскай эміграцыі
арк. – аркуш
артыл. – артылерыйскі
б. – былы
в. – вёска
ваен. – ваенны
ваяв. – ваяводства
ВГСК – Віленская губернская следчая камісія
вер. – верасень
ВКЛ – Вялікае княства Літоўскае
вобл. – вобласць
воп. – вопіс
вуч. – вучылішча
г. – горад
ГГЛК – Гродзенская губернская ліквідацыйная камісія
ГГСК – Гродзенская губернская следчая камісія
ген. – генерал
ген.-лейт. – генерал-лейтэнант
ген.-м. – генерал-маёр
ген.-палк. – генерал-палкоўнік
гр. – граф, графіня
губ. – губерня, губернскі
гус. – гусар, гусарскі
д-р – доктар
дэп. – дэпартамент
жн. – жнівень
зл. – злоты
кав. – кавалерыя
кап. – капітан
кастр. – кастрычнік
КГСК – Кіеўская губернская следчая камісія
кл. – клас
кн. – князь
КП – Каралеўства Польскае
крас. – красавік
к-т – камітэт
лін. – лінейны
ліп. – ліпень
ліст. – лістапад
літ. – літоўскі
літ-ра – літаратура

Літ.-Вал. – Літоўска-Валынскі
лют. – люты
матэм. – матэматычны
МГЛК – Мінская губернская ліквідацыйная камісія
МГСК – Мінская губернская следчая камісія
мед. – медыцынскі
мес. – месяц
мін-ва – міністэрства
мяст. – мястэчка
н. – нарадзіўся
нам. – намеснік
нац. – нацыянальны
нач. – начальнік
НГАБ – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі
НГАБ у г. Гродна – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна
п. – памёр
пав. – павет, павятовы
палк. – палкоўнік
пам. – памочнік
пар. – паручнік
паўст. – паўстанцкі
ПДТ – Польскае дэмакратычнае таварыства
ПНК – Польскі нацыянальны камітэт
польск. – польскі
ппалк. – падпалкоўнік
ппар. – падпаручнік
ппрап. – падпрапаршчык
прап. – прапаршчык
пхар. – падхарунжы
пях. – пяхотны
разр. зл. – разрад злачынцаў
РА РДБ – Рукапісны аддзел Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі
расійск. – расійскі
РДВГА – Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў
РП – Рэч Паспалітая
руб. – рубель
рус. – рускі
с. – старонка
с. н. – сучасная назва
сак. – сакавік
сап. – сапёрны
снеж. – снежань
спр. – справа
ст. – старшы
студз. – студзень
т. – том
т. зв. – так званы
т-ва – таварыства
ТЛРЗ – Таварыства Літоўскае і рускіх зямель
тыс. – тысяча

узбр. – узброены
ул. – уланскі
ун-т – універсітэт
ф. – фонд
фіз. – фізічны
ф-т – факультэт
ЦВПК – Цэнтральны Віленскі паўстанцкі камітэт
чал. – чалавек
чэрв. – чэрвень
ЭГБ – Энцыклапедыя гісторыі Беларусі
юрыд. – юрыдычны

AGAD – Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
AOU – Archiwum Ostrowskich z Ujazdu w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
ap. – aprašas
b. – byla
BN – Biblioteka Narodowa w Warszawie
BPP – Biblioteka Polska w Paryżu
BUW – Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego
DS – Dyaryusz Sejmu
EPP – Emigracja polistopadowa i postyczniowa 1831–1870 w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
f. – fondas
GL– Gazeta Lwowska
GP– Gazeta Polska
k. – kartka
KRSW – Komisja Rządowa Spraw Wewnętrnych i Policji 1815–1868 w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
KRW – Komisja Rządowa Wojny 1815–1832 w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
KW – Kurier Warszawski
lp. – lapas
LVIA – Lietuvos valstybinis istorios archyvas
MMK – Zbiór materiałów Mińskiego Koła Warszawskiego Towarzystwa Opieki nad Zabytkami Przeszłości w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
MWP – Muzeum Wojska Polskiego w Warszawie
ND – Noworocznik Demokratyczny
nr – numer
PFR – Papiery gen. Franciszka Rohlanda 1779–1860 w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
PJK – Papiery gen. Jana Krukowieckiego z lat 1819–1831 w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie
PSB – Polski słownik biograficzny
Rps BN – Dział rękopisów Biblioteki Narodowej w Warszawie
Rps BUW – Dział rękopisów Biblioteki Uniwersytetu Warszawskiego
s. – strona
SRB – Spuścizna Roberta Bieleckiego
t. – tom
WCPL – Zespół Władz centralnych Powstania Listopadowego 1830–1831 r. w Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie

# А

**Абадовіч** – шляхціц з Ігуменскага пав. Мінскай губ., аканом памешчыка Лукашэвіча. У паўстанні захоўваў 3 стрэльбы, закапаў у зямлю 90 куль, 14 фунтаў шроту, 7 фунтаў пораху. Па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.2.1832 зняволены на 1 мес., пасля чаго вызвалены ад праследавання. *НГАБ-4, арк. 126; РДВГА-11, арк. 266; Dangel S. Rok 1831. S. 141–142.*

**Абалевіч Ілья** – шляхціц з маёнтка Дзісна Свянцянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *НГАБ-4, арк. 126; Bieliński K. Rok 1831. S. 125.*

**Абалевіч Фларыян** – шляхціц з г. Свянцяны Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Эмігрыраваў. З 25.5.1834 член ПДТ. *НГАБ-4, арк. 126; Bieliński K. Rok 1831. S. 125; Krawiec L. Lista członków. S. 53.*

**Абалеўскі Ціт** – аканом з маёнтка Цімкавічы Мінскай губ., адстаўны ппар. польск. войскаў. У крас. 1831 праводзіў тайныя сходы. Падазраваўся ў арганізацыі паўстання ў Цімкавічах. Па рашэнню МГСК ад 5.10.1831 аддадзены на 1 г. пад нагляд паліцыі. *НГАБ-4, арк. 126 адв.; РДВГА-11, арк. 266; Dangel S. Rok 1831. S. 142.*

**Абрамовіч Аляксандр** – з Мінскай губ. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон. Памёр да вынясення МГСК рашэння. *РДВГА-11, арк. 18.*

**Абрамовіч Казімір** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 6.*

**Абрамовіч Феліцыян** – дваранін з Гродзенскай губ., наглядальнік сталовіцкай паштовай станцыі. Прывёў ямшчыкоў са станцыі да паўстанцаў. У Навагрудку ўзяты ў палон казакамі. Па рашэнню ГГСК ад 13.5.1834 аднесены да 2 разр. зл., пазбаўлены дваранскага звання, ад-

праўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. Маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-2, арк. 1–1 адв.; РДВГА-8, арк. 1; ч. 11, арк. 14.*

**Абрамовіч Францішак** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 і канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 1 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Абрамовіч Юльян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. РДВГА-5, арк. 5–6.

**Абухоўскі Казімір** – з Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Удзельнічаў у паўстанні. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 126 адв.; РДВГА-8, арк. 222*.

**Абуховіч Людвік** (н. 1810) – з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Пятра і Мар'яны, уладальнік часткі маёнтка Рымшаўка, унтэр-афіцэр Эстляндскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. У сак. 1831 пакінуў каманду, актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання ў Лужках, наглядаў за арсеналам. Адзін з аўтараў дзісенскага Акта канфедэрацыі, удзельнічаў у ваен. сутыкненнях. 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты ў фарміраванні А. Гелгуда. 13.7.1831 адышоў у Прусію, інтэрніраваны. У лют. 1832 эмігрыраваў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 2.4.1848 член ПДТ. Працаваў у друкарні. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Належачая яму частка маёнтка канфіскавана. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 587; ф. 561, воп. 1, спр. 4, арк. 127; РДВГА-11, арк. 267; AGAD, PFR, nr 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 220; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 81; Dangel S. Rok 1831. S. 142; Krawiec L. Lista członków. S. 116; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 481.*

**Абуховіч Францішак** (п. 25.4.1844) – шляхціц са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Антонія, афіцэр польск. войскаў. У 1829 выехаў са Случчыны за мяжу. У паўстанні дзейнічаў у складзе Літ.-Вал. легіёна, палк. У маі 1832 прыбыў у Францыю, у жн. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ. Да 1834 МГСК не вынесла канчатковага рашэння. *НГАБ-4, арк. 127 адв.; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 312; Dangel S. Rok 1831. S. 142; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 192.*

**Абуховіч Юзаф** – памешчык з Мазырскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Сядзельнікі, сын Дамініка. У паўстанні захоўваў 26 стрэ-

льбаў, 2 пісталеты, баявыя патроны. Прымаў у сябе Ф. Кеневіча, паставіў у яго атрад 8 кантаністаў. Па рашэнню МГСК ад 30.11.1831 аднесены да 2 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 12.3.1832 вызвалены ад адказнасці без права пакідаць месца жыхарства. *НГАБ-4, арк. 127 адв.–128; РДВГА-11, арк. 266; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 220; Dangel S. Rok 1831. S. 142.*

**Абуховіч Якуб** (1806–1.1.1839) – з Гродзенскай губ., н. у в. Котра. У паўстанні з 25.5.1831 ппар. 4 палка лін. пяхоты, 25.9.1831 пар. 15.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрніраваны. У жн. 1832 прыбыў у Францыю. Ажаніўся з француженкай, меў сына Якуба Альцыда (вучань баціньёльскай школы ў 1846–57). Памёр у дэп. Шэр. *ND. 1843. S. 142; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 312; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 123; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 220; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 481.*

**Агрыніч Павел** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з в. Турная Пінскага пав. Мінскай губ., стралец. Знаходзіўся ў абозе атрада Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 прызначаны да аддачы ў рэкруты. *НГАБ-4, арк. 131 адв.; РДВГА-11, арк. 268.*

**Адамовіч Антоній** (н. 1808) – з Мінскай губ. Першапачаткова дзейнічаў сярод мінскіх паўстанцаў, затым ппар. 19 палка лін. пяхоты корпуса А. Гелгуда, у складзе фарміравання Ф. Роланда 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Эміграваў у Францыю, у кастр. 1832 – сак. 1833 знаходзіўся ў Бержэраку. *AGAD, PFR, nr 7, 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 139; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 99, 256.*

**Адамовіч Блажэй** (н. каля 1801) – іераманах Пінскага францысканскага кляштара Мінскай губ. За неблаганадзейныя паводзіны ў 1831 пераведзены ў іншы кляштар. За ўдзел у справе Ш. Канарскага рашэннем ад 10.2.1839 сасланы ў Сібір на пасяленне. *РДВГА-11, арк. 15; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 32.*

**Адамовіч Каласанцій** – манах піярскага кляштара ў Лужках Дзісенскага пав. Мінскай губ. Заклікаў да паўстання, бласлаўляў перад бітвай пад Дзіснай. Выконваў ролю інструктара кантаністаў у апалчэнні, нарыхтоўваў зброю. Пасля адыходу паўстанцаў застаўся ў кляштары. Утрымліваўся 7 мес. у Дынабургскай крэпасці. Па рашэнню МГСК ад 19.1.1832 вызвалены ад далейшай адказнасці. *Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 493; Dangel S. Rok 1831. S. 158.*

**Адамовіч Ксаверый** – з Гродзенскай губ., адвакат навагрудскіх прысутных месц. Удзельнічаў у паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 2; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 2; LVIA, f. 437, ap. 1, b. 5.*

**Адамовіч Францішак Ян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні ппар. 1 роты палка К. Пршэздзецкага, затым ппар. 26 пях. палка атрада Г. Дэмбінскага, адышоў у Варшаву. Эмігрыраваў на караблі “Фрау Элізабет” у Францыю. З 19.4.1832 у закладзе ў Буржэ. З 10.4.1835 член ПДТ. *РДВГА-5, арк. 17; AGAD, WCPL, nr 724, k. 56; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 136; Krawiec L. Lista członków. S. 62.*

**Адамовіч Фёдар** (н. 18.6.1806) – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Вільні ці в. Лосаўцы, сын Казіміра і Рэнаты. Далучыўся да атрада Д. Хлапоўскага, падафіцэр 13 ул. палка. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У студз. 1834 прыбыў у Гаўр на караблі “Фрау Элізабет”. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. У Лілі ў вер. 1837 далучыўся да АПЭ. 18.3.1842 запісаўся на 5 г. у замежны легіён, да 1847 у Афрыцы. Пасля жыў у Бельфорце, дзе атрымаў амністыю. У 1859 вярнуўся на радзіму. *НГАБ-2, арк. 2 адв.; РДВГА-8, арк. 1; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 69.*

**Адамовіч Юзаф** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе Ю. Кашыца, затым у атрадзе навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 2; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76.*

**Адамовіч Ян** – ксёндз піярскага кляштара ў Лужках Дзісенскага пав. Мінскай губ. Бласлаўляў паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 19.1.1832 і канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 13.5.1832 аднесены да 3 разр. зл. і вызвалены ад далейшага праследавання. *НГАБ-2, арк. 2; РДВГА-11, арк. 15.*

**Адахоўскі Ігнацій** (н. 1788) – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Ежы і Схаластыкі, брат Фелікса, адстаўны кап. польск. войскаў. У паўстанні з сак. 1831, дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў. 14.4.1831 выступіў з Ашмян на чале атрада ў Вілейку. Адзін з ініцыятараў паўстання ў Вілейскім пав., кіраваў аддзелам пяхоты. 17.5.1831 узначаліў аб’яднаны атрад, які накіраваўся ў бок Лепеля. 23.5.1831 арганізаваў захоп Лепеля. Пад Бобчай атрад разбіты ген.-лейт. Каблуковым. У ліст. 1831 арыштава-

ны. Па рашэнню МГСК ад 28.3.1832 аднесены да 1 разр. зл., амнісцыраваны, накладзены штраф. Пазней аддадзены ў рэкруты. *НГАБ-4, арк. 128 адв. – 129 адв.; ф. 1297, воп. 1, спр. 5446; ф. 1430, воп. 1, спр. 2971; РДВГА-11, арк. 269; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 2; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 221; Dangel S. Rok 1831. S. 142; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 111–129; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 425.*

**Адахоўскі Фелікс** (н. 1790) – дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Ежы і Схаластыкі, брат Ігнацыя, адстаўны пар. польск. войскаў. У паўстанні з сак. 1831, дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў. 17.5.1831 узначаліў разам з братам аб'яднаны атрад. 23.5.1831 удзельнічаў у захопе Лепеля. Пад Бобчай атрад разбіты ген.-лейт. Каблуковым. Застаўся ў Вілейскім пав., хаваўся ў Будславе, з'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 6.4.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-4, арк. 129 адв.; ф. 1297, воп. 1, спр. 5446; ф. 1430, воп. 1, спр. 2971; РДВГА-11, арк. 270; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 221; Dangel S. Rok 1831. S. 142.*

**Адравонж Мацвей** – шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка Нароўля памешчыка А. Горвата. У паўстанні выконваў даручэнні Ф. Кеневіча. Застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-4, арк. 128 адв.; РДВГА-11, арк. 271.*

**Адравонж Фелікс** – шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ., сын Мацвея. У паўстанні знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-4, арк. 128 адв.; РДВГА-11, арк. 271.*

**Адынец Антоній Эдвард** (25.1.1804–15.1.1885) – з мяст. Глыбокае Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у в. Гейстуны Ашмянскага пав., сын Тадэвуша і Тэрэзы Гнатоўскай. Знаходзіўся сярод дзісенскіх паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 12.9.1834 справа прыпынена. Памёр у Варшаве. *НГАБ-4, арк. 138; РДВГА-11, арк. 271; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 313; Dangel S. Rok 1831. S. 143; PSB.*

**Айдніцкі** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага, затым хаваўся на Піншчыне. *НГАБ-2, арк. 3; РДВГА-11, арк. 15.*

**Акалатовіч Тадэвуш** – з в. Сакаловічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Навагрудскім пав., скончыў школу ў Свіслачы. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Пасля адыходу ў Прусію утрымліваўся ў Гданьску.

Эмігрыраваў. 9.5.1834–30.7.1843 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 223; Krawiec L. Lista członków. S. 53.*

**Акінчыц (Акенчыц) Людвік** – шляхціц з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., пісар з маёнтка гр. Грыбоўскага. У паўстанні ппар. 3 палка пешых сапёраў, апынуўся ў Варшаве, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрніраваны. 1.4.1832 прыбыў у Францыю. З 14.1.1834 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. Ажаніўся з француженкай, меў 2 дзяцей. *НГАБ-4, арк. 131 адв.; РДВГА-8, арк. 223; DS. T. 6. S. 386; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 224; Krawiec L. Lista członków. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 484.*

**Аколаў Адам** – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Якуба, брат Алаізія, з братам саўладальнік маёнткаў Рыме і Акушэвічы. У паўстанні ппар. 3 палка пешых стральцоў, у складзе атрада Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву, дзе 10.8.1831 удзельнічаў у Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 31.7.1834 прызнаны выгнаннікам з канфіскацыяй маёмасці, рашэнне не атрымала канфірмацыі кн. Далгарукава. Да 1834 канчатковага рашэння па справе не вынесена. *НГАБ-4, арк. 131 адв.; РДВГА-11, арк. 272; AGAD, WCPL, nr 724, k. 45; DS. T. 6. S. 444; Dangel S. Rok 1831. S. 143.*

**Аколаў Алаізій** – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Якуба, брат Адама, саўладальнік маёнткаў Рыме і Акушэвічы, калежскі рэгістратар. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў у палку К. Пршэздзецкага. Падафіцэр 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 10.8.1831 удзельнічаў у Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 адышоў у Прусію ў складзе атрада М. Рыбінскага. Прасіў літасці. Па рашэнню МГСК ад 31.7.1833 аднесены да 3 разр. зл., пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-4, арк. 132; ф. 333, воп. 24, спр. 177; РДВГА-11, арк. 273; DS. T. 6. S. 444; AGAD, WCPL, nr 724, k. 71; Dangel S. Rok 1831. S. 143.*

**Аколаў Міхал** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні канфіскавана частка зямлі. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Аколаў Юльян** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Мінскім сейміку па аб-

ранню дэпутатаў на сейм. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Апынуўся за мяжой. Прасіў літасці. *НГАБ-4, арк. 132 адв.; РДВГА-8, арк. 222; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; DS. T. 6. S. 385.*

**Акушка Вінцэнт Баніфацый** (17.1.1804–1855) – шляхціц з Мінскай губ., н у в. Разлуцішкі, вучыўся на мед. ф-це Віленскага ун-та. У паўстанні ўрач артыл. палка. У 1833 прыбыў у Францыю. У крас. 1835 запісаўся на мед. ф-т у Манпелье, 15.4.1836 атрымаў дыплом д-ра медыцыны. Ажаніўся з француженкай, меў сына Леапольда. *Konarska B. Polskie drogi. S. 356.*

**Александровіч** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Пастаўляў кантаністаў. *РДВГА-5, арк. 24.*

**Александровіч Антоній** – памешчык з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў прымусова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 3.*

**Александровіч Давыд** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Чытаў перад насельніцтвам адозвы. *РДВГА-5, арк. 24.*

**Александровіч Сцяпан** – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе кн. Т. Мірскага. Узяты ў палон пад в. Высокая Руда. Па рашэнню ГГСК атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 3.*

**Александровіч Юзаф** (6.1.1793–18.6.1874) – шляхціц з в. Заснуддзе Браслаўскага пав. Віленскай губ., сын Вінцэнта і Марыі Валіцкай. Удзельнічаў у кампаніі 1812 на баку Напалеона, пар. 21 пях. палка. У 1820 выйшаў у адстаўку. У паўстанні першапачаткова кап. у штабе ген. Паца, з 5.9.1831 маёр, 24.9.1831 ппалк. З 27.9.1831 знаходзіўся ў 3 палку пешых стральцоў. 9.8.1831 у Варшаве ўдзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Безансоне, 21.1.1833 перабраўся ў Парыж. Член ПНК, у 1838 у Страсбургу далучыўся да АПЭ. У 1848 знаходзіўся ў Дзіжоне. Меў сталае жыхарства ў Парыжы, дзе памёр у доме польск. ветэранаў св. Казіміра. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 53; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; BPP, nr 565; Rps BUW, nr 2327; DS. T. 6. S. 440; Potrykowski J. Tułactwo Polaków; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 54; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 141; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 76, 204; Gadon L.*

*Emigracja polska. T. 2. S. 30, 52–59, 139–140; T. 3. S. 159–160; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 8*.

**Алексінскі Павел** – з Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. батарэі сапёраў, належаў да корпуса А. Гелгуда, з якім перайшоў у Прусію. 14.1.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 227.*

**Алендзкі Гектар** (н. 26.4.1812) – з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод слонімскіх паўстанцаў, з 4.10.1831 пар. у 3 палку пешых стральцоў. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. 28.1.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. У 1839 вырабляў люлькі для курэння. У снеж. 1848 дзейнічаў у складзе легіёна А. Міцкевіча. 6.6.1850 выехаў у Англію. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 63, 229; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 228*.

**Алеша Рыгор (Габрыэль)** – з Вілейскага пав. Мінскай губ. Пад час паўст. падзей прыязджаў у Вілейку. Рашэннем МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *Dangel S. Rok 1831. S. 143*.

**Алізаровіч Гілярый** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 133 адв.; РДВГА-8, арк. 225; DS. T. 6. S. 386*.

**Алоўчанка Пётр** – з Мінскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-4, арк. 134; РДВГА-11, арк. 274.*

**Альшэўскі Андрэй** (п. 14.9.1838) – з мяст. Скідаль Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. 1 палка пешых стральцоў. 26.2.1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Працаваў капялюшнікам. З сак. 1838 член АПЭ. Памёр у Нанце. *ND. 1843. S. 143; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 317; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 229–230; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 84.*

**Альшэўскі Напалеон** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., брат Ціта. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 135 адв.; РДВГА-8, арк. 225.*

**Альшэўскі Ціт** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., брат Напалеона. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 135 адв.; РДВГА-8, арк. 225*.

**Альшэўскі Ян** – манах Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Займаўся агітацыяй. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 226*.

**Аляксейчык –** з в. Каралёва Дзісенскага пав. Мінскай губ., лёкай памешчыка А. Кастравіцкага. Пасля паўстання эмігрыраваў, на месца жыхарства не вярнуўся. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 389, арк. 4; РДВГА-11, арк. 17.*

**Алянецкі Аляксандр** – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 224*.

**Алясінскі Ян** – селянін памешчыка Імбры з в. Сенніца Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў узбр. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-4, арк. 133 адв.; РДВГА-8, арк. 224.*

**Аляшкевіч Сцяпан** – аканом памешчыка Аляніцкага з маёнтка Косічы Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 133 адв.; РДВГА-8, арк. 225.*

**Амасовіч Даніла** – селянін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-5, арк. 30.*

**Амбражэвіч Караль –** селянін з в. Чучаліцы Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы ў аддзеле сапёраў. 17.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. *Księga pamiątkowa. S. 152; Bieliński K. Rok 1831. S. 119.*

**Амбражэвіч Сымон** (н. 1.5.1800) – шляхціц з мяст. Гайна Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Інакенція і Марыі Макржэцкай. У паўстанні радавы 4 палка лін. пяхоты. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, 1835–37 у Іспаніі, пасля чаго вярнуўся ў Францыю. З 7.10.1838 член АПЭ. Па рашэнню МГСК ад 29.9.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-2, арк. 3 адв.; РДВГА-11, арк. 17; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 70; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Амбражэвіч Юзаф** (1793–17.5.1858) – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў ппар. у Белавежскай пушчы, затым падафіцэр 1 палка кракусаў. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, працаваў наглядальнікам за будаваннем дарог. З 11.7.1833 член ПДТ, з 29.11.1837 член АПЭ. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 3 адв.; РДВГА-8, арк. 3; Rps BN, III. 6594, k. 201; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 55*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 175, 283; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 144; Krawiec L. Lista członków. S. 44.*

**Амброк Аляксандр** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога дайшоў да Варшавы, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў у Прусію. Прасіў літасці. *РДВГА-8, арк. 3; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; DS. T. 6. S. 386.*

**Андраеўскі Антон** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. У паўстанні ппар. Па некаторых звестках эмігрыраваў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Член ПНК. *НГАБ-2, арк. 4; РДВГА-5, арк. 37; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 88.*

**Андраеўскі (Андржаеўскі) Раман** (н. каля 1808) – селянін памешчыка Тызенгаўза са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Удзельнічаў у ваен. дзеяннях. Па заканчэнні паўстання адышоў у КП, узяты ў палон і адасланы ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 12.4.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус, куды выехаў 8.6.1833. *НГАБ-2, арк. 4 адв.; РДВГА-8, арк. 4–5; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 39.*

**Андраеўскі Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 37.*

**Андржайковіч –** памешчык з Гродзенскай губ. Меў сувязь з ашмянскімі паўстанцамі. *РДВГА-5, арк. 38.*

**Андржайковіч Тадэвуш –** з Пінскага пав. Мінскай губ. Меў стасункі з Ц. Пуслоўскім пад час паўстання на Піншчыне. *Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Андрулевіч Адам** – селянін памешчыка Тызенгаўза з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 42.*

**Андрусевіч Сцяпан** – дваранін са Слуцкага пав. Мінскай губ. Служыў у паўст. апалчэнні, удзельнічаў у ваен. дзеяннях. Арыштаваны ў Цельшаўскім пав., адасланы ў Дынабург. Рашэннем палявога аўдытарыята пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 4 адв. – 5; РДВГА-11, арк. 17; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Андрушкевіч Антон** (н. каля 1810) – селянін памешчыка Стравінскага з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Двойчы далучаўся да паўстанцаў. Удзельнічаў у ваен. дзеяннях. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК ад 18.2.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус, куды выехаў 28.3.1833. *НГАБ-2, арк. 5; РДВГА-8, арк. 4–5; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 38.*

**Андрэеў Ягор** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 39*.

**Анісімаў Мікалай** (н. каля 1799) – селянін з мяст. Крынкі Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні дзейнічаў у аддзеле віленскіх студэнтаў. У 1831 па Вышэйшай канфірмацыі сасланы на цяжкія работы ў Сібір. 9.2.1836 прыбыў у Іркуцк, адкуль адпраўлены ў Нерчынск. 1.4.1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 19.12.1858 вярнуўся ў Гродна. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 40*.

**Аніська Іван** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з Пінскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Пасля 8.8.1831 вярнуўся на месца сталага жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 136; РДВГА-11, арк. 275.*

**Анкевіч Пётр** (н. 13.1.1806) – з Гродзенскай губ. 19.1.1830 уступіў у 4 полк лін. пяхоты. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 146–147*.

**Антановіч Караль** – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., дварэцкі памешчыка Калупаева. Служыў у паўстанцаў. Адышоў у Прусію, дзе арыштаваны. *РДВГА-5, арк. 45.*

**Антановіч Мікалай** (н. 12.1.1805) – з Гродзенскай губ. мяст. Острыца, сын Аляксандра і Тэафілі, радавы расійск. арміі. У паўстанні радавы 4 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію, 27.4.1834 на караблі “Граф Келлі” прыбыў у Аран, у гэты ж дзень уступіў на 3 г. у легіён. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, адкуль вярнуўся ў Францыю. Ажаніўся з францу-

жанкай, меў дваіх дзяцей. Займаўся вырабам тканіны. З 17.7.1848 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 4–5; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 72; Krawiec L. Lista członków. S. 118.*

**Антановіч Ян** – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 87; Bieliński K. Rok 1831. S. 119.*

**Антусевіч (Антушэвіч) Марцін –** з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Паставы. У паўстанні з 6.2.1831, дзейнічаў пар. у Плоцкім ваяв. 26.3.1831 узяты ў палон. Сасланы ў г. Яранск Вяцкай губ. 16.9.1833 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 147; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 41.*

**Антусевіч Ян Аляксандр** (1806–19.10.1890) – з Гродзенскай губ., б. пісьмавод пружанскай паліцыі. Дзейнічаў у Белавежскай пушчы, затым падафіцэр Літ.-Вал. легіёна. Эмігрыраваў у Францыю. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., дом канфіскаваны. З 1866 член АПЭ. Памёр у Парыжы. *НГАБ-2, арк. 5 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 6; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 56; Kaczkowski J. Konfiskaty; Szczapiński J. Powstanie w puszczy białowieskiej. S. 253.*

**Анцулевіч Казімір** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 50.*

**Анцыпа Ільдафонс** (1815 ? – 6.6.1863) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сын Дзяменція, н. у Слоніме. Удзельнічаў у паўстанні. Эмігрыраваў у Францыю, член ПДТ, працаваў у Парыжы. У 1859 вярнуўся на радзіму, жыў пад наглядам паліцыі ў маёнтку брата ў Быхаўскім пав. (Магілёўская губ.). 24.4.1863 узначаліў быхаўскі паўст. атрад, які быў разбіты 28.4.1863, трапіў у палон. Па прыгавору ваен. суда расстраляны ў Магілёве. *ЭГБ. Т. 1. С. 137; Krawiec L. Lista członków. S. 54; Rok 1863.*

**Апяровіч Караль** (н. каля 1812) – селянін памешчыка Шукевіча з в. Наваельня Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сын Антона. У ліп. 1831 у Дзятлаве далучыўся да атрада М. Мержаеўскага, затым у 13 ул. палку. Дайшоў да Варшавы. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 5 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 27; РДВГА-8, арк. 6.*

**Апяровіч Людвік** – селянін памешчыка Шукевіча з в. Раготная Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У ліп. 1831 у Дзярэчыне далучыўся да Г. Дэмбінскага, дзейнічаў у складзе 13 ул. палка. Дайшоў да Варшавы. Захварэў, знаходзіўся ў шпіталі ў Плоцку, пры арышце назваўся Антоніем Дзевяноўскім. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 5 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 29; РДВГА-8, арк. 6.*

**Апяровіч Ян –** селянін памешчыка Шукевіча з в. Раготная Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У ліп. 1831 у Дзярэчыне далучыўся да Г. Дэмбінскага, дзейнічаў у складзе 13 ул. палка. Дайшоў да Варшавы. Па рашэнню ГГСК ад 17.6.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 41.*

**Арамовіч Аляксандр** – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 узяты ў палон. Памёр у кобрынскім шпіталі. Па рашэнню ГГСК 24.8.1832 з-за смерці заключэнне не вынесена. *НГАБ-2, арк. 6; РДВГА-8, арк. 7.*

**Аранскі Антоній** (27.3.1813–11.6.1835) – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, падафіцэр 13 ул. палка. Прыбыў у Францыю на караблі “Лакс” 4.8.1832. знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ, 25.6.1833 скіраваны ў Каор, 9.7.1833 прыбыў у дэп. Ло, размясціўся ў Мартэлі. Памёр у Ло. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 136; РДВГА-8, арк. 227; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78; BPP, nr 565; ND. 1843. S. 143; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 318; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 149, 291; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 489.*

**Араштовіч Аляксандр** – дваранін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Удзельнічаў у ваен. дзеяннях. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 6; РДВГА-8, арк. 7.*

**Арганіст Мікалай** – селянін памешчыка Свентаржыцкага з в. Арганы Вілейскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод дзісенскіх і вілейскіх паўстанцаў як кантаніст. Узяты ў палон. Рашэннем МГСК ад 18.4.1832 вызвалены ад далейшай адказнасці. *НГАБ-4, арк. 136 адв.; РДВГА-11, арк. 276; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Ардынец Леанард Фелікс** (13.11.1808–22.1.1875) – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у Пружанах. З 13.6.1831 пхар., 25.9. 831 ппар. Літ.-Вал. легіёна. 26.9.1831 перайшоў з С. Рожыцкім межы Галіцыі, інтэрніраваны. У вер. 1834 прыбыў у Парыж. У 1837 член АПЭ. Ажаніўся з француженкай. Памёр у Парыжы. *BPP, nr 565; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 320; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 235–236.*

**Аржэшка Антоній** (1800–1877) – памешчык з Пінскага пав. Мінскай губ. (паводле С. Дангеля – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ.), сын Адама і Лізаветы. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. У сак. 1832 арыштаваны ў Кобрынскім пав., дастаўлены ў Гродна. У вер. 1832 адпушчаны на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 24.9.1832 вызвалены ад адказнасці, узяты пад нагляд паліцыі. У 1838 уваходзіў у склад Дэмакратычнага т-ва Ш. Канарскага, арыштаваны 29.6.1838. Па канфірмацыі ад 22.2.1839 адпраўлены ў Томск на пасяленне з пазбаўленнем правоў. 5.6.1857 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 7.1.1858 прыбыў у Мінск, дзе ўзяты пад нагляд паліцыі. У 1866 жыў з сям'ёй у Пінску. *НГАБ-4, арк. 137; РДВГА-11, арк. 276; Dangel S. Rok 1831. S. 143; PSB. T. 24; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 437–438.*

**Аржэшка Нікадзім** – памешчык з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Меў зносіны з А. Скродскім пад час арганізацыі паўстання на Кобрыншчыне. Аддадзены пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 227*.

**Арліцкі (Орліцкі) Людвік** (п. 17.3.1840 (18.3.1846) – н. у Мінскай губ., на службе ў расійск. арміі. У паўстанні кап. коннай артылерыі. Эмігрыраваў у Францыю, рэдактар і выдавец "Nowej Polski", памёр у Парыжы, пахаваны на Манпарнасе. *ND. 1843. S. 143; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 320; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 293; Inskrypcje… w Paryżu – Montparnasse. S. 74*.

**Арматовіч (Армаловіч) Ян В. Календа** (1811–1891) – шляхціц з Мінскай губ., н. у Барысаве. У паўстанні радавы 1 палка пешых стральцоў (1 палка лін. пяхоты). Адышоў у Прусію, затым перабраўся ў Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. Пазней знаходзіўся ў Францыі, адкуль перабраўся ў Галіцыю. Памёр у Кракаве. *НГАБ-2, арк. 6 адв.; РДВГА-11, арк. 18; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 56; Dangel S. Rok 1831. S. 117–118.*

**Арон –** з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 511*.

**Арт Антоній** – з Пінскага пав. Мінскай губ., слесар з маёнтка Святая Воля В. Пуслоўскага, іншаземец. Вырабляў зброю, затым далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага, на месца жыхарства не вярнуўся. *НГАБ-2, арк. 7; РДВГА-11, арк. 18; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 32.*

**Архімовіч Юрый** – шляхціц з Мінскай губ., надворны саветнік, настаўнік Маладзечанскага вуч. Дзейнічаў з маладзечанскімі паўстанцамі. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 10.3.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 7; РДВГА-11, арк. 19; AGAD, MMK, nr 4.*

**Арцымонаў Іван** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 53.*

**Арцэпій Георгій** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 53.*

**Арчэўскі Францішак** – селянін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова служыў у 18 пях. палку. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў бадзяўся. Па рашэнню ГГСК адпраўлены ў арыштанцкі батальён. *РДВГА-8, арк. 228.*

**Арынскі Адам** (н. 6.2.1786) – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., сын Францішка і Францішкі Касоўскай, кап. польск. войскаў. У паўстанні з 9.12.1830, маёр 9, затым 13 палка лін. пяхоты. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 240.*

**Асвяцімскі Іван** – шляхціц са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., служыў у маёнтку Целяханы (Пінскі пав.) В. Пуслоўскага. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага кароткачасова. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-4, арк. 139; РДВГА-8, арк. 228.*

**Асвяцімскі Караль** – шляхціц са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., служыў у маёнтку Целяханы (Пінскі пав.) В. Пуслоўскага. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага кароткачасова. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-4, арк. 139; РДВГА-8, арк. 228.*

**Асінскі Міхал** – з г. Слоніма Гродзенскай губ., сын Яна. Дзейнічаў у атрадзе Чацкага, затым перайшоў у Белавежскую пушчу, пазней у Пінскі пав., дзе арыштаваны і дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК 29.7.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 98; РДВГА-8, арк. 229.*

**Асіповіч Тадэвуш** – з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 137 адв.; РДВГА-11, арк. 277.*

**Аскерка Антоній –** памешчык з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна. Меў сувязь з арганізатарамі паўстання ў Рэчыцкім і Мазырскім пав., уваходзіў у атрад Ф. Кеневіча. Рашэннем МГСК, якая не здолела даказаць прычыннасці да паўстання, ад 11.1.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-4, арк. 139 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 55, 143.*

**Аскерка Эміль** – памешчык з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Паўла, рэчыцкага маршалка. Меў сувязь з арганізатарамі паўстання ў Рэчыцкім і Мазырскім пав., уваходзіў у атрад Ф. Кеневіча. Далучыўся да валынскіх паўстанцаў, узначальваў аддзел у атрадзе Бараноўскага. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 11.1.1832 вызвалены ад адказнасці, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-4, арк. 139 адв.; РДВГА-11, арк. 278; ф. 405, воп. 2, спр. 2318, арк. 28; Dangel S. Rok 1831. S. 55, 143–144.*

**Аскерка Ян** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Будслава. Прысягнуў паўстанцам. Член вілейскага ўрадавага паўст. к-та. Па рашэнню МГСК 29.10.1831 аднесены да 2 разр. зл., па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 5.5.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-4, арк. 139 адв.–140; РДВГА-11, арк. 279; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 4; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Аскірка Вінцэнт** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 229.*

**Асмалоўскі Віктар** – шляхціц з Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-4, арк. 128 адв.; РДВГА-11, арк. 279.*

**Асмалоўскі Якуб –** шляхціц з Магілёўскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Сасланы ў Сібір на пасяленне. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 5972, арк. 1–3.*

**Астаповіч Сымон** (н. каля 1794) – селянін памешчыка Русецкага з в. Вулька Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў бадзяўся. У 1834 пакараны 30 палкамі і сасланы ў Сібір. 26.8.1856 атрымаў дазвол на вяртанне, застаўся жыць у Сібіры. *РДВГА-8, арк. 230; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 439.*

**Астроўскі** – з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, выконваў абавязкі канцылярыста ва ўрадавым паўст. к-це ў Лужках. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 12.9.1834 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-4, арк. 138 адв.; РДВГА-11, арк. 281.*

**Астроўскі Аляксандр** – з Мінскай губ., сакратар Вілейскага земскага суда. Займаў пасаду пісьмавода пры галоўным штабе вілейскага апалчэння, дзейнічаў узбр. шабляй і параю пісталетаў, знаходзіўся сярод асоб, захапіўшых паперы Вілейскага земскага суда. Па рашэнню МГСК ад 4.1.1832 узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-4, арк. 140 адв.; РДВГА-11, арк. 280.*

**Астроўскі Габрыэль** (н. каля 1773) – шляхціц з Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Па рашэнню Валынскай следчай камісіі сасланы ў Сібір на пасяленне. 26.8.1856 атрымаў дазвол на вяртанне на месца жыхарства. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 440.*

**Астроўскі Казімір** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 141; РДВГА-8, арк. 231.*

**Астроўскі Павел** (15.2.1809–11.11.1837) – шляхціц з маёнтка Раванічы Ігуменскага пав. Мінскай губ. Вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. У паўстанні дзейнічаў на тэрыторыі паўночных пав., пар. 12 палка лін. пяхоты. Трапіў у палон і быў дастаўлены ў Пскоў. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі з-за недаказальнасці ўзбр. удзелу ў паўстанні ў маі 1832 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства з астаўленнем пад наглядам губернскіх улад. 12.3.1832 яшчэ да вынясення канчатковага рашэння збег з-пад стражы. 17.6.1832 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Безансоне, 16.10.1832 выехаў у Дзіжон, у маі 1833 у дэп. Верхняя Марна, 6.1.1834 перабраўся ў г. Бурбон Ван. З 3.3.1834 член ПДТ. Са студз. 1835 вывучаў медыцыну ў Манпелье, 30.3.1836 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, з 1836 практыкаваў у Марселі, затым выехаў у Бурбон Ван. Ажаніўся з француженкай. Памёр у Бурбон Ван, дзе на мясцовых могілках яму пастаўлены помнік. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 329, арк. 1; ф. 561, воп. 1, спр. 4, арк. 130 адв.; РДВГА-11, арк. 281; ND. 1843. S. 143; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 322; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 249; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 200; Dangel S. Rok 1831. S. 129; Konarska B. Polskie drogi. S. 361; Krawiec L. Lista członków. S. 51; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 498.*

**Астроўскі Рафал –** з Віцебскай губ., сын Томаша. Знаходзіўся сярод паўстанцаў пры К. Трускоўскім. *НГАБ, ф. 1416, воп. 4, спр. 4962, арк. 3.*

**Астроўскі Юзаф** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 141; РДВГА-8, арк. 231.*

**Астроўскі Юзаф** – з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 29.9.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-4, арк. 137 адв.; РДВГА-11, арк. 280; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Аткевіч Канстанцін Міхал** (25.5.1804–1866) – з Мазырскага пав. Мінскай губ., н. у маёнтку Давыд-Гарадок, брат Станіслава. У паўстанні пхар., з 15.6.1831 ппар. 2 ул. палка. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў у складзе корпуса М. Рыбінскага межы Прусіі, інтэрніраваны. У крас. 1832 прыбыў у Францыю, вывучаў архітэктуру. З 1837 член АПЭ. Працаваў настаўнікам малявання ў г. Мель. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца і выехаў на радзіму. *Księga pamiątkowa. S. 164; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 324; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 251; Konarska B. Polskie drogi. S. 361.*

**Аткевіч Рамуальд** (н. 2.9.1798) – з мяст. Давыд-Гарадок Мазырскага пав. Мінскай губ., сын Казіміра і Крысціны, ппар. польск. войскаў. У паўстанні ппар. 2 ул. палка, са жн. 1831 кап., належаў да корпуса Д. Рамарына, у складзе якога адышоў у Галіцыю, інтэрніраваны. 19.8.1831 атрымаў залаты крыж. 12.5.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 550; Księga pamiątkowa. S. 137; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 251–252.*

**Аткевіч Станіслаў** (н. 1802) – з Мазырскага пав. Мінскай губ., н. у маёнтку Давыд-Гарадок, брат Канстанціна. У паўстанні ппар. 2 ул. палка. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў у складзе корпуса М. Рыбінскага межы Прусіі, інтэрніраваны. 2.2.1832 прыбыў у Францыю. З чэрв. 1835 вывучаў архітэктуру. З 1837 член АПЭ. Працаваў настаўнікам малявання і каліграфіі ў ліцэі Шацельро. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *Księga pamiątkowa. S. 164; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 252*; *Konarska B. Polskie drogi. S. 361.*

**Аўгусціновіч Вінцэнт** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 55.*

**Аўгусціновіч Юрый** – селянін памешчыка Пршэздзецкага з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 55.*

**Аўдыцкі Антоній** – дваранін з мяст. Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Мацвея. Дзейнічаў сярод маладзечанскіх паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 7 адв.; РДВГА-11, арк. 19; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Ахрэмаў Пётр –** вольны з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., сын Антонія. Распаўсюджваў чуткі пра паўстанне. Арыштаваны ў Віцебску. Адпраўлены ў Смаленск для высылкі ў аддаленыя губ. Расіі пад нагляд паліцыі. *НГАБ, ф. 1430, воп. 1, спр. 2764, арк. 1–7; Горбачева О.В. Отношение крестьянства. С. 131.*

# Б

**Бабіковіч (Бібікавіч) Андрэй –** мешчанін з Мазырскага пав. Мінскай губ., служыў у памешчыка Ю. Абуховіча. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Сядзельніках. Узяты ў палон пад час сутыкнення пры Міхалках. Рашэннем МГСК ад 31.12.1831 адпраўлены ў салдаты. *НГАБ-2, арк. 8.*

**Бабілевіч Мікалай** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., служачы памешчыка Ржэцкага. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, удзельнічаў у сутыкненні пад Невелем. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 20 адв.; РДВГА-8, арк. 17.*

**Бабільскі Мікалай** – з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 18.*

**Бабіновіч Аляксандр –** селянін памешчыка Абуховіча з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод мазырскіх і рэчыцкіх паўстанцаў. 11.6.1831 трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 аддадзены ў рэкруты. *Dangel S. Rok 1831. S. 118*.

**Бабіновіч Фёдар** – селянін памешчыка Агінскага з мяст. Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Міхала. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 9; РДВГА-11, арк. 20.*

**Бабровіцкі Васіль Вацлаў** (н. 5.8.1809) **–** з в. Мялешыцы Гродзенскай губ., сын Яна і Тэадоры Сілімовіч, з 1820 служыў у расійск. арміі. У паўстанні радавы 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. У ліп. 1837 вярнуўся ў Францыю, жыў у Нанце, затым у Манпелье, Версалі і інш. З 6.10.1837 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 18; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 88; Krawiec L. Lista członków. S. 81.*

**Баброўскі Емяльян** – селянін з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 18.*

**Баброўскі Юзаф** – селянін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 165*.

**Бабскі Напалеон** (п. 6.1876) – з в. Вялікая Бераставіца Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., рэдактар. З 10.12.1830 ппар. 7 ул. палка. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. У чэрв. 1832 перабраўся ў Францыю. З лют. 1839 член АПЭ. Пахаваны на Манпарнасе (?). *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 107, 327; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 154; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 198; Inskrypcje…w Paryżu – Montparnasse. S. 13.*

**Бабянскі Міхал** (н. каля 1797) – дваранін з г. Ваўкавыска Гродзенскай губ., кіраўнік трупы вандруючых акцёраў. Далучыўся да паўстанцаў 14.3.1831, ппар. 19 палка лін. пяхоты корпуса А. Гелгуда, затым апынуўся ў фарміраванні Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Разам з жонкай і дзецьмі перабраўся ў Амерыку. У 1832 пераехаў у Францыю. 5.3.1834–23.7.1838 член ПДТ. З лют. 1837 знаходзіўся ў Парыжы, член АПЭ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл.

У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца разам з жонкай Саламеяй і дачкой Камілай на радзіму, прыехаў у г. Пултуск (Польшча). *РДВГА-8, арк. 18; AGAD, PFR, nr 7, 15; KRSW, nr 7571, k. 64–66; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 152–153; Krawiec L. Lista członków. S. 51; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 14.*

**Багдановіч Вінцэнт** – селянін памешчыка Вазгірда з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў узбр. *РДВГА-5, арк. 176.*

**Багдановіч Казімір** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша. Член вілейскага ўрадавага паўст. к-та, вырабляў у сваім маёнтку пікі, узбройваў сялян. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў з'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 29.10.1831 аднесены да 2 разр. зл., па рашэнню ад 17.5.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 26; РДВГА-11, арк. 29; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 4; Dangel S. Rok 1831. S. 120*.

**Багдановіч Каспер** (1799–16.5.1832) – з Гродзенскай губ. У паўстанні кап. 19 палка лін. пяхоты, у складзе якога адышоў у Прусію. Эмігрыраваў у Францыю, член ПНК. Памёр у Безансоне. *AGAD, PFR, nr 15; EPP, nr 1, k. 17; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 73.*

**Багдановіч Міхал** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., бацька Гаўрылы. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Вярнуўся на сталае месца жыхарства ў Навагрудскі пав. *НГАБ, ф. 320, воп. 2, спр. 98, арк. 129–132; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 27; РДВГА-8, арк. 19; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76.*

**Багдановіч Павел –** навіцыянт Будслаўскага бернардзінскага кляштара Вілейскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі вызвалены ад адказнасці, справа накіравана касцельным уладам. *НГАБ-2, арк. 9 адв.; РДВГА-11, арк. 30; Dangel S. Rok 1831. S. 158.*

**Багдановіч Сільвестр** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 175*.

**Багдзевіч Аляксандр** – селянін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў. Удзельнічаў у сутыкненнях. *РДВГА-5, арк. 179.*

**Багінскі (Багенскі) Станіслаў** (1787 (27.4.1789) – 17.5.1860 (19.5.1886) – з Мінскай губ., сын Мельхіёра і Кацярыны. Скончыў Віленскі ун-т, з 1811

у польск. арміі, служыў у артылерыі. Удзельнік кампаніі 1812–14, дзейнічаў пад Мажайскам, Беразіном. У 1823 пар. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 кап. коннай артылерыі, кіраваў 3 артыл. батарэяй. 15.3.1831 атрымаў залаты крыж. З 24.9.1831 кап. 5.10.1831 з атрадам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У чэрв. 1832 прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. 12.9.1833–23.2.1844 член ПДТ. У 1851 жыў у Парыжы. З 1834 звяртаўся за дазволам вярнуцца на радзіму. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *Rps BN, II. 7861; BPP, nr 408, s. 244; Księga pamiątkowa. S. 107; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 58; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 86, 107, 239; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 158; Katalog rękopisów Biblioteki Narodowej. T. 3. S. 118; Krawiec L. Lista członków. S. 48; Polacy pochowani. S. 103; PSB. T. 1. S. 216.*

**Багінскі (Бадынскі) Тэлясфор** (1802–20.4.1842) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Навагрудскім пав. У паўстанні кап. 22 палка лін. пяхоты. Прыбыў 26.9.1831 з С. Рожыцкім у Галіцыю. У студз. 1832 перабраўся ў Францыю, жыў у Парыжы, дзе ўваходзіў у склад ПНК. 16.8.1834–9.10.1835 член ПДТ. Памёр у Тарне. *AGAD, EPP, nr 1, k. 17; ND. 1843. S. 132; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 58; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 175; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 157; Krawiec L. Lista członków. S. 59; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 17.*

**Багінскі Юзаф** – селянін з Вілейскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў, разам з імі перайшоў межы КП, сяржант 13 палка лін. пяхоты. 17.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Трапіў у палон. Па рашэнню МГСК адпраўлены салдатам у сібірскія лін. батальёны. *РДВГА-11, арк. 30; Księga pamiątkowa. S. 154.*

**Багор Аляксандр** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Д. Хлапоўскага. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 19.*

**Багрыцэвіч Францішак** – шляхціц з мяст. Ячонка Мінскага пав. Мінскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. Перайшоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 31.10.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-2, арк. 11 адв.; РДВГА-11, арк. 21; AGAD, WCPL, nr 724, k. 69; Dangel S. Rok 1831. S. 117, 119.*

**Багуцкі Адольф** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Адзін з аўтараў Акта канфедэрацыі, прысягнуў паўстанцам, пастаўляў кан-

таністаў, служыў у апалчэнні. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 10.8.1831 атрымаў дараванне. НГАБ-2, арк. 18 адв.; *РДВГА-11, арк. 30; AGAD, MMK, nr 15; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 96; Dangel S. Rok 1831. S. 120.*

**Багуцкі Фелікс** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Нікадзіма. Падпісаў Акт канфедэрацыі, прысягнуў паўстанцам, член урадавага паўст. к-та ў Лужках. З'явіўся з раскаяннем да заканчэння ваен. дзеянняў. Па рашэнню МГСК ад 23.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., рашэннем ад 18.5.1832 атрымаў дараванне з умовай не пакідаць маёнтка, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 18 адв.; РДВГА-11, арк. 32; Dangel S. Rok 1831. S. 120.*

**Багуцкі Юзаф** – іераманах Лідскага піярскага кляштара Гродзенскай губ., б. настаўнік Лідскага пав. вуч. Капелан у атрадзе Д. Хлапоўскага. Трапіў у палон, адпраўлены ў Пскоў. Пад час следства называўся Базылем Макарскім. Па рашэнню ГГСК 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., па канфірмацыі ген.-губ. М. Далгарукава пазбаўлены духоўнага сану і аддадзены ў салдаты. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 405; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 17 адв.; спр. 3, арк. 94; РДВГА-8, арк. 20; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Багушэвіч Аляксандр** (1804–7.1873) – н. у Ваўкавыскім пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў Белавежскай пушчы, затым у 1 ул. палку. Адышоў у Прусію. Эмігрыраваў у Францыю з Кракава ў 1836. З 18.1.1837 член ПДТ, у 1866 член АПЭ (паводле Ю. Шчапінскага – забіты пад Вільняй). *Szczapiński J. Powstanie w puszczy białowieskiej. S. 253; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 74; Krawiec L. Lista członków. S. 76; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 50.*

**Багушэвіч Юзаф** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 21.*

**Багушэўскі** – дваранін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 25 адв.; РДВГА-8, арк. 20.*

**Бажароўскі Іван** – вольны з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрадаў Д. Хлапоўскага, Г. Дэмбінскага. Адышоў у Прусію, адкуль інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 21.*

**Байкоўскі Лука** – селянін памешчыка Карчэўскага з в. Падлісце Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў КП. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Архангельскі батальён. *НГАБ-2, арк. 12; РДВГА-8, арк. 8–9.*

**Байкоўскі Юзаф** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні канфіскавана в. Малявічы. *GL. 20.3.1832. № 34; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Байло Юзаф** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 22.*

**Баландовіч** – дваранін з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў Белавежскай пушчы. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 27; РДВГА-8, арк. 22.*

**Балевіч Юзаф** (18.3.1800–5.9.1865) – з аколіцы Пачобуты Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., сын Ануфрыя і Францішкі Недзвяцкай, 1.5.1830 падафіцэр расійск. арміі. У паўстанні з 3.12.1830 ппар., 1.9.1831 пар. 3 палка конных стральцоў, удзельнічаў у бітве пад Грохавам. 16.9.1831 прыбыў з Д. Рамарына ў Галіцыю. З 19.3.1832 у Францыі. Працаваў фатографам. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 59*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 97, 309; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 161.*

**Балук Савасцей** – селянін кн. М. Радзівіла з в. Аздзяцічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. Хаваў зброю, порах і кулі, не выканаў загаду аб добраахвотнай іх здачы. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 12; РДВГА-11, арк. 21.*

**Балькоўскі Сцяпан** – селянін кн. Радзівіла са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў атрадзе Г. Дэмбінскага. У Варшаве збег і вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 8–9.*

**Бальсевіч Дзіянісій** – ксёндз Лідскага кармяліцкага кляштара Гродзенскай губ. Хаваў зброю. Пераведзены ў Крупчыцкі кляштар. *РДВГА-8, арк. 8–9.*

**Бандзкевіч Ануфрый** (1807–1841) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. Унтэр-афіцэр у вілейскім апалчэнні, удзельнічаў у сутыкненнях. Затым ппар. 12 ул. палка корпуса А. Гелгуда, потым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У 1832

прыбыў у Францыю. Член ПНК. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 27 адв.; РДВГА-11, арк. 32; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 174.*

**Баневіч** – ксёндз з Мінскай губ. Знаходзіўся ў абозе атрада Ц. Пуслоўскага. *НГАБ-2, арк. 11; РДВГА-11, арк. 22.*

**Баневіч Банавентура** – ксёндз Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага ў Драгічыне. Узяты ў палон. *РДВГА-8, арк. 10*.

**Баневіч Іван** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 8–9*.

**Банецкі Матэвуш** – селянін памешчыка Жуковіча з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 83.*

**Банікоўскі Павел** (20.7.1798–2.7.1838) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у маёнтку Далматаўшчына, сын Андрэя і Юсціны Вашкоўскай. У паўстанні радавы 13 ул. палка. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, вярнуўся ў Францыю. У 1846 член Польск. клуба ў Парыжы, з 3.12.1848 член ПДТ. Памёр у дэп. Сома. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 23; ND. 1843. S. 133; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 75; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 91; Krawiec L. Lista członków. S. 126; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 52.*

**Банкевіч Матэвуш (Мацей)** (н. 6.4.1798) – з в. Сошна Пінскага пав. Мінскай губ., сын Яна і Хелены. У паўстанні радавы 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, вярнуўся ў Францыю. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-2, арк. 9; РДВГА-11, арк. 32; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 92; Dangel S. Rok 1831. S. 117, 119.*

**Банкен** – з Мінскай губ., юнкер. Перайшоў да паўстанцаў, месца знаходжання засталося невядомым да моманту вынясення МГСК рашэння. *РДВГА-11, арк. 26.*

**Баравік Антон** – селянін памешчыка Пуслоўскага з Пінскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. На месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-8, арк. 26*.

**Бараноўскі** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., служыў у маёнтку Нароўля памешчыка А. Горвата. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Нароўлі, удзельнічаў у нападзенні на паштовыя станцыі. Трапіў у палон пад Міхалкамі, адкуль збег. Пазней здаўся расійск. уладам. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 8; РДВГА-11, арк. 22*.

**Бараноўскі Людвік** (п. 1836) – з Мінскай губ., брат Леана. У паўстанні ппар. 2 ул. палка. На пачатку 1832 прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Памёр у Ліёне. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 60; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 88, 198; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 166.*

**Бараноўскі Леан** (п. май 1836) – з Мінскай губ., брат Людвіка. У паўстанні ппар. Эмігрыраваў у Францыю. Памёр у Роне. *ND. 1843. S. 132.*

**Бараноўскі Ян Юзаф** (7.9.1805–30.3.1888) – з Ігуменскага пав. Мінскай губ., н. у в. Смілавічы, сын Марціна, вучыўся ў Мінскай гімназіі, у 1821–25 студэнт матэм.-фіз., у 1825–28 юрыд. ф-та Віленскага ун-та, атрымаў ступень кандыдата, з 1828 падсакратар Польск. банка. Удзельнік падзей 29.11.1830. У час бітвы пад Грохавам дзейнічаў пры штабе Скшынецкага, затым ппар. 5 ул. палка. 16.9.1831 з Д. Рамарына перайшоў межы Галіцыі. З 1832 у эміграцыі ў Францыі. Супрацоўнічаў з Л. Ельскім пры стварэнні банка. У 1837 касір банка "Ельскі, Дусард і інш.". У 1843 працаваў на чыгунцы на лініі Парыж – Гаўр, у 1848 выконваў абавязкі інспектара. Аўтар польска-англійскага слоўніка. У 1872 перабраўся ў Лондан. З 1872 сакратар Літаратурнага т-ва польск. сяброў у Англіі. Памёр у Лондане. *Rps BN, II. 7861; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 214; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 58; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 165; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 16; PSB. T. 1. S. 281.*

**Баранцэвіч Аляксандр** – шляхціц з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад адказнасці ў сувязі з малалецтвам. *НГАБ-2, арк. 8 адв.; РДВГА-11, арк. 22*.

**Баранцэвіч Маўрыкій** – шляхціц з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831

вызвалены ад адказнасці ў сувязі з малалецтвам. *НГАБ-2, арк. 8 адв.; РДВГА-11, арк. 22.*

**Баратынскі Бенядзікт –** іераманах Глускага бернардзінскага кляштара Бабруйскага пав. Мінскай губ. Распаўсюджваў чуткі пра паўстанне. Рашэннем МГСК ад 7.3.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 27 адв.*

**Бардахоўскі** – з Гродзенскай губ., юнкер Самагіцкага егерскага палка. Удзельнічаў у паўстанні. Эмігрыраваў. Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-8, арк. 10.*

**Бардскі Раман –** памешчык з Ігуменскага пав. Мінскай губ., сын Караля і Тэрэзы, брат Фелікса і Мацвея, уладальнік часткі сяльца Палажын, з 1825 радавы Самагіцкага грэнадзёрскага палка, з 1830 прап. 17.12.1830 пакінуў полк і далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 31.10.1834 прызнаны выгнаннікам. У казну ўзяты даход з 1/3 сяльца Палажын. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 176; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 15; РДВГА-11, арк. 23; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 168; Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Бардскі Фелікс** – памешчык з Ігуменскага пав. Мінскай губ., сын Караля і Тэрэзы, брат Рамана і Мацвея, уладальнік часткі сяльца Палажын, пар. егерскага палка Літ. корпуса. У паўстанні з 6.2.18313 пар. палка конных стральцоў, затым дзейнічаў у чыне кап. 3 палка конных стральцоў. 28.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 31.10.1834 прызнаны выгнаннікам. У казну ўзяты даход з 1/3 сяльца Палажын. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 176; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 15; РДВГА-11, арк. 23; AGAD, KRW, nr 545; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 161; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 168; Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Баржэнцкі Альфонс** (19.8.1799–2.7.1857) – з в. Парыж Мінскай губ., сын Юзафа і Кацярыны Непакойчыцкай, брат Эдварда, ппар. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1931 пар., 24.3.1831 кап., 15.9.1831 маёр, 24.9.1831 ппалк. 10 палка пешых стральцоў. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. У студз. 1832 перабраўся ў Францыю. Працаваў на цукровых фабрыках. 1.11.1852 падпісаў адрас да Напалеона III. У 1855 звяртаўся з просьбай аб амністыі, у 1857 атрымаў дазвол на вяртанне ў Мінскую губ. 1.7.1857 прыбыў у Варшаву, дзе на другі дзень памёр. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 78; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 36, 58, 227; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 239.*

**Баржэнцкі Эдвард** (1806–11.3.1888) – з Мінскай губ., н. у в. Мосар, сын Юзафа, брат Альфонса і Кацярыны Непакойчыцкай, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні з 11.4.1831, 17.7.1831 пар., знаходзіўся пры кн. Т. Мірскім, затым кап. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. У чэрв. 1832 перабраўся ў Францыю. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 78; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 227; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 240.*

**Баркоўскі Люцыян** (н. 7.1.1789) – з в. Грыбава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., на вайсковай службе з 1.5.1807, пар., удзельнічаў у кампаніі 1812. У паўстанні з 6.2.1831, маёр, 3.4.1831 ппалк. 1 ул. палка. Належаў да корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны ў Гданьск. 17.1.1832 прыбыў у Варшаву. Аднавіў прысягу расійск. ураду. *Rps BUW, PJK, nr 562, k. 3; Księga pamiątkowa. S. 34; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 233.*

**Баркоўскі Фелікс** – дваранін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 25*.

**Баркоўскі Юзаф** – селянін памешчыка В. Аскеркі з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанцаў прымусова. Збег. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 25.*

**Бародзіч Тадэвуш** – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у навагрудскім апалчэнні, затым далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, ппар. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 29; РДВГА-8, арк. 26; AGAD, WCPL, nr 724, k. 65; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 233; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Бародзіч Юзаф** (н. 14.3.1785 (4.3.1790) – з Гродзенскай губ., маёр. У паўстанні з 19.6.1831, маёр 4 палка конных стральцоў. 8.6.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. *Księga pamiątkowa. S. 123; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 233*.

**Бародзіч Юльян** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 23.6.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 18 адв.; РДВГА-11, арк. 34; Dangel S. Rok 1831. S. 121*.

**Бародзіч Ян** (н. каля 1801) – селянін з Гродзенскай губ., ляснічы Белавежскай пушчы. Удзельнічаў у сутыкненнях. У 1831 сасланы на Нерчынскія руднікі. Вярнуўся на радзіму ў 1857. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 76.*

**Бароўскі Казімір** (1810–1881) – з Мінскай губ., н. у Вільні, унтэр-афіцэр пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, удзельнічаў у бітве пад Дзіснай, затым ппар. 27 палка лін. пяхоты корпуса А. Гелгуда, потым у складзе фарміравання Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. З 1840 член АПЭ, з мая 1846 член ПДТ. Працаваў у друкарні. Ажаніўся з францужанкай, меў сына. 11.6.1872 выехаў з сынам у Галіцыю. *НГАБ-2, арк. 21 адв.; РДВГА-11, арк. 34; AGAD, PFR, nr 15; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 77; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 58, 227; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 234; Dangel S. Rok 1831. S. 121; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 57.*

**Бароўскі Міхал** – селянін памешчыка Какоўскага з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-5, арк. 197.*

**Бароўскі Юзаф** (2.8.1807–12.12.1855) – з Гродзенскай губ., н. у в. Вараб'евічы, сын Казіміра і Элеаноры Каласоўскай, настаўнік. У паўстанні ст. сяржант 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, вярнуўся ў Францыю. У 1837 член АПЭ. 7.1.1851 атрымаў французскае грамадзянства. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 94*.

**Барташ Ігнацій** – селянін з в. Сідзейкі Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў прымусова. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 11.*

**Барташэвіч Дамінік** – ксёндз Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка. *РДВГА-5, арк. 95; AGAD, WCPL, nr 724, k. 81.*

**Барташэвіч Эдвард** (17.8.1807–1863) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша і Схаластыкі Корсак, асэсар. У паўстанні кіраваў аддзелам у дзісенскім апалчэнні, ваяваў пад Дзіснай. Затым ппар.

11 ул. палка корпуса А. Гелгуда. У складзе фарміравання Ф. Роланда 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. З 1840 член АПЭ, з 1.6.1846 член ПДТ. Працаваў коміваяжорам, прадаваў каньяк. Ажаніўся з француженкай, меў дзве дачкі. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 19; РДВГА-11, арк. 24; AGAD, PFR, nr 7; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 91; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 171; Dangel S. Rok 1831. S. 119; Krawiec L. Lista członków. S. 104; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne*. S. *24.*

**Барташэвіч (Бартасевіч) Юзаф** (н. 12.3.1794) – з в. Заполле Гродзенскага (Слонімскага ?) пав. Гродзенскай губ., сын Марціна, ппар. палка конных стральцоў. 4.4.1830 быў камандзіраваны ў Рось. У час паўстання затрыманы ў Дубне Валынскай губ., высланы ў Вятку. 22.1.1832 атрымаў дазвол вярнуцца ў Варшаву. 17.4.1831 аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 538; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 171.*

**Барташэвіч Юльян** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі. Служыў у дзісенскім апалчэнні. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 18; РДВГА-11, арк. 24; Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Барткевіч Вінцэнт** (1776 – пасля 1837) – памешчык з маёнтка Палессе Свянцянскага пав. Віленскай губ., свянцянскі віцэ-маршалак. У паўстанні 1794 удзельнічаў у чыне пар. артылерыі. У 1831 член тайнага пав. к-та, у крас. 1831 узначаліў узбр. сілы свянцянскіх паўстанцаў, разам з якімі змагаўся пад Вільняй. 12.4.1831 ініцыіраваў стварэнне часовага ўрадавага к-та. 5.5.1831 разам са свянцянскімі паўстанцамі перайшоў у Дзісенскі пав. 16.5.1831 у складзе аб'яднаных сіл вілейскіх, дзісенскіх і свянцянскіх паўстанцаў, кіруемых С. Радзішэўскім, адышоў у Вількамірскі пав., камандаваў кавалерыяй. У Жэмайціі далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, у складзе якога дайшоў да Варшавы, дзе 9.8.1831 выконваў абавязкі маршалка на Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў вярнуўся ў Літву, 9.1.1832 арыштаваны, утрымліваўся 16 мес. у турме ў Вільні. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 1.10.1833 сасланы ў Волагду без пазбаўлення правоў. У 1833 выехаў на месца ссылкі, дзе прабыў 3 г. 2.7.1832 накладзены секвестр на маёнткі Палессе і Пеліканы, якія пазней зняты. У 1837 атрымаў

дазвол перасяліцца ў Смаленскую губ. пад нагляд паліцыі, хутка пасля гэтага памёр. *LVIA, f. 437, ap. 1, b. 260; DS. T. 6. S. 440; Księga pamiątkowa. S. 139; Bortkiewicz W. Historyczne opisanie. S. 267–270; ЭГБ. Т. 1. С. 312; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 237; Bieliński K. Rok 1831. S. 93–97; PSB. T. 2. S. 353; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 77*.

**Барткевіч Казімір** (каля 1807–12.5.1850) – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Адзін з ініцыятараў паўстання ў Свянцянскім пав. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, ппар. 3 палка пешых стральцоў, адышоў у Варшаву. Эмігрыраваў, у 10.6.1834–20.5.1850 атрымліваў грашовую дапамогу ад англійскага ўрада. З 3.5.1841 знаходзіўся ў Кінгстане. Скончыў жыццё самагубствам у Лондане. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 49; ND. 1843. S. 133; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 77; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 66; Bieliński K. Rok 1831. S. 120; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 22.*

**Барткевіч Канстанцін** (н. 13.1.1814) – шляхціц з маёнтка Камарова Свянцянскага пав. Віленскай губ., сын Станіслава і Юльяны Мірскай. У паўстанні ппар. 10 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 адышоў у Прусію. 19.2.1832 прыбыў у Францыю. З 1832 член ПНК, з 2.4.1848 член ПДТ. *AGAD, PFR, nr 7; EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 92; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 236; Bieliński K. Rok 1831. S. 120; Krawiec L. Lista członków. S. 116; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 58*.

**Барткевіч Медард** (н. 8.6.1810) – шляхціц з маёнтка Палессе Свянцянскага пав. Віленскай губ., сын Вінцэнта і Разаліі Сулістроўскай. У паўстанні ппар. 13 ул. палка, далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, з якім пакінуў межы Беларусі. 5.10.1831 у складзе фарміравання М. Рыбінскага адышоў у Прусію. У сак. 1832 прыбыў у Францыю. Працаваў гадзіншчыкам. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 94; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 236–237; Bieliński K. Rok 1831. S. 120*.

**Барткевіч Станіслаў** – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., уладальнік маёнтка Камарова. З'яўляўся адным з ініцыятараў паўстання ў Свянцянскім пав. Дзейнічаў у складзе тайнага свянцянскага к-та, член часовага ўрадавага к-та. Уваходзіў у склад часовага ўрада Свянцянскага пав. Па рашэнню ВГСК ад 5.9.1834, якая не здолела пацвердзіць усе факты, аднесены да 3 разр. зл. *Bieliński K. Rok 1831. S. 85–87.*

**Барута Іван** (1794–9.5.1857) – з Гродзенскай губ., н. у в. Скупава, сын Рыгора і Тэклі Вяржбіцкай, радавы расійск. службы. Перайшоў да паўстанцаў. Апынуўся ў Прусіі. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, пасля вярнуўся ў Францыю. З 17.5.1846 член ПДТ. *РДВГА-8, арк. 27; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 95; Krawiec L. Lista członków. S. 97.*

**Баршчэўскі Кліменцій** – селянін памешчыка Дамброўскага з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў у 7 егерскім палку А. Гелгуда. Удзельнічаў у бітве пад Шаўлямі. Адышоў у КП. Па рашэнню МГСК ад 1.6.1832 адпраўлены салдатам у сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 21; РДВГА-11, арк. 24; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 131, lp. 2–3; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Баршчэўскі Феафіл** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Пар. палка К. Пршэздзецкага. *РДВГА-5, арк. 98.*

**Барыкоўскі Сцяпан** – з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод рэчыцкіх паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем. *Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Барысевіч Сымон** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з маёнтка Азарычы Пінскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 вызвалены ад пакарання. Эміграваў, 12.10.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. *НГАБ-2, арк. 30; РДВГА-11, арк. 33; Rps BN, III. 6594, k. 203, 553.*

**Барысевіч Ян (Юзаф)** (1791– 2.1850) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Пар. палка К. Пршэздзецкага, затым у атрадзе пазнанскай конніцы. Знаходзіўся ў эміграцыі. Памёр у Кракаве, пахаваны 2.2.1850. *РДВГА-5, арк. 195; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 78; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 59.*

**Барэйша Ігнацій** – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., брат Напалеона, адстаўны афіцэр. Дзейнічаў у складзе атрада Ц. Пуслоўскага. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 28 адв.; РДВГА-8, арк. 24; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 230.*

**Барэйша Напалеон** – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., брат Ігнація. Дзейнічаў у складзе атрада Ц. Пуслоўскага, пар. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. У 1833 высланы

аўстрыйскім урадам з Кракава. 15.1.1834 прыбыў у Марсель. 10.1.1837 трапіў у палон да арабаў. У снеж. 1842 вярнуўся ў Парыж. 24.2.1853 асуджаны за махлярства, пасля чаго высланы з Францыі. *НГАБ-2, арк. 28; РДВГА-8, арк. 23*.

**Басалай Якім –** селянін памешчыка В. Пуслоўскага з в. Вялікая Гаць Пінскага пав. Мінскай губ., стралец. Прымусова ўдзельнічаў у забеспячэнні атрада Ц. Пуслоўскага харчаваннем і нападзенні на мызу Аброва. Рашэннем МГСК ад 29.2.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 20*.

**Басяцкі Іларыён** – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., вучань Віленскага базыльянскага вуч. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-5, арк. 215*.

**Батранец Юсцін** – шляхціц з Мінскай губ., музыкант Будслаўскага бернардзінскага кляштара. У атрадзе І. Адахоўскага ў Будславе служыў трубачом. МГСК яго месцазнаходжанне засталося невядомым, пры разглядзе справы 9.11.1831 рашэнне не вынесена. *НГАБ-2, арк. 9 адв.; РДВГА-11, арк. 26.*

**Баум Караль –** з г. Гродна, н. у Аўгустоўскім ваяв., вахмістр 4 ул. палка. У паўстанні ппар., ад'ютант ген. Ю. Двярніцкага. 21.4.1831 перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. 13.3.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 475; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 176, 215; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 173*.

**Бах Міхал** – селянін памешчыка Дзівава з маёнтка Крынкі Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся прымусова сярод беластоцкіх паўстанцаў. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 11*.

**Бах Якуб** – селянін памешчыка Дзівава з маёнтка Крынкі Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся прымусова сярод беластоцкіх паўстанцаў. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 11*.

**Бацкевіч Ануфрый** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Міхала. У паўстанні афіцэр. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Бацулевіч Андрэй** (н. каля 1810) – селянін з в. Калінікі Лідскага пав. Гродзенскай губ., сын Лаўрэнція. Знаходзіўся ў атрадзе Д. Хлапоўскага. Адышоў у Прусію, адкуль інтэрніраваны. Адпраўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 20.8.1832 адпраўлены салдатам у

Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 12 адв.; РДВГА-8, арк. 11; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 43.*

**Бацяноўскі Ян** – селянін з в. Дольняя Рута Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, адышоў у Прусію, адкуль інтэрніраваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 28*.

**Бачанін Антоній** (н. каля 1807) – селянін памешчыка Стравінскага з в. Фралова Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Уладзіслава. У маі 1831 добраахвотна далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў. Захоплены ў палон пад мяст. Гатава. Па рашэнню МГСК 18.4.1832 адпраўлены салдатам у сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 21; РДВГА-11, арк. 26; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 128, lp. 19; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Бачынскі Антоній** (н. 13.6.1787) – са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у Нясвіжы, сяржант. У паўстанні ппар., затым пар., з 6.2.1831 кап. 5.10.1831 у складзе атрада М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 10.2.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. Пазней эмігрыраваў. 12.3.1833–4.10.1840 член ПДТ. *BPP, nr 408, s. 238; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 155; Krawiec L. Lista członków. S. 43.*

**Бачынскі Ян** – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА, ф. 1, воп. 1, спр. 12031, ч. 5, арк. 103*.

**Баярскі Антоній** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Адзін з арганізатараў паўстання ў Дзісенскім пав. Камісар па харчаванню ва ўрадавым к-це ў Лужках. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аднесены да 3 разр. зл., па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 10.3.1832 пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2; РДВГА-11, арк. 35; Dangel S. Rok 1831. S. 119, 121.*

**Бей Мікалай** – селянін памешчыка Карчэўскага з в. Шчарбіна Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1831 знаходзіўся на службе ў КП. Збег са службы, далучыўся да паўстанцаў. У вер. 1831 дастаўлены ў Гродна. Адпраўлены на месца жыхарства пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 12.*

**Белавус Якуб (Ігнацій)** – селянін памешчыка І. Палубінскага з Пінскага пав. Мінскай губ. У паўстанні дзейнічаў у складзе аддзела І. Палубінскага атрада Ц. Пуслоўскага, узяты ў палон. Па рашэнню МГСК 29.2.1832 аддадзены ў рэкруты. *НГАБ-2, арк. 30; РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 120.*

**Белакоз Антон** – дваранін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе аддзела Т. Тышкевіча. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 41.*

**Белка Касцюк** – селянін памешчыка А. Горвата з Мінскай губ., ямшчык каралінскай паштовай станцыі. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Караліне, удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю ў Кузьмічах і сутыкненні ў Міхалках. З’явіўся з раскаяннем. Рашэннем МГСК аддадзены ў рэкруты, аднак па хадайніцтву А. Горвата вернуты ўласніку. *НГАБ-2, арк. 35; РДВГА-11, арк. 44.*

**Белка Юрый** – селянін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК ад 30.5.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус, выехаў на Каўказ 27.7.1833. *НГАБ-2, арк. 35; РДВГА-8, арк. 40; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 53.*

**Бельскі Актавіян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам, служыў у пяхоце. *РДВГА-5, арк. 306.*

**Бельскі Аляксандр –** з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Маёмасць канфіскавана. *DS. T. 6. S. 386; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Бельскі Дамінік** (н. 4.8.1800) **–** з Гродзенскай губ., н. у Бельску Падляскім Беластоцкай вобл., сын Францішка і Тэклі Кулеш, з 1817 на вайсковай службе. У паўстанні з 6.2.1831, пар., 21.3.1831 кап. 2 кл., дзейнічаў сярод ашмянцаў. Адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 14.9.1831 адзначаны залатым крыжам, з 4.10.1831 кап. 1 кл. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У жн. 1832 прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 належаў да закладу ў Безансоне. З 31.7.1833 маёр артылерыі партугальскага легіёна, у ліст. 1833 вярнуўся ў Парыж. Быў звязаны з А. Чартарыйскім. У 1843–46 член Польск. клуба, у 1853 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. 31.12.1855 уступіў у дывізію султанскіх казакаў, кіраваў артыл. батарэяй. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца на сталае жыхарства ў Гродзенскую губ. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9; BPP, nr 493, 565; Rps BUW, nr 2327; DS. T. 6. S. 386; Księga pamiątkowa. S. 145; Źródła do dziejów. T. 1. S. 296; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 198; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 86; Gadon L. Z życia Polaków. S. 114.*

**Беляноўскі Ф. –** селянін з в. Аборка Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-5, арк. 310.*

**Беляноўскі Якуб** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў кантаністам. *РДВГА-5, арк. 298*.

**Бенкен Уладзімір** – з Гродзенскай губ., юнкер Віленскага пях. палка. Актыўна ўдзельнічаў у складзе атрада Д. Хлапоўскага. Эмігрыраваў. *НГАБ-2, арк. 12 адв; РДВГА-8, арк. 13*.

**Беразун (Веразун) Гардзей –** селянін памешчыка А. Горвата з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Служыў ямшчыком на каралінскай паштовай станцыі. Добраахвотна далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Караліне, удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю ў Кузьмічах, ездзіў да паўстанцаў у Мазыр. Узяты ў палон пад Міхалкамі. Рашэннем МГСК ад 31.12.1831 аддадзены ў рэкруты, аднак па хадайніцтву А. Горвата палявым аўдытарыятам вернуты ўласніку. *НГАБ-2, арк. 20; РДВГА-11, арк. 56; Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Бергель Аляксандр** (11.10.1805–12.7.1891) – з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у Ясколтах (каля Свіслачы). У паўстанні ппар. Пасля заканчэння дзеянняў хаваўся ў Кракаве. У 1836 эмігрыраваў у Францыю. У 1840–42 вучыўся ў аграрнай школе ў Грыньёне, дыплома не атрымаў. У ліп. 1843 далучыўся да суполкі А. Тавянскага, сябар А. Міцкевіча. У 1848 дзейнічаў у складзе польск. легіёна ў Ламбардзіі. Пасля вяртання ў Францыю жыў у Парыжы, пакінуў успаміны. *Mickiewicz W. Pamiętniki. T. 1. S. 44; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 68; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 201; Konarska B. Polskie drogi. S. 227; PSB. T. 2. S. 74.*

**Бергель Войцэх** (22.11.1813–15.2.1887) – з Гродзенскай губ., н. у в. Навасады, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 7 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 у складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі. У пачатку 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне, дзе далучыўся да ПНК, з 25.4.1832 член АПЭ. У жн. 1833 перабраўся ў заклад дэп. Манш. 27.7.1833–12.7.1837 член ПДТ. Памёр у Парыжы. *AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 69; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 202; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 158, 303; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 40.*

**Бергель Жыгімонт** (6.2.1812–21.3.1865) – з Гродзенскай губ., н. у в. Пацкі Вілейскага пав., студэнт маральна-палітычнага ф-та Віленскага

ун-та. У паўстанні пхар. 4 палка пешых стральцоў, затым ппар. Дзейнічаў у бітве пад Вільняй. 15.7.1831 з Ф. Роландам апынуўся ў Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне. У 1832 член ПНК. У жн. 1833 перабраўся ў заклад дэп. Манш. 30.7.1833–1.8.1837 член ПДТ. З вер. 1835 у Пуацье, дзе вывучаў права, 5.5.1838 атрымаў дыплом, працаваў настаўнікам і рэпетытарам у ліцэях Ля-Рашэля і Пуацье. З 1837 член АПЭ. Па рашэнню ГГСК прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-8, арк. 13; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 69; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 158, 303; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 202; Konarska B. Polskie drogi. S. 228; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S 40.*

**Беркавіч Абрам** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 9.*

**Бернатовіч Антоній –** з Гродзенскай губ. Член к-та Літ.-Вал. легіёна, кап. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў у Францыю. *AGAD, WCPL, nr 261, k. 3, 10, 131; BPP, nr 565; DS. T. 6. S. 386; Zdanie sprawy Rządowi Narodowemu. S. 3–4; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 139.*

**Біёлт Ігнацій** (н. 3.5.1798) – з Гродзенскай губ., сын Уладзіслава, ппар. польск. войскаў. 26.3.1831 пар., 1.7.1831 кап. 4 палка пешых стральцоў, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 407; AGAD, PFR, nr 6, 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 206.*

**Біёлт Юзаф** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Прасіў літасці, атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 15; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78; DS. T. 6. S. 386.*

**Біёлт Юльян** – дваранін з Гродзенскай губ., адвакат. Удзельнічаў у паўстанні ў складзе атрада Ю. Кашыца, затым радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. Прасіў літасці, атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 15; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; DS. T. 6. S. 385.*

**Білгарайскі Францішак –** шляхціц з Віленскай губ., бельскі маршалак. Уваходзіў у склад тайнага гродзенскага к-та. Дзейнічаў у Белавежскай пушчы, затым пхар. 23 палка лін. пяхоты. 17.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Маёмасць канфіскавана. *Księga pamiątkowa. S. 155; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2. С. 402; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Білевіч Альбін –** дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні падафіцэр 12 ул. палка. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). *НГАБ, ф. 333, воп. 1, спр, 699; РДВГА-5, арк. 143; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 67.*

**Білевіч (Бялевіч, Булевіч) Амброзій** (1810–7.4.1843) **–** дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ. У паўстанні падафіцэр 12 ул. палка. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 67.*

**Білевіч Францішак Юзаф** (1783–8.1861) – з Гродзенскай губ. Кіраваў паўстанцамі Вількамірскага пав., маёр. 14.9.1831 адзначаны кавалерскім крыжам. Па заканчэнні дзеянняў хаваўся ў Кракаве. 6.8.1836 выехаў у Францыю. 11.11.1852 у Парыжы падпісаў адрас да Напалеона III. *НГАБ, ф. 333, воп. 1, спр. 699; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 146; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 207*.

**Білінскі Юзаф** – з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 15*.

**Біруля Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-5, арк. 148.*

**Бітэрліх Эдвард Мікалай** (16.7.1810–17.9.1866) – з Магілёўскай губ., н. у Акрочынску, сын Пятра і Ізабелы Ленаньскай. У паўстанні ппар. 5 палка лін. пяхоты, адышоў у Галіцыю, інтэрніраваны. Прыбыў у Францыю ў крас. 1832, належаў да закладу ў Буржэ. З 15.11.1833 на працягу 3 г. быў легіянерам, у 1833–34 знаходзіўся ў Афрыцы. Пастановай суда ў Аране ад 9.1.1835 за невыкананне субардынацыі асуджаны на 5 г. Пасля выхаду з турмы перабраўся ў Англію, дзе з чэрв. 1838 атрымліваў дапамогу брытанскага ўрада. Памёр у Стратфардзе. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 71; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 73, 227; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 208; яго ж: Polacy w Legii. S. 86.*

**Біхавец –** памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Меў зносіны з паўстанцамі Белавежскай пушчы. Аддадзены пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 16.*

**Блажаеўскі Леапольд Віктар** (п. 1862) – з г. Гродна, ппар. польск. войскаў. У паўстанні ад'ютант палка, 3.5.1831 пар. 4 ул. палка, затым кап. 25.7.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Са студз. 1838 член АПЭ. *Księga pamiątkowa. S. 131; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 88; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 211; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 186; Katalog rękopisów Biblioteki Narodowej. T. 3. S. 116*.

**Блажэвіч Агатон** – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Вінцэнта, уладальнік часткі маёнтка Лапуць, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні радавы 1 ул. палка, затым ппар., належаў да корпуса А. Гелгуда. У складзе корпуса Д. Рамарына 16.9.1831 перайшоў межы Галіцыі. У сак. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладаў Авіньёна, Люнэля і Ле Пюі. 26.3.1833–9.12.1835 член ПДТ. У чэрв. 1854 знаходзіўся ў Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 18.9.1834 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 24; РДВГА-11, арк. 28; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 176, 215; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 211; Dangel S. Rok 1831. S. 120; Krawiec L. Lista członków. S. 43; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 44.*

**Блажэвіч Ігнацій** – шляхціц з мяст. Салокі Браслаўскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. *РДВГА-5, арк. 155*.

**Блажэвіч Юзаф** – шляхціц з мяст. Салокі Браслаўскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. *РДВГА-5, арк. 153.*

**Блажэвіч (Блажаевіч) Юзаф** (н. каля 1815) – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ўдзельнічаў у аграбленні арандатара, радавы 13 ул. палка. Трапіў у палон па дарозе ў Варшаву. Па рашэнню ГГСК ад 17.5.1835 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 17; AGAD, WCPL, nr 724, k. 80; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 64.*

**Блушык Лявон** – селянін з казённага маёнтка Густаты Мінскай губ. Удзельнічаў у нападзенні на фальварак Яніжкі і забойстве аканома Бараноўскага і мешчаніна Ф. Гратулевіча. Па рашэнню МГСК ад 16.3.1832 аддадзены пад ваен. суд. *НГАБ-2, арк. 21 адв.; РДВГА-11, арк. 28; Dangel S. Rok 1831. S. 120.*

**Бражоўскі Антоній** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-5, арк. 226.*

**Браздоўскі Ян** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Сярод дзісенскіх паўстанцаў удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 19; РДВГА-11, арк. 36; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Бразоўскі (Бракоўскі) Андрэй** – дваранін з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Па рашэнню ГГСК ад 19.9.1833 адпраўлены ў Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 29 адв.; РДВГА-8, арк. 30; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 79.*

**Браневіч Уладзіслаў** – з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні пар. 2 ул. палка. Перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 252.*

**Бранец** – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Меў зносіны з паўстанцамі Белавежскай пушчы. Узяты пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 30.*

**Бранкоўскі Вінцэнт** – селянін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Г. Дэмбінскага як кантаніст. Адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 31.*

**Брант Ян** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. артылерыі. Эмігрыраваў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Наведваў матэматычныя курсы, у 1847 здаў экзамен на інструктара дарог і мастоў. У 1857 жыў у Дзюнкерку. *РДВГА-5, арк. 219; ч. 8, арк. 28; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 86; Konarska B. Polskie drogi. S. 232.*

**Браньскі Антоній** – памешчык з Гродзенскай губ. ГГСК ад 26.10.1832 аднесены да 1 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 29 адв.*

**Браўн Ян** (н. 1810) – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Паставы, вучань 4-га кл. піярскай школы ў Лужках. У паўстанні з 24.4.1831, з'яўляўся памочнікам А. Татура, займаўся карэспандэнцыяй. 15.6.1831 ппар. 19 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 з корпусам А. Гелгуда ў складзе 7 палка лін. пяхоты перайшоў межы Прусіі. У крас. 1832 перабраўся ў Францыю. Рашэннем МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-11, арк. 37; BPP, nr 408, s. 237; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 108, 208; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 245–246; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Брахоцкі Валенцій** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Мікалая, палк. польск. войскаў. Арганізатар паўстання ў Дзісенскім пав. Узначальваў апалчэнне ў Лужках. 8.5.1831 кіраваў захопам Дзісны. Пад Зеймамі далучыўся да фарміравання А. Гелгуда, кіраваў батальёнам 19 ул. палка, пазней злучыўся з атрадам Ф. Роланда, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. Рашэннем МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 1 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 18; РДВГА-11, арк. 37; AGAD, PFR, nr 7; LVIA, f. 437, ap. 1, b. 260; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 250; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Брахоцкі Уладзіслаў** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў у чыне пар. 13 ул. палка, у складзе якога дайшоў да Варшавы, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію, прасіў літасці. Маёнтак вызвалены ад секвестра. *РДВГА-8, арк. 32; DS. T. 6. S. 386; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 250.*

**Бржазінскі Пётр** – шляхціц са Слуцкага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў валынскім апалчэнні. Узяты ў палон. Справа накіравана ў валынскае губ. праўленне. *РДВГА-11, арк. 35.*

**Бржастоўскі Аўгуст** – гр., памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Роберта. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, член урадавага



Ян Браўн



Уладзіслаў Брахоцкі

к-та ў Лужках. Паставіў 30 кантаністаў. Арыштаваны, разам з іншымі членамі к-та ўтрымліваўся спачатку ў Дынабургу, затым у Мінску. Па рашэнню МГСК ад 23.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., рашэннем ад 18.5.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі з забаронай пакідаць маёнтак. *НГАБ-2, арк. 19 адв.; РДВГА-11, арк. 36; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Бржастоўскі Вінцэнт** – гр., дваранін з Люцынскага пав. Віцебскай губ., люцынскі маршалак. Меў сувязь з ашмянскім урадавым к-там. Ініцыятар выступлення ў Люцынскім пав. *РДВГА-5, арк. 227.*

**Бродскі Станіслаў** – селянін памешчыка Здзяхоўскага з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 29.*

**Бродскі Францішак** – селянін памешчыка Здзяхоўскага з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 29.*

**Бродскі Юльян** – селянін памешчыка Здзяхоўскага з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 29.*

**Бронскі Антоній** (11.6.1802 (1794) – 19.11.1884) – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., уладальнік маёнтка Падоль. Стварыў разам з С. Незабытоўскім у Слонімскім пав. паўст. атрад. Адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 19.8.1831 кап. 3 палка пешых стральцоў, 4.10.1831 маёр. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. На пачатку 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Па рашэнню ГГСК ад 22.10.1832 аднесены да 1 разр. зл., маёмасць канфіскавана. З 31.7.1833 у званні маёра пяхоты служыў у партугальскім легіёне. Памёр у Бардо. *РДВГА-8, арк. 31; BPP, nr 493; Rps BUW, nr 2327; DS. T. 6. S. 386; Księga pamiątkowa. S. 137; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 215; ЭГБ. Т. 2. С. 80; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 82; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 76, 222; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 254; Kaczkowski J. Konfiskaty; Spazier R.O. Historia powstania. T. 1. S. XIX.*

**Брушэўскі Юзаф** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 32.*

**Брынк Ксаверый Юзаф** (30.8.1810–10.12.1881) – з Мінскай губ., н. у в. Селіхаў, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні хірург 12 палка лін. пяхоты. Эмігрыраваў у Францыю ў кастр. 1832. Працягваў вывучаць медыцыну ў Пуацье і Манпелье, 3.5.1836 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Эндр. У чэрв. 1838 далучыўся да АПЭ. *РДВГА-5, арк. 228; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 82; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 158; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 257; Konarska B. Polskie drogi. S. 235.*

**Брэза Уладзіслаў Яўген** (1812–18.12.1876) – н. у Свянткове (Польшча), літаратар, публіцыст. 8.8.1831 абраны паслом на сейм як прадстаўнік ад Слонімскага пав. Эмігрыраваў у Францыю, жыў у Парыжы. У 1836 удзельнічаў у выданні двухтыднёвіка "Naród Polski". Памёр у Пазнанскім ваяв. *BPP, nr 565; DS. T. 6. S. 382–385; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 80; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 24, 287.*

**Бубель Францішак** – дваранін з Магілёўскай губ., канцылярыст Магілёўскага губ. праўлення. Аўтар супрацьурадавых твораў. Сасланы салдатам на Каўказ. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 6894; ф. 1416, воп. 2, спр. 7224.*

**Будны Юзаф** (н. каля 1804) – селянін кн. Сапегі з мяст. Осавы Мост Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., юнкер Літ. корпуса. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага ў Пінскім пав. 8.8.1831 узяты ў палон пад Невелем. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 адпраўлены салдатам у сібірскія лін. батальёны. Знаходзіўся ў Забайкальскім гарнізоне. У 1855 служыў у Чыце. *РДВГА-11, арк. 38; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 122; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 84.*

**Будрэвіч Францішак** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў на поўначы Мінскай губ. Трапіў у палон, утрымліваўся ў Пскоўскім астрозе. З-за адсутнасці дакладных звестак аб умовах арышту МГСК 16.3.1832 канчатковага рашэння не вынесла, па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі аддадзены пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 21; РДВГА-11, арк. 39; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Буйло Юзаф** (н. 15.10.1808) – з в. Сукачы Гродзенскай губ., н. у Кобрыне, сын Антонія і Пелагеі, з 1820 на службе ў расійск. арміі. У паўстанні радавы 3 палка пешых стральцоў. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю.

17.5.1846–8.8.1847 член ПДТ. З ліп. 1847 працаваў на канале ў Ля-Рашэлі. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 83; Krawiec L. Lista członków. S. 97.*

**Буйніцкі Алаізій** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. З 22.4.1831 дзейнічаў сярод лужкоўскіх паўстанцаў, намеснік камандуючага апалчэння. Пад час знаходжання В. Брахоцкага ў Дзісне выконваў яго абавязкі. Здаўся ўладам. 14.7.1831 памёр у Дынабургскай крэпасці. Па рашэнню МГСК ад 11.1.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 19 адв.; РДВГА-11, арк. 39; AGAD, MMK, nr 42, s. 7–10; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Буйніцкі Нестар** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Алаізія. Падпісаў Акт канфедэрацыі, у дзісенскім урадавым к-це займаў пасаду камісара па друкаванню загадаў, сачыў за пастаўкай кантаністаў, выконваў абавязкі каменданта. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 21 адв.; РДВГА-11, арк. 40; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Буйніцкі Ян** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Алаізія. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, 2 тыдні выконваў абавязкі каменданта Глыбоцкага ключа, намеснік члена ўрадавага к-та ў Лужках, састаяў пры В. Брахоцкім памочнікам па асобых даручэннях. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 23.12.1831 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 19; РДВГА-11, арк. 40; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Букаты Рамуальд Антоній** (7.2.1804–19.9.1876) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Яна, вывучаў матэматыку ў Варшаўскім ун-це, кадэт. З пачатку паўстання перабраўся ў КП, падафіцэр Літ.-Вал. легіёна, з 21.6.1831 ппар., 12.8.1831 пар. 26.5.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Адышоў у Галіцыю, інтэрніраваны. У маі 1832 прыбыў у Францыю, знаходзіўся ў закладзе ў Шатору, зарабляў на жыццё правядзеннем даследаванняў для Гісторыка-літаратурнага т-ва. Скончыў школу дарог і мастоў (вучыўся ў 1836–39), працаваў інструктарам. Нейкі час знаходзіўся ў Канадзе. 16.5.1848 падпісаў у Парыжы акт заснавання Літ.-рус. клуба. Памёр у Парыжы. *РДВГА-5, арк. 246; BPP, nr 565; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 170; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 109, 209; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 267; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 205, 210; яго ж: Z życia Polaków. S. 114; Konarska B. Polskie drogi. S. 236; PSB.*

**Букаты Яўген –** дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ю. Кашыца, затым радавы атрада навагрудскай

конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 1.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 31 адв.; РДВГА-8, арк. 33; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76.*

**Букель Томаш** (22.12.1809–14.8.1860) – з мяст. Дзятлава Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Скончыў Свіслацкую гімназію. Пар. 11 палка фарміравання Д. Хлапоўскага. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, першапачаткова знаходзіўся ў Безансоне, 7.11.1832 ў Шатору. У 1834–40 вывучаў права ў Пуацье, 11.10.1840 атрымаў дыплом, не знайшоў працы па спецыяльнасці. У 1837 член АПЭ. З'яўляўся карэспандэнтам "Trzeciego Maja". У 1852 жыў у Парыжы, з чэрв. 1854 у Версалі, дзе і памёр, пахаваны на Манмартры. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 104, 159; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 267; Konarska B. Polskie drogi. S. 236; Polacy pochowani. S. 104.*

**Букоўскі Вінцэнт** – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у в. Кошчыкі (Какуцішкі), сын Дамініка і Магдалены Вежыцкай, аканом. У паўстанні афіцэр штаба атрада Г. Дэмбінскага, у складзе якога дайшоў да Варшавы (паводле Р. Бялецкага – радавы 2 палка пешых стральцоў). Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, жыў у Ля-Рашэлі, Бардо, Тулузе, Нанце і інш. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца ў Ковенскую губ. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 6; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 101; Bieliński K. Rok 1831. S. 120.*

**Булагін Аляксандр** (п. 1872) – н. у Гродна, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні падафіцэр 4 палка лін. пяхоты, з 13.6.1831 ппар. 5.10.1831 у складзе атрада М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У пачатку 1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. У 1866 член АПЭ. Памёр у Німе. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 85*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 79; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 269; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 76.*

**Булгак Аляксандр** – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы, ппар. 13 ул. палка, у складзе фарміравання Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Даход ад часткі маёнтка ўзяты ў казну. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. З 3.9.1832 член ТЛРЗ, ПНК. У маі 1838 член АПЭ, затым ПДТ. *НГАБ-2, арк. 32; НГАБ у*

*г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 58, арк. 1; РДВГА-8, арк. 34; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; EPP, nr 1, k. 17; Rps BN, II. 7871, k. 142; DS. T. 6. S. 386; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 269–270.*

**Булгак Антоній** – памешчык з Бабруйскага пав. Мінскай губ. Агітаваў сваіх сялян да ўдзелу ў паўстанні, захоўваў зброю. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.1.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 32 адв.; РДВГА-11, арк. 41.*

**Булгароўскі Ігнацій** (16.12.1806–25.11.1853) – з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Палонка, скончыў Свіслацкую гімназію. У 1824–27 студэнт Віленскага ун-та, з 1827 у расійск. войсках. У паўстанні з 1.5.1831 падафіцэр 5 палка лін. пяхоты, 19.8.1831 ппар. 13 ул. палка ў корпусе Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у чэрв. 1831, працаваў інструктарам дарог і мастоў. 25.5.1839 далучыўся да ПДТ. Ажаніўся з француженкай, меў сыноў Вітольда і Гаштольда. Рашэннем гродзенскага губ. праўлення ад 11.3.1835 прызнаны выгнаннікам. Памёр у Арлеане. *НГАБ, ф. 1416, воп. 4, спр. 4373, арк. 1; РДВГА-8, арк. 35; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 85; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 109; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 270; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 109.*

**Булгарын Антоній** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў Белавежскай пушчы ў атрадзе Я. Шрэтара, затым дзейнічаў у Пінскім пав. у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Эмігрыраваў у Францыю, па спіску Л. Ходзькі член ТЛРЗ. Памёр у Нанце. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., частка маёнтка Татаршчызна коштам 12 тыс. зл. канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 32 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 24, арк. 3; РДВГА-8, арк. 34; Rps BN, II. 7872; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 86; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Булеўскі Дамінік** (н. 5.5.1790) **–** з г. Слоніма Гродзенскай губ., маёр 3 палка пешых стральцоў. У час паўстання кіраваў гарнізонам у Замосці. 12.3.1831 адзначаны залатым крыжам. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў хаваўся ў Галіцыі, удзельнічаў у складзе экспедыцыі Ю. Заліўскага. Арыштаваны ў Аўстрыі, дэпарціраваны ў Амерыку. У кастр. 1837 разам з сынам Людвікам (н. 1842) вярнуўся ў Францыю. 19.3.1848 член ПДТ. *AGAD, KRW, nr 579; Rps BUW, PJK, nr 562, k. 25; Księga pamiątkowa. S. 104; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 269; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 259–268; Krawiec L. Lista członków. S. 114; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 75.*

**Булеўскі Фердзінанд –** з Мінскай губ. У паўстанні ппар. 3 палка пешых стральцоў, з 11.8.1831 кап. 8.6.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. 17.2.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 465; Księga pamiątkowa. S. 123; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 269.*

**Булька Васіль** – селянін з в. Харашэвічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага і адышоў з ім у Прусію, інтэрніраваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 36.*

**Буневіч Захар** (н. каля 1782) – шляхціц з Магілёўскай губ. Дзейнічаў у атрадзе В. Матусевіча ў аколіцах Трок, дзе трапіў у палон. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага дзеючай арміі І. Паскевіча, зацверджанай 29.1.1831 Мікалаем І, сасланы на катаргу ў Сібір. Па стану здароўя 4.7.1833 пераведзены на пасяленне ў Ішымскую акругу (Табольская губ.). З 1855 у Ішыме, працаваў шаўцом. Ажаніўся, меў сына і дачку. У маі 1856 было распачата паўторнае следства па яго справе. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 88.*

**Бурба Аляксандр** (8.7.1800–20.9.1876) – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у Антонава. Скончыў гімназію ў Крожах, Віленскі ун-т, д-р медыцыны. У паўстанні пар. аўгустоўскага апалчэння. 4.10.1831 адзначаны залатым крыжам. Эмігрыраваў у Францыю, вучыўся ў мед. школе ў Манпелье, дыплома не атрымаў, сакратар баціньёльскай школы. З 7.8.1833 член ПДТ. Пакінуў успаміны. *Burba A. Stan młodzieży Wileńskiej; Księga pamiątkowa. S. 165; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 86; Bieliński K. Rok 1831. S. 120; Konarska B. Polskie drogi. S. 237; Krawiec L. Lista członków. S. 44; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 77.*

**Буткевіч** – селянін з в. Старая Воля Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Адышоў з паўстанцамі ў Варшаву, арыштаваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 37.*

**Буткевіч Томаш** (каля 1803–1850) – селянін памешчыцы Жукавай з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК аднесены да 3 разр. зл. З 13.5.1832 член ТЛРЗ. 10.6.1834–24.7.1849 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 10.1.1849 жыў у Лондане. 12.3.1836–18.2.1838 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна. Памёр у Лондане. *РДВГА-8, арк. 36; Rps BN, II. 7871; Krawiec L. Lista członków. S. 65; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 67.*

**Буткевіч Ян** (10.2.1794–20.6.1865) **–** н. у в. Заполле Мінскай губ., сын Станіслава і Марыі Хлявінскай. У паўстанні радавы 1 палка конных стральцоў. 15.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Эмігрыраваў. *Księga pamiątkowa. S. 151; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 84.*

**Буткоўскі Антоній** (н. 4.8.1804) – з г. Мінска, сын Юзафа і Караліны Крупавец. У паўстанні радавы 16 палка лін. пяхоты. 29.4.1838 уступіў на 3 г. у замежны легіён. У 1838–41 у Афрыцы. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 103.*

**Бутлер Вінцэнт** – дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у складзе ашмянскіх і пазнанскіх паўстанцаў, з атрадам Г. Дэмбінскага накіраваўся ў Варшаву. З 18.9.1831 ппар., пад час капітуляцыі Варшавы знаходзіўся ў шпіталі. Аднавіў прысягу расійск. ураду. У жн. 1832 эмігрыраваў у Францыю. 11.11.1852 падпісаў адрас да Напалеона III. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, да ліст. 1860 не скарыстаў гэтай магчымасці. *РДВГА-5, арк. 254; ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 8 адв.; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 16–18; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 109; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 273.*

**Бухавецкі Баляслаў** – памешчык з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Актыўна дзейнічаў у Белавежскай пушчы. У складзе атрада Д. Хлапоўскага адышоў у Віленскую губ. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 33; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 37.*

**Буцэвіч Тэадор (Бушэвіч Фёдар) –** уніяцкі пробашч з в. Куранец Вілейскага пав. Мінскай губ. Па загаду І. Адахоўскага праводзіў прысягу ў Вілейцы. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 30 адв.; РДВГА-11, арк. 42; Dangel S. Rok 1831. S. 163.*

**Бучынскі Антоній** (13.5.1790–1890) – з Мінскай губ., сын Юрыя. У паўстанні ппар. 1 кав. палка. 15.8.1832 прыбыў у Францыю. У 1834 далучыўся да ПДТ, з ліп. 1837 член АПЭ. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 158; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 264; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 71.*

**Бушук Яўхім** – селянін з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага правадніком. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 39.*

**Бушэнка Гардзей** – селянін памешчыка А. Горвата з Мінскай губ., ямшчык каралінскай паштовай станцыі. Добраахвотна далучыўся да ат-

рада Ф. Кеневіча ў Караліне. Удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю ў Кузьмічах і сутыкненні пры Міхалках. Рашэннем МГСК ад 31.12.1831 аддадзены ў салдаты, аднак па хадайніцтву А. Горвата вернуты ўласніку. *НГАБ-2, арк. 33 адв.; РДВГА-11, арк. 42.*

**Быкоўскі –** з Мінскай губ., аканом. Меў дачыненне да нарыхтоўкі зброі і пораху пад кіраўніцтвам кап. польск. войскаў Гнатоўскага. Па рашэнню МГСК ад 15.1.1832 утрымліваўся 4 мес. у крэпасці. *Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Быкоўскі Мікіта** – селянін памешчыка Валовіча з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча, затым апынуўся ў оўруцкім фарміраванні Бараноўскага, узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 адпраўлены салдатам у сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 34; РДВГА-11, арк. 43.*

**Быкоўскі Стэфан –** шляхціц з Барысаўскага пав. Мінскай губ., аканом з маёнтка Пупсы кн. М. Радзівіла. Захоўваў агнястрэльную зброю. Рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ўзяты пад паліцэйскі нагляд на 4 мес. *НГАБ-2, арк. 34 адв.; РДВГА-11, арк. 43.*

**Быхавец Ян** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Бычкоўскі Стэфан** – селянін памешчыка А. Горвата з Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-11, арк. 44.*

**Бэнбноўскі Марцін** (н. 1806) – з в. Кодніца Гродзенскай губ. У паўстанні дзейнічаў у чыне ст. сяржанта 2 палка лін. пяхоты, з 13.6.1831 ппар. 11.10.1831 прыбыў у Варшаву. Аднавіў прысягу расійск. ураду, аднак у крас. 1832 эмігрыраваў у Францыю. У 1837 член АПЭ. *AGAD, KRW, nr 478, 479; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 187; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 108, 313.*

**Бяганскі Людвік** (п. кастр. 1839) – н. у Гродзенскай губ., вучань. У паўстанні пачаткова дзейнічаў у корпусе Ю. Двярніцкага, затым на бел.-літ. землях. Эмігрыраваў, 26.5.1832 прыбыў у заклад у Авіньёне (паводле Л. Краўца – у 1836 прыбыў з Кракава ў Францыю). 13.4.1837–22.4.1838 член ПДТ. Памёр у дэп. Ланды. *ND. 1843. S. 133; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 58; Krawiec L. Lista członków. S. 77.*

**Бяглюк Кандрат** – з Гродзенскай губ., стралец Белавежскай пушчы. У складзе атрада Д. Хлапоўскага адышоў у Віленскую губ., затым у Прусію, інтэрніраваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 39.*

**Бядко Ян** (1799–28.2.1859) – з в. Даўгаполле Мінскай губ. 23.1.1831 у 5 ул. палку, 1.2.1831 пар., 3.5.1831 кап. 13.6.1831 ад’ютант ген. Гаўронскага, 1.9.1831 маёр. 16.9.1831 разам з Д. Рамарына перайшоў межы Галіцыі. У чэрв. 1832 прыбыў у Францыю. 18.12.1835–7.1.1836 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 108, 176, 313; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 186; Krawiec L. Lista członków. S. 68.*

**Бялагайскі Стэфан** (п. 1851) – з Гродзенскай губ. У паўстанні пар. палка пешых стральцоў, з 6.2.1831 пар., 24.3.1831 кап. 3 палка пешых стральцоў. 17.9.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У снеж. 1831 адправіўся ў Францыю, куды прыбыў у студз. 1832. З 31.7.1833 кап. пяхоты партугальскага легіёна. З 1.10.1834 член ПДТ. Памёр у Нанце. *AGAD, KRW, nr 555; Rps BUW, PJK, nr 562, k. 25; Księga pamiątkowa. S. 155; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 66; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 176, 245; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 190; Krawiec L. Lista członków. S. 56; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 33.*

**Бялазерскі Станіслаў** (п. 30.11.1832) – з Віленскай губ., н. у Вільні. З 1827 юнкер пях. палка Літ. корпуса. У паўстанні ппар. 12 ул. палка, 15.7.1831 у складзе корпуса Ф. Роланда перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне, дзе памёр да вынясення камісіяй рашэння. Маёнтак канфіскаваны. *РДВГА-8, арк. 40; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 183; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 66; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 191.*

**Бялапятровіч Ежы** (12.4.1785–4.5.1871) – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у Нясвіжы, сын Юзафа і Кунегунды Бужымскай, брат Караля. У паўстанні маёр рэзервовага пях. палка. Сасланы ў г. Елабугу Вяцкай губ., дзе быў на расійск. службе, затым вярнуўся на радзіму. У 1839 эмігрыраваў у Францыю. З 1842 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. У жн. 1854 выехаў у Бельгію. Памёр у Парыжы. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 66; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 190; Gadon L. Z życia Polaków. S. 114; PSB. T. 2. S. 16; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 56.*

**Бялапятровіч Караль** – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у Нясвіжы, адстаўны кап. польск. войскаў, сын Юзафа і Кунегунды Бужымскай, брат Ежы. Дзейнічаў у складзе атрада Ю. Кашыца. Далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, кап. атрада навагрудскай конніцы, у складзе якога прыбыў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 14.9.1831 адзначаны залатым крыжам. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 37; РДВГА-8, арк. 41; AGAD, WCPL, nr 724, k. 64; DS. T. 6. S. 385; Księga pamiątkowa. S. 146; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 190.*

**Бялінскі Валяр'ян –** з Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. у Віленскай губ. У паўстанні з 13.6.1831 ппар. 4 ул. палка, затым пар. 8 ул. палка. Належаў да корпуса М. Рыбінскага, з якога выйшаў у Модліне. 10.3.1831 удзельнічаў у Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 27.2.1832 прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 належаў да закладу ў Безансоне, адкуль у сак. 1833 высланы ў Бержэрак, 1.5.1833 у Монт-дэ-Марсан. 16.2.1835 выехаў у Англію. У 1835 наведваў школу гандлю. У маі 1836 прыбыў у Іспанію, у 1838 уступіў у іспанскую армію. *AGAD, KRW, nr 478; Rps BUW, nr 2327; DS. T. 6. S. 444; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 197; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 88, 276; Konarska B. Polskie drogi. S. 226.*

**Бялінскі Ігнацій –** памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Суткішкі. У паўстанні ппар. 8 ул. палка. 11.10.1831 прыбыў з Модліна ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. Па рашэнню МГСК ад 10.10.1833 пакінуты вольным. (Паводле Л. Краўца – эмігрыраваў, з 7.4.1848 член ПДТ). *AGAD, KRW, nr 478, 479; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 196; Dangel S. Rok 1831. S. 120; Krawiec L. Lista członków. S. 116.*

**Бялінскі Юзаф** – памешчык з Барысаўскага і Віленскага пав. Дзейнічаў у складзе Модлінскага гарнізона. Па рашэнню МГСК ад 10.10.1833 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 36; РДВГА-11, арк. 45.*

**Бялькевіч Міхал –** з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын уніяцкага святара, брат Фларыяна. Дзейнічаў у атрадзе Ю. Кашыца, затым радавы 13 ул. палка, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Перайшоў межы Прусіі, утрымліваўся ў Гданьску. Эмігрыраваў. 5.5.1835–6.5.1836 член ПДТ, 1.8.1847 уступіў паўторна. Па рашэнню ГГСК 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Навіны канфіскаваны. *НГАБ-2, арк. 37; РДВГА-8, арк. 40; DS. T. 6. S. 386; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 62.*

**Бялькевіч Фларыян** – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Навагрудку, сын уніяцкага святара, брат Міхала, вучань школы ў Навагрудку. Дзейнічаў у атрадзе Ю. Кашыца, затым радавы 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў, працаваўураднікам у Гаўры. З 15.6.1835 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Навіны канфіскаваны. *НГАБ-2, арк. 37; РДВГА-8, арк. 40; DS. T. 6. S. 386; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 66.*

**Бяляеў Мікалай –** з Мінскай губ., адстаўны губ. сакратар. Ведаў пра месца знаходжання Р. Голуба, аб чым не паведаміў уладам. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 21.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 8 адв.; РДВГА-11, арк. 47.*

**Бяляеў Юзаф** – селянін з маёнтка Халопенічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Івана. У крас. 1831 далучыўся да валынскіх паўстанцаў, затым дзейнічаў у складзе 6 пях. палка. У бітве пад Прагай (прадмесце Варшавы) паранены і ўзяты ў палон, спрабаваў збегчы. Па рашэнню ваен. суда ад 2.11.1832 прагнаны шпіцрутэнамі праз 400 чалавек і адпраўлены салдатам у сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 36 адв.; РДВГА-11, арк. 47; Dangel S. Rok 1831. S. 120.*

**Бяляўскі Аляксандр** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у палку К. Пршэздзецкага. *РДВГА-5, арк. 310.*

**Бяляцкі Аляксандр** (1811 (15.8.1812) –1862) – н. у Гродзенскай губ., сын Юзафа і Караліны. У паўстанні з 25.3.1831, дзейнічаў у атрадзе акадэмічнай моладзі, затым у 3 палку пешых стральцоў. Адышоў у Прусію, адкуль перабраўся ў Амерыку, забіты пад час ваен. дзеянняў. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 67; PSB; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 35.*

**Бяляцкі Міхал** – з Мінскай губ. Служыў у атрадзе Ф. Кеневіча. Па рашэнню МГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-11, арк. 48*.

**Бянецкі Матэвуш** – селянін памешчыка Андрушкевіча з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ўзбр. сярод паўстанцаў. *РДВГА-8, арк. 13*.

**Бянкевіч Мацей** – шляхціц з Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Прынята рашэнне аб канфіскацыі маёнтка. *РДВГА-11, арк. 26.*

**Бярнацкі Казімір –** н. у г. Гродна, ппар. польск. войскаў. У паўстанні з 3.5.1831 пар., 19.8.1831 кап. Належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Г. Дэм-

бінскага, у складзе якога накіраваўся ў Варшаву. У кастр. 1831 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477–479, 551; KW. 31.1.1832; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 204.*

**Бярнацкі Канстанцін** – дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-5, арк. 131.*

**Бярнацкі Караль** (15.10.1806–1878) – з в. Адампаль Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. Далучыўся да паўстанцаў 6.3.1831, ппар. 6 палка конных стральцоў, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 эмігрыраваў у Францыю. Прызнаны выгнаннікам. У 1832 стаў членам ПНК, 26.8.1834 членам ПДТ. З 1836 вучыўся ў мед. школе ў Манпелье, 31.7.1838 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Вар. Памёр у Канах. *РДВГА-8, арк. 14; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 97, 250, 276; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 203–204; Konarska B. Polskie drogi. S. 228; Krawiec L. Lista członków. S. 56; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 40.*

**Бярэнчанка Сцяпан** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з маёнтка Хомск Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Кароткачасова дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон, утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 14.*

## В

**Важынскі Парфірый** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ., уладальнік маёнтка Араны, старшыня ашмянскага трыбунала, лідскі маршалак. Удзельнік кампаніі 1812. У студз. 1831 арганізаваў у сваім маёнтку тайны к-т для падрыхтоўкі паўстання. Узначальваў ашмянскі ўрадавы к-т. Пасля паражэння пад Ашмянамі далучыўся да атра-

да Д. Хлапоўскага. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 19.11.1831 сасланы на цяжкія работы ў Сібір з канфіскацыяй маёмасці. З кастр. 1832 пакінуты на пасяленні пад наглядам паліцыі ў Табольскай губ. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства з правам атрымання страчаных правоў. 12.2.1857 выехаў у накірунку Вільні. *РДВГА-5, арк. 321–322; ф. 35, воп. 9, спр. 178; LVIA, f. 437, ap. 1, b. 72; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 57; Puzynina G. W Wilnie. S. 153; Zbiór pamiętników. S. 249; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 7–47; Воронков И.А. Польское восстание; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2. С. 142; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 657–658.*

**Вазгірд Жыгімонт** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., стрыечны брат Пятра. Актыўна ўдзельнічаў у паўстанні, уваходзіў у аддзел М. Храпавіцкага, змагаўся пад Дзіснай. Вярнуўся на месца жыхарства. Рашэннем ваен. суда, зацверджаным галоўнакамандуючым 1-й арміі ад 16.6.1832 вызвалены ад адказнасці, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 39; РДВГА-5, арк. 389; ч. 11, арк. 50; Dangel S. Rok 1831. S. 154.*

**Вазгірд (Візгірд) Пётр** (п. 14.6.1831) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Андрэя, стрыечны брат Жыгімонта. Падазраваўся ў нападзе на казакаў у Мікалаеўскай карчме. Памёр па дарозе ў Палангу. Па рашэнню МГСК ад 25.1.1832 аднесены да 2 разр. зл., пры пераглядзе справы рашэннем ад 28.3.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 39; РДВГА-5, арк. 389; Dangel S. Rok 1831. S. 153–154.*

**Вайніловіч** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Кароткачасова знаходзіўся сярод паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 55.*

**Вайніловіч Фларыян** – з Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 55; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; DS. T. 6. S. 385.*

**Вайніцкі Вінцэнт** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод свянцянскіх паўстанцаў, кіраваў у апалчэнні пяхотай. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага. Адышоў з М. Рыбінскім 5.10.1831 у Прусію. Па рашэнню ВГСК ад 5.2.1833 аднесены да 1 разр. зл., па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 22.6.1833 аддадзены пад ваен. суд.

*РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9; Bieliński K. Rok 1831. S. 97–98; Bortkiewicz W. Historyczne opisanie. S. 265.*

**Вайткевіч Герасім** – іераманах Віленскага трынітарнага кляштара Ашмянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання ў Вільні. *НГАБ-2, арк. 59; РДВГА-5, арк. 450.*

**Вайткевіч Гіпаліт** (1804–20.11.1886) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Беластоку, брат Сымона, б. студэнт Віленскага ун-та, каморнік. У паўстанні з 2.4.1831, ппар. 3 палка пешых стральцоў, адышоў у Варшаву ў складзе атрада Г. Дэмбінскага. 13.7.1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, у 1834–35 жыў у Пуацье, вучыўся ў мед. школе. З 11.11.1833 да 14.11.1835 член ПДТ. У чэрв. 1838 – ліст. 1886 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 10.1.1849 жыў у Лондане, дзе і памёр. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскавана частка зямлі. *НГАБ-2, арк. 60; РДВГА-8, арк. 56; AGAD, WCPL, nr 724, k. 49; Rps BUW, SRB; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 225; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 460; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 85; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 435; Krawiec L. Lista członków. S. 49; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 104.*

**Вайткевіч Кастан** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-5, арк. 450.*

**Вайткевіч Сымон Геранім** (н. 1795) – вікарый Радашковіцкага касцёла Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у Шавельскім пав. Віленскай губ., брат Гіпаліта. Ездзіў у Ашмяны перад пачаткам паўстання. Узначальваў дзеянні ў Радашковічах, кіраваў нападзеннем на паштовую станцыю, раздаваў зброю, затым капелан 26 палка лін. пяхоты. 4.10.1831 адзначаны залатым крыжам. 25.3.1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 13.4.1837 член ПДТ. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 аднесены да 2 разр. зл. з канфіскацыяй маёмасці. *НГАБ-2, арк. 60–61; РДВГА-11, арк. 65; Rps BUW, SRB; Księga pamiątkowa. S. 165; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 85.*

**Валадковіч Аляксандр** (2.6.1806(1803) – 19.3.1862) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. каля Радашковіч, сын Юзафа і гр. Тышкевічавай, адстаўны карнет лейб-гвардыі Падольскага палка. Рыхтаваў паўстанне на тэрыторыі Вілейскага пав., кіраваў кавалерыяй у вілейскім апалчэнні, палк. Склаў тэкст Акта канфедэрацыі, навучаў кантаністаў. 4.5.1831 удзельнічаў у бітве пад Вілейкай. З 2.7.1831 кап. атрада пазнан-

скай конніцы. У Францыю прыбыў праз Прусію ў снеж. 1831. 10.12.1831 уступіў у склад ТЛРЗ, з'яўляўся яго сакратаром. Член ПНК. З ліп. 1832 знаходзіўся ў Бруселі. У 1833 у чыне кап. уступіў у бельгійскую армію. Падарожнічаў па Англіі, Швецыі, Італіі, Прусіі. У 1846 знаходзіўся ў Шартры. 30.11.1849 атрымаў французскае грамадзянства. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. Маёмасць канфіскавана. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *НГАБ-2, арк. 63; РДВГА-11, арк. 66; ф. 35, воп. 9, спр. 274, арк. 7; AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Rps BN, III. 6594, II. 7871; BPP, nr 565; Rps BUW, SRB; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 49; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 463; Dangel S. Rok 1831. S. 154; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 325; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 111–129; Polacy pochowani. S. 170.*

**Валасоўскі Канстанцін** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Падпісаў Акт канфедэрацыі. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 68.*

**Валасоўскі Юзаф** (н. 24.1.1790) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у Мінску, сын Каласанцыя. Адзін з арганізатараў паўстання ў Дзісенскім пав., шэф батальёна стральцоў і касінераў, кіраваў аддзелам, затым маёр 19 ул. палка. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, у крас. 1833 выехаў у Швейцарыю, адкуль у вер. 1833 перабраўся ў Сант-Лё. Па рашэнню МГСК ад 19.10.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 64 адв.; РДВГА-11, арк. 68; Rps BUW, SRB; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 226; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н.Муравьева. С. 484–496; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 78; Dangel S. Rok 1831. S. 155.*

**Валіцкая Анеля** – сялянка памешчыка Тарасевіча з в. Украповічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. Захоўвала зброю. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 атрымала дараванне. *НГАБ-2, арк. 40; РДВГА-11, арк. 50.*

**Валіцкі Валяр'ян** (н. 28.12.1812) – дваранін з Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. у Ельні (?) ці Жалняках (?), вывучаў матэматыку і фізіку ў Віленскім ун-це. У паўстанні хар. артылерыі. 22.2.1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне, у ліст. 1832 перабраўся ў Шатору, у жн. 1833 у Пуацье, з 1838 жыў у Парыжы. З 1832 член ПНК, 16.7.1832 член ТЛРЗ, з сак. 1848 член ПДТ. У 1841 працаваў інспектарам 3 кл. у Правансе. Прызнаны выгнаннікам. *НГАБ, ф. 27, воп. 1, спр. 24; РДВГА-11, арк. 50; AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Rps BN, II. 7871, k. 134; Rps BUW, SRB; Konarska B. Polskie drogi. S. 425.*

**Валіцкі Даніэль** – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ., земскі спраўнік. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў, вырабляў патроны, пасля адыходу паўстанцаў хаваўся каля Мядзеля. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 8.10.1831 аднесены да 3 разр. зл., пакінуты на 2 г. пад наглядам паліцыі. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 86; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 40; РДВГА-11, арк. 51; ф. 405, воп. 2, спр. 4109; Dangel S. Rok 1831. S. 153.*

**Валіцкі Францішак** – з Мінскай губ., прап. Прускага пях. палка прынца Вільгельма. Далучыўся да паўстанцаў 7.5.1831. Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-11, арк. 51.*

**Валовіч Казімір** (13.10.1779–27.3.1849) – памешчык з Навагрудскага і Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у маёнтку Парэчча Слонімскага пав., слонімскі маршалак. Дзейнічаў з 8.7.1831 сярод паўстанцаў, 3.8.1831 пар. Далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, пар. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву. Адзначаны М. Рыбінскім 4.10.1831 залатым крыжам. Уваходзіў у склад утворанага 15.8.1831 Літ. к-та. Эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, нейкі час знаходзіўся ў Марселі. У 1837 жыў у Парыжы, затым у Лондане, дзе 14.2.1839 стаў членам АПЭ і ПДТ, з чэрв. 1838 да 1.5.1844 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1845 зноў знаходзіўся ў Парыжы. Памёр у Баціньёле, пахаваны на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-2, арк. 62 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 58, арк. 1; РДВГА-8, арк. 56; AGAD, WCPL, nr 724, k. 64; BPP, nr 565; Rps BUW, SRB; Księga pamiątkowa. S. 167; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 462; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 70; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 136; Kaczkowski J. Konfiskaty; Lelewel J. Pamiętnik. S. 159; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 102; Polacy pochowani. S. 160.*



Міхал Валовіч

**Валовіч Міхал** (18.6.1805–21.7.1833) – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Парэччы, сын Казіміра і Мар'яны Фелькерсамб. Вучыўся ў Варшаве, у 1822–1825 у Віленскім ун-це. Прадстаўнік ЦВПК у Слонімскім пав. У маі 1831 удзельнічаў у баях пад Палангай, дзе

атрымаў званне ротмістра. Далучыўся да атрада ген. Шыманоўскага, з'яўляўся яго ад'ютантам. 15.7.1831 адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Францыю. 4.10.1831 узнагароджаны залатым крыжам. 10.12.1831 уступіў у ТЛРЗ, член ПНК. Удзельнічаў у экспедыцыі Ю. Заліўскага, у сак. 1833 прыбыў у якасці эмісара для ўзняцця паўстання на тэрыторыі Слонімскага і Навагрудскага пав. 15.5.1833 арыштаваны ў Слонімскім пав. Пакараны смерцю праз павешанне. Маёнтак Парэчча канфіскаваны. *РДВГА-8, арк. 57–58; AGAD, PFR, nr 9; EPP, nr 1, k. 20; Rps BN, III. 6594, II. 7871; Księga pamiątkowa. S. 164; Wyciąg z akt; Гарбачова В.В. Дыпламатычныя захады. С. 44; Талерчык А. Лістападаўскае паўстанне. С. 58–85; ЭГБ. Т. 2. С. 209; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 50; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 462; Chodźko M. Wyprawa do Polski; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 256; T. 3. S. 323; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 98; Krawiec L. Lista członków. S. 38; Rederowa D. Polski emigracijny ośrodek. S. 104; Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa emisariusza. S. 22; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; Trzy powstania. S. 227.*

**Валодзька Іван –** з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў. Узяты ў палон пад Дзіснай, адпраўлены ў Полацк. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 2290, арк. 2.*

**Валчанскі Іван** – селянін памешчыка Юндзіла са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў за мяжу. Прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 60.*

**Валынскі Нарцыз** (1800–24.10.1836) – іераманах Глыбоцкага кармяліцкага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у Дзісне. У паўстанні з 20.3.1831, капелан у Дзісенскім пав., дзейнічаў у бітве пад Дзіснай, затым служыў у надвіслянскім легіёне. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. 1.3.1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Бардо. *НГАБ-2, арк. 65; РДВГА-11, арк. 68; Rps BUW, SRB; ND. 1843. S. 150; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 464; Dangel S. Rok 1831. S. 161.*

**Валянскі Юзаф** – дваранін з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 60.*

**Вансовіч Дунін Станіслаў** (1773– 30.6.1864) – гр., памешчык з Мінскай і Валынскай губ., сын Адама, н. на Валыні, адстаўны палк. генштаба

польск. войскаў. Дзейнічаў у званні ген.-маёра. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. Па рашэнню МГСК ад 7.12.1832 аднесены да 2 разр. зл. Памёр у Парыжы. *НГАБ-2, арк. 68; РДВГА-11, арк. 70; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 447; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 66; Dangel S. Rok 1831. S. 153.*

**Вансовічава Дунін Ганна** (каля 1776–16.8.1867) – гр., памешчыца Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ., дачка Людвіка Тышкевіча, жонка Станіслава. У час паўстання знаходзілася ў Варшаве, шыла для апалчэнцаў адзенне, ахвяравала рэчы. У 1834 атрымала дараванне. Эмігрыравала ў Францыю, памерла ў Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 7.12.1832 аднесена да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 67–68; РДВГА-11, арк. 70; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 448*; *Dangel S. Rok 1831. S. 153; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Ваньковіч (Ванькевіч) Станіслаў** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. і Свянцянскага пав. Віленскай губ., сын Юзафа, уладальнік маёнтка Задзеўе, старшыня Вілейскага межавага суда, адстаўны ппрап. Удзельнік ашмянскага выступлення, член к-та для кіравання цывільна-вайсковымі справамі. Арганізатар паўстання ў Свянцянскім пав. Пад-



**Ганна Вансовічава Дунін.**
*Літаграфія Ф. Ліпскага*



**Станіслаў Вансовіч Дунін.**
*Літаграфія А. Касткевіча*

пісаў акт аб стварэнні вілейскага паўст. к-та, увайшоў у яго склад, займаў пасаду шэфа пях. батальёна ў вілейскім апалчэнні, 4.5.1831 удзельнічаў у бітве пад Вілейкай, кіраваў аддзелам. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 вызвалены ад адказнасці, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 41 адв.–42; РДВГА-5, арк. 338; ч. 11, арк. 53; ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9 адв.; LVIA, f. 437, ap. 1, b. 58; Dangel S. Rok 1831. S. 153; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 111–129.*

**Вараневіч Пётр** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 62.*

**Вараніцкі Лявон** – селянін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна служыў у атрадзе Г. Дэмбінскага, дайшоў да Полацка, пасля чаго вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 61.*

**Варанцоў Станіслаў** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 489.*

**Варацініцкі Юзаф** – з Гродзенскай губ., адстаўны пар. польск. войскаў. Служыў у 1 ул. палку. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 61.*

**Варашыла** – памешчык з Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў у Белавежскай пушчы. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.*

**Вароніч Канстанцін (?)** – з Мінскай губ., феерверкер 25 артыл. брыгады. У паўстанні радавы. Эмігрыраваў у Францыю, 23.12.1833–3.4.1836 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна, знаходзіўся ў Парыжы. Рашэннем МГСК аддадзены пад ваен. суд. *НГАБ-2, арк. 66 адв.; РДВГА-11, арк. 71; BPP, nr 565; Krawiec L. Lista członków. S. 49.*

**Варцаба Сымон** – селянін памешчыка А. Горвата з Мазырскага пав. Мінскай губ., стараста каралінскай паштовай станцыі. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 42 адв.; РДВГА-11, арк. 54.*

**Васілеўскі Антоній** – з Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр 4 палка пешых стральцоў. 9.3.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Затым у 11 ул. палку, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. 27.8.1831 вы-

разіў жаданне вярнуцца на месца сталага жыхарства. *AGAD, PFR, nr 20; Księga pamiątkowa. S. 99.*

**Васілеўскі Васіль** – з Гродзенскай губ., н. у Ясінаўцы. У паўстанні падафіцэр 2 палка пешых стральцоў. У вер.1839 далучыўся да АПЭ. *Rps BUW, SRB.*

**Васілеўскі Іван** – селянін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у ул. палку. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 43.*

**Васілеўскі Міхал** – н. у Ашмянскім пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Эмігрыраваў. З 27.4.1837 член ПДТ. *Krawiec L. Lista członków. S. 78.*

**Васілеўскі Станіслаў** (каля 1796–1856) – селянін памешчыка Багдановіча з Вілейскага пав. Мінскай губ., пісар паштовай станцыі ў Касцяневічах. Перадаў паўстанцам двух паштальёнаў з поштай і эстафетай. Па рашэнню МГСК ад 26.11.1831 аддадзены пад ваен. суд, рашэннем палявога аўдытарыята 1-й арміі атрымаў 50 палак і сасланы ў Сібір на катаржныя работы. Знаходзіўся ў Нерчынску. *НГАБ, ф. 299, воп. 1, спр. 211, арк. 663 адв.–665; РДВГА-11, арк. 54; Dangel S. Rok 1831. S. 153; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 655.*

**Васілеўскі Тадэвуш –** памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа. У паўстанні камендант Дунілавіцкага ключа, распаўсюджваў заклікі і адозвы. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 15.2.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 43 адв.; РДВГА-11, арк. 54; Dangel S. Rok 1831. S. 153.*

**Васілеўскі Ян** – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў за мяжу, але вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 38 адв.; РДВГА-8, арк. 43; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77.*

**Васіліцкі Томаш** – селянін з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Вярнуўся на сталае месца жыхарства. У 1833 дзейнічаў у атрадзе М. Валовіча, 11.5.1833 трапіў у палон. Па канфірмацыі М. Далгарукава атрымаў 15 палак і сасланы ў Сібір на катаргу. Па дарозе паспрабаваў уцячы, але спроба не ўдалася, пакараны за гэта 5 ударамі бізуном. У крас. 1835 прыбыў у Іркуцк, адкуль уцёк,

злоўлены пасля лют. 1836. Пакаранне адбываў у Аляксандраўску, у чэрв. 1842 пераведзены на пасяленне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 352, арк. 115, 237; Wyciąg z akt; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 635.*

**Васільеў Аляксандр** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Служыў кантаністам у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у нападзенні на паштовыя станцыі ў Караліне, Кузьмічах, Міхалках. Трапіў у палон. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі вернуты ўласніку. *НГАБ-2, арк. 45; РДВГА-11, арк. 55.*

**Васілюк Васіль** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 44.*

**Ваўрарыноўскі Павел** – селянін з Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада А. Гелгуда, з якім перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 42.*

**Ваўрынскі Вінцэнт** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у Свянцянах. У паўстанні радавы 10 ул. палка. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 1.3.1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне, 7.3.1833 высланы ў Бержэрак, 29.10.1833 у Каркасон. 2.4.1840 прыбыў у Манпелье. Член ПДТ. *Rps BUW, SRB.*

**Вашчэловіч Дамінік** – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Бераставіца. У паўстанні ппар. 10 ул. палка. 25.2.1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне. У 1832 член ПНК. У чэрв. 1833 высланы ў дэп. Кальвадос. У сак. 1838 асеў у г. Дазюль, працаваў на будаўніцтве дарогі. У кастр. 1840 знаходзіўся ў Версалі. Карэспандэнт "Trzeciego Maja". *Rps BUW, SRB.*

**Вейштарт Леапольд** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у палку К. Пршэздзецкага. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-5, арк. 361.*

**Вельямовіч Канстанцін** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 365.*

**Вельямоўскі Вільгельм** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. 10.4.1831 на чале атрада з 20 сялян здзейсніў нападзенне на воранаўскую паштовую станцыю і забраў 40 коней. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 3, спр. 1102, арк. 2–32; РДВГА-5, арк. 365.*

**Верайчук Ціт** – селянін кн. М. Радзівіла з маёнтка Барысаў Мінскай губ. Захоўваў порах і кулі. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 47 адв.; РДВГА-11, арк. 57.*

**Веракбоўскі Антон** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 48.*

**Веракбоўскі Францішак** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 48.*

**Вербуш Антоній** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., служыў у маёнтку В. Пуслоўскага, аўстрыйскі падданы. Адзін з актыўных дзеячаў паўстання ў Пінскім пав. Рыхтаваў зброю і харчаванне для атрада Ц. Пуслоўскага, служыў у кавалерыі. Узяты ў палон, адпраўлены ў Вятку, затым высланы за мяжу. Па рашэнню МГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 47; РДВГА-8, арк. 46; ч. 11, арк. 56; Dangel S. Rok 1831. S. 154.*

**Вержбаловіч Міхал** (9.1801–1869) – н. у Быхаўскім пав. Магілёўскай губ., з 1821 служыў у коннай артылерыі. У паўстанні з 1.7.1831 пар. коннай артылерыі. У складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі. 10.7.1832 прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 належаў да закладу ў Безансоне, затым асталяваўся ў Труа. З 17.3.1835 да 1836 член ПДТ. Да 60-х гг. працаваў выкладчыкам музыкі, затым быў паралізаваны, з 1866 атрымліваў пенсію ад Падатковага т-ва. Памёр у Труа. *Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 452; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 88; Krawiec L. Lista członków. S. 60.*

**Вержбіловіч Максім** – селянін памешчыка Рудзінскага з в. Торчыцы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Г. Дэмбінскага. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 47.*

**Вернікоўскі Ільдафонс Дамінік** (н. 28.1.1812 (1810) – з Мінскай губ., н. у Тураве, вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. У паўстанні радавы. У 1835 прыбыў праз Трыест у Прыва, адкуль у ліп. 1835 перабраўся ў Манпелье, праз месяц пачаў вывучаць там медыцыну, 17.9.1844 атрымаў дыплом. 17.12.1836–11.10.1837 член ПДТ. Ажаніўся з француженкай, меў двух сыноў. У 1846 жыў у Памеролі. *Rps BUW, SRB; Konarska B. Polskie drogi. S. 427; Krawiec L. Lista członków. S. 75.*

**Вернікоўскі Міхал** – дваранін з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., служыў у памешчыка А. Горвата. Дзейнічаў у атрадзе Ф. Кеневіча. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 49 адв.; РДВГА-11, арк. 76.*

**Весялоўскі Аляксандр** – з Гродзенскай губ. У паўстанні дзейнічаў у Белавежскай пушчы, затым сяржант 1 палка лін. пяхоты. 9.3.1831 адзначаны сярэбраным крыжам (дадзены факт можа тычыцца іншага А. Весялоўскага, які паходзіў з Кракаўскага ваяв.). Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 48; Księga pamiątkowa. S. 94.*

**Вехнякоўскі Антон** – з Гродзенскай губ., падканцылярыст Кобрынскага суда. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 49.*

**Вігеніца Ян** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў, узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 387.*

**Віжуль** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 388.*

**Віктаровіч Антоній** – мешчанін з г. Навагрудка Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 50.*

**Віктаровіч Мікалай** – мешчанін з г. Навагрудка Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дазвол і вярнуўся на месца жыхарства. *НГАБ-2, арк. 50 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 49.*

**Вільбек Рамуальд** – дваранін з Навагрудскага (Слонімскага) пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога апынуўся ў Варшаве. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. Вярнуўся на месца жыхарства. Маёнтак вызвалены ад секвестра. *НГАБ-2, арк. 52; РДВГА-8, арк. 51; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75.*

**Вільгашэўскі (Вількашэўскі) Ануфрый** (п. 6.3.1849) – з Гродзенскай губ., адвакат навагрудскіх прысутных месц. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца, затым падафіцэр 13 ул. палка, адышоў у Варшаву, дзе

8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, утрымліваўся ў Гданьску. У студз. 1834 прыбыў у Францыю на караблі “Фрау Элізабет”. З 24.8.1835 член ПДТ. У сак. 1841 выехаў у Арлеан. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 52; РДВГА-8, арк. 51; Rps BUW, SRB; DS. T. 6. S. 386; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 454; Krawiec L. Lista członków. S. 67.*

**Вільканец** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 392.*

**Вільчэўскі Пётр** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., сакратар ашмянскай ратушы. Прысягнуў паўстанцам, удзельнічаў у ваенных падзеях. З’явіўся з раскаяннем. *РДВГА-5, арк. 393*.

**Вільямоўскі (Вельямоўскі) Ян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў, служыў у палку К. Пршэздзецкага. Сасланы ў Сібір. *РДВГА-5, арк. 398; ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9*.

**Вінга Казімір** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, удзельнічаў у баях. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 51.*

**Вінча Баніфацый** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна, брат Вінцэнта, Пятра. Прысягнуў паўстанцам, удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 3.8.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 52; РДВГА-11, арк. 58.*

**Вінча Вінцэнт** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна, брат Баніфацыя, Пятра. Прымаў удзел у падрыхтоўцы паўстання ў Дзісенскім пав., удзельнічаў у састаўленні Акта канфедэрацыі, выконваў абавязкі эмісара лужкоўскага паўст. к-та. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 3.8.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 51 адв.; РДВГА-11, арк. 59*.

**Вінча Пётр** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна, брат Баніфацыя, Вінцэнта. Старшыня ўрадавага к-та ў Лужках, паставіў 6 кантаністаў. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 3.8.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 52 адв.; РДВГА-11, арк. 59*.

**Вірыён Аляксандр** – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Кацярыны, служыў чыноўнікам у Варшаве. Далучыўся да паўстанцаў,

уваходзіў у склад апалчэння, пасля заканчэння ваен. дзеянняў застаўся ў Варшаве, дзе і памёр. Па рашэнню МГСК ад 10.11.1833 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 53; РДВГА-11, арк. 60.*

**Віслаух (Выслоух) Віктар** (10.10.1810–1871) – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Лінова, вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. У паўстанні пар. 11 ул. палка, урач у корпусе С. Рожыцкага, адышоў у Галіцыю. У маі 1833 прыбыў у Францыю, з 1834 вывучаў медыцыну ў Парыжы, 3.4.1835 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Марна. У 1835 член т-ва Ш. Канарскага, вярнуўся ў Францыю, працаваў урачом. З 26.4.1846 член ПДТ. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца ў Гродзенскую губ. Удзельнічаў у паўстанні 1863. На падставе рашэння ГГСК сасланы адміністрацыйным шляхам на жыхарства ва ўнутраныя губерні Расіі ў 1864. *НГАБ, ф. 296, воп. 1, спр. 25, арк. 111 адв.; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 469; Konarska B. Polskie drogi. S. 439; Krawiec L. Lista członków. S. 96.*

**Віслаух (Выслоух) Юліуш** (1810–1863) – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., вучань Свіслацкай гімназіі, магістр Віленскага ун-та, публіцыст. У паўстанні афіцэр 11 ул. палка. Эміграваў у Францыю, працаваў журналістам у французскіх газетах. Член ТЛРЗ, з 23.9.1834 член ПДТ. Пасля 1848 выехаў у Вену. *Rps BN, II. 7861, II. 7872; Krawiec L. Lista członków. S. 55*.

**Вітажынец Ігнацій** – шляхціц з Лідскага пав. Гродзенкай губ. Служыў у ашмянскіх паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 422.*

**Вітакоўскі Вінцэнт** – з Мінскай губ., настаўнік Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам, прыняў удзел у паўст. сходзе ў Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 53 адв.; РДВГА-11, арк. 61.*

**Вітакоўскі Ігнацій –** з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным з-за малалецтва. *НГАБ-2, арк. 54; РДВГА-11, арк. 61; Dangel S. Rok 1831. S. 144.*

**Віткоўскі Іван** – селянін гр. К. Пршэздзецкага з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы атрада аўгустоўскай конніцы. 6.4.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. *РДВГА-5, арк. 414; Księga pamiątkowa. S. 111.*

**Віткоўскі Людвік** (1817–5.5.1853) – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Рось Ваўкавыскага пав., вучань Свіслацкай гімназіі (паводле Р. Бялецкага – гады жыцця 1812–20.4.1853). Дзейнічаў сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы, затым падафіцэр 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. У студз. 1834 прыбыў у Гаўр на караблі "Фрау Элізабет". 1.8.1835 член ПДТ. З 1844 жыў у Парыжы, працаваў бухгалтарам. Памёр у Парыжы. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 54 адв.; РДВГА-8, арк. 52; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 456; Krawiec L. Lista członków. S. 65*.

**Віткоўскі Міхал** (19.5.1809 (11.11.1811) – 4.2.1876) – з Гродзенскай губ., н. у в. Валовічы. У паўстанні з 25.3.1831, ппар. 4 палка конных стральцоў, затым пар. 13 ул. палка. 8.6.1831 атрымаў залаты крыж. У сак. 1833 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне. З 7.8.1833 член ПДТ, з вер. 1839 член АПЭ. 2.5.1851 атрымаў дазвол на сталае жыхарства ў Францыі, працаваў у гандлі. Пасля заканчэння крымскай вайны атрымаў дазвол і вярнуўся на радзіму. У 1863 арыштаваны і вывезены ў Коўна, дзякуючы намаганням сваякоў адпушчаны, пасля чаго выехаў у Францыю. *Rps BUW, SRB; Księga pamiątkowa. S. 123; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 457; Krawiec L. Lista członków. S. 45*.

**Вітунскі Альфонс** – з Віленскай губ. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9*.

**Віцінгоф Фердзінанд** – з Віленскай губ. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў, узначальваў полк пешых стральцоў. Член ТЛРЗ. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 5524; Rps BN, III. 6594, II. 7871; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 38; Bieliński K. Powstanie listopadowe. S. 11*.

**Вішнеўскі Адам** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 427*.

**Вішнеўскі Вікенцій** – з Віленскай губ., губ. сакратар. Распаўсюджваў пракламацыі. Па канфірмацыі віленскага ваен. губернатара ад 1.7.1833 сасланы ў Сібір. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 402, арк. 1*.

**Вішнеўскі Ксаверый** – з Пінскага пав. Мінскай губ., брат Фелікса, Фаусціна, ппар. Калішскага кадэцкага корпуса. У паўстанні з 3.5.1831 пар., затым у корпусе М. Рыбінскага. Па рашэнню МГСК ад 7.3.1834 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 55; РДВГА-11, арк. 62; Dangel S. Rok 1831. S. 154*.

**Вішнеўскі (Вішэнеўскі) Пётр –** дваранін з Пінскага (Рэчыцкага ?) пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 6.2.1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Авіньёне. З 29.8.1834 член ПДТ. *РДВГА-5, арк. 385; ч. 11, арк. 62; Rps BUW, SRB; Krawiec L. Lista członków. S. 54.*

**Вішнеўскі Фаусцін** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Ігнацiя, брат Фелікса, Ксаверыя, унтэр-афіцэр 8 пях. палка польск. войскаў. У паўстанні пар. 5 егерскага палка, затым у корпусе М. Рыбінскага, удзельнічаў у бітвах, у яго складзе 5.10.1831 адышоў у Прусію. З'явіўся з раскаяннем, 9.2.1832 аднавіў прысягу расійск. ураду. Па рашэнню МГСК ад 7.3.1834 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 55 адв. – 56; РДВГА-11, арк. 62; Dangel S. Rok 1831. S. 154.*

**Вішнеўскі Фелікс** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., брат Фаусціна, Ксаверыя, кап. 2-га кл. інжынернага корпуса польск. войскаў. У паўстанні кап. 1-га кл. інжынернага корпуса, затым займаў пасаду наглядальніка ваен. казармаў у Варшаве. Застаўся ў Варшаве, аднавіў прысягу расійск. ураду. Па рашэнню МГСК ад 7.3.1834 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 56 адв.; РДВГА-11, арк. 63; Dangel S. Rok 1831. S. 154.*

**Вішнеўскі Ян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 427*.

**Волінскі Нарцыз** – ксёндз кармяліцкага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў у паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-5, арк. 467*.

**Вольмер Уладзіслаў** – памешчык з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў КП на службе, далучыўся да паўстанцаў. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *РДВГА-8, арк. 58–59; DS. T. 6. S. 386; Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Вольскі** – з Гродзенскай губ., афіцыяліст памешчыка В. Пуслоўскага. Меў сувязь з паўстанцамі Белавежскай пушчы. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 65 адв.; РДВГА-5, арк. 483*.

**Вольскі Генрык Міхал** (29.9.1806–14.7.1882) – н. на Беларусі, з 1828 вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. У паўстанні ппар. У чэрв. 1832 прыбыў у Францыю, у ліп. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Шатору. З 1834 вывучаў медыцыну ў Парыжы, 22.8.1837 атрымаў дыплом д-ра ме-

дыцыны. З кастр. 1837 жыў у Нанце, са студз. 1839 у Туры. Са студз. 1838 член АПЭ. Нейкі час жыў у Швейцарыі, затым зноў вярнуўся ў Францыю. *Rps BUW, SRB; Konarska B. Polskie drogi. S. 433.*

**Вольскі Ігнацій** – шляхціц з Гродзенскай губ., служыў у памешчыка Пуслоўскага. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 60.*

**Вольскі Юзаф** – шляхціц з мяст. Ілля Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў у вілейскім апалчэнні пад кіраўніцтвам С. Радзішэўскага. Далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, ппар. 26 пях. палка, адышоў у Варшаву. Атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-2, арк. 65 адв.; РДВГА-11, арк. 69; AGAD, WCPL, nr 724, k. 57.*

**Вольскі Ян** (1807–1.1.1866) – н. у Ашмянскім пав. Віленскай губ. (паводле Р. Бялецкага – у Навагрудскім пав.). У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка, у складзе атрада Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 4.8.1832 на караблі “Лакс” прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе Шатору, адкуль у жн. 1833 адпраўлены ў Пуацье. Ажаніўся з француженкай. Працаваў на млыне. *Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 461.*

**Вольф Беньямін** (п. 13.3.1844) – н. у Мінскай губ. У паўстанні падафіцэр. Эмігрыраваў у Францыю, у ліп. 1841 знаходзіўся ў Мецы, у студз. 1843 выехаў у Грандвіль. *Rps BUW, SRB.*

**Воўк (Валк) Казімір** (п. 26.1.1843) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні дзейнічаў сярод ашмянцаў, затым падафіцэр 13 ул. палка. Адышоў у Прусію. 15.8.1832 прыбыў у Францыю на караблі “Віжылант”, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Бардо, затым Шатору. З 29.11.1837 член АПЭ. Ажаніўся з француженкай, меў сына Дамініка. Памёр у Парыжы, пахаваны на могілках Нэлі. *РДВГА-5, арк. 470; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 462; Inskrypcje… w Paryżu – Neuilly. S. 38.*

**Враневіч Пётр** – з Гродзенскай губ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 69 адв.*

**Врублеўскі Антоній** – шляхціц з аколіцы Вараб’ёва (Вараб’і ?) Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, прымаў удзел у бітвах. Трапіў у палон пад Невелем, утрымліваўся ў Бабруйскай крэпасці. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832

аддадзены ў рэкруты. *НГАБ-2, арк. 70; РДВГА-11, арк. 72; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 122*.

**Врублеўскі Антоній** (15.12.1808–1855) – з Гродзенскай губ., н. у в. Люшнева Слонімскага (?) пав., сын Рыгора і Яніны Рыбінскай. У паўстанні з 15.5.1831, падафіцэр 3 палка пешых стральцоў. У жн. 1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Буржэ. *Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 467.*

**Вуменскі Юзаф** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў узбр. сярод паўстанцаў. Памёр у Вільні ад ран. *РДВГА-8, арк. 62.*

**Выбрыноўскі (Выбраноўскі) Іван (Ян Пётр)** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні пар. Эмігрыраваў у Францыю. 30.11.1836 выехаў у Алжыр на караблі "Сцікс". 6.6.1840 вярнуўся ў Нім. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 52; Rps BUW, SRB.*

**Выбрыноўскі (Выбраноўскі) Міхал** (н. 15.11.1807) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Левановічы, сын Антонія і Юзэфіны, брат Юзафа. У паўстанні радавы 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. У маі 1837 вярнуўся ў Францыю ў По, асеў у г. Брэцёй і жыў там да 1849, працаваў наглядальнікам чыгункі. У кастр. 1840 член АПЭ. Ажаніўся з француженкай. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 52; Rps BUW, SRB; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 384.*

**Выбрыноўскі (Выбраноўскі) Юзаф** (н. 19.3.1800) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Левановічы, сын Антонія і Юзэфіны, брат Міхала. У паўстанні радавы 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, 16.4.1837 звольніўся са службы. *Rps BUW, SRB; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 384.*

**Выганоўскі Адам** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага. Адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар. 13 ул.

палка. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў аб літасці, атрымаў дазвол на вяртанне. *НГАБ-2, арк. 70–71; РДВГА-8, арк. 53; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 385.*

**Выганоўскі Люцыян** (1.7.1814–15.5.1886) – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Выганава Беластоцкай вобл., скончыў Свіслацкую гімназію, студэнт Віленскага ун-та, архітэктар. У паўстанні радавы атрада Я. Шрэтара ў Белавежскай пушчы, затым падафіцэр 11 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю, з 26.11.1832 у закладзе ў Безансоне, 1.7.1833 выехаў у Бержэрак. Працаваў архітэктарам і інспектарам гістарычных помнікаў. У Парыжы пабудаваў касцёл Іаана Хрысціцеля, удзельнічаў у рэстаўрацыі сабора Нотр-Дам. З 30.7.1834 член ПДТ. З кастр. 1845 знаходзіўся ў Версалі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 71; РДВГА-8, арк. 53; Rps BN, II. 7861; Rps BUW, SRB; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 182; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 468; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 282; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 501; Krawiec L. Lista członków. S. 54.*

**Выганоўскі Юльян –** з Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Бержэраку. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; Rps BUW, SRB; DS. T. 6. S. 386.*

**Высокінскі Рыгор** – селянін памешчыка Радавіцкага з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у 4 лін. палку Г. Дэмбінскага. Адышоў у КП. Узяты ў палон, у 1832 дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 12.7.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 71 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 36; РДВГА-8, арк. 53.*

**Высоцкі Аляксандр** (н. каля 1810) – з г. Брэста Гродзенскай губ., сын Рыгора



**Люцыян Выганоўскі.**
*Фотаздымак А. Дзюпрэ*

і Мар'яны, служыў лёкаем у ген. Жымірскага. Дзейнічаў у грэнадзёрскім палку. У складзе польск. войскаў адышоў у Прусію, пасля перабраўся ў Кракаў, а далей у Галіцыю. Здаўся ўладам, пасля чаго адасланы ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 11.3.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 2, спр. 12, арк. 4; РДВГА-8, арк. 53.*

**Высоцкі Казімір** (п. 4.10.1834) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў. 14.10.1832 прыбыў у Францыю. З крас. 1834 член ПДТ. Забіты ў час паядынку. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 11 адв.; Rps BUW, SRB.*

**Высоцкі Францішак** (8.4.1809–15.5.1857) – з Гродзенскай губ., н. у в. Ясенаўка (Ясенуўка ?), сын Пятра і Ганны Юзэфавіч. У паўстанні радавы 12 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. У чэрв. 1837 вярнуўся ў Францыю, прыпыніўся ў Грэнадзе, дзе жыў да 1843. У 1854 перабраўся ў Паранці, ажаніўся з францужанкай. Памёр у Паранці. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 385.*

**Высоцкі Юзаф** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Выконваў абавязкі паўст. каменданта мяст. Ілля, распаўсюджваў заклікі і адозвы, прыводзіў да прысягі. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 25.1.1832 вызвалены ад адказнасці, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 72 адв.; РДВГА-11, арк. 73; Dangel S. Rok 1831. S. 155.*

**Высоцкі Юзаф** – селянін памешчыка Ю. Кашыца з маёнтка Ятры Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, апынуўся ў Прусіі. Вярнуўся на месца сталага жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 55; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78.*

**Высоцкі Юзаф** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, ппар. 3 палка пешых стральцоў, адышоў у Варшаву. Эмігрыраваў. *РДВГА-11, арк. 73; AGAD, WCPL, nr 724, k. 51.*

**Высоцкі Ян** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сакратар Вілейскага межавага суда. Сакратар вілейскага ўрадавага к-та. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 72; РДВГА-11, арк. 72; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 5; Dangel S. Rok 1831. S. 155.*

**Вышамірскі Ян** – з Мінскай губ., вілейскі адвакат. Адзін з арганізатараў паўстання ў Маладзечне. Выконваў абавязкі паўст. каменданта мяст. Маладзечна. Падпісаў Акт канфедэрацыі, агітаваў да паўстання. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 аднесены да 3 разр. зл. Рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 10.3.1832 утрымліваўся 3 мес. у крэпасці, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 74; РДВГА-11, арк. 75; Dangel S. Rok 1831. S. 155.*

**Вышкоўскі Андрэй** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні канфіскавана 10 дзесяцін зямлі. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Вышынскі Калясанцій** – з Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Пакінуў ун-т, далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-5, арк. 503; ч. 11, арк. 74.*

**Вялічка Фабіян** – з Гродзенскай губ., студэнт. Дзейнічаў у атрадзе Ю. Кашыца, затым радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 44; РДВГА-8, арк. 44; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78.*

**Вянглевіч (Венгелевіч) Анастасій** – ксёндз Лідскага кармяліцкага кляштара Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Д. Хлапоўскага. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 44 адв.; РДВГА-8, арк. 45.*

**Вянцковіч Іван** – селянін памешчыка І. Мікульскага са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні служыў пры Мікульскім кучарам. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 45.*

**Вянцкоўскі Леў** – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын пісьмавода. Дзейнічаў сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 46.*

**Вянцэнтовіч** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 45.*

**Вяржбіцкі Вінцэнт** (1814–29.1.1864) – шляхціц з Гродзенскай губ., н. у Свіслачы, вывучаў інжынерыю ў Віленскім ун-це, настаўнік дзяцей ляснічага Я. Ронкі. Распаўсюджваў супрацьурадавыя вершы, збег з-пад арышту. Знаходзіўся сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы, падафіцэр, ппар. 4 ул. палка. 30.8.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. У 1832 пры-

быў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне, затым Шатору. Меў намер паступіць у Парыжы ў школу дарог і мастоў, але не атрымаў дазволу. У сак. 1834 выехаў у Англію, з 10.6.1834 да 8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, пасля вер. 1834 выехаў з Англіі. У маі 1846 здаў экзамен на інструктара дарог і мастоў, працаваў у адміністрацыі пазначанага ведамства. У 1848 выехаў у Дрэздэн. 27.7.1833–6.5.1836 член ПДТ, АПЭ, Т-ва 3 мая. Памёр у Мецы. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 48 адв.; РДВГА-5, арк. 378; ч. 8, арк. 47*; *Rps BUW, SRB; Księga pamiątkowa. S. 137; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 429; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 103.*

**Вяржбіцкі Ксаверый** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў Белавежскай пушчы. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 49; РДВГА-8, арк. 48.*

**Вяроўскі Браніслаў Станіслаў** (9.11.1812–16.1.1858) – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. у Смарках, студэнт політэхнічнай школы ў Варшаве. У паўстанні ўдзельнік выступлення 29.11.1830, з 30.11.1830 у ганаровай гвардыі, затым ппар. 1 палка пешых стральцоў. 21.1.1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладаў у Авіньёне, Люнэлі і Ле Пюі. Нейкі час жыў у Манпелье. 22.12.1840–23.7.1843 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна. Памёр у г. Мулен. *Rps BUW, SRB; Krawiec L. Lista członków. S. 90*.

**Вярцінскі Антоній** (3.6.1800–28.10.1873) – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. у Барысаве, скончыў аддзяленне будаўніцтва ў Варшаўскім ун-це. У паўстанні ппар. артылерыі. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладаў Авіньёна, затым Люнэля і Ле Пюі. У 1833–34 жыў у Тулузе, працаваў на заводзе, з 1841 у корпусе дарог і мастоў. У 1846 стаў інспектарам 3 кл., у 1862 інструктарам 1 кл., а ў 1867 галоўным інструктарам у дэп. Гард. 19.10.1860 атрымаў французскае грамадзянства. Ажаніўся, меў сына і дачку. Памёр у Німе. *Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 452; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 75; Konarska B. Polskie drogi. S. 429*.

**Вярыга Станіслаў** – з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 49 адв.; РДВГА-11, арк. 57*.

**Вяштарт (Віштарт) Іван** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-5, арк. 505*.

**Вяшторт Караль –** дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ. Укрываў І. Адахоўскага. Па рашэнню МГСК аднесены да 3 разр. зл., па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 28.6.1832 вызвалены ад адказнасці і ўзяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 50; РДВГА-11, арк. 57.*

**Вяшторт Фларыян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 385.*

# Г

**Гаворскі Эдуард** – з Гродзенскай губ., сын уніяцкага святара. Дзейнічаў сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 63.*

**Гадко Вінцэнт** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Выконваў абавязкі каменданта Куранецкага ключа. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 143.*

**Гадлеўскі Антоній** (1808 (1809) – 22.9.1885) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у в. Грышкішкі Шавельскага пав., вучань Сейнецкай школы. У паўстанні пар. 7 ул. палка, 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім у Прусію. У 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. З 8.6.1835 член ПДТ. У 1858 атрымаў дазвол і вярнуўся на радзіму. Памёр у Гродна, пахаваны на гродзенскіх фарных могілках. *РДВГА-7, арк. 128; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 87; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 68; Krawiec L. Lista członków. S. 64; Cmentarz farny. S. 97; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 185.*

**Гадлеўскі Міхал** (25.12.1808–1864) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Слоніме, вывучаў старажытную літ-ру ў Віленскім ун-це.

29.11.1830 далучыўся да аўгустоўскіх паўстанцаў, ппар. 1 палка пешых стральцоў. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 у закладзе ў Авіньёне, член ПНК. З 1835 вывучаў медыцыну ў Манпелье, 27.6.1837 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Дардонь. З 1.8.1832 да 6.5.1836 член ПДТ, 8.5.1837 уступіў паўторна. Меў сына Артура (1844–1909), які стаў знакамітым урачом у Парыжы і напісаў шэраг прац па медыцыне. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 89; Konarska B. Polskie drogi. S. 269; Krawiec L. Lista członków. S. 42; Świadomość narodowa emigrantów. S. 171–172; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 185–186.*

**Гадлеўскі Юзаф** (6.12.1773–1867) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні 1794. З 2.12.1830 член к-та Аўгустоўскага ваяв. З 2.2.1831 кіраваў аўгустоўскімі паўстанцамі, затым маёр 1 палка пешых стральцоў, 13.4.1831 ппалк. 10.3.1831 адзначаны залатым крыжам. 4.10.1831 палк. 9 палка лін. пяхоты. *BPP, nr 493; Księga pamiątkowa. S. 102; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 88; Tokarz W. Wojna polsko-rosyjska.*

**Гадыновіч Караль** – шляхціц з Мінскай губ. Дзейнічаў на тэрыторыі Пінскага пав. у складзе атрада Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон 8.8.1831 пад Невелем. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 аддадзены ў рэкруты. *Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Галавачэнка Даніла –** селянін памешчыка А. Горвата з Мазырскага (?) пав. Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Барбараве, пакінуў паўстанцаў у сутыкненні пад Міхалкамі і вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 89 адв.; РДВГА-11, арк. 86.*

**Галаўко Юзаф** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 75.*

**Галаўко Юзаф** – з Мінскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага пад час яго знаходжання ў Пінскім пав. Па рашэнню МГСК атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 89 адв.; РДВГА-11, арк. 86.*

**Галаўня Антоній Любамір** (п. ліст. 1876) – з г. Свянцяны Віленскай губ., афіцэр расійск. арміі. Пад час паўстання трапіў у палон, перайшоў на бок польск. войскаў, пар. 2 ул. палка, затым кап. 22.9.1831 атрымаў залаты крыж. Эмігрыраваў у Францыю ў кастр. 1832, працаваў

ураднікам на чыгунцы. Удзельнічаў у кракаўскім паўстанні. Ажаніўся з французжанкай, меў сына Тэабальда. З 4.4.1848 член ПДТ. Памёр пад Парыжам. *Księga pamiątkowa. S. 169; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 148; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 89; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 157; Krawiec L. Lista członków. S. 115; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 225–226.*

**Галаўня Францішак –** памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў пам. паўст. каменданта мяст. Даўгінава, выконваў розныя даручэнні. Па рашэнню МГСК ад 19.10.1831 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 90; РДВГА-11, арк. 87; Dangel S. Rok 1831. S. 130.*

**Галец Варфаламей** – селянін памешчыка Андржайковіча з в. Тарноўшчына Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 75.*

**Галібуртон Аляксандр** – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Памёр да вынясення рашэння. Маёмасць канфіскавана. *РДВГА-8, арк. 64; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Галібуртон Юзаф** – з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў, працаваў скульптарам. З 10.1.1835 член ПДТ. *Krawiec L. Lista członków. S. 58.*

**Галіеўскі (Галяеўскі) Каспер –** памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., межавы суддзя. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, выконваў пасаду паўст. каменданта мяст. Радашковічы, дзейнічаў у чыне пар., падтрымліваў сувязь з С. Радзішэўскім. Па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.1.1832 пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 88; РДВГА-11, арк. 84; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 91; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Галіеўскі Міхал –** з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа, паліцмайстар мяст. Радашковічы. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў прымусова. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 88 адв.; РДВГА-11, арк. 58; ф. 405, воп. 2, спр. 4109.*

**Галіеўскі Оттан –** дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Каспера Юзафа. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў у Радашковічах, у званні пар. удзельнічаў у нападзенні на мясцовую паштовую станцыю. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 атрымаў дазвол

вярнуцца на месца жыхарства, па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі ўтрымліваўся 3 мес. у турме, пасля чаго ўзяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 88 адв.; РДВГА-11, арк. 85; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Галіеўскі Юзаф** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Каспера, брат Оттана. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў у Радашковічах, удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю, пар. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства, па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ўтрымліваўся 3 мес. у турме, пасля чаго ўзяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 87 адв.; РДВГА-11, арк. 84; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Галінскі (Галіцкі) Станіслаў** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., служыў у маёнтку Барбарава. Актыўна дзейнічаў у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пад Міхалкамі, дзе трапіў у палон. МГСК ад 31.12.1831 прыняла рашэнне аб аддачы ў рэкруты, аднак асуджаны збег і пастанова не была выканана. *НГАБ-2, арк. 77; РДВГА-11, арк. 78; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Галінскі Францішак** (24.10.1787–27.3.1842) – з Гродзенскай губ. У паўстанні пар. 12 ул. палка. Прыбыў у Францыю, член ПНК. З 26.2.1832 да 21.8.1838 член ПДТ. Памёр у Тулузе, жонка і дзеці засталіся на месцы сталага жыхарства. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; ND. 1843. S. 135; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 138; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 95, 250; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 55; Krawiec L. Lista członków. S. 61; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 175.*

**Галінскі Францішак** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Яна, пісар вілейскага казначэйства. Адзін з арганізатараў паўст. у павеце. У чыне афіцэра ўдзельнічаў у захопе вілейскага казначэйства, а таксама ў бітве пад Вільняй. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 76 адв.; РДВГА-11, арк. 78; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Галіцкі (Галіскі) Адам** – дваранін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 77; РДВГА-8, арк. 64–65.*

**Галіцкі Аляксандр** – селянін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. З мая 1831 у паўстанні кантаніст. Знаходзіўся пры кап. Ясінскім, з якім прыбыў у Варшаву. Адышоў у Аўстрыю, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 64–65.*

**Галко Вільгельм** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., брат Паўла, засядацель Вілейскага земскага суда. Пар. у апалчэнні С. Радзішэўскага, удзельнічаў у бітве пад Вілейкай. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 4.1.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 77 адв.; РДВГА-11, арк. 79; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 57; Dangel S. Rok 1831. S. 128.*

**Галко Павел** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., брат Вільгельма. Выконваў пасаду паўст. каменданта мяст. Мядзел, прыводзіў да прысягі. Дзейнічаў у чыне пар. Накіраваў да С. Радзішэўскага атрад кантаністаў з 86 чал. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 16.2.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 78; РДВГА-11, арк. 79; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 57; Dangel S. Rok 1831. S. 128*.

**Галко Феліцыян** – памешчык з маёнтка Іскрынь Свянцянскага пав. Віленскай губ. Удзельнік паўстання, дайшоў да Варшавы, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *НГАБ-2, арк. 78 адв.; DS. T. 6. S. 440; Bieliński K. Rok 1831. S. 121.*

**Галоўчык Ермалай –** селянін памешчыка В. Пуслоўскага з Пінскага пав. Мінскай губ. У якасці кантаніста знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 90; РДВГА-11, арк. 87.*

**Галямбіцкі (Галямбёўскі) Юзаф** – шляхціц з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 11 палка лін. пяхоты (у конным палку Г. Дэмбінскага). 14.7.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 71 адв.; РДВГА-8, арк. 75; Księga pamiątkowa. S. 129.*

**Гамашынскі Юзаф** (каля 1812–27.10.1845) – з г. Гродна, скончыў Гродзенскую гімназію. У паўстанні з 2.4.1831, 15.5.1831 ппар. у атрадзе кн. Т. Мірскага. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. У ліст. 1832 эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ, 21.11.1832 накіраваны ў Ньеўр. У снеж. 1834 перабраўся ў Бельгію. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 149; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 113; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 96; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 74.*

**Гамскі Адам** – дваранін з Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 67.*

**Гамскі Антоній** (10.5.1808–1875) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Равіны, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю. З 22.8.1835 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. Памёр у Парыжы. *РДВГА-8, арк. 66; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 164; Krawiec L. Lista członków. S. 66.*

**Ган Готфрыд** – дваранін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Аўстрыю, адкуль прасіў літасці. Атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *РДВГА-8, арк. 67.*

**Ган Тадэвуш** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., адвакат. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 29.*

**Гандзінскі Валенцій** – з Гродзенскай губ. У паўстанні з 19.8.1831 ппар. 20 палка лін. пяхоты. 12.10.1831 прыбыў з Модліна ў Варшаву. Аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 285.*

**Ганецкі Антоній** – з Мінскай губ. Маёнтак канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Гансецкі Юльян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 440.*

**Гансяроўскі Іван** – селянін памешчыцы Тышкевічавай з мяст. Васілішкі Лідскага пав. Гродзенскай губ. У Таневічах апынуўся сярод паўстанцаў. Знаходзіўся ў абозе пад час бітвы пад Вільняй, дзе трапіў у палон. Збег, быў зноў арыштаваны. Па рашэнню ГГСК ад 18.4.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 12–14.*

**Гансяроўскі Юрый** – селянін памешчыцы Тышкевічавай з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Збег пры пераходзе мяжы КП. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 76.*

**Гарадзецкі (Гарадніцкі) Вінцэнт** (н. 10.2.1806) – шляхціц з Мінскай губ., сын Ігнація і Караліны Буяльскай, ключавы дазорца. У паўстанні падафіцэр 12 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю. З 7.10.1838 член АПЭ, з 17.5.1846 член ПДТ. У 1869 знаходзіўся ў Бержэраку. *НГАБ-2, арк. 93 адв.; РДВГА-11, арк. 91; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 156; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Гараін Вінцэнт** (19.9.1799–1.9.1850) – з Віленскага пав. Віленскай губ., н. у мяст. Вашкуны (паводле Я. Барткоўскага – н. у 1800 у Гродзенскай губ.), сын Антонія і Караліны Гедройц, брат Міхала. У паўстанні пар. штаба 4 пешай дывізіі, затым маёр. 10.3.1831 адзначаны залатым крыжам. Эміграваў у Францыю, уступіў у партугальскі легіён, затым працаваў у дырэкцыі будаўніцтва каналаў у Марселі. Пісаў артыкулы для "Dziennika Narodowego". Памёр у Брусэлі. *BPP, nr 565; Księga pamiątkowa. S. 102; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 168; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 159; PSB; Żurawski vel Grajewski R. Wielka Brytania.*

**Гараін Міхал** (28.4.1798–15.6.1867) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у Віленскай губ., сын Антонія і Караліны Гедройц, брат Вінцэнта, інжынер. Скончыў Віленскі ун-т, у 1818 уступіў у корпус інжынераў, працаваў на Аўгустоўскім канале. У паўстанні пар. корпуса інжынераў, з 6.2.1831 кап., затым маёр. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. У 1832 эміграваў у Францыю, належаў да закладаў у Безансоне, Люнэлі, Ле Пюі. З 10.12.1832 член ТЛРЗ. Ажаніўся з француженкай. Працаваў інструктарам дарог і мастоў 3 кл. У 1858 вярнуўся ў Вільню, памёр у Мінску. Маёнтак канфіскаваны. *РДВГА-8, арк. 76; Rps BN, II. 7871, k. 182; BPP, nr 565; Księga pamiątkowa. S. 167; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 298; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 168*; *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 159; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 77, 182, 239; Konarska B. Polskie drogi. S. 280.*

**Гараін Тадэвуш Ігнацій** (30.11.1804–7.6.1839) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у Варшаве, сын Яна і Кунегунды Зялінскай. З 1820 жыў у Францыі. У паўстанні ўдзельнік выступлення 29.11.1830, з 18.12.1830 ппар. 17 палка лін. пяхоты, 21.1.1831 пар., 19.2.1831 кап., 20.6.1831 ад'ютант ген. Шаптыцкага, 11.8.1831 у штабе ген. С. Рожыцкага, 4.10.1831 кап. 1 кл. 20.7.1831 атрымаў залаты крыж. 26.9.1831 у складзе корпуса С. Рожыцкага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Эміграваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, затым Люнэлі. У 1832–39 служыў у замежным легіёне. Памёр ад ран, атрыманых у баі з арабамі. Пахаваны ў Алжыры. Маёнтак канфіскаваны. *РДВГА-8, арк. 76; BPP, nr 493; Księga pamiątkowa. S. 24; Lelewel J. Nieznane listy. S. 48; ND. 1843. S. 136; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 89; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 168; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 159; яго ж: Polacy w Legii. S. 155; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 99–100, 213–214.*

**Гарбатоўскі Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., аканом памешчыка Абуховіча. Удзельнічаў у паўстанні. *НГАБ-2, арк. 91 адв.; РДВГА-7, арк. 140.*

**Гарбоўскі Кірыл** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты атрадам Г. Дэмбінскага. Апынуўся ў Аўстрыі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 67.*

**Гарбуноў** – юнкер. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Палявы аўдытарыят 1-й армііі прыняў рашэнне аб аддачы пад ваен. суд. *НГАБ-2, арк. 92 адв.; РДВГА-11, арк. 88.*

**Гардзіевіч Давыд** – селянін памешчыка Ц. Пуслоўскага з в. Пескі Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага ў абозе, узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК аддадзены ў салдаты. *РДВГА-11, арк. 89; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.*

**Гардон Іван** – селянін памешчыка Валовіча з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Збег ад памешчыка да паўстанцаў Мазырскага пав. у атрад Бараноўскага, удзельнічаў у бітвах. *РДВГА-11, арк. 143.*

**Гарустовіч Васіль** – селянін памешчыка Скочынскага з маёнтка Галены Пружанскага пав. Гродзенскай губ., повар. Збег ад памешчыка, далучыўся да паўстанцаў Белавежскай пушчы. Удзельнічаў у сутыкненні пры Галінах. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 68.*

**Гарчынскі Салезій** (8.3.1799 (8.3.1800) – 26.10.1875) – клірык марыянскага кляштара Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., н. на Валыні, сын Стэфана і Тэклі Дабравольскай. Далучыўся да паўстанцаў Белавежскай пушчы, капелан 3 палка лін. пяхоты, затым 3 палка пешых стральцоў, дайшоў да Варшавы. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. Перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. У ліст. 1832 эмігрыраваў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 1858 да 5.8.1861 вікарый парафіі на Манмартры, з 1.10.1866 капелан могілак на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 79; РДВГА-8, арк. 69; BPP, nr 565; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 178; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 141; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 83; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 178, 180.*

**Гарчынскі Юзаф** (н. каля 1806) – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., сын Матэвуша, у дзяцінстве вывезены ў Галіцыю, дзе служыў камердынерам. У паўстанні падафіцэр, затым ппар. 1 палка лін. пяхоты. 15.4.1831 адзначаны залатым крыжам. Апынуўся ў Галіцыі, вярнуўся ў КП, дзе затрыманы і адпраўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 21.2.1834 адпраўлены

салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 69; Księga pamiątkowa. S. 111; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 168.*

**Гас** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-7, арк. 33–34.*

**Гаўрылаў Юрый** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., дваравы памешчыка П. Важынскага. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 6.*

**Гаўрыленка Максім** (н. каля 1800) – селянін з Мінскай губ., уніят. З 1824 рэкрут 3 батальёна Брэсцкага пях. палка. У 1831 трапіў у палон да паўстанцаў, уключаны ў склад 6 пях. палка, з якім апынуўся ў Галіцыі. У 1833 удзельнічаў у экспедыцыі Ю. Заліўскага ў аддзеле Э. Шпека. Арыштаваны і сасланы ў Сібір на цяжкія работы. З 16.9.1836 у Іркуцку, 25.9.1836 адасланы за Байкал. У 1859 у адпаведнасці з каранацыйным маніфестам атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, выехаў у Мінск. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 169.*

**Гаўрылка Якуб** – з Вілейскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-2, арк. 75; РДВГА-11, арк. 77; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Гаўрыловіч Ян** (8.2.1804–20.11.1870) – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Салечнікі, сын Антонія і Ганны Чарнецкай. У паўстанні радавы 12 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. У вер. 1841 асеў у Ля-Рашэлі, працаваў краўцом. З 17.3.1847 член ПДТ. Памёр у шпіталі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 75 адв.; РДВГА-8, арк. 63; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 153; Krawiec L. Lista członków. S. 110.*

**Гаўрылюк Ян** (н. 8.2.1789) – памешчык з Мінскага пав. Мінскай губ., н. у в. Куцень, сын Тэадора і Ганны. У паўстанні радавы 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, вярнуўся ў Францыю. *РДВГА-11, арк. 77; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 153.*

**Гаховіч** – з Гродзенскай губ., студэнт Навагрудскага дамініканскага вуч. Дзейнічаў сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 69.*

**Гацыскі Аўгуст Пётр** (28.8.1808–3.8.1892) – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Юзафа, брат Яна, Ежы, Юзафа, з 1828 у школе пхар. Далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, падафіцэр атрада навагрудскай конніцы, затым ппар. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. З 27.1.1832 у Францыі, дзе і памёр. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; DS. T. 6. S. 386; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 163; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 181, 216; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 139.*

**Гацыскі Ежы** (вер. 1806–25.12.1890) – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у маёнтку Пярэсека, сын Юзафа, брат Яна, Аўгуста Пятра, Юзафа, служыў у расійск. войсках. У паўстанні з 2.4.1831 належаў да 2 палка конных стральцоў, 13.4.1831 ппар. Эмігрыраваў у Францыю ў чэрв. 1832. Ажаніўся з француженкай, меў дзяцей. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 163; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 114; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 139.*

**Гацыскі Юзаф** (6.7.1802–28.2.1885) – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у маёнтку Пярэсека, сын Юзафа, брат Яна, Аўгуста Пятра, Ежы. Належаў да атрада навагрудскай конніцы, падафіцэр 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. У студз. 1832 эмігрыраваў у Францыю. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Маёнтак канфіскаваны. *РДВГА-8, арк. 70; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; Rps BUW, nr 2327; DS. T. 6. S. 386; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 449; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 163; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 139.*

**Гацыскі Ян** (8.1.1805–27.1.1856) – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у фальварку Гацішча, сын Юзафа, брат Аўгуста Пятра, Ежы, Юзафа. У паўстанні пар. 13 ул. палка, затым кап., у складзе фарміравання Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. 30.8.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. У Францыі апынуўся ў 1832. На працягу 9.6.1835–10.11.1848 (акрамя перыяду 22.10.1838–8.6.1839) атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, з 29.8.1836 знаходзіўся ў Лондане, член эміграцыйнага к-та. У ліст. 1848 перабраўся ў Францыю. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 64; Księga pamiątkowa. S. 138; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 276; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 163; Bielec-*

*ki R. Zarys rozproszenia. S. 95; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 139; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 252; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 75; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 216.*

**Гедгаўд Ануфрый** (н. 1802) – з Мінскай губ. У паўстанні ппар. 19 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У Францыю прыбыў у лют. 1832, з 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 9.8.1835 член ПДТ. У вер. 1837 перабраўся ў Новы Арлеан (ЗША). *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 83, 316; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 72; Krawiec L. Lista członków. S. 66*.

**Гедройц Антоній** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Пар. 13 ул. палка. 5.10.1831 адышоў у складзе корпуса М. Рыбінскага ў Прусію. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 394; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 80; РДВГА-7, арк. 67*.

**Гедройц Міхал** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Арганізатар асобнага атрада, які ў ліп. 1831 дзейнічаў у Налібоцкіх лясах. *РДВГА-7, арк. 53; ф. 405, воп. 2, спр. 2441*.

**Гедройц Рамуальд** (п. 18.4.1850) – з Браслаўскага пав. Віленскай губ., ксёндз. 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў у Францыю, пахаваны на бацільёльскіх могілках. *DS. T. 6. S. 440; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 144*.

**Гедройц Юсцін** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Міхала. У паўстанні пар. пешай артылерыі, 17.3.1831 атрымаў залаты крыж. Затым кап. 2 кл. пазнанскай пяхоты. 14.9.1831 адзначаны кавалерскім крыжам. *РДВГА-7, арк. 53; Księga pamiątkowa. S. 110, 143*.

**Гелгуд Антоній** (1792–13.7.1831) – польск. ген., дзейнічаў у кампаніі 1812–14, 28.10.1818 ген. брыгады. У паўстанні з 30.5.1831 ген. 3 пях. дывізіі, на чале якой накіраваны ў пачатку чэрв. у Віленскую губ. 10.6.1831 пасля аб'яднання з Д. Хлапоўскім на яго ўскладзена агульнае кіраванне польск. войскамі на бел.-літ. землях. Пасля бітвы 19.6.1831 пад Вільняй на чале адной з трох частак распачаў адступленне праз Жмудзь, у ліп. знаходзіўся на тэр. Белавежскай пушчы. Застрэлены кап. С. Скульскім пры пераходзе прускай мяжы. *AGAD, KRW, nr 581; Chłapowski D. Pamiętniki. Cz. II; Dembiński H. Pamiętniki o powstaniu w Polsce; Zbiór pamiętników o powstaniu Litwy; Źródła do dziejów. T. 1–4; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі; История Поль-*

*ши. С. 448; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева; Неелов Н.Д. Воспоминания. № 8. С. 153; Пузыревский А.К. Польско-русская война. Т. 1; Смит Ф. История польского восстания; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 74; Kieniewicz S. Historia Polski. S. 106; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 160; Zajewski W. Powstanie. S. 131; Ziółek J. Powstanie Listopadowe na Litwe.*

**Гельтман Віктар** (23.12.1796–16.8.1874) – з в. Вярховічы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., сын Караля і Тэклі Касінскай, пісьменнік, публіцыст. У 1810–15 вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, затым у Вільні, на ф-це права Варшаўскага ун-та. У 1819 заснаваў тайны саюз акадэмічнай моладзі. У 1820 уваходзіў у Саюз вольных палякаў. Арыштаваны за распаўсюджванне Канстытуцыі 3 мая, адпраўлены салдатам у Літ. корпус. У 1831 пад Ваўрам трапіў у палон, перайшоў на бок паўстанцаў, ппар. 11 палка пешых стральцоў, 26.9.1831 прыбыў з С. Рожыцкім у Галіцыю. У студз. 1832 эмігрыраваў у Францыю. З 26.9.1832 член ПДТ. У 1837–44 адзін з выдаўцоў месячніка "Przegląd Dziejów Polskich", у 1866 разам з Л. Зянковічам выдаваў квартальнік "Ognisko". Пакінуў успаміны пра жыццё ў эміграцыі. *Heltman W. Emigracja polska; яго ж: Demokracja polska; Избранные произведения. Т. 2. С. 18–20, 487–496; Janowski J.N. Notatki autobiograficzne; Lelewel I. Listy emigracyjne. T. 4. S. 81; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 165*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 181, 320; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 147; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 161; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 244; T. 3. S. 72, 216; Gerber R. Studenci. S. 70–72; Kalembka S. Wielka Emigracja. S. 216–217; Krawiec L. Lista członków. S. 42; Łuczakówna H. Wiktor Heltman; PSB. T. 9. S. 370–373; Rederowa D. Polki emigracijny ośrodek. S. 104; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 220–222.*



**Віктар Гельтман.**
*Малюнак*

**Гельтман Леў** – дваранін з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 70.*

**Гендарсон Генрык** (п. 1845) – н. у г. Слуцк Мінскай губ., служыў у расійск. войсках. У паўстанні пхар. дывізіі карабінераў, з 1.9.1831 ппар. Прыбыў у Францыю ў ліст. 1832. Пасля 1838 выехаў у Мексіку, дзе загінуў. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 114, 246; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 148; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 222–223.*

**Гералюк Лявон** – селянін памешчыцы Бухавіцкай з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 82.*

**Германовіч Іван** – селянін гр. Патоцкай з маёнтка Рось Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Я. Шрэтара, які дзейнічаў на Светлічанскай дачы ў Белавежскай пушчы. Эмігрыраваў. Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-8, арк. 71.*

**Герцак Генрык** – селянін з в. Макрані Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў у Аўстрыю, інтэрніраваны аўстрыйскім урадам. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 71.*

**Герыновіч Марка** – селянін з в. Пятровічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Узяты атрадам Г. Дэмбінскага. Апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 71.*

**Герыч Эдуард** (1811–14.10.1860) – з Гродзенскай губ., сын Караля і Ганны Рэйтар, юнкер Гродзенскага гус. палка. У паўстанні ппар. корпуса ген. Ю. Двярніцкага, у складзе якога адышоў у Галіцыю, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, знаходзіўся ў закладах Авіньёна, Люнэля, Ле Пюі, 15.11.1832 пераехаў у Парыж. У сак. 1844 пад уплывам А. Міцкевіча далучыўся да суполкі А. Тавянскага. Адзін з заснавальнікаў легіёна Міцкевіча, накіраванага ў Італію. Памёр у Баціньёле, пахаваны на Манмартры. Маёнтак канфіскаваны. *РДВГА-8, арк. 71; BPP, nr 565; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 180, 311; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 69; Polacy pochowani. S. 205.*

**Гіевіч Міхал** – селянін гр. Тышкевіча з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 123.*

**Гіёнскі** – з г. Навагрудка Гродзенскай губ., урач. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 124.*

**Гізулеўскі Антоній** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 97.*

**Гільсевіч Міхал** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 100.*

**Гінтаўт Ян** – манах Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 72.*

**Гінтэр Адам** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні ў Свянцянскім пав., член часовага пав. урада. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 атрымаў дазвол вярнуцца ў свой маёнтак. *Bieliński K. Rok 1831. S. 15–16, 84–85.*

**Гірык Антоній** (н. 8.6.1813) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Дзятлава, сын Яна і Францішкі Матушэвіч. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 157.*

**Гірык Вінцэнт** – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 73.*

**Гіцольд Стэфан** (1803–14.11.1833) – з в. Лаўры Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Скончыў Свіслацкую гімназію і ф-т права Віленскага ун-та. З 1827 працаваў у канцылярыі Віленскага ун-та. У паўстанні з 10.5.1831, ппар. 13 ул. палка. У складзе фарміравання Г. Дэмбінскага накіраваўся ў Варшаву. З 4.10.1831 ппар. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. У студз. 1832 прыбыў у Францыю. Член ТЛРЗ. Прымаў удзел у экспедыцыі Ю. Заліўскага, 22.1.1833 выехаў на землі ВКЛ, кіраваў атрадам на тэрыторыі ваўкавыска-пружанскай акругі. 4.4.1833 арыштаваны, 4.11.1833 расстраляны ў Варшаве. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 351, арк. 32–32 адв.; Rps BN, III. 6594; BPP, nr 493; ND. 1843. S. 136; Zeznania i ostatnie słowo Józefa Zaliwskiego. S. 390; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 143; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 68; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 68, 72; Chodźko M. Wyprawa do Polski; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 256–257; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 124; Z dziejów partyzanki Józefa Zaliwskiego. S. 257.*

**Гіцэвіч Гіпаліт** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Вінцэнта, б. мінскага цывільнага губернатара, уладальнік маёнтка Вязынь, завілейскі маршалак, калежскі асэсар. З'яўляўся старшынёй вілейскага ўрадавага паўст. к-та. У ліп. 1831 высланы ў Пецярбург,

утрымліваўся ў крэпасці. Па рашэнню МГСК ад 3.8.1831 аднесены да 1 разр. зл., 10.8.1833 папярэдняе рашэнне адменена, прысуджаны да ўплаты штрафу. Па імператарскаму загаду адпраўлены на жыхарства ў Варонеж. *НГАБ-2, арк. 82–83; РДВГА-11, арк. 80; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 3; Dangel S. Rok 1831. S. 128; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 170.*

**Главацкі Францішак** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., урач. Служыў батальённым урачом. Адышоў у Прусію. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. Вярнуўся на месца жыхарства. *НГАБ-2, арк. 85 адв.; РДВГА-8, арк. 74*.

**Гладкоўскі Караль** – з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Адышоў спачатку ў Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 29.9.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-2, арк. 85 адв. – 86; РДВГА-11, арк. 82; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Гладкоўскі Тадэвуш** – з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, эмігрыраваў. 5.7.1860 атрымаў дазвол вярнуцца. У адпаведнасці з прашэннем дазволена сталае жыхарства ў маёнтку Влодава Люблінскай губ. *AGAD, KRSW, nr 7575, k. 36–37.*

**Гладыноўскі Францішак** – іераманах францысканскага кляштара ў Празароках Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў сярод дзісенскіх паўстанцаў капеланам, прыводзіў да прысягі ў Лужках і Дзісне. Хаваўся ў лясах. Арыштаваны. Па рашэнню МГСК ад 18.8.1831 аднесены да 3 разр. зл. *РДВГА-11, арк. 83; Dangel S. Rok 1831. S. 158.*

**Гланцэвіч Антон** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Удзельнічаў у бітвах. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 116.*

**Гласко Гілярый (Рыгор)** – шляхціц з Бабруйскага пав. Мінскай губ., кучар памешчыка А. Булгака. Утойваў зброю. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.1.1832 вызвалены ад праследавання. *НГАБ-2, арк. 84; РДВГА-11, арк. 81.*

**Гласко Губерт** – дваранін з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў, быў узбр. шабляй і пісталетам. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 19.6.1831 атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-2, арк. 84; РДВГА-11, арк. 81.*

**Глінскі Рамуальд** – выконваючы абавязкі пробашча Глыбоцкага кармяліцкага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Чытаў у храме адозвы,

служыў сярод дзісенскіх паўстанцаў капеланам, быў узбр. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аднесены да 3 разр. зл., пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 85; РДВГА-11, арк. 82; Dangel S. Rok 1831. S. 158.*

**Глушневіч Антоній** (1793–5.8.1861) – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. у Барысаве, у 1810 скончыў Мінскую гімназію, вучыўся на фіз.-матэм. ф-це Віленскага ун-та, у 1822 скончыў мед. ф-т. Пасля заканчэння вучобы жыў на Валыні. У 1830 падарожнічаў за мяжой, адкуль вярнуўся пасля пачатку паўстання. Працаваў у ваен. шпіталі ў Варшаве. 10.8.1831 абраны паслом на варшаўскі сейм ад Барысаўскага пав. Эмігрываў у Францыю, асеў у Парыжы. Адзін з заснавальнікаў ТЛРЗ. У канцы 1832 высланы з Парыжа, перабраўся ў Версаль. Удзельнічаў у прыгатаваннях экспедыцыі з Ю. Заліўскім. З 1833 член ПНК, з 22.12.1834 да 9.12.1838 член ПДТ, у 1835 адзін з заснавальнікаў секцыі ПДТ у Баціньёле, удзельнічаў у арганізацыі польск. школы ў Баціньёле, якой ахвяраваў сваю бібліятэку. У 1838 член АПЭ. З 1845 урач баціньёльскай школы і член яе рады. Памёр пад Парыжам, пахаваны на Манмартры. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Rps BN, III. 6594, II. 7861, II. 7871; BPP, nr 565; Borkowski K. Pamiętnik historyczny; DS. T. 6. S. 444; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 185; яго ж: Pamiętniki; Barszczewska A. Rola Towarystwa Litewskiego. S. 50, 67; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 166; Barzykowski S. Historia. T. 4; Bieliński J. Doktorowie medycyny; Dangel S. Rok 1831. S. 130; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 24, 75; Grajewski A. Komitet Emigracji Polskiej; Gruss N. Szkoła Polska; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 149; Katalog rękopisów Biblioteki Narodowej. T. 3. S. 128–133; Konarska B. Polskie drogi. S. 279; Krawiec L. Lista członków. S. 58; Polacy pochowani. S. 105; PSB. T. 9. S. 550–551; Rederowa D. Polski emigracijny ośrodek. S. 117; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 224.*



**Антоній Глушневіч.**
*Медзярыт А. Дзітрыха*

**Глябовіч Барталамей** (н. каля 1809) – шляхціц з аколіцы Глябовічы

Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., сын Барталамея. Добраахвотна далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага каля Навагрудка, дайшоў да Варшавы, удзельнічаў у абароне Замосця. Пасля капітуляцыі Варшавы арыштаваны ў Жытоміры, дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 6.7.1831 аддадзены салдатам у Каўказскі асобны корпус, 28.7.1831 рушыў у дарогу. Маёмасць канфіскавана. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 18–26; РДВГА-8, арк. 73; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 177.*

**Глямбоцкі Іван** – з Гродзенскай губ., вартаўнік Белавежскай пушчы. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 73.*

**Гнатоўская Юзэфа** – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., жонка Івана. Дапамагала мужу хаваць зброю. Па рашэнню МГСК ад 23.10.1831 пакінута вольнай, па рашэнню ад 27.1.1832 утрымлівалася 4 мес. у астрозе, пакінута пад паліцэйскім наглядам. *НГАБ-2, арк. 88 адв.; РДВГА-11, арк. 83; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Гнатоўскі Іван** (п. 1831) – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка Барысаў кн. М. Радзівіла, адстаўны кап. польск. войскаў. Пад час паўстання нарыхтоўваў порах і зброю, раздаваў яе сялянам. Памёр у Пецярбургу. МГСК разглядала яго справу 23.10.1831. *РДВГА-11, арк. 83; AGAD, MMK, nr 7; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Гобар Сцяпан –** селянін кн. М. Радзівіла з в. Аздзяцічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. Утойваў зброю і агністрэльныя снарады. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.1.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 87; РДВГА-11, арк. 84.*

**Голуб Рыгор** (н. каля 1793–1797) **–** дваранін з Мінскай губ., сын уніяцкага святара Стэфана, унтэр-афіцэр расійск. войскаў. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, адбіў ад канвойных двух арыштантаў. Па рашэнню МГСК аднесены да 2 разр. зл. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 15.2.1832 адпраўлены ў Сібір з пазбаўленнем вайсковага і дваранскага стану. 3.2.1833 прыбыў на месца ссылкі. 26.8.1856 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. 28.10.1857 прыбыў у Мінск, дзе ўзяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ, ф. 333, воп. 1, спр. 710, арк. 142; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 90 адв.; РДВГА-11, арк. 87; Dangel S. Rok 1831. S. 130; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 211.*

**Голуб Францішак –** з Вілейскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў у Вілейцы. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *Dangel S. Rok 1831. S. 130.*

**Голубеў Аляксандр** – з Мінскай губ., сын Андрэя. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем, за што вызвалены ад пакарання рашэннем МГСК ад 30.7.1831. *НГАБ-2, арк. 91; РДВГА-11, арк. 88; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Горскі –** з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Па рашэнню МГСК аднесены да 2 разр. зл. *Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Горскі Людвік** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 77–78.*

**Горскі (Гурскі) Міхал** (н. 1802) – навіцыянт Глыбоцкага кармяліцкага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ., у манастве Ансельм, н. у Задзеўе (Свянцянскі пав.), сын Тадэвуша. Вучыўся на ф-це тэалогіі Віленскага ун-та. У паўстанні знаходзіўся ў атрадзе В. Брахоцкага, затым падафіцэр 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага. З 4.10.1831 ппар. 4 ул. палка. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 15.8.1832 на караблі "Віжылант" прыбыў у Францыю. У ліп. 1837 далучыўся да АПЭ. 20.8.1839 выехаў у Арлеан, адкуль 3.10.1839 накіраваўся ў Версаль. З 12.1.1845 член ПДТ, выконваў абавязкі бібліятэкара. З чэрв. 1854 пражываў у Версалі, займаўся мастацтвам. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 104; РДВГА-11, арк. 97; AGAD, WCPL, nr 724, k. 71; BPP, nr 493; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 106; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 161; Dangel S. Rok 1831. S. 158; Krawiec L. Lista członków. S. 93.*

**Горскі (Гурскі) Райманд** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся прымусова ў атрадзе Ю. Кашыца, затым радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога дайшоў да Варшавы. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 78*; *AGAD, WCPL, nr 724, k. 77.*

**Горскі Фелікс** – шляхціц з Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў за мяжу, прасіў літасці. *РДВГА-8, арк. 78; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76.*

**Гоцвальт Казімір** – памешчык з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў прымусова. *РДВГА-8, арк. 79.*

**Грабіцкі Юрый** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 80.*

**Грабніцкі Мікалай** – гр., памешчык Люцынскага пав. Віцебскай губ. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў, рыхтаваў паўстанне ў Люцынскім пав. *НГАБ-2, арк. 96 адв.; РДВГА-11, арк. 92.*

**Грабніцкі Юльян** – памешчык Лепельскага пав. Віцебскай губ. Меў зносіны з ашмянскімі паўстанцамі. Захоўваў копіі ашмянскага Акта канфедэрацыі, паперы П. Важынскага. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 5469; РДВГА-7, арк. 164*.

**Грабоўскі Казімір** – памешчык з Гродзенскай губ. Меў стасункі з паўстанцамі, 28.5.1831 выязджаў у мяст. Рось да Д. Хлапоўскага. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 24, арк. 20 адв.*

**Грабоўскі Маўрыкій** – з Гродзенскай губ., служыў у Падольскім кірасірскім палку. У паўстанні пар., з 2.6.1831 у 2 палку конных стральцоў. У снеж. 1831 прыбыў у Францыю, член ПНК. У 1839 прыбыў у Англію. 12.6.1844 атрымаў англійскае грамадзянства. У 1843 ажаніўся з англічанкай. У 1846 з'яўляўся членам эміграцкага польск. к-та ад Англіі і Ірландыі. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 81; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 112; Paszkiewicz M. Polacy naturalizowany. S. 84.*

**Грабоўскі Ян** (10.2.1787–2.3.1841) – з г. Полацка Віцебскай губ., кап. польск. войскаў. У паўстанні кап. 8 ул. палка, затым маёр. Перабраўся ў Галіцыю, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, у крас. 1833 – у Швейцарыю. У 1834 знаходзіўся ў Жэневе, дэпарціраваны ў Англію. У лют. 1835 вярнуўся ў Францыю. *ND. 1843. S. 136; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 89; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 111.*

**Грабскі Марк** – памешчык з в. Гімбуты Лідскага пав. Гродзенскай губ. (па звестках Л. Краўца – н. у Лідзе), студэнт Варшаўскага ун-та. У паўстанні ппар. 11 ул. палка. 15.8.1832 эмігрыраваў у Францыю. З 27.12.1833 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 95; РДВГА-8, арк. 81; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 161, 303; яго ж*: *Słownik biograficzny. T. 2. S. 114; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 49; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 201; Uniwersytet Warszawski.*

**Градзецкі Аляксандр** – з Гродзенскай губ., падафіцэр 1 палка пешых стральцоў. У паўстанні ўдзельнічаў у складзе таго ж палка. Застаўся ў Варшаве, атрымаў дазвол вярнуцца ў Гродна. *AGAD, KRW, nr 477, k. 107.*

**Градынскі Юзаф** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 82.*

**Граковіч Юзаф** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка Рабунь жаночага бернардзінскага кляштара. Па патрабаванню І. Адахоўскага адаслаў у Вілейку людзей і 4 падводы. Па рашэнню МГСК ад 8.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 97; РДВГА-11, арк. 93; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Граф Напалеон** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў у чыне афіцэра, дзейнічаў у бітве пад Вілейкай, затым уваходзіў у склад 12 ул. палка, адышоў у Прусію. У 1832 эмігрыраваў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне, з 1832 член ПНК. Дэпарціраваны ў Англію, 10.6.1834–13.2.1839 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, у 1837 далучыўся да АПЭ. У лют. 1839 выехаў у Францыю, жыў у Бардо. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., па рашэнню ад 14.4.1833 страціў правa на Усяміласцівае дараванне. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 182; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 96; РДВГА-11, арк. 92; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 156; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 95; Dangel S. Rok 1831. S. 129; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 74; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 201.*

**Грахольскі Адольф Норберт Эразм** (7.6.1797–3.1.1863) – з в. Варановічы Браслаўскага пав. Віленскай губ., сын Яна і Ізабелы Рытароўскай. У паўстанні маёр, ад'ютант ген. С. Рожыцкага. Высланы ў Курск. Займаўся гаспадаркай у Чэрвонскім ключы (каля Бярдзічава), дзе меў табун арабскіх скакуноў. Быў маршалкам канстанцінаўскай і бярдзічаўскай шляхты. Двойчы жанаты: на Аціліі Панятоўскай, пасля на Вандзе Радзівіл. Памёр у Варановічах. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 119.*

**Грахоўскі Вінцэнт Ян** (24.1.1807–8.10.1881) – з мяст. Камаі Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні з 1.1.1831. Падафіцэр 2 ул. палка, 16.3.1831 адзначаны сярэбраным крыжам (?). З 5.8.1831 ппар. 13 ул. палка. У складзе фарміравання Г. Дэмбінскага рушыў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Ппар. 10 ул. палка, 15.7.1831 прыбыў з Ф. Роландам у Прусію. У студз. 1832 эмігрыраваў у Францыю, жонка засталася на месцы жыхарства, пасля яе смерці ажаніўся з француженкай. У 1832 член ПНК, меў дачыненне да дзейнасці

ТЛРЗ. У час паўстання К. Каліноўскага прыязджаў у Кракаў, але ўдзелу ў ім не прымаў, вярнуўся ў Францыю. Памёр у Парыжы. *AGAD, PFR, nr 7; Rps BN, III. 6594; DS. T. 6. S. 440; Księga pamiątkowa. S. 109; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 68, 251, 278; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 119; Bieliński K. Rok 1831. S. 121; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 203.*

**Грос Леанард Юзаф** (н. 10.11.1810) – з Пінскага пав. Мінскай губ., н. у Пінску, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 6 палка конных стральцоў. Эмігрыраваў у Францыю ў студз. 1832. 7.5.1851 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 105, 181, 318; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 122–123.*

**Грос Міхал** (29.9.1791–13.8.1875) – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., н. у Магілёўскай губ. У паўстанні ппар. 1 ул. палка. Знаходзіўся ў атрадзе Д. Хлапоўскага, паранены пад Вільняй. У складзе атрада Г. Дэмбінскага накіраваўся ў Варшаву. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перабраўся ў Прусію. З лют. 1832 у Францыі, дзе і памёр. Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-11, арк. 94; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 158; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 89, 103, 278; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 123.*

**Грос Феліцыян** – з Мінскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю, член ПНК. З 25.7.1833 да 9.10.1835 член ПДТ. Па рашэнню МГСК аддадзены ў салдаты. *РДВГА-11, арк. 94; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Krawiec L. Lista członków. S. 46.*

**Грос Юзаф** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Самавольна пакінуў ун-т і далучыўся да паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню МГСК забаронена вяртанне ў Расію. *РДВГА-11, арк. 94.*

**Грос Юльян** (н. 8.6.1808) – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. 11.5.1831 далучыўся да паўстанцаў, з 16.6.1831 ппар. 1 палка конных стральцоў. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у лют. 1832, член ПНК. Па рашэнню МГСК забаронена вяртанне ў Расію. *РДВГА-11, арк. 94; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 122.*

**Грудзевіч Еранім** – дваранін з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын памешчыка Рафала. Дзейнічаў з радамысльскімі паўстанцамі, удзельнічаў у бітве пад Углямі, паранены, трапіў у палон. Рашэннем КГСК аддадзены ў рэкруты. *НГАБ-2, арк. 99; РДВГА-11, арк. 94; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Груздзінскі Мікалай** – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Пакінуў ун-т, далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-7, арк. 201.*

**Груздзінскі Севярын** (1806–21.2.1855) – з г. Свянцяны Віленскай губ., сын Тадэвуша і Юзэфы, падафіцэр польск. войскаў. Удзельнік выступлення 29.11.1830, з 19.12.1830 ппар., 16.12.1830 у 3 ул. палку, 13.6.1831 пар. 3.6.1831 атрымаў залаты крыж. Быў паранены і 17.8.1831 трапіў у палон. 31.10.1831 прыбыў са шпіталя ў Варшаву. Аднавіў прысягу расійск. ураду і выехаў у Свянцяны. Рашэннем ад 16.9.1834 прызначаны на 2 г. арыштанцкіх рот. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 125–126.*

**Груздзінскі Яўхім** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 201.*

**Грунвальд** – з Мінскай губ. Маёнтак канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Грыбкавец Емяльян** – селянін памешчыка Ю. Скірмунта з Пінскага пав. Мінскай губ. Збег ад памешчыка, далучыўся да Ц. Пуслоўскага. Трапіў без зброі ў палон. Вернуты памешчыку, які здаў яго ў рэкруты. *НГАБ-2, арк. 97 адв.; РДВГА-11, арк. 93.*

**Грыгаровіч Міхал** (н. 7.11.1805) – з в. Бежлы (?) Гродзенскай губ., сын Матэвуша і Паўліны. У паўстанні радавы 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 82*; *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 157.*

**Грыгор’еў Цімафей** – селянін памешчыка А. Горвата з маёнтка Галоўчыцы Мазырскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча, дзейнічаў узбр., узяты ў палон пры Міхалках. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 аддадзены на ваен. службу. *НГАБ-2, арк. 97 адв.; РДВГА-11, арк. 93.*

**Грыгуц Андрэй** – селянін Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у 18 лін. палку. Удзельнічаў у баях пад Вільняй і Варшавай. Узяты ў палон пад Модлінам. ГГСК вынесла рашэнне аб адпраўцы ў сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 100 адв.; РДВГА-8, арк. 83.*

**Грык (Грыха) Караль** – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у Белавежскай пушчы, удзельнічаў у сутыкненні пры Гаінках.

Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, служыў у 3 пях. палку. Узяты ў палон у Седліцах. Па рашэнню ГГСК ад 16.7.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 100 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 23; ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 54; РДВГА-8, арк. 83.*

**Грымантовіч Нічыпар** (н. каля 1802) – селянін памешчыка І. Дамброўскага з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся з мая 1831 у атрадзе К. Гоцвальта. Вярнуўся на месца жыхарства. Арыштаваны і дастаўлены ў Гродна. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 31*.

**Грыневіч** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., аканом маёнтка Жалудок. Захоўваў кулі. *РДВГА-7, арк. 181*.

**Грыневіч Базыль** – селянін памешчыка Завадскага з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 179.*

**Грыневіч Лявон** – селянін памешчыка Валовіча з Барысаўскага пав. Мінскай губ., жыў у мяст. Будслаў, сын Міхала. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 100; РДВГА-11, арк. 95.*

**Грыневіч Павел** (каля 1811–5.11.1886) – н. у Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні пхар. 4 палка пешых стральцоў. Эмігрыраваў, працаваў ветэрынарам. З 28.7.1833 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Памёр у Мантэ. *НГАБ-2, арк. 100; РДВГА-8, арк. 84; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 97; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 229.*

**Грыневіч Францішак –** дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Фелікса, працаваў у люблінскай канцылярыі. Унтэр-афіцэр 2 ул. палка люблінскага апалчэння. Месцазнаходжанне пасля паўстання засталося невядомым. Па рашэнню МГСК ад 23.3.1834 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 98 адв.; РДВГА-11, арк. 95; Dangel S. Rok 1831. S. 130.*

**Грыневіч Эдвард** (п. 31.10.1843 ?) – н. у Мінскай губ. У паўстанні ппар. Эмігрыраваў, у чэрв. 1838–11.11.1844 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, з 3.5.1841 жыў у Лондане. Памёр у Ліверпулі. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 169; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 75.*

**Грынцкевіч Антоній** – з Гродзенскай губ., адстаўны пар. Валынскага ул. палка. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 85.*

**Грынцэвіч Сцяпан** – селянін з в. Ганчары Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, але хутка збег. *РДВГА-8, арк. 85.*

**Грышкевіч Ігнацій** (каля 1812–1855) – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у в. Глінішча. У фарміраванні Г. Дэмбінскага ппар. 26 пях. палка, адышоў у Варшаву. 5.10.1831 у складзе атрада М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, затым эмігрыраваў. З 27.11.1848 член ПДТ. Памёр у Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 20.2.1833 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 148; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 101 адв.–102; РДВГА-11, арк. 95; Dangel S. Rok 1831. S. 118; Krawiec L. Lista członków. S. 126.*

**Губарэвіч Пётр** – селянін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Д. Хлапоўскага, з якім адышоў у Прусію. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 86–87.*

**Гудзерлей Караль** (10.5.1801–3.9.1841) – з г. Гродна, настаўнік. У паўстанні пар. 6 палка конных стральцоў, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 4.8.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1834 у Монт дэ Марсане стаў членам ПДТ. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 131; Krawiec L. Lista członków. S. 53.*

**Гудзерлей Ян** (п. 6.9.1841) – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., н. у Гродна, ліцэіст. У паўстанні з 13.3.1831, ппар. 6 палка конных стральцоў, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне, 6.3.1833 высланы ў Бержэрак. У маі 1835 звяртаўся за дазволам аб магчымасці навучання медыцыне ў Манпелье, атрымаў дазвол на вучобу ў Бардо. 6.6.1834 у Монт дэ Марсане стаў членам ПДТ. *ND. 1843. S. 136; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 161; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 131; Krawiec L. Lista członków. S. 53; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 210.*

**Гудзінскі Канстанцін** – з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 87.*

**Гудовіч** – манах Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Тайна ўдзельнічаў у паўстанні. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 87.*

**Гуліцкі Дамінік** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Васіля, брат Ксаверыя, Міхала, Фелікса, Юзафа. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. На месца жыхарства не вярнуўся. Рашэннем МГСК прызнаны выгнаннікам. У ліст. 1841 затрыманы ў Галіцыі, адвезены ў Кіеў. Па канфірмацыі віленскага ваен. губернатара ад 11.5.1842 пазбаўлены дваранскага стану і 19.5.1842 сасланы ў Сібір на пасяленне. *НГАБ-2, арк. 103 адв.; РДВГА-11, арк. 96.*

**Гуліцкі Ксаверый** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Васіля, брат Дамініка, Міхала, Фелікса, Юзафа. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. *НГАБ-2, арк. 103 адв.; РДВГА-11, арк. 97.*

**Гуліцкі Міхал** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Васіля, брат Ксаверыя, Дамініка, Фелікса, Юзафа. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Па рашэнню КГСК адпраўлены ў сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 103 адв.; РДВГА-11, арк. 97; Dangel S. Rok 1831. S. 130.*

**Гуліцкі Фелікс** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Васіля, брат Ксаверыя, Міхала, Дамініка, Юзафа. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. *НГАБ-2, арк. 103 адв.; РДВГА-11, арк. 97.*

**Гуліцкі Юзаф** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Васіля, брат Ксаверыя, Міхала, Дамініка, Фелікса. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. *НГАБ-2, арк. 103 адв.; РДВГА-11, арк. 97.*

**Гурневіч Клеменс** (н. 1812) – н. у в. Крывіца Мінскай губ. У паўстанні дзейнічаў у складзе корпуса А. Гелгуда. Адышоў у Прусію. У 1832 прыбыў у Францыю, 4.12.1835 знаходзіўся ў Ліёне. З 21.5.1837 да 19.11.1837 член ПДТ, 20.10.1839 уступіў паўторна. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 318; Krawiec L. Lista członków. S. 79.*

**Гурскі Вінцэнт** (н. 1811) – з Гродзенскай губ., н. у Вількаміры Віленскай губ. У паўстанні вахмістр 4 палка конных стральцоў, з 3.4.1831 ппар., служыў у атрадзе Д. Хлапоўскага. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 8.2.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 88; AGAD, KRW, nr 477, 478; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 107.*

**Гурскі Людвік** (н. каля 1811) – шляхціц з аколіцы Свяноўшчына Лідскага пав. Гродзенскай губ., сын Францішка. У маі 1831 узяты ў атрад Д. Хлапоўскага, з якім дайшоў да Коўна. Захварэў і быў пакінуты ў

шпіталі, дзе трапіў у палон. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 30–31.*

**Гурэвіч Абрам Лезеравіч** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 10.*

**Гур'ян Антоній** – селянін памешчыка Пршэздзецкага з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 218.*

**Гусціневіч Вінцэнт** – рэктар піярскага кляштара ў Лужках Дзісенскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам. Дапамагаў атрадам І. Адахоўскага і Я. Корсака. Па рашэнню МГСК з-за недахопу ўлік пакінуты вольным, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 104 адв.; РДВГА-11, арк. 97; Dangel S. Rok 1831. S. 159.*

**Гутаровіч Станіслаў** – з Вілейскага пав. Мінскай губ. Меў дачыненне да паўстання. У чэрв. 1831 аддадзены на парукі пав. маршалка. *Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

## Д

**Дабашынскі Міхал** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Яўхіма, брат Стэфана, Антонія, служыў у польск. войсках. У час паўстання знаходзіўся ў КП, ппар. 15.3.1831 адзначаны залатым крыжам. Па рашэнню МГСК ад 31.8.1833 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 119; РДВГА-11, арк. 105; Księga pamiątkowa. S. 107; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Дабашынскі Стэфан** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., уладальнік мяст. Міёры, сын Яўхіма, брат Міхала, Антонія. Падпісаў Акт канфедэрацыі. Прызначаны на пасаду галоўнага казначэя ўрадавага к-та ў Лужках, сваіх абавязкаў не выконваў. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 108 адв.; РДВГА-11, арк. 105; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Дабілевіч Юзаф** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 268*.

**Дабкевіч Францішак** (5.2.1805–22.10.1865) – з Мінскай губ., настаўнік Маладзечанскага вуч., кандыдат філасофіі. Прысягнуў паўстанцам, удзельнічаў у сходзе ў Маладзечне, рэдагаваў адозвы. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 атрымаў дараванне. Пахаваны ў Мінску на Кальварыйскіх могілках. *НГАБ-2, арк. 111 адв.; РДВГА-11, арк. 104; AGAD, MMK, nr 4; Czerniawska T., Jaroszewicz A. Rzymsko-Katolicki Cmentarz. S. 155; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Дабравольскі** – з Мінскай губ., аканом маёнтка Пуслоўскага. Выконваў загады Ц. Пуслоўскага, рыхтаваў харчаванне для паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 120; РДВГА-11, арк. 106.*

**Дабравольскі Аляксандр** – з Гродзенскай губ., камердынер. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 96.*

**Дабрасельскі Клеменс Андрэй** (23.11.1806–28.7.1862) – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Стroблі Беластоцкай вобл., сын Аляксея і Дамінікі Цульбін, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні пачаткова падафіцэр атрада Ю. Заліўскага, затым Д. Хлапоўскага, пасля належаў да корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У чэрв. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладаў у Буржэ, Безансоне, Шатору. 1.8.1839 ажаніўся з француженкай. Працаваў інструктарам. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 120; РДВГА-8, арк. 97; MWP, 40 H; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 370; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 160, 303.*

**Дабржанскі Томаш** (н. 21.12.1776) – з маёнтка Лясковічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., афіцэр польск. войскаў. У паўстанні з 1.2.1831, 5.9.1831 маёр. 11.10.1831 прыбыў у Варшаву. Аднавіў прысягу на аддanасць расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 353, 478, 545; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 375.*

**Дабржанскі Юзаф** (1812–4.3.1841) – з Гродзенскай губ., вучань Віленскай гімназіі, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 1 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ, затым Шатору, пазней накіраваны ў Кальвадос. З’яўляўся капельмайстарам у Нацыянальнай

гвардыі ў Віры. Памёр у Кальвадосе. *ND. 1843. S. 135; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 111, 160; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 118.*

**Дабржынскі Караль** – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., аканом. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 96.*

**Дабыкоўскі Вінцэнт** – селянін памешчыка Ю. Крушэўскага з маёнтка Холмеч Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Уваходзіў у атрад Бараноўскага, які дзейнічаў у Мазырскім пав., узяты ў палон пад Мухаедамі. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аддадзены ў салдаты. *НГАБ-2, арк. 120 адв.; РДВГА-11, арк. 106; Dangel S. Rok 1831. S. 125–126.*

**Далубоўскі Іван** – памешчык з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Тайна рыхтаваўся да паўстання, меў намер стварыць асобны паўст. атрад. Узяты пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 98.*

**Далькевіч Рафал** – дваранін Оўруцкага пав. Валынскай губ., жыў у Рэчыцкім пав. Мінскай губ., сын Міхала. Удзельнічаў у сутыкненні пад Углямі, затым пакінуў паўстанцаў і далучыўся да атрада Туталміна. Па рашэнню МГСК ад 14.8.1833 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 106; РДВГА-11, арк. 98; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Даманоўскі Ян** – шляхціц з г. Слуцка Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Па рашэнню КГСК аддадзены ў рэкруты. *Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Дамейка Адам** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Гіпаліта і Караліны, брат Ігнацыя. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 101.*

**Дамейка Аляксандр** (1812– 17.12.1871) – памешчык з Гродзенскай губ., студэнт ф-та права Віленскага ун-та. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, падафіцэр 13 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю, з вер. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Шатору. Памёр у Ля-Рашэлі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 122 адв.; РДВГА-8, арк. 100; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76, 79; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 160; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 120; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Дамейка Ігнацій** (31.7.1802–23.1.1889) – памешчык з маёнтка Мядзвядка Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Гіпаліта і Караліны, брат

Адама. У 1816 скончыў школу піяраў у Шчучыне, у 1822 фіз.-матэм. ф-т Віленскага ун-та, атрымаў ступень магістра матэматыкі. У 1819 уваходзіў у студэнцкае т-ва Саюз сяброў, затым т-ва філаматаў. Восенню 1823 арыштаваны і высланы пад нагляд паліцыі ў в. Заполле (Лідскі пав.) без права ўладкавання на дзяржаўную службу. 31.5.1831 далучыўся да корпуса Д. Хлапоўскага, ад'ютант 25 пях. палка. 13.7.1831 у складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі, часова знаходзіўся ў Дрэздэне. У ліп. 1832 эмігрыраваў у Францыю. Вывучаў хімію і мінералогію ў Сарбоне і Калеж дэ Франс. Жыў у Парыжы разам з А. Міцкевічам. Член ТЛРЗ, Т-ва навуковай дапамогі, з 1832 Гісторыка-літаратурнага т-ва, АПЭ. У 1834–37 вучыўся ў Горнай школе ў Парыжы, якую скончыў з дыпломам. 3.6.1838 пераехаў па кантракту ў Чылі. З 1838 прафесар мінералогіі Горнай школы г. Какімба, з 1846 – Чылійскага ун-та, узначальваў кафедру хіміі, затым у 1867–83 рэктар ун-та. 7.7.1850 ажаніўся з чылійкай, меў дачку Аніту, сыноў Гернана і Казіміра. У 1884 на чатыры гады выехаў на радзіму. Памёр у Сант'яга. Прысвоена званне нац. героя Чылі. Пакінуў успаміны. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. з канфіскацыяй маёмасці. На справе, пасля ўдакладнення маёмасных правоў, Дамейка павінен быў уносіць у казну трэцюю частку ад даходу, гэты абавязак быў ускладзены на брата Адама. *Філаматы і філарэты. С. 279–288; Domeyko I. Powstanie 1830–1831 r. na Litwie. S. 1–28; яго ж: Moje podróże; яго ж: Listy do Władisława Laskowicza; яго ж: Pamiętniki; НГАБ-2, арк. 122 адв.; РДВГА-8, арк. 101; Chłapowski D. Pamiętniki. Cz. II. S. 68; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830–31 гадоў у лёсе Ігнація Дамейкі; Кудаба Ч. Вклад Игнатия Домейки; Словік С. З гісторыі сядзіб. С. 416; ЭГБ. Т. 3. С. 203; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 45–67; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 381; Brzoza J. Ignacy Domeyko; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 99; Gadon L. Z życia Polaków. S. 116; яго ж: Emigracja polska. T. 2. S. 334; T. 3. S. 40, 44, 271;*



**Ігнацій Дамейка.**
*Акварэльны партрэт Ю. Куроўскага*

*Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 252; Kośka M. Ignacy Domeyko; Rederowa D. Polski emigracijny ośrodek. S. 103; Szwejcerowa A. Ignacy Domeyko; Wójcik Z. Ignacy Domeyko.*

**Дамейка Люцыян** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша. Служыў у ганаровай гвардыі ў Варшаве. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК 13.1.1834 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 122 адв.; РДВГА-11, арк. 109; Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Дамейка Міхал** – дваранін з Гродзенскай губ., карнет гус. палка. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца. Пазбаўлены дваранскага стану, разжалаваны ў радавыя. *РДВГА-8, арк. 102.*

**Дамейка Тадэвуш** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Казіміра, б. падкаморы. Пастаўляў кантаністаў. Па рашэнню МГСК 19.1.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 110 адв.; РДВГА-11, арк. 109; Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Данброўскі (Дамброўскі) Антоній** – з Гродзенскай губ., рэгент Навагрудскага суда. Служыў у паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 124; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 99; DS. T. 6. S. 385.*

**Данброўскі (Дамброўскі) Каспер** – з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 100.*

**Данброўскі Мікалай** (н. 20.3.1792) – з Гродзенскай губ., н. у в. Паскевічы, сын Тадэвуша і Тэрэзы, пар. польск. войскаў. У паўстанні з 3.4.1831 кап., прыбыў у складзе плоцкага войска ў Варшаву. 13.10.1831 аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 342, 478, 479, 571; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 352.*

**Данброўскі (Дамброўскі) Міхал** – памешчык з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 99.*

**Данброўскі Пётр** (12.11.1812–29.5.1888) – з Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка. 4.8.1832 на караблі “Лакс” прыбыў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ, 25.6.1833 накіраваны

ў Каор. З 1.3.1840 член ПДТ. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 113; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 139; Krawiec L. Lista członków. S. 89.*

**Данброўскі Ян** – пробашч Цімкавіцкай каталіцкай парафіі Слуцкага пав. Мінскай губ. Не паведаміў уладам пра сходы паўстанцаў у Цімкавіцкім касцёле. Па рашэнню МГСК ад 5.10.1831 справа з-за недахопу ўлік прыпынена, на 1 г. узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 124; РДВГА-11, арк. 110; AGAD, KRW, nr 330, 478, 553; Rps BUW, nr 2327.*

**Данброўскі Ян** (н. 27.12.1785) – з Гродзенскай губ., кап. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 маёр 2 палка лін. пяхоты. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў застаўся ў Варшаве, аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 349.*

**Данейка Аляксандр Браніслаў** (6.4.1809–19.4.1884) – з Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю. З 17.1.1834 да 7.8.1841 член ПДТ. Памёр у Ліёне. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 79; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 110; Krawiec L. Lista członków. S. 50.*

**Данеўскі Мікалай** – дваранін з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 90.*

**Данілеўскі Іван** – селянін з Гродзенскай губ. Служыў добраахвотна ў паўстанцаў. Узяты за бадзяжніцтва. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 89.*

**Данілецкі Павел** – селянін памешчыка Варашылы з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., сын Івана. Знаходзіўся ўзбр. у Белавежскай пушчы ў атрадзе Я. Шрэтара. Па рашэнню ГГСК ад 8.7.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 112 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 71; РДВГА-8, арк. 89.*

**Даноўскі Мікалай** – з Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. *РДВГА-11, арк. 98.*

**Дарагашчук** – селянін ксяндза Гарадзецкага Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 102.*

**Дарашэвіч Г.** – ксёндз з г. Ашмяны Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 243.*

**Даркшэвіч (Дашкевіч) Клеменс** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў, радавы ў атрадзе Ф. Адахоўскага. Удзельнічаў у нападзенні на паштовыя станцыі. Па рашэнню МГСК ад 12(14).5.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 115 адв.; РДВГА-11, арк. 100; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Даркшэвіч Юзаф** – дваранін з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Падпісаў Акт канфедэрацыі, выканаў прысягу, але застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. і вызвалены ад далейшага праследавання. *НГАБ-2, арк. 113 адв.; РДВГА-11, арк. 98; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Дарэўскі Антоній** (15.10.1774–25.1.1838) – з мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., сын Ежы. Скончыў Варшаўскі кадэцкі корпус, ген. польск. войскаў. У паўстанні 14.1.1831 шэф ваен. інтэнданцтва, 30.1.1831 падаў у адстаўку. Пасля капітуляцыі Варшавы ўзнавіў прысягу на адданасць расійск. ураду. *Źródła do dziejów. T. 1. S. 170; T. 4. S. 279; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 343–344; PSB. T. 4. S. 434–435; Tokarz W. Wojna polsko-rosyjska.*

**Даўгяла (Даўгвіла) Барталамей (Варнава) –** шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сакратар вілейскага маршалка. У паўстанні першапачаткова кіраваў вілейскім пав. казначэйствам, затым сакратар вілейскага ўрадавага к-та. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 120 адв.–121; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 5; Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Даўгяла Пётр** – дваранін са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Філіпа, працаваў перакладчыкам рус. мовы. У паўстанні ппар. спачатку 17, затым 18 палка лін. пяхоты, з 5.9.1831 ад’ютант ген. Серакоўскага, 6.9.1831 кап. Прыбыў у Варшаву ў складзе атрада Г. Дэмбінскага. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. Пасля капітуляцыі Варшавы аднавіў прысягу расійск. ураду. Па рашэнню МГСК ад 23.9.1833 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 121 адв.; РДВГА-11, арк. 107; AGAD, WCPL, nr 724, k. 111; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 137; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 383; Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Даўгяўтовіч Банавентура** – клірык Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Тайна ўдзельнічаў у паўстанні. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 97.*

**Дваржэцкі Фердзінанд** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў, вырабляў для атрада І. Адахоўскага пікі. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 110; РДВГА-11, арк. 100; Dangel S. Rok 1831. S. 127.*

**Дваржэцкі Ян** (10.10.1812–28.10.1847) – з Вілейскага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та, паэт. У паўстанні спачатку дзейнічаў у партызанскім атрадзе, затым ппар. 12 ул. палка. 13.7.1831 з атрадам А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі. 26.2.1832 эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, 23.5.1833 накіраваны ў дэп. Кальвадос, жыў у Канах. З 1832 член ПНК, з 2.12.1833 член ПДТ, у 1837 увайшоў у АПЭ. У кастр. 1837 выехаў у Англію, затым у Бельгію. У 1846 выконваў абавязкі сакратара гміны ў АПЭ. У 1839–48 у Бруселі (Бельгія) разам з В. Тышкай і К. Залескім рэдактар двухтыднёвіка "Orzeł Biały". Супрацоўнічаў з І. Лялевелем. Памёр у Бруселі. *AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 226; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 126; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 95, 222; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 399; PSB. T. 6. S. 27; Krawiec L. Lista członków. S. 49; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 149.*

**Дварэнскі Іван** – селянін памешчыка Т. Шукевіча са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 90*.

**Двярніцкі Юзаф** (19.3.1779–22.11.1857) – польск. ген., удзельнічаў у кампаніі 1812–14. 14.2.1831 вызначыўся ў бітве пад Стачком (Польшча), за што 18.2.1831 атрымаў чын ген. дывізіі. У маі 1831 на чале асобнага корпуса накіраваны на Валынь для дапамогі мясцовым паўстанцам. 27.4.1831 перайшоў аўстрыйскую мяжу. 29.5.1832 прыбыў у Страсбург, адкуль 28.6.1832 выехаў у Парыж. 28.8.1832 абраны старшынёй Польск. нацыянальнага к-та. Выступаў супраць арганізацыі экспедыцыі Ю. Заліўскага. 9.3.1836 стаў на чале Канфедэрацыі польск. народа, за што ў крас. 1836 высланы ў Лондан, дзе ўзначальваў К-т польск. эміграцыі. У 1840 вярнуўся ў Францыю, адыграў значную ролю ў арганізацыі польск. школы ў Баціньёлі. 20.4.1848 выехаў у Львоў, асталяваўся ў в. Лапаціна. Пакінуў успаміны. *Dwernicki J. Pamiętniki; AGAD, WCPL, nr 581; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 158; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 398; Gruss N. Szkoła Polska; Hoffman J. Legia; Chołodecki B. J. Korpus Dwernickiego; Paszkiewicz M. Lista emigrantów; Trzy powstania narodowe.*

**Джавіцкі Сымон** – з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-11, арк. 110.*

**Дзванкоўскі Валяр'ян** (п. 30.9.1877) – з Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Адзін з арганізатараў адыходу з Вільні атрада акадэмічнай моладзі, ппар. 6 палка конных стральцоў, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 эмігрыраваў у Францыю, сям'я засталася па месцу сталага жыхарства. У 1832 член ПНК. *AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 130; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 97, 250, 277; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 410.*

**Дзенісевіч Рыгор** – селянін памешчыка Ю. Скірмунта з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Сцяпана. Узяты ў в. Дубай у атрад Ц. Пуслоўскага, вярнуўся да свайго памешчыка. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 106; РДВГА-11, арк. 101.*

**Дзеражынскі Станіслаў –** з Магілёўскай губ., кап. польск. войскаў. У паўстанні кап. 3 палка конных стральцоў, ад'юнкт галоўнага штаба. 2.10.1831 прыбыў у Варшаву. 13.10.1831 аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 405.*

**Дзерулевіч Казімір** – селянін памешчыка Тызенгаўза з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 328.*

**Дзіваловіч (Дзівіловіч) Юзаф** – дваранін з Віцебскай губ., арандатар маёнтка Узрэчча Дзісенскага пав. Актыўна ўдзельнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў, падпісаў Акт канфедэрацыі, займаў пасаду камісіянера па забеспячэнню харчаваннем, меў стасункі з В. Брахоцкім. З'явіўся да ўлад у Глыбокім. Па рашэнню МГСК ад 15.9.1831 аднесены да 3 разр. зл., утрымліваўся 2 мес. у Бабруйскай крэпасці, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 108; РДВГА-7, арк. 258; ч. 11, арк. 101; Dangel S. Rok 1831. S. 127.*

**Дзідулевіч Іван** – селянін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 94.*

**Дзікуч (Дзікуш) Антон** (н. 25.3.1809) – з Гродзенскай губ., н. у в. Багатня, сын Людвіка і Францішкі. У паўстанні радавы 13 палка пе-

шых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 93; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 130.*

**Дзішко (Дзяжко) Сцяпан** – селянін памешчыка Мучынскага з маёнтка Радзівановічы Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ўзбр. сярод паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК ад 20.8.1831 адпраўлены ў Табольск для прызначэння ў сібірскія лін. батальёны. Выкарыстаўшы імя Івана Залеўскага, які атрымаў дараванне, збег у Гродзенскую губ. Арыштаваны і па рашэнню камісіі ад 10.8.1832 зноў адпраўлены ў сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 117; РДВГА-8, арк. 93; Швед В.В. Падзеі і постаці. С. 138.*

**Дзмітрыеўскі Аляксандр** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дастаўляў паўстанцам паштовых коней і пікі. *РДВГА-7, арк. 266*.

**Дзявалка Ян** – з Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам у мяст. Маладзечна. Месца знаходжання пасля заканчэння ваен. дзеянняў засталося невядомым, пры разглядзе справы 21.12.1831 рашэнне МГСК не вынесена. *НГАБ-2, арк. 116; РДВГА-11, арк. 100.*

**Дзядзерка (Дзядэрка) Ян** (1793–2.1838) – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні вахмістр дзісенскага апалчэння. Разам з Янам і Яўхімам Корсакамі арганізаваў нападзенне на пошту ў Маладзечне. Радавы 13 ул. палка фарміравання Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў у Францыю, дзе і памёр. *НГАБ-2, арк. 110; РДВГА-7, арк. 247; AGAD, WCPL, nr 724, k. 81; ND. 1843. S. 134; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 114; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Дзяканскі Ануфрый** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Захоўваў паўст. адозву. *РДВГА-7, арк. 256*.

**Дзяковіч Ксаверый** (30.12.1808–18.6.1841) – з Віцебскай губ., н. у Віленскай губ. У паўстанні з 19.3.1831, 8.9.1831 ппар. у атрадзе Т. Мірскага, затым у 2 ул. палку. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. Перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. 9.5.1831 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Буржэ, дзе 16.1.1833 далучыўся да ПДТ. У 1840 перабраўся ў Гаўр і выехаў у Англію. Памёр у Лондане. *РДВГА-7, арк. 261; Księga pamiątkowa. S. 166;*

*ND. 1843. S. 135; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 127; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 404; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 111, 222; Krawiec L. Lista członków. S. 43; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 106.*

**Дзяковіч Панкрат** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ., студэнт Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 261*.

**Дзяржак Адрыян** – манах Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Тайна прымаў удзел у паўстанні. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 92*.

**Дзяржбінскі Ян** (1.1798 (1802 ) – 28.1.1865) – з Магілёўскай губ., н. у в. Сербы. Удзельнічаў сярод падольскіх паўстанцаў у чыне ппар. Эміграваў у Англію, з 10.6.1834 да студз. 1865 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, 6.9.1834 падпісаў статут эміgranцкай гміны ў Лондане, з 3.5.1841 жыў у Лондане. З 15.8.1834 член ПДТ. У 1856 асудзіў царскую амністыю ў дачыненні да былых паўстанцаў. Памёр у Сант-Клеменце (Англія). *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 128; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 406; Krawiec L. Lista członków. S. 55; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 72; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 154.*

**Длужнеўскі Тадэвуш** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Выконваў абавязкі казначэя ў дзісенскім апалчэнні. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 109 адв.; РДВГА-11, арк. 103; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Длужнеўскі Цыпрыян** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Пад час паўстання ездзіў на разведку ў Віцебскую губ. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 109; РДВГА-11, арк. 103; Dangel S. Rok 1831. S. 125.*

**Длускі Ануфрый** (20.8.1813–1864) – дваранін з мяст. Лябёдка Лідскага пав. Гродзенскай губ., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. Эміграваў у Францыю, куды прыбыў у жн. 1832, да 6.8.1833 знаходзіўся ў закладзе ў Шатору. У 1836–38 вывучаў медыцыну ў Манпелье, 15.10.1838 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Ньеўр. 24.3.1860 атрымаў французскае грамадзянства. Памёр у Пуілі сюр Луар. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 117 адв.; РДВГА-8, арк. 94; MWP, 40 H; Bartkowski J. Spis Pola-*

*ków zmarłych. S. 116*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 160; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 367; Konarska B. Polskie drogi. S. 249.*

**Длускі Каспер** – ксёндз касцёла г. Навагрудка Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца, затым капелан 13 ул. палка, у складзе корпуса Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 з атрадам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У сак. 1832 прыбыў у Францыю, з’ўляўся капеланам закладу Салі. У чэрв. 1856 знаходзіўся яшчэ ў Францыі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 117 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 94–95; DS. T. 6. S. 386; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 95, 309; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 367; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 221; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Дмахоўскі Аўрэліян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., старшыня Ашмянскага межавага суда. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, уваходзіў у склад ашмянскага ўрадавага к-та. З’явіўся з раскаяннем. *РДВГА-7, арк. 267; ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9 адв.*

**Дмахоўскі Вінцэнт** (1805–6.3.1862) – памешчык з в. Нагадаровічы (каля Дзятлава) Слонімскага пав. Гродзенскай губ., жывапісец, б. студэнт Віленскага ун-та, у 1826–29 займаўся мастацтвам у Я. Рустэма, служыў у расійск. войсках. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы, пхар. 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 у складзе атрада М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў, прасіў літасці. У 1837 вярнуўся ў Вільню, дзе займаўся мастацтвам. У 1855–58 жыў у в. Брацянка Навагрудскага пав. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 118; РДВГА-8, арк. 94–95; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 386;*



Вінцэнт Дмахоўскі

*ЭГБ. Т. 3. С. 258; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 368; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 96; Kaczkowski J. Konfiskaty; PSB. T. 5. S. 210.*

**Дмахоўскі Генрык** (14.10.1810–14.5.1863) – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у Вільні, сын Міхала і Ганны, скончыў ф-т права Віленскага ун-та, д-р права, скульптар. У паўстанні пар., дзейнічаў у атрадзе Ю. Заліўскага. 10.8.1831 у Варшаве ўдзельнічаў у Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў у Галіцыю. 22.11.1831 атрымаў французскі пашпарт і выехаў у Авіньён. Адзін з заснавальнікаў ТЛРЗ, у 1832 член ПНК. У 1833 удзельнік экспедыцыі Ю. Заліўскага, ад'ютант, дзейнічаў на Валыні і Палессі, пасля чаго вярнуўся ў Галіцыю. З 2.5.1834 за рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны і асуджаны аўстрыйскімі ўладамі на 5 г. астрога. 13.6.1841 вызвалены і з эскортам адпраўлены ў Трыест. Атрымаў дазвол на пераезд у Францыю, прыбыў у Марсель, дзе яго ўзяў пад апеку В. Пяткевіч. У 1841–51 у Францыі, вучыўся ў мастацкай школе, у 1848 адбылася выстава яго твораў. З 26.4.1846 да 28.8.1847 член ПДТ. У 1851 выехаў у Лондан, у 1852 у Паўночную Амерыку, жыў у Філадэльфіі. У 1861 вярнуўся ў Францыю, адкуль пераехаў у Вільню, дзе паставіў помнік Б. Радзівіл. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1863, камісар Дзісенскага пав., узначальваў атрад. Загінуў у баі пад в. Парэчча Барысаўскага пав. *Rps BN, III. 6594; DS. T. 6. S. 444; Konarski S. Dziennik. S. 173; Кісялёў Г. Героі і музы; ЭГБ. Т. 3. С. 259; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 367–368; Chołodecki B.J. Emisariusz Henryk Dmochowski; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 255–267; Henryk Dmochowski; Hedemann O. Historia powiatu. S. 219–220; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 96; PSB T. 5. S. 206–207; Krawiec L. Lista członków. S. 95; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 131.*

**Дмахоўскі Уладзімір** (14.1.1814–19.9.1882) – з в. Нагадаровічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., студэнт ф-та права Віленскага ун-та. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Шатору, затым у Ле Пюі, Парыжы. З 29.7.1833 член ПДТ. У 1842 у г. Рэн вучыўся ў падрыхтоўчай мед. школе. З 1846 вывучаў медыцыну ў Парыжы, атрымаў дыплом у 1852, працаваў у дэп. Эрэлуар. Памёр у Шартры. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; DS. T. 6. S. 386; Bartkowski J. Spis Polaków*

*zmarłych. S. 116*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 160, 178; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 68; Konarska B. Polskie drogi. S. 249; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 132.*

**Дмухоўскі Караль** – памешчык з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 26.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 118; РДВГА-8, арк. 94; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Доўгінт Антоній –** ксёндз Гродзенскага дамініканскага кляштара. Захоўваў супрацьурадавыя паперы. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 533, арк. 1–3.*

**Доўнар Казімір** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., канцылярыст ашмянскага казначэйства. Служыў у пях. палку ашмянскага апалчэння, 4.4.1831 удзельнічаў у захопе астрога. З’явіўся з раскаяннем. *РДВГА-7, арк. 282.*

**Доўх Іван** – з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 102.*

**Драздоўскі Станіслаў** (н. 15.11.1810–4.2.1885) – з Браслаўскага пав. Віленскай губ. У паўстанні з 2.7.1831 ппар. 11 ул. палка, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у 1832, член ПНК. Вывучаў медыцыну ў Ам’ене (1835), затым у Парыжы, 23.6.1843 атрымаў дыплом д-ра медыцыны. У кастр. 1844 выехаў у Бельгію, затым у Турцыю, жыў у Стамбуле, дзе працаваў д-рам. Выконваў абавязкі афіцыйнага прадстаўніка А. Чартарыйскага, праводзіў перамовы з турэцкімі ўладамі. Памёр у Адампалі (каля Стамбула). *AGAD, PFR, nr 7; EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 92; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 387; Lewak A. Dzieje emigracji polskiej; Mickiewicz W. Żywot A. Mickiewicza. T. 4. S. 427; Konarska B. Polskie drogi. S. 253; PSB. T. 5. S. 395; Szarejko P. Słownik lekarzy. T. 1. S. 151.*

**Држэвецкі (Дрэжавецкі) Сымон** (н. 3.2.1798) – з маёнтка Старына Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Пятра і Марыі Матушэвіч, служыў у расійск. арміі. У паўстанні радавы 7 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. З 7.10.1838 член АПЭ, 17.5.1846 член ПДТ. У студз. 1851 адплыў з Гаўра ў Амерыку, загінуў у катастрофе. Па рашэнню МГСК ад

29.9.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-2, арк. 124 адв; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 127; Dangel S. Rok 1831. S. 117; Krawiec L. Lista członków. S. 98.*

**Дробат Сцяпан** – селянін памешчыка Каранецкага з Пінскага пав. Мінскай губ., ткач. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, адкуль збег і вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 106 адв.; РДВГА-11, арк. 111.*

**Дрозд Васіль** – селянін памешчыка Паўловіча з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў прымусова, збег. Затрыманы ў Гродна. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 103.*

**Друцкі-Любецкі Грацыян –** кн., дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Караля. Служыў у КП у 4 егерскім палку радавым, забіты ў бітве. Па рашэнню МГСК ад 23.3.1834 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 126 адв.; РДВГА-11, арк. 113; Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Друцкі-Любецкі Уладзіслаў (Уладзімір)** – кн., памешчык з Мінскай губ., сын Караля. Знаходзіўся ў час паўстання ў КП. *НГАБ-2, арк. 126 адв.; РДВГА-11, арк. 112*.

**Дубаздзеленка Якуб** – селянін памешчыцы Скірмунтавай з маёнтка Каралін Мазырскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў узбр. у атрадзе Ф. Кеневіча ў Мазырскім пав. Узяты ў палон пад Міхалкамі. *НГАБ-2, арк. 129; РДВГА-11, арк. 116.*

**Дубачэўскі Юзаф** – селянін памешчыка Паўлоўскага са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у кавалерыі. Узяты ў палон пад Коўна, адпраўлены ў Дынабургскую крэпасць, адкуль збег. Злоўлены і аддадзены пад ваен. суд, пастановай якога асуджаны на ссылку на Каўказ. *НГАБ-2, арк. 127 адв.; РДВГА-8, арк. 103; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 144*.

**Дубікоўскі Феліцыян –** шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Кароткачасова знаходзіўся сярод паўстанцаў. Вярнуўся на месца сталага жыхарства. *Dangel S. Rok 1831. S. 156.*

**Дубінскі Міхал** – селянін памешчыка Ю. Крушэўскага з Мазырскага (?) пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, удзельнічаў у бітвах супраць расійск. войскаў у складзе атрада Бараноўскага. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 прызначаны да аддачы ў салдаты. *НГАБ-2, арк. 128 адв.; РДВГА-11, арк. 115.*

**Дубіскі Іван** – дваранін з Гродзенскага (Навагрудскага?) пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Прусію, прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК аднесены да 3 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 104*.

**Дубіцкі Базыль** – селянін памешчыцы Эйсмантавай з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 316*.

**Дубіцкі Марцін** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 316.*

**Дубіцкі Мацвей** – селянін з в. Казлоўшчына Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Уваходзіў у атрад А. Бронскага, затым Г. Дэмбінскага, з якім дайшоў да Варшавы. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 104.*

**Дубовіч Рамуальд –** дваранін з Вілейскага пав. (?) Мінскай губ., сын Тадэвуша, прыватны настаўнік. Выканаў прысягу ў Маладзечне, але застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. з вызваленнем ад далейшага праследавання. *НГАБ-2, арк. 114.*

**Дубоўскі Васіль** – селянін памешчыка К. Тызенгаўза з маёнтка Паставы Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Кандрата. Знаходзіўся ў атрадзе С. Радзішэўскага. Прымаў удзел у бітвах. Па рашэнню МГСК прызначаны да аддачы салдатам у сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 128 адв.; РДВГА-11, арк. 116; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 132, lp. 1–8.*

**Дубскі Юзаф** – селянін памешчыка Солтана са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 315*.

**Дудзін Караль Платон** (н. 1808) – з Мінскай губ., служыў у расійск. войсках. У паўстанні з 25.4.1831 ппар., 3.5.1831 ппар. 4 палка лін. пяхоты, 16.9.1831 пар. 15.9.1831 атрымаў залаты крыж, паранены пад Варшавай. У ліст. 1832 эмігрыраваў у Францыю. З 7.8.1833 член ПДТ. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 392; Krawiec L. Lista członków. S. 44; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 146.*

**Дудзінскі Томаш** – селянін са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Г. Дэмбінскага, радавы 3 палка пешых стральцоў, адышоў у Варшаву. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 54; Bieliński K. Rok 1831. S. 121*.

**Дудка Пракоп** – селянін памешчыка Пршыгоцкага з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 318.*

**Дук Ян** (28.9.1798–22.6.1849) – з Гродзенскай губ., сын Лукаша і Анастасіі Брашэвіч. У паўстанні радавы 4 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Пасля вяртання ў Францыю ажаніўся з француженкай. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 128.*

**Дульскі Ян** – з Мінскай губ., калежскі сакратар, б. наглядальнік Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам, перадаў ім школьную касу. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 111; РДВГА-11, арк. 117; AGAD, MMK, nr 4; Dangel S. Rok 1831. S. 127.*

**Дыдалевіч Юсцін** – з Мінскай губ., губернскі сакратар, б. настаўнік Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 прызнаны вольным. *НГАБ-2, арк. 107; РДВГА-11, арк. 118; Dangel S. Rok 1831. S. 127.*

**Дылеўскі Юльян** (21.4.1792–1841) – з г. Слоніма Гродзенскай губ., кап. польск. войскаў. У паўстанні кап. пры штабе губернатара Варшавы, з 13.9.1831 камендант галоўнай кватэры. 4.10.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 перайшоў з корпусам М. Рыбінскага ў Прусію, інтэрніраваны. 15.2.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 460; Księga pamiątkowa. S. 165; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 402.*

**Дэмбінскі Генрык** (16.1.1791–13.6.1864) – польск. ген., удзельнік кампаніі 1812–14. Пад час паўстання арганізатар узброеных сіл у Кракаўскім ваяв., 29.4.1831 ген. брыгады. У пачатку чэрв. у складзе польск. войскаў яго атрад уступіў на тэрыторыю Віленскай губ. Пасля няўдалага штурму Вільні 19.6.1831 на чале асобнага фарміравання з 4 тыс. чал. здзейсніў адыход праз Гродзенскую губ. За вайсковую мужнасць удзельнікі гэтай кампаніі атрымалі ад сейма дыплом "Добра паслужыўшых Айчыне". З 7.8.1831 губ. Варшавы. 5.10.1831 з корпусам Ф. Роланда перайшоў межы Прусіі. У эміграцыі пачаткова ў Дрэздэне, дзе апісаў падзеі літоўскай кампаніі. З восені 1832 у Парыжы, падтрымліваў палітыку А. Чартарыйскага. У 1834 уступіў у егіпецкую армію. З 1849 у венгерскай арміі. Пазней вярнуўся ў Фран-

цыю, памёр у Парыжы, пахаваны на Мантмарэнсі. *Dembiński H. Pamiętnik; яго ж: Pamiętniki o powstaniu w Polsce; AGAD, WCPL, nr 724; Rps BUW, PJK, nr 562; MWP, 40 H; Chłapowski D. Pamiętniki. Cz. II; Konarski S. Dziennik; Księga pamiątkowa; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 117; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі; История Польши. С. 448; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2. С. 397; Пузыревский А.К. Польско-русская война. Т. 1. С. 331; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 358; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 202; PSB; Szyndler B. Henryk Dembiński; Skowronek J. Cmentarz polski w Montmorency; Trzy powstania narodowe.*

**Дэмбскі Віктар** (н. 10.8.1807) – з Гродзенскай губ., н. у в. Навасады, сын Стэфана і Марціны. У паўстанні радавы 13 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. 16.1.1835 вярнуўся ў Францыю, жыў у Ліёне, дзе 30.12.1835 стаў членам ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 116; РДВГА-8, арк. 92; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 120; Krawiec L. Lista członków. S. 68.*

# Е

**Ельскі Адам** – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у пях. палку прымусова. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 109.*

**Ельскі Канстанцін** – селянін з Віцебскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 349.*

**Ерамейчык Іван** – селянін з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 110.*

**Ермаловіч Аляксандр** – селянін памешчыка К. Пілецкага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Юрыя. Служыў у атрадзе Г. Дэмбінскага, з якім дайшоў да Варшавы, дзе быў уведзены ў склад 26 пях. палка. Апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 373*.

**Ермаловіч (Ермантовіч) Мікалай** (1790–20.9.1843) **–** са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Блушын (Блячын ?), сын Леана і Тэадоры Касцюшка, ппар. польск. войскаў. У паўстанні ппар. 3 палка пешых стральцоў, 6.2.1831 пар., 24.3.1831 кап. 11.3.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. У студз. 1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Францыі. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 189; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 219*.

**Ермаловіч Юрый** – селянін памешчыка К. Пілецкага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Аляксандра. Служыў у атрадзе Г. Дэмбінскага, з якім дайшоў да Варшавы, дзе быў уведзены ў склад 26 пях. палка. Апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 373.*

**Ермантовіч Вінцэнт** – селянін з в. Моўчадзь Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Памешчыкам А. Бронскім дастаўлены ў атрад Г. Дэмбінскага. Апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 373.*

**Ерх Павел** – з Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 111.*

**Еўдакімаў Васіль (Іваноў Валяр’ян)** (н. каля 1810) – шляхціц з Мінскай губ., юнкер расійск. войскаў. Служыў у паўстанцаў ппар. Па канфірмацыі І. Паскевіча ад 1833 адпраўлены на катаржныя работы. У вер. 1834 прыбыў у Табольск. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 246.*

**Ешакевіч Юзаф** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 358.*

# Ж

**Жаба Антоній** (каля 1778–17.7.1857) – з Магілёўскай губ., сын Ігнацыя. Удзельнічаў у паўстанні. Утрымліваўся ў Бабруйскай крэпасці. За падбухторванне салдат да супраціўлення ў 1834 адпраўлены ў 13 сібірскі батальён. З 1834 знаходзіўся ў Іркуцку, жыў пры рымска-каталіцкім касцёле. Падазраваўся ў арганізацыі падрыхтоўкі да паўстання. У 1837 губ. С. Бранеўскім высланы ў Якуцк у аддзел інвалідаў. (А. Гілер пазначае, што сродкам для яго існавання з'яўлялася гульня ў карты). Памёр у Іркуцку. *Giller A. Z wygnania. T. 2. S. 63; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 722*.

**Жагілевіч Ян** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. *РДВГА-7, арк. 374.*

**Жакевіч Тадэвуш (Томаш)** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша. Радавы сярод вілейскіх паўстанцаў. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 1.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 137; РДВГА-11, арк. 126; Dangel S. Rok 1831. S. 156.*

**Жаковіч Каліст** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Марціна. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў, афіцэр атрада І. Адахоўскага. Удзельнічаў у бітве пад Вілейкай, з'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК 21.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 137 адв.; РДВГА-11, арк. 126; Dangel S. Rok 1831. S. 156.*

**Жаковіч Сцяпан** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў пад кіраўніцтвам К. Пршэздзецкага. *РДВГА-7, арк. 366.*

**Жалязоўскі Фёдар** – уніяцкі святар з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Два разы ездзіў у Белавежскую пушчу прыводзіць да прысягі. Адхілены ад прыхода. *РДВГА-8, арк. 112.*

**Жароўскі Антоній** – з Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 111.*

**Жарчынскі Емяльян** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з в. Пескі Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся спачатку ў

атрадзе Ц. Пуслоўскага, потым Д. Хлапоўскага, служыў у 13 ул. палку. Узяты за бадзяжніцтва. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 137; РДВГА-11, арк. 126.*

**Жудра Клеманс** – памешчык з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Станіслава. Агітаваў да паўстання ў Новым Двары, знаходзіўся сярод паўстанцаў пад Мухаедамі. Адышоў у Кіеўскую губ., дзе быў затрыманы са зброяй у руках. Дастаўлены ў Кіеў, утрымліваўся ў крэпасці. Рашэннем КГСК аднесены да 3 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі атрымаў дараванне, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-2, арк. 140; РДВГА-11, арк. 128; Dangel S. Rok 1831. S. 156.*

**Жукоўскі Іван** – з Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 117.*

**Жукоўскі Павел** – селянін памешчыка Гоцвальта з Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, апынуўся ў КП, дзе ўзяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 116.*

**Жукоўскі Юзаф** – селянін памешчыка Кабылінскага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У складзе атрада Г. Дэмбінскага служыў ва ул. палку, адышоў у Прусію. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 116.*

**Жупранскі Станіслаў** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 405.*

**Жур Віктар** – селянін памешчыка А. Горвата з маёнтка Барбарава Мазырскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча, удзельнічаў у разгроме паштовых станцый, вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 141 адв.; РДВГА-11, арк. 128.*

**Жураўскі Іван** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-7, арк. 405.*

**Журомскі Антоній** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў прымусова. *РДВГА-7, арк. 406.*

**Журомскі Антоній** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-7, арк. 406.*

**Журомскі Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 406.*

**Жухавецкі Антоній** (н. 13.6.1810) – са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Францішка і Юзэфіны Ганны Самойла. У паўстанні ў 4 палку пешых стральцоў. 15.8.1832 прыбыў у Францыю на караблі "Віжылант", накіраваны да закладу ў Шатору, адкуль у жн. 1833 высланы ў Ля Рашэль. Працаваў клеркам у натарыуса. У ліп. 1837 далучыўся да АПЭ. Ажаніўся з француженкай. У 1848 атрымаў права на сталае жыхарства, з-за адсутнасці неабходнай сумы грошай яно было зацверджана толькі 6.5.1858. *Rps BUW, SRB.*

**Жушко Андрэй** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з Мінскай губ. Ведаў пра падрыхтоўку да выступлення Ц. Пуслоўскага, але не паведаміў уладам. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 141 адв.; РДВГА-11, арк. 129.*

**Жылінская Ганна** – з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., жонка Яна. Адпраўляла ў Белавежскую пушчу харчаванне. Пакінута пад наглядам паліцыі. *РДВГА-8, арк. 114.*

**Жылінскі Марцін** (п. 27.1.1881) – дваранін з Мінскай губ., сын Юзафа і Анастасіі Карэцкай, прафесар матэматыкі, памочнік астранамічнай абсерваторыі Віленскага ун-та. У паўстанні з 6.6.1831, ппар. артылерыі. Эмігрыраваў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, сакратар мясцовай рады. Прафесар матэматыкі і фізікі. *РДВГА-7, арк. 389; ч. 11, арк. 127; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 498; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 88; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 155, 164; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 526.*

**Жылінскі Ян Станіслаў** (н. 24.6.1806) – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., засядацель гродзенскай палаты цывільнага суда, адстаўны кап. З'яўляўся членам тайнага гродзенскага паўст. к-та. У крас. 1831 узначальваў ваен. сілы Белавежскай пушчы, сфарміраваў асобны атрад. У 1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Шатору, у 1834 жыў у Маране. 14.5.1845 ажаніўся з француженкай, меў сына. 1.1.1859 назначаны памочнікам інспектара 1 кл. у г. Суржэр. Па рашэнню ГГСК ад 19.11.1831 аднесены да 1 разр. зл. Маёнтак Навасёлкі канфіскаваны. *НГАБ-2, арк. 139; РДВГА-8, арк. 114; Rps BUW, SRB; Niemcewicz K.U. Pamiętnik; Szczapiński J. Powstanie w puszczy białowieskiej. S. 245; Wielobłocki J. Krótki rys. S. 9.*

**Жымайловіч Францішак** – дваранін з маёнтка Скібічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Ц. Пуслоўскага, узяты ў палон. *НГАБ-2, арк. 137; РДВГА-8, арк. 115.*

**Жыромскі Аляксей** – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў за мяжу. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 115.*

**Жыромскі Антоній** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 115*.

**Жыромскі (Жэромскі) Міхал** (29.8.1809–7.2.1869) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Жыровіцах, 3 г. вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. У паўстанні з 23.3.1831 падафіцэр, 10.9.1831 ппар. 18 палка лін. пяхоты, у складзе корпуса Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. Пасля хаваўся ў Галіцыі, дзе ў 1833 быў арыштаваны, а затым зняволены. У 1840 высланы ў Трыест, прыбыў у Марсель на караблі "Лё Жэн Анры". З 9.11.1840 у Манпелье, дзе з 1842 пачаў вывучаць медыцыну, 12.6.1850 атрымаў дыплом д-ра медыцыны. Працаваў у дэп. Гард урачом на рудніку. Ажаніўся з францужанкай, меў двух сыноў, якія вучыліся ў Горнай школе. 6.5.1854 атрымаў французскае грамадзянства. Член ПДТ. Памёр у Ла Гран Комб. *Rps BUW, SRB; Konarska B. Polskie drogi. S. 453.*

**Жытко Казімір** – селянін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў узбр. у паўстанні. Знаходзіўся ў Модлінскім гарнізоне да здачы крэпасці. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 139; РДВГА-8, арк. 113.*

**Жытко Ян** (1.7.1791–1.1.1861) – з Гродзенскай губ., н. у в. Бездзеж, сын Эльяша і Марыі, радавы вайсковай службы. У паўстанні радавы 7 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834 у Афрыцы, 7.1.1835 у сувязі з дрэнным станам здароўя звольнены з легіёна. 7.2.1835 прыбыў у Прыва. У ліст. 1845 працаваў у Труа сельгасработнікам. Памёр у Труа. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 113; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 497; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 402.*

# З

**Забалеўскі Мікалай** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 411*.

**Забароўскі Міхал Леапольд** (н. 29.9.1809 (1815) – з Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр 5 палка пешых стральцоў. 5.10.1831 перайшоў у складзе корпуса М. Рыбінскага межы Прусіі. 4.8.1832 на караблі "Лакс" прыбыў у Францыю, з 24.12.1832 па 20.7.1833 знаходзіўся ў закладзе ў Ле Пюі, пасля яго расфарміравання накіраваны ў дэп. Дзё-Сеўр. У чэрв. 1836 перабраўся ў Ля-Рашэль. У 1839–41 вывучаў медыцыну ў Пуацье, з 1845 афіцэр марской службы. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, але застаўся ў Францыі. Працаваў у дэп. Дзё-Сеўр. *Rps BUW, SRB; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 197, 249; Konarska B. Polskie drogi. S. 441*.

**Забела Станіслаў** (п. 19.7.1833) – з Гродзенскай губ., н. у Гродна, служыў хірургам у расійск. арміі. У паўстанні з 17.7.1831 хірург Літ.-Вал. легіёна. У кастр. 1832 прыбыў у Францыю, накіраваны ў заклад у Буржэ. Памёр у дэп. Манш. *Rps BUW, SRB; ND. 1843. S. 150.*

**Заблоцкі Вінцэнт** – шляхціц з Мінскай губ., сын Івана, аканом з маёнтка Маладзечна. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 144; РДВГА-11, арк. 130.*

**Заблоцкі Даніэль** – селянін з Лепельскага пав. Віцебскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-7, арк. 409.*

**Завадзкі Давыд** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў рэгістратарам. *РДВГА-7, арк. 418.*

**Завадзкі Павел** – селянін памешчыка Акуліча з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага, затым бадзяўся. Узяты ў палон, 13.7.1833 пераведзены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 25.8.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 145; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 75; РДВГА-8, арк. 118.*

**Завадзкі Юзаф** (2.2.1799–16.9.1869) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Аўгусціна, пісар Ашмянскага суда. У паўстанні займаўся дастаўкай кантаністаў у апалчэнне, затым далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, кап. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 перайшоў з корпусам М. Рыбінскага межы Прусіі. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, з 4.11.1834 жыў у Авіньёне, працаваў у мэрыі, з 1840 займаўся літаграфіяй. З 1862 хварэў рэўматызмам і не працаваў. Памёр у Авіньёне. Сям'і не меў. *РДВГА-7, арк. 418; AGAD, WCPL, nr 724, k. 64; Rps BUW, SRB; Księga pamiątkowa. S. 138; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 70.*

**Завадскі** – з Мінскай губ., адстаўны пар. расійск. войскаў. Знаходзіўся сярод віленскіх паўстанцаў. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 130.*

**Завадскі Віктар** – пробашч з в. Лынтупы Свянцянскага пав. Віленскай губ. Адзін з арганізатараў паўстання ў Свянцянах. Член часовага паўст. к-та, член часовага ўрада Свянцянскага пав. Адышоў 5.5.1831 у Мінскую губ., пасля адыходу паўстанцаў на Жмудзь вярнуўся на месца жыхарства. Арыштаваны, утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці. Рашэннем МГСК ад 24.6.1831 справа накіравана ВГСК. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 28.5.1832 аднесены да 3 разр. зл. без пазбаўлення духоўнага сану. Да 1840 знаходзіўся пад наглядам паліцыі. *НГАБ-2, арк. 145; Bortkiewicz W. Historyczne opisanie. S. 266; Bieliński K. Rok 1831. S. 90–91; Dangel S. Rok 1831. S. 162.*

**Завацкі** – дваранін з Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 118.*

**Завацкі** – з Гродзенскай губ., берэйтар Гродзенскага суда. Знаходзіўся сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 9.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 147; РДВГА-8, арк. 117.*

**Заверскі Валяр'ян** (13.12.1798–11.5.1861) – з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у Акропішках, сын Андрэя і Лізаветы Ваўржэцкай, адстаўны штаб-ротмістр ул. палка Літ. корпуса. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў у чыне маёра кавалерыі, удзельнічаў у бітве пад Вілейкай. 2.7.1831 маёр 12 ул. палка. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладаў у Авіньёне, Люнэлі, са студз. 1833 у Ле Пюі, старшыня мясцовай рады, пасля расфарміравання закладу застаўся тут на жыхарства. Памёр у Парыжы, паха-

ваны на Манмартры. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 146; РДВГА-11, арк. 131; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 483; Dangel S. Rok 1831. S. 155; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 215; Polacy pochowani. S. 110.*

**Завістоўскі Ігнацій** – памешчык з Пінскага пав. Мінскай губ. Прымаў у сваім маёнтку Ц. Пуслоўскага, пастаўляў кантаністаў. Па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі яго справа ў 13.6.1832 прыпынена, застаўся пад падазрэннем. *НГАБ-2, арк. 147 адв.; РДВГА-11, арк. 132; Dangel S. Rok 1831. S. 156.*

**Завістоўскі Казімір** (п. 12.1877) – з Мінскай губ., н. у мяст. Клеўка, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 12 ул. палка. 26.2.1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне, у маі 1833 высланы ў дэп. Кальвадос, жыў у Віры, працаваў коміваяжорам. 5.2.1841 выехаў у Безансон. У 1832 член ПНК, з 2.12.1833 член ПДТ, з 10.8.1837 член АПЭ. *AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 483; Krawiec L. Lista członków. S. 49.*

**Завітневіч Баніфацый (Базыль)** – ксёндз Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. У 1834 выехаў з Кракава праз Трыест, 15.1.1834 прыбыў у Марсель на караблі “Режына”, адпраўлены ў Аран, 19.4.1834 звяртаўся з просьбай аб пераездзе ў Францыю. 15.10.1834 прыбыў у Прыва. Са жн. 1837 жыў у Марселі. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 119; Rps BUW, SRB.*

**Загорскі** – ксёндз Будслаўскага кляштара Вілейскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў. Эмігрыраваў. *НГАБ-2, арк. 146; РДВГА-11, арк. 132; Dangel S. Rok 1831. S. 161.*

**Загорскі Іван** – з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., пісар памешчыка Аскеркі з маёнтка Вадовічы. Распаўсюджваў чуткі пра паўстанне. Па рашэнню МГСК 12.5.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 145 адв.; РДВГА-11, арк. 132; Dangel S. Rok 1831. S. 155.*

**Загорскі Павел** – дваранін з Мінскай губ., сын Ксаверыя, жыў у Ашмянскім пав., студэнт Віленскага ун-та. Далучыўся да атрада І. Адахоўскага ў Смаргоні, у Вілейцы трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 2.10.1831 аднесены да 2 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 28.3.1832 аддадзены рэкрутам у Каўказскі асобны корпус з пазбаўленнем студэнцкага і шляхецкага стану. 7.5.1832 адпраўлены з

Мінска ў Харкаў. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 391, арк. 13; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 146 адв; РДВГА-11, арк. 132; Dangel S. Rok 1831. S. 155.*

**Загорскі Рыгор Вінцэнт** (п. 1.2.1856) – з Віцебскай губ., н. у Відоках. У паўстанні ппар. 4 палка пешых стральцоў. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Безансоне, 27.3.1832 пераведзены ў Бержэрак. З 5.5.1835 член ПДТ, з 1837 член АПЭ. З 1848 жыў у Монт дэ Марсане, дзе і памёр. *Rps BUW, SRB; Krawiec L. Lista członków. S. 63.*

**Задорнаўскі Юзаф** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 118.*

**Зазулевіч Іван** – селянін памешчыцы Замойскай з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-8, арк. 124.*

**Закржэўскі Станіслаў** (п. 21.1.1849) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., урач. З'яўляўся адным з ініцыятараў паўстання ў Ашмянскім пав. Удзельнічаў у ваен. падзеях, загінуў (?). (Паводле Р. Бялецкага, М. Пашкевіча – эмігрыраваў. З 10.5.1837 па студз. 1849 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада). *РДВГА-7, арк. 427; ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9; Rps BUW, SRB; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 104.*

**Закржэўскі Францішак** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., канцылярыст Ашмянскага суда. Удзельнічаў у паўстанні. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-7, арк. 428.*

**Заленскі Станіслаў** – іераманах Лужкоўскага піярскага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў у Лужках. Адасланы В. Брахоцкім у Лепельскі пав. для ўздыму паўстання. Па рашэнню МГСК 13.8.1831 аднесены да 2 разр. зл. з пазбаўленнем духоўнага сану і сасланы ў Сібір. Па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі аддадзены пад ваен. суд. *НГАБ-2, арк. 148; РДВГА-11, арк. 133; Dangel S. Rok 1831. S. 161.*

**Залескі Ігнацій –** шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Распаўсюджваў чуткі пра падзеі ў КП. Рашэннем МГСК ад 12.10.1831 вызвалены ад пакарання, па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі ад студз. 1832 узяты пад нагляд паліцыі. *Dangel S. Rok 1831. S. 155.*

**Залеўскі (Залескі) Мікалай** (1798 (1806) – 2.12.1876) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., адвакат. Знаходзіўся спачатку сярод навагрудскіх

рудскіх паўстанцаў, затым у 13 ул. палку. Адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў у Прусію, дзе знаходзіўся да 1834, у лют. 1834 яму было забаронена выехаць у Францыю. У 1835–40 жыў у Англіі, з чэрв. 1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. Пасля 1840 у Францыі, памёр у доме польск. ветэранаў у Парыжы. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., належачая яму частка маёнтка Кунітаў адышла ў казну. *НГАБ-2, арк. 148 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 119; Rps BUW, SRB; DS. T. 6. S. 386; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 476; Kaczkowski J. Konfiskaty; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 104.*

**Залеўскі (Залескі) Ян Аляксандр** (27.3.1783–3.3.1878) – з Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., н. у Быхаве. У паўстанні маёр 2 палка лін. пяхоты. 15.9.1831 адзначаны кавалерскім крыжам. Эмігрыраваў у Францыю, 18.10.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Член ПНК, з 12.9.1832 член ПДТ, у 1866 член АПЭ. Памёр у доме польск. ветэранаў у Парыжы. *AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Księga pamiątkowa. S. 164; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 478; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 78; Krawiec L. Lista członków. S. 42; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 789.*

**Заліўскі Казімір** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка гр. Гінтаравай. Займаў пасаду паўст. каменданта. Выконваў розныя даручэнні, дастаўляў харчаванне і кантаністаў. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *РДВГА-11, арк. 133; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Залускі Францішак** – шляхціц з Мінскай губ., ямшчык радашковіцкай паштовай станцыі. Пад прымусам вазіў паўстанцаў у Вілейку. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 134.*

**Замбржыцкі Ігнацій** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Займаўся агітацыяй. *РДВГА-7, арк. 436.*

**Замбржыцкі Людвік Тадэвуш** (1803–24.6.1834) – з Браслаўскага пав. Віленскай губ., брат В. Ваньковіча. Член ЦВПК. У паўстанні кіраваў аддзелам, паранены пад Аўсянікамі. Далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага. З 2.7.1831 пар. 26 палка лін. пяхоты. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. 9.8.1831 абраны паслом на сейм ад Браслаўскага пав. 15.8.1831 падпісаў адрас аб заснаванні Літ. к-та. У ліст. 1831 прыбыў у Францыю, у 1832 знаходзіўся ў Парыжы па спецыяльнаму дазво-

лу міністра ваен. спраў. Адзін з заснавальнікаў ТЛРЗ. Са студз.1832 член ПНК. У 1832 вучыўся ў Парыжы ў школе генеральнага штаба. 18.3.1834 падпісаў пратакол Літ. ваен. к-та. У краі пакінуў жонку Розу, сястру А. Гарэцкага, і дзяцей. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Rps BN, III. 6594, II. 7871; Rps BUW, SRB; DS. T. 6. S. 440; ND. 1843. S. 150; Księga pamiątkowa. S. 139; Lelewel J. Pamiętnik. S. 159–160; Niewiarowicz A.L. Ze wspomń. S. 463; Szumski S. W walkach. S. 62; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 479; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 205–215; Gulczyński E. Rok 1830–1831. S. 31–40; Konarska B. Polskie drogi. S. 444; Mościcki H. Powstanie listopadowe na Litwie. S. V; Polacy pochowani. S. 191; Ziółek J. Powstanie Listopadowe na Litwe. S. 405.*

**Замкевіч Юльян** – селянін памешчыка Ф. Кеневіча з Мазырскага пав. Мінскай губ. Актыўна ўдзельнічаў у атрадзе Ф. Кеневіча. Па рашэнню МГСК прызначаны да аддачы на ваен. службу. *НГАБ-2, арк. 143 адв.; РДВГА-11, арк. 135.*

**Замяцін Ян** – з Пінскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, які пакінуў да 4.10.1831. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 143 адв.; РДВГА-11, арк. 135; Dangel S. Rok 1831. S. 155.*



**Стэфан Зан.**
*Літаграфія Ж. Дэверыя*

**Зан Стэфан** (1803–23.4.1859) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Ішкалдзь, малодшы брат Т. Зана. У паўстанні з 30.4.1831, дзейнічаў на Падоллі, радавы, з 4.10.1831 ппар. 1 палка кракаўскай конніцы. 5.7.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. 5.10.1831 адышоў у складзе корпуса М. Рыбінскага ў Прусію. У жн. 1832 прыбыў у Францыю, з 10.12.1832 член ТЛРЗ, пачаткова належаў да закладу ў Буржэ, у 1833 перабраўся ў Парыж. У кастр. 1851 жыў у Баціньёле. Памёр у Нантэры. *BPP, nr 493, 565; Rps BN, II. 7871, k. 182; Rps BUW, SRB; Księga pamiątkowa. S. 129; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 481; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 332; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 141; Straszewicz J. Les Polonais.*

**Запаснік Антоній** (12.3.1802 (1798) – 12.11.1870) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Скробаве, сын Ануфрыя і Барбары Керсноўскай, вучыўся ў варшаўскай школе пхар. У паўстанні ўдзельнік выступлення 29.11.1830, з 9.12.1830 ппар., 13.6.1831 пар., 4.10.1831 кап. 13 палка лін. пяхоты. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 належаў да закладу ў Авіньёне, 3.10.1836 пасля расфарміравання закладу перабраўся ў Нант, дзе працаваў у адміністрацыі дарог і мастоў. 1.1.1847 быў памочнікам інструктара 3 кл., 1.6.1862 інструктарам 4 кл. 10.11.1862 атрымаў французскае грамадзянства. Ажаніўся з француженкай, меў дваіх дзяцей. Памёр у Нанце. Рашэннем Вышэйшага крымінальнага суда ад 13.2.1832 асуджаны на смяротнае пакаранне, якое 16.9.1834 загадам Мікалая I заменена на турэмнае зняволенне, маёнтак у 1834 канфіскаваны. *Rps BUW, SRB*.

**Запольскі Андрэй** (п. жн. 1831) – ксёндз ордэна піяраў з мяст. Шчучын Гродзенскай губ., дзядзька Караля. Удзельнічаў у паўстанні, трапіў у палон, утрымліваўся ў гродзенскай крэпасці, дзе і памёр. *РДВГА-7, арк. 439; Powstanie Listopadowe 1830–1831. Dzieje wewnętrzne. S. 203*.

**Запольскі Караль** – дваранін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., пляменнік Андрэя. Дзейнічаў у атрадзе Куракі пры нападзенні на старадворскую паштовую станцыю. Затым апынуўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, пасля Невеля адышоў у Аўстрыю. Вярнуўся ў Гродна. Аддадзены пад ваен. суд. Пазбаўлены дваранскага стану і адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-2, арк. 147 адв.; РДВГА-7, арк. 439; ч. 8, арк. 120*.

**Заржыцкі (Заржэцкі) Ігнацій Фларэнцін** – з Гродзенскай губ., н. у Князевічах, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 6 ул. палка, адзначаны сярэбраным крыжам. У 1832 знаходзіўся ў Прусіі. 15.8.1832 прыбыў у Францыю на караблі “Віжылант”, адпраўлены ў заклад у Шатору. У лют. 1842 жыў у Нанце. З ліп. 1833 член ПДТ, у 1844 далучыўся да АПЭ. *Rps BUW, SRB*.

**Заржэцкі Ян** (1812–27.2.1875) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., (паводле Р. Бялецкага – н. у Хмелеве). Прысягнуў паўстанцам, служыў пад кіраўніцтвам К. Пршэздзецкага, затым падафіцэр 16 ул. палка. У 1832 утрымліваўся ў Прусіі. 4.8.1832 на караблі “Лакс” прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў Буржэ, 10.7.1833 прыбыў у Каор. З 7.8.1837 член АПЭ. Памёр у Ажэне, дзе з 1869 жыў у прытулку. *РДВГА-7, арк. 441; Rps BUW, SRB*.

**Зароўскі Андрэй** – селянін з в. Явар Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Г. Дэмбінскага, у складзе якога апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 121.*

**Заслаўскі Іанікій –** іераманах уніяцкага базыльянскага кляштара Мінскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага, узяты ў палон. Высланы ў Вятку. *НГАБ-2, арк. 150; РДВГА-8, арк. 121; ч. 11, арк. 136; Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. С.164, 267; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 708.*

**Заўстыньскі Ян –** пробашч мяст. Ілля Вілейскага пав. Мінскай губ. Дазволіў каменданту Ю. Высоцкаму прачытаць у касцёле адозву. *Dangel S. Rok 1831. S. 161.*

**Захаржэўскі Францішак** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., калежскі сакратар. Прысягнуў паўстанцам. Па канфірмацыі віленскага ваен. губернатара ад 1.7.1833 сасланы ў Вяцкую губ. пад нагляд паліцыі. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 402, арк. 1; РДВГА-7, арк. 444.*

**Захватовіч Іван** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у складзе атрада Т. Тышкевіча. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 150; РДВГА-8, арк. 122.*

**Зброжак Аляксандр** (н. 1808) – з Віцебскай губ., н. у Міхальцове, сын Ануфрыя, унтэр-афіцэр Рэвельскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Адзін з арганізатараў паўст. к-та ў Лужках і аўтараў Акта канфедэрацыі, удзельнічаў у бітве пад Дзіснай, затым ппар. 7 палка лін. пяхоты, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 1833 у Парыжы, адкуль 5.2.1834 высланы ў Арлеан, у 1840–43 жыў у Парыжы. З 1846 член АПЭ, 26.6.1846 член ПДТ. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 150 адв.; РДВГА-11, арк. 136; AGAD, PFR, nr 15; Rps BUW, SRB; Dangel S. Rok 1831. S. 156; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2.*

**Звяржынскі (Звяжынскі) Адам** (н. 25.12.1809) – з Гродзенскай губ., н. у Старавільні. У паўстанні з 7.6.1831 радавы. 30.1.1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладаў у Авіньёне, Люнэлі і Ле Пюі. У вер. 1835 накіраваўся ў замак Манбрызо ў дэп. Сарта, дзе наняўся на службу. У жн. 1858 перабраўся ў Бавэ. *Rps BUW, SRB.*

**Звяровіч Юзаф** – дваранін з г. Ваўкавыска Гродзенскай губ. Служыў у 18 палку вольных стральцоў. Пасля паражэння пад Шаўлямі вярнуўся з раскаяннем. З-за малога ўзросту адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 122.*

**Зданікевіч Юзаф** – селянін памешчыка Солтана з в. Сарафіны Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты атрадам Г. Дэмбінскага. З-за хваробы астаўлены ў шпіталі. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 123.*

**Здановіч Ксаверый (Казімір)** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. Эмігрыраваў, у 1848 знаходзіўся ў Вісембургу, працаваў літографам. З ліп. 1848 член ПДТ. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, але застаўся ў эміграцыі. Удзельнік Камуны, 10.6.1871 арыштаваны. *РДВГА-7, арк. 446; Rps BUW, SRB*.

**Зеліх** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 449.*

**Зельман** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 449.*

**Зелянеўскі Ансельм** (п. 12.3.1840) – з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю. Памёр у дэп. Гард. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 151 адв.; РДВГА-8, арк. 123; ND. 1843. S. 151.*

**Зелянеўскі Кастусь** – селянін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 447*.

**Зеўка** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 447.*

**Зібайла Юзаф** – селянін памешчыка Ц. Пуслоўскага з в. Баравікі Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон 8.8.1831 пад Невелем. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 124.*

**Зілямоўскі Ян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 458*.

**Змітрук** – з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сталяр з маёнтка Нароўля памешчыка А. Горвата. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. Вярнуўся на

месца сталага жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 8.6.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-2, арк. 143 адв.; РДВГА-11, арк. 138.*

**Знамяровіч Пётр** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 125–126.*

**Знамяроўскі Юрый** – селянін з Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе кн. Т. Мірскага музыкантам. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў бадзяўся па тэрыторыі КП. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 125–126.*

**Зубоўскі Станіслаў** (1800–21.8.1841) – з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., н. у Рэчыцы, з 14.3.1818 на службе ў расійск. арміі. У паўстанні з 13.6.1831 кап. 26 палка лін. пяхоты, у складзе атрада Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 4.8.1832 на караблі "Лакс" прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 апынуўся ў Буржэ. Асеў у дэп. Алье. Памёр у г. Ле Майе дэ Мантань. *Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 490.*

**Зугаржэўскі (Загаржэўскі) Станіслаў** (8.5.1802–4 (5).4.1867) – з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Радашковічы, сын Францішка і Барбары Сыноўскай, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні кап. Эмігрыраваў у Францыю, з 16.11.1840 працаваў памочнікам інспектара 3 кл. у дэп. Лазер, 11.2.1844 памочнік інспектара 1 кл. У крас. 1848 спрабаваў вярнуцца на радзіму. 1.9.1849 паўторна прыняты ў адміністрацыю дарог і мастоў, 1.1.1852 інспектар 3 кл. 1.7.1857 узяў адпачынак і вярнуўся на радзіму, працаваў на чыгунцы. У сувязі з паўстаннем 1863 выехаў ў Францыю. У 1865 працаваў інспектарам 3 кл. у Жызоры. Памёр у Парыжы. *Rps BUW, SRB; Konarska B. Polskie drogi. S. 450***.**

**Зухавіцкі Янка** (н. каля 1797) – селянін з Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Рашэннем ваен. суда атрымаў 25 палак і адпраўлены на катаргу. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 719.*

**Зымацкі (Зямацкі) Міхал** (1801–30.3.1841) – дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Гальшанах (Альшанах). У паўстанні ппар. атрада пазнанскай конніцы, дзейнічаў у корпусе Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі, дзе ўтрымліваўся на працягу 1832–33. У студз. 1834 прыбыў у Гаўр на караблі "Фрау Элізабет". Працаваў настаўнікам музыкі. З 23.3.1841 знаходзіўся ў Манпелье, дзе і памёр. *РДВГА-7, арк. 466; Rps BUW, SRB; DS. T. 6. S. 440.*

**Зыска** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 465*.

**Зялінскі Аўгуст** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у палку К. Пршэздзецкага. Эмігрыраваў у Францыю. *РДВГА-7, арк. 448; Rps BUW, SRB*.

**Зямацкі Рамуальд** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 450*.

**Зямацкі Станіслаў** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 450*.

**Зянкевіч Ян** – клірык Пінскага бернардзінскага кляштара Мінскай губ., н. у Дамброве Аршанскага пав. У паўстанні капелан. У 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Безансоне, затым перабраўся ў Труа. З 9.10.1834 член ПДТ. Ажаніўся, дзяцей не меў. *Rps BUW, SRB; Krawiec L. Lista członków. S. 56.*

**Зянковіч** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 453.*

**Зянковіч Антоній Фердзінанд** – з Мінскай губ., н. у Бялянах. У паўстанні ппар. Надвіслянскага легіёна. 28.9.1832 прыбыў у Францыю, у кастр. 1832 са Страсбурга адпраўлены ў Шатору, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ. З 11.8.1833 да 31.12.1837 член ПДТ, з чэрв. 1838 член АПЭ. У 1838 жыў у дэп. Кальвадос, працаваў памочнікам інжынера дарог і мастоў. У 1862 быў карэспандэнтам Часовага к-та польск. эміграцыі. Працаваўураднікам у дэп. Кальвадос яшчэ ў 1865. Ажаніўся з францужанкай, меў чацвёра дзяцей. *Rps BUW, SRB; Krawiec L. Lista członków. S. 46.*



**Віктар Антоній Зянковіч.**
*Фотаздымак*

**Зянковіч Віктар Антоній** (1808–12.2.1885) – з в. Храпкова Слуцкага (?) пав. Мінскай губ., скончыў школу ў

Мінску, з 1828 вучыўся на фіз.-матэм. ф-це Віленскага ун-та. У паўстанні радавы 26 пях. палка фарміравання Г. Дэмбінскага, адышоў у Варшаву, дзе 10.8.1831 удзельнічаў у Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў у Францыю. У 18.8.1833–27.9.1840 член ПДТ. (Я. Барткоўскі пазначае, што пачаткова працаваў у каменаломнях, затым вучыўся ў Школе мін, атрымаў дыплом інжынера. Б. Канарская піша, што ў 1833 паступіў у Горную школу ў Парыжы, у 1835 атрымаў дыплом, працаваў дырэктарам фабрыкі фаянсу і шкла ў Шато-Сален, затым – на будоўлі тунэля і канала, які аб'ядноўваў Марна – Рэн). У 1856 перабраўся ў Італію, працаваў на будоўлі ламбардска-венецыянскай чыгункі, жыў у Медыялане і Турыне. Аказваў фінансавую дапамогу раперсвільскаму музею. У 1883 атрымаў ад італьянскага ўрада залатую карону як узнагароду за дасягненні. Ажаніўся з полькай, меў дзве дачкі. Памёр у Турыне. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 58; Rps BN, II. 7861; Rps BUW, SRB; DS. T. 6. S. 444; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 489; Konarska B. Polskie drogi. S. 449; Krawiec L. Lista członków. S. 44; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 815.*

**Зянковіч Іван** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Пастаўляў кантаністаў, хаваў зброю. *РДВГА-7, арк. 451.*

**Зянковіч Лук'ян** – селянін кн. М. Радзівіла з в. Аздзяцічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. Хаваў зброю і агнястрэльныя снарады. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 143; РДВГА-11, арк. 137.*

**Зянковіч Леан** (11.4.1808–12.12.1870) – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Ляхі, скончыў Свіслацкую гімназію, з 1827 вучыўся на ф-це права Варшаўскага ун-та. У паўстанні пачаткова ад'ютант Ю. Хлапіцкага, затым пар. палка сандамірскіх кракусаў, узнагароджаны залатым крыжам. 16.9.1831 перайшоў з Д. Рамарына межы Галіцыі. Эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, у 1832–33 сакратар Рады палякаў у Безансоне. Член ПНК. Удзельнічаў у экспедыцыі Ю. Заліўскага, высланы эмісарам у Галіцыю, у вер. 1833 перабраўся ў Кракаў, дзе ў 1835 выдаваў часопіс "Powszechny Pamiętnik Nauk i Umiejętności". Пасля акупацыі Кракава перабраўся ў Францыю, апошнія гады жыцця правёў у Парыжы, дзе ўтрымліваў кніжную лаўку. Са студз. 1837 да 17.8.1837 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна, на працягу некалькіх гадоў уваходзіў у склад рады гэтага т-ва. У 1861 выбраны сакратаром Часовага ўрада, у 1862 Сталага к-та польск. эміграцыі. Займаўся публіцыстыкай, у 1866 у Бруселі выдаваў квартальнік "Ognisko", у 1869 у Жэневе – часопіс "Rzeczpospolita Polska", супрацоўнічаў з выданнямі "Ga-

zeta Warszawska”, “Gazeta Narodowa”, “Tygodnik Ilustrowany”. Аўтар шэрага прац. *Zienkowicz L. Lud Polski; яго ж: Kurs litaratury; яго ж: Polska; AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Rps BN, III. 6594, II. 7861; ЭГБ. Т. 6. Ч. 2. С. 391; Krawiec L. Lista członków. S. 74; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 813.*

**Зянковіч Юзаф** (27.10.1807–17.1.1833) – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Вільні, сын Пятра і Фартунаты Кліманскай, вучыўся ў Віленскім ун-це. Распачаў выступленне ў Ашмянах разам з П. Важынскім. Эмісар ЦВПК. Кіраваў конным палком ашмянскага апалчэння, затым кап. атрада пазнанскай конніцы, ад’ютант ген. Серакоўскага, у Варшаву прыбыў у складзе корпуса Г. Дэмбінскага. 9.8.1831 абраны паслом на сейм ад Ашмянскага пав., удзельнічаў у яго пасяджэннях. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. Эміграваў у Францыю, член ПНК, з ліп. 1832 знаходзіўся ў Парыжы. Адзін з ініцыятараў заснавання ТЛРЗ, належаў да дэмакратычнага накірунку. Член Літ. вайсковага к-та. Памёр у Парыжы. Пакінуў успаміны пра падзеі на Ашмяншчыне. *Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 7–47; НГАБ-2, арк. 153 адв.; РДВГА-7, арк. 452; AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Rps BN, III. 6594, II. 7861, II. 7871; Rps BUW, SRB; DS. T. 6. S. 443–446; Księga pamiątkowa. S. 138; ND. 1843. S. 151; ЭГБ. Т. 6. Ч. 2. С. 391; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 48–50; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 489; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 334; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 191, 205; T. 3. S. 323; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 517; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 141; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; яго ж: Les Polonais.*



**Юзаф Зянковіч.**
*Літаграфія Л.Т. Бардэля*

**Зяновіч Юрый (Ежы)** – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Эміграваў у Францыю. 3.9.1832 абраны членам ТЛРЗ. *РДВГА-11, арк. 138; Rps BN, II. 7871, k. 142.*

**Зяновіч Ян** – памешчык з Мінскай губ., сын Міхала, адстаўны ппар. артылерыі. Падпісаў Акт канфедэрацыі, прысягнуў паўстанцам. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 153; РДВГА-11, арк. 138.*

# І

**Івановіч Сымон** (18.5.1807–19.1.1840) – з Мінскага пав. Мінскай губ., н. у Мінску, сын Яна і Крысціны. У паўстанні радавы 4 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію. У студз. 1834 прыбыў у Гаўр на караблі “Фраў Элізабет”. Пачаткова жыў у Гаўры. 9.1.1837 уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1837–40 у Афрыцы. Памёр у шпіталі. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 159.*

**Івановіч Ян** – з Мінскай губ. Знаходзіўся ў паўст. апалчэнні, адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-2, арк. 154; РДВГА-11, арк. 139; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Іваноў Васіль** – селянін памешчыка Ю. Крушэўскага з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Добраахвотна далучыўся да мазырскіх паўстанцаў, служыў у атрадзе Бараноўскага, удзельнічаў у сутыкненнях. Трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аддадзены ў салдаты. *НГАБ-2, арк. 155 адв.; РДВГА-11, арк. 140.*

**Іваноўскі** – з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4109*.

**Іваноўскі Ігнацій** (н. 29.1.1787) – з Гродзенскай губ., сын Яна і Барбары, гарніст. У паўстанні ў 7 палку лін. пяхоты. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, знаходзіўся там яшчэ ў чэрв. 1854. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 126; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 160.*

**Іваноўскі Ян** (н. каля 1817) – селянін памешчыка Пуслоўскага з в. Бугуславічы Пінскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, узяты ў палон пад Невелем, утрымліваўся ў Бабруйскай крэпасці каля 1 г. Па рашэнню МГСК ад 25.8.1832 у якасці пакарання залічана турэмнае зняволенне, надалей пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 154 адв.–155; РДВГА-11, арк. 139; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 130.*

**Іванчук Ясюк** – селянін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся прымусова сярод паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-8, арк. 127.*

**Іванюшка Лявон** – селянін памешчыка Кіслоўскага з в. Навасёлкі Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод слонімскіх паўстанцаў, затым перайшоў у Навагрудскі пав. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 127.*

**Івашкевіч** – з Мінскай губ., юнкер. Далучыўся да паўстанцаў, з якімі эмігрыраваў. Палявым аўдытарыятам 1-й арміі аддадзены пад ваен. суд. *НГАБ-2, арк. 156 адв.; РДВГА-11, арк. 141.*

**Івашкевіч Венядзікт** – дваранін з Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 128; AGAD, WCPL, nr 724, k. 81.*

**Івашкевіч Венядзікт** – селянін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дастаўлены прымусова ў Варшаву. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16 адв.; РДВГА-8, арк. 128.*

**Івашкевіч Мельхіёр** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе І. Адахоўскага. Удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю ў Крыпулах. Па заканчэнні ваен. дзеянняў вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 24.5.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-2, арк. 156; РДВГА-11, арк. 140.*

**Івашкевіч Міхал** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Паставіў 20 кантаністаў. *РДВГА-7, арк. 481.*

**Івашкевіч Юзаф** – дваранін з Гродзенскай губ. Радавы атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 128; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78.*

**Івашэўскі Юзаф** – селянін. Абвінавачваўся ў зносінах з асобамі, якія рыхтавалі паўстанне ў Гродзенскім і Лідскім пав. Атрымаў для распаўсюджвання адозву. *НГАБ, ф. 1416, воп. 2, спр. 7241, арк. 1–1 адв.; Гарбачова В.В. Заклікі. С. 58.*

**Ігнатовіч Антоній** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод смаргонскіх паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 486.*

**Ігнатовіч Іван** – дваранін з г. Гродна. Знаходзіўся ў Белавежскай пушчы, затым у 14 пях. палку. Адпраўлены ў Маскву. *РДВГА-8, арк. 130.*

**Ігнатовіч Іван** – мешчанін з г. Гродна. Прымусова ўзяты ў Вількаміры Г. Дэмбінскім. Апынуўся ў Аўстрыі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 129.*

**Ігнатовіч Міхал** – селянін памешчыка Дымоўскага з в. Ляхавічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў пад Вільняй, удзельнічаў у сутыкненнях. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 130.*

**Ігнатовіч Уладзіслаў** (н. каля 1806) – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у Пружанах, пар. расійск. арміі. У паўстанні з 13.6.1831 пар. 1 палка пешых стральцоў. 13.7.1831 з А. Гелгудам перайшоў межы Прусіі. У кастр. 1832 эмігрыраваў у Францыю. 15.7.1833 прыбыў у Александрыю. З 15.8.1846 член ПДТ. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 170; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 293; Krawiec L. Lista członków. S. 106; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 232.*

**Ігнатовіч Юзаф** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія, возны Дзісенскага пав. суда. Прысягнуў паўстанцам. З'явіўся да ўлад. *НГАБ-2, арк. 157 адв.; РДВГА-11, арк. 142*.

**Ігнатовіч Ян** – шляхціц з Мінскай губ., сын Дамініка, аканом памешчыка Мацкевіча. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 10.3.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-2, арк. 157; РДВГА-11, арк. 141; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Ігнацько Юзаф** – селянін з в. Асінаровічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Памешчыкам Бродскім дастаўлены ў атрад Г. Дэмбінскага, у складзе якога апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 131*.

**Ізавіт Юзаф** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у атрадзе Г. Дэмбінскага. *РДВГА-7, арк. 488*.

**Ізбіцкі Васіль** – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, удзельнічаў у ваен. сутыкненнях і забойстве расійск. салдата. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 131.*

**Іздзебскі Зянон (?)** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Выконваў на месцы загады паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю, 26.3.1833 у Ле Пюі стаў членам ПДТ. *РДВГА-7, арк. 489; Krawiec L. Lista członków. S. 43*.

**Ільінскі** – ксёндз Лужкоўскага піярскага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання ў Лужках. *Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 485.*

**Ільцэвіч Гіпаліт** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ., адвакат. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў. Высланы ў Табольскую губ. *РДВГА-7, арк. 497; ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 217.*

**Імбра Адам** (н. 1791) – з Гродзенскай губ., н. у в. Капцюшкі, сын Ігнацыя і Дамінікі. Удзельнічаў у кампаніі 1812–14. У паўстанні кап., трапіў у палон. *Rps BUW, PJK, nr 552; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 172.*

**Імбра Іван** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод навагрудскіх паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 158; РДВГА-8, арк. 132.*

**Інсыка Себасцьян** (п. 2.10.1833) – з Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 8 палка лін. пяхоты. Эмігрыраваў. Памёр у Буржэ. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 171.*

# K

**Кабылінскі Францішак** (17.3.1793–7.1.1858) – з Мінскай губ., н. у в. Прылепы (Мінскі пав.), сын Себасцьяна і Марыі Палатыцкай, ппар. корпуса жандармерыі. Удзельнічаў у кампаніі 1812–14. У паўстанні ппар. карабінераў, з 6.2.1831 пар., 15.4.1831 кап., 1.9.1831 маёр, 9.6.1831 атрымаў залаты крыж. 16.9.1831 перайшоў з корпусам Д. Рамарына межы Галіцыі, інтэрніраваны. 7.4.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу на адданасць расійск. ураду, аднак у снеж. 1832 эмігрыраваў у

Францыю. 9.10.1834 выступаў у абарону А. Чартарыйскага. 1.6.1836 меў намер уступіць у польск. полк, які накіроўваўся ў Іспанію. Памёр у вайсковым шпіталі. *AGAD, KRW, nr 477, k. 529; Księga pamiątkowa. S. 124; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 211; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 291.*

**Кавалевіч Андрэй** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з маёнтка Святая Воля Пінскага пав. Мінскай губ. Ведаў пра падрыхтоўчыя дзеянні Ц. Пуслоўскага, але не данёс уладам. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 158*

**Кавалеўскі Антон** – селянін памешчыка Малачэўскага з в. Блізна Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў Белавежскай пушчы, радавы. 30.8.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Узяты ў палон у Падляскім ваяв. Збег з-пад стражы. *РДВГА-8, арк. 147; Księga pamiątkowa. S. 137.*

**Кавалеўскі Міхайла** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 31 адв.; РДВГА-8, арк. 148; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Кавальскі Себасцьян** (н. 15.1.1783 ці 3.8.1787) – з г. Вілейка Мінскай губ., сын Яцэка і Разаліі Гаўронскай. У паўстанні пар. корпуса інвалідаў. Пасля капітуляцыі Варшавы застаўся на месцы. Аднавіў прысягу на адданасць расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 365, 478, 479, 488; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 342.*

**Кавальчук Янка** – селянін з маёнтка Ляхавічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. 8.8.1831 узяты ў палон. Пакінуты на месцы жыхарства. *РДВГА-8, арк. 148*.

**Кавальчэўскі Ян** (н. 1811) – з Гродзенскай губ., вучань. У паўстанні дзейнічаў у корпусе Ю. Двярніцкага, затым на бел.-літ. тэрыторыях. У 1836 прыбыў з Кракава ў Францыю. З 15.4.1837 член ПДТ. *Krawiec L. Lista członków. S. 77.*

**Каверскі Каспер** – пробашч з в. Задзеўе Свянцянскага пав. Мінскай губ. 29.4.1831 чытаў у касцёле перад насельніцтвам адозвы, паставіў са свайго маёнтка 8 кантаністаў. Па рашэнню МГСК ад 25.1.1832 справа накіравана ВГСК. *НГАБ-3, арк. 32; РДВГА-2, арк. 113.*

**Каверскі Ян** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., адвакат. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі. Камендант мяст. Будслаў, займаўся камплектаваннем апалчэння. 4.6.1831 з’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 19.10.1831 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 1 адв. – 2; РДВГА-11, арк. 159; Dangel S. Rok 1831. S. 136.*

**Кавецкі Міхал** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 2.*

**Кадрыс Сымон** (1810–17.6.1849) – н. у Гродзенскай губ., радавы з 1829. У паўстанні радавы 4 палка пешых стральцоў. У студз. 1834 на караблі “Мар’яна” прыбыў з Гданьска ў Портсмут. Памёр у Лондане. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 194; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 78.*

**Кажухоўскі Сідар** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 115.*

**Казак Якуб** – селянін памешчыка Орды з маёнтка Гута Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. 8.8.1831 узяты ў палон. Пакінуты на месцы жыхарства. *РДВГА-8, арк. 149.*

**Казакевіч Адам** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 120.*

**Казакевіч Аляксандр (Уладзіслаў)** – прыёр Глыбоцкага кармяліцкага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Пастаўляў кантаністаў, капелан дзісенскага апалчэння. Застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 амнісціраваны, як дзейнічаўшы пад прымусам. *НГАБ-3, арк. 17; РДВГА-11, арк. 161; Dangel S. Rok 1831. S. 159.*

**Казакевіч Віктар** (н. 1812) – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Краснікі, студэнт ф-та права Віленскага ун-та. У паўстанні з сак. 1831, ппар. 18 палка лін. пяхоты, у складзе атрада Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. У лют. 1832 эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, з 1.4.1833 па 16.5.1833 у Бержэраку. 6.10.1835 перабраўся ў Манпелье, дзе да 1838 вывучаў медыцыну. Звяртаўся да расійск. улад за дазволам выехаць у Адэсу, у чым яму адмовілі. Пасля венгерскага паўстання перабраўся ў Турцыю. 4.3.1851 прыбыў у Ліверпуль. З крас. 1851 член ПДТ. Прызнаны выгнаннікам. Маёнтак канфіскаваны. *РДВГА-2, арк. 119; ч. 8, арк. 149; WCPL, nr 724, k. 113; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 344; яго ж: Zarys*

*rozproszenia. S. 83, 252, 279; Konarska B. Polskie drogi. S. 310; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 325.*

**Казакевіч Станіслаў –** шляхціц з Лепельскага пав. Віцебскай губ. Дапамагаў хавацца І. Адахоўскаму. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 28.6.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 33 адв.; РДВГА-11, арк. 162.*

**Казакевіч Станіслаў Ян** (1802–1848) **–** шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ігнацiя, скончыў ф-т права Віленскага ун-та, б. філамат і філарэт. У паўстанні дзейнічаў як эмісар. Выязджаў у Францыю, аднак, вярнуўшыся, атрымаў дараванне. У 1838 належаў да т-ва Ш. Канарскага. Рашэннем ваен. суда ад 8.2.1839 прызначаны да адпраўкі ў Сібір на цяжкія работы, 17.2.1844 атрымаў дазвол “на службу” ў Сібіры. *Domeyko I. Pamiętniki; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 219; PSB. T. 14; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 297-298.*

**Казарын Людвік** – шляхціц з Гродзенскай губ., адстаўны пар. расійск. войскаў. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. Вярнуўся на месца жыхарства да атрымання дазволу. *НГАБ-3, арк. 34; РДВГА-8, арк. 135.*

**Казірэц Рыгор** – селянін памешчыка Пршэгоцкага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна ўдзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-2, арк. 125*.

**Казлоў Дзяніс** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 125*.

**Казлоўскі Аляксандр** – селянін кн. Агінскай з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам, удзельнічаў у падзеях у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 яго справа накіравана ВГСК. *НГАБ-3, арк. 3 адв.; РДВГА-2, арк. 130; Dangel S. Rok 1831. S. 136.*

**Казлоўскі Багуслаў** – вольны хлебапашац з мяст. Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ. Выконваў загады ашмянскага ўрадавага паўст. к-та, здзяйсняў сувязь з К. Пршэздзецкім. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 36; РДВГА-11, арк. 163.*

**Казлоўскі Іван** – селянін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў атрадзе Г. Дэмбінскага, з якім дайшоў да Варшавы, адкуль вярнуўся на месца жыхарства. Атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 151*.

**Казлоўскі Караль** – з Віцебскай губ. У паўстанні з 1.2.1831 ппар. 16 палка лін. пяхоты, 4.10.1831 пар. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 28.2.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, 478, 479; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 351*.

**Казлоўскі Рафал –** шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у падзеях на тэрыторыі Рэчыцкага пав. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню КГСК атрымаў дараванне. *Dangel S. Rok 1831. S. 134*.

**Казлоўскі Сымон** – селянін памешчыка Жукоўскага з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 151*.

**Казлоўскі Ян Баптыста Фелікс** (н. 10.7.1809–2.8.1859) – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., н. у Гродна, вывучаў матэм. у Віленскім ун-це. У паўстанні ппар. У 1831 эмігрыраваў у Францыю, з 27.7.1833 член ПДТ. Вывучаў медыцыну ў Парыжы, 31.8.1836 скончыў з дыпломам. 25.8.1849 атрымаў французскае грамадзянства. Працаваў у дэп. Сена. Па рашэнню ГГСК ад 20.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 36 адв.; РДВГА-8, арк. 151; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 350; Konarska B. Polskie drogi. S. 312; Krawiec L. Lista członków. S. 45.*

**Казноўскі Адам Юзаф** (н. 1790) **–** н. у г. Нясвіж Слуцкага пав. Мінскай губ., ппар. корпуса ветэранаў. У паўстанні дзейнічаў у шпітальнай службе ў Варшаве. Па заканчэнні паўстання аднавіў прысягу на адданасць расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 478, 479, 571, 602; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 263.*

**Казырскі Аляксандр** (1793–24.6.1846) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., повар. У паўстанні радавы атрада пазнанскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў, у Францыю прыбыў у 1837 з Іспаніі. З 10.8.1837 да 17.10.1841 член ПДТ, 27.10.1844 уступіў паўторна. Памёр у вайсковым шпіталі ў Пуацье. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 152; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 230; Krawiec L. Lista członków. S. 80.*

**Казьмінскі Рыгор –** з Гродзенскай губ. У паўстанні з 9.5.1831. У 1832 эмігрыраваў у Францыю. З 12.9.1833 член ПДТ, 5.8.1834 асудзіў

А. Чартарыйскага. У маі 1842 знаходзіўся ў Парыжы. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 355; Krawiec L. Lista członków. S. 48.*

**Казянткоўскі Міхал** – з Гродзенскай губ., камісар маёнтка Сямёнаўка памешчыцы Эйсмантавай. Пастаўляў кантаністаў і харчаванне. Атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 150.*

**Кайкоўскі Аляксандр** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 4.*

**Каладзецкі Юзаф** – селянін з Гродзенскай губ. Добраахвотна знаходзіўся ў паўстанні. Вярнуўся на месца жыхарства. Атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 153.*

**Калантай** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 138.*

**Калантай Іван** – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Я. Жылінскага. Памёр да вынясення рашэння. Маёнтак вызвалены ад секвестра. *РДВГА-8, арк. 154*.

**Калантай Канстанцін** – памешчык з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Абвінавачаны ў супрацьурадавых дзеяннях. *РДВГА-8, арк. 153.*

**Калантай Францішак** – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 38 адв.; РДВГА-8, арк. 153; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Каласоўскі Ян Францішак** (18.11.1806–21.12.1872) – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Крыўцы, вывучаў літаратуру ў Віленскім ун-це. У паўстанні ппар. 11 ул. палка, 13.7.1831 перайшоў у складзе корпуса А. Гелгуда межы Прусіі. 26.2.1832 прыбыў у Францыю, з'яўляўся членам ПНК. У жн. 1833 стаў членам ПДТ. 3.8.1834 асудзіў А. Чартарыйскага. У 1837 далучыўся да АПЭ. Пачаткова вывучаў медыцыну ў Манпелье. З 1839 вывучаў права ў Пуацье, у 1842 атрымаў дыплом. У 1843 у Парыжы наведваў лекцыі па праву. 22.11.1841 выдаў адозву "Да польскай эміграцыі". У 1844 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. У 1841–48 рэдактар "Dziennika Narodowego", выдаў некалькі асабістых брашур. У крас. 1848 выехаў на радзіму, атрымаў дазвол жыць у Крака-

ве, належаў да кансерватыўнай арганізацыі "Час". У 1851 атрымаў дазвол выехаць у Галіцыю, дзе і памёр. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 213; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 163; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 301; Gadon L. Z życia Polaków. S. 119; Konarska B. Polskie drogi. S. 302; PSB. T. 13. S. 362; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 302.*

**Калацкі Цімафей** – з Мінскай губ., радавы мазырскай інваліднай каманды. Далучыўся да паўстанцаў, удзельнічаў у сутыкненнях пад Кузьмічамі і Міхалкамі. Трапіў у палон. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі пакінуты на вайсковай службе. *НГАБ-3, арк. 37–38; РДВГА-11, арк. 163.*

**Калдоцкі Феліцыян** – селянін памешчыка Пршэгоцкага з мяст. Смаргонь Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 136.*

**Календа Юзаф** – з г. Свянцяны Віленскай губ. У паўстанні ппар. 13 ул. палка атрада Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 65; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 68; Bieliński K. Rok 1831. S. 123.*

**Каліта Антон** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., адстаўны салдат польск. войскаў. Знаходзіўся сярод паўстанцаў прымусова. *РДВГА-2, арк. 10.*

**Каліцкі Кастан** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 9.*

**Калтуноўскі Францішак –** з Мінскай губ. У паўстанні падафіцэр 4 ул. палка, з 4.10.1831 ппар. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 7.2.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу на адданасць расійск. ураду. *BPP, nr 493; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 301.*

**Калужскі Францішак (?)** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., аканом. У паўстанні ппар. 13 ул. палка. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 5; РДВГА-8, арк. 136; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 241.*

**Калупайла Люцыян** (каля 1804 (1806) – 12.9.1872) – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., сын Ануфрыя і Барбары Равен-

скай, скончыў школу ў Свянцянах, Віленскі ун-т. У паўстанні з 25.3.1831, 3.4.1831 пар., дзейнічаў у атрадзе Д. Хлапоўскага. У 1831 эмігрыраваў у Францыю, член ПНК, працаваў на фабрыцы ў Сант-Дэніз. Ажаніўся з француженкай, меў сына і дачку. 19.2.1832 уступіў у ТЛРЗ. Памёр у Парыжы. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 155; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Rps BN, III. 6594, II. 7861, II. 7871; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 212; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 117, 210; яго ж: R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 302; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 203; Konarska B. Polskie drogi. S. 302.*

**Калышка Караль** – шляхціц з Мінскай губ., тытулярны саветнік, б. засядацель Вілейскага земскага суда. Прысягнуў паўстанцам, па загаду С. Радзішэўскага кіраваў атрадам. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 4.1.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 39 адв. – 40; РДВГА-11, арк. 164; Dangel S. Rok 1831. S. 128.*

**Калышка Тадэвуш** – шляхціц з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў атрадзе Г. Дэмбінскага. *НГАБ-3, арк. 40; РДВГА-2, арк. 141.*

**Кальзан Адольф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 136.*

**Кальзан Вінцэнт** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 139.*

**Кальзан Іпаліт** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 136.*

**Кальзан Мадэст** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 136.*

**Кальзан Францішак** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 139.*

**Кальзан Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 136.*

**Кальзняк** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., засядацель Ашмянскага земскага суда. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 139.*

**Калюсоўскі Генрык** (11.9.1806–23.12.1894) – з в. Казімірава Браслаўскага пав. Віленскай губ., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. Уваходзіў у склад урадавага паўст. к-та ў Цельшах, ппар. 11 ул. палка, дзей-

нічаў у складзе корпуса А. Гелгуда і Г. Дэмбінскага. 13.7.1831 перайшоў з Гелгудам межы Прусіі. Прыбыў у Францыю ў лют. 1832, член ПНК, знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, сакратар мясцовага Т-ва ўзаемнай дапамогі, член безансонскай рады, па спісу Л. Ходзькі член ТЛРЗ. Прымаў удзел у экспедыцыі Ю. Заліўскага, быў накіраваны ў Галіцыю. У 1837 разам з Ю. Клячынскім заснаваў кнігарню і друкарню. У 1837–38 у Бруселі выдаваў двухмесячнік “Ziemianin Wszerada”, разам з Ф. Гардашэўскім тыднёвік “Sprawy Emigracji”. Падтрымліваў блізкія стасункі з І. Лялевелем. Са жн. 1838 да 29.7.1839 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. 10.9.1839 выехаў у ЗША разам з сям’ёй, выкладаў мовы ў гімназіі штата Мічыган. У 1842 выконваў абавязкі сакратара ў Т-ве палякаў у Амерыцы. У 1846 выехаў у Францыю. У 1850 вярнуўся ў Амерыку, садзейнічаў заснаванню Дэмакратычнага т-ва польск. выгнаннікаў. Працаваў у статыстычным бюро, служыў у амерыканскай арміі. У 1863 належаў да заснаванага ў Нью-Йорку К-та дапамогі паўстанцам 1863. Працаваў дырэктарам дэп. у Міністэрстве промыслаў і гандлю. З’яўляўся адным з арганізатараў Польскага нац. альянсу. Памёр у Вашынгтоне. Ініцыіраваў заснаванне польск. бібліятэкі і музея ў Чыкага. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Rps BN, III. 6594, II. 7861, II. 7872; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 96; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 241; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 112; T. 3. S. 48, 155; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 189; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 78; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 274–275.*

**Калюта Антон** – селянін памешчыка Махвіца з в. Задвор’е Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., сын Юзафа. У ліп. 1831 выконваў абавязкі праваднікa. Трапіў у палон. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 137.*

**Калясінскі Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 138.*

**Каменскі (Камінскі) Адам** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Вы-



**Генрык Калюсоўскі.**
*Фотаздымак*

конваў абавязкі каменданта ў мяст. Лужкі. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 вызвалены ад праследавання, па канфірмацыі М.М. Мураўёва ў чэрв. 1831 аддадзены на парукі І. Лапацінскага. *НГАБ-3, арк. 12 адв.; РДВГА-11, арк. 145; Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Каменскі Францішак** – манах картэзіянскага кляштара ў Картуз-Бярозе Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага, узяты ў палон 8.8.1831 пад Невелем, паранены ў нагу. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-3, арк. 13; РДВГА-11, арк. 146; ч. 8, арк 137.*

**Каменскі (Камінскі) Юзаф** (15.9.1805–4.7.1847) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у Рагожыне, сын Людвіка, брат Юльяна Людвіка, дэпутат мінскага дваранскага дэпутацкага сходу. Вывучаў 3 г. філасофію ў Віленскім ун-це. Рыхтаваў для паўстанцаў у мяст. Даўгінава пікі, пастаўляў кантаністаў, узбр. удзельнічаў у захопе транспарту, які накіроўваўся з Дзісны ў Мінск, кап. 12 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю ў лют. 1832, член ПНК, з 10.12.1832 член ТЛРЗ. Вывучаў пачаткова медыцыну ў г. Каны, з 1837 у Манпелье, 28.12.1838 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у вайсковым шпіталі ў Тулузе. Ажаніўся з француженкай. Памёр каля Парыжа. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 5 адв.; РДВГА-11, арк. 144; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Rps BN, II. 7871, k. 182; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 197; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 95; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 244; Dangel S. Rok 1831. S. 133; Konarska B. Polskie drogi. S. 294.*

**Каменскі (Камінскі) Юльян Людвік** (7.1.1809–24.9.1862) – дваранін са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у Мінску, сын Людвіка, брат Юзафа. Рыхтаваў для паўстанцаў у мяст. Даўгінава пікі, пастаўляў кантаністаў, узбр. удзельнічаў у захопе транспарту, які накіроўваўся з Дзісны ў Мінск, кап. 12 ул. палка. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, з 10.12.1832 член ТЛРЗ, ПНК. У 15.8.1834–4.10.1837 член ПДТ. 6.9.1834 падпісаў статут польск. эміграцыі ў Лондане. 10.6.1834–8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, прыкладна ў сак. 1835 выехаў у Францыю, дзе ў 1846 працаваў камівояжорам. Пахаваны ў Мінску на Кальварыйскіх могілках. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 5 адв. – 6; РДВГА-11, арк. 144; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Rps BN, II. 7871, k. 182; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 244; Czerniawska T., Jaroszewicz A. Rzymsko-Katolicki Cmentarz. S. 122; Dangel S.*

*Rok 1831. S. 133; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 78; Krawiec L. Lista członków. S. 55; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 277.*

**Камінскі Караль** (н. 4.11.1794) – з Гродзенскай губ., ппар. польск. войскаў. У паўстанні з 3.5.1831 пар. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 245.*

**Камінскі Ксаверый** (1805–1867) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., канцылярыст Ашмянскага пав. суда. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 20; Rps BN, II. 7861.*

**Камінскі Павел** – селянін памешчыка Рэкета з в. Запруддзе Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у 1 рэзервовым артыл. палку. Пасля паўстання апынуўся ў Прусіі, адкуль вярнуўся ў КП. Узяты ў палон у 1833. Прызначаны радавым у Каўказскі асобны корпус, збег каля Жытоміра і накіраваўся ў Галіцыю. Арыштаваны. Справа адпраўлена ў ваен. ведамства. *РДВГА-8, арк. 137.*

**Камінскі Фёдар** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 21.*

**Камянецкі Кастан** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 11.*

**Канапацкі Алаізій –** з Мінскай губ., пар. 5 палка лін. пяхоты польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 кап., 28.7.1831 маёр 16 палка лін. пяхоты. 9.3.1831 атрымаў залаты крыж. 16.9.1831 перайшоў з корпусам Д. Рамарына межы Галіцыі, інтэрніраваны. 14.5.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу на адданасць расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 550; GP. 27.2.1831; Księga pamiątkowa. S. 94; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 309-310.*

**Канапацкі Антоній –** з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., скончыў юрыд. ф-т Віленскага ун-та, з 1814 адвакат у Панявежы. У паўстанні кап. аўгустоўскага апалчэння, затым 1 палка лін. пяхоты. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. У сак. 1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 12.2.1837 член ПДТ, у 1846 выступаў супраць А. Чартарыйскага. *Księga pamiątkowa. S. 165; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 83, 240; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 310; Krawiec L. Lista członków. S. 77; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 305.*

**Канаплянскі Адольф** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Яна, брат Генрыха, Дамініка. У паўстанні радавы. Вярнуўся на мес-

ца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 10.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 42; РДВГА-11, арк. 165.*

**Канаплянскі Генрых** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Яна, брат Адольфа, Дамініка. Знаходзіўся ў Лужках пад час стварэння там урадавага к-та. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 165.*

**Канаплянскі Дамінік** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Яна, брат Генрыха, Адольфа. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. З'явіўся з раскаяннем, утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці. Па рашэнню ваен. суда ад 22.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 18; РДВГА-11, арк. 166; Dangel S. Rok 1831. S. 134.*

**Канаплянскі Ян** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Францішка. Дзейнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў, выконваў абавязкі каменданта Пагоскага ключа. З'явіўся з раскаяннем, утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці. Па рашэнню ваен. суда ад 20.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 18; РДВГА-11, арк. 166; Dangel S. Rok 1831. S. 134.*

**Канашэўскі Антон** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 152.*

**Кандрат Ян** – селянін памешчыка Пуслоўскага з Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК ад 4.4.1834 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 50; РДВГА-8, арк. 155.*

**Кандратовіч Пётр** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 152.*

**Кандрацкі Клеменс** (н. 1803) – з мяст. Дзярэчын Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сяржант польск. войскаў. Удзельнік выступлення 29.11.1830, з 9.12.1830 ппар., 19.2.1831 трапіў пад Ваўрам у палон. Высланы ў Яранск Вяцкай губ. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 309; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 282.*

**Кандрыс Сымон** – з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 135.*

**Кандыба Ігнацій** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ. Служыў у вілейскім апалчэнні. Удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю

ў Крыпулах. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 19.7.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 13 адв.; РДВГА-11, арк. 147; Dangel S. Rok 1831. S. 125, 133.*

**Кандыба Юзаф** – з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Меў дачыненне да паўстання. Па канфірмацыі М. М. Мураўёва аддадзены на парукі І. Лапацінскага. *Dangel S. Rok 1831. S. 119, 133.*

**Канопка Аляксандр** (3.5.1787–23.4.1831) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сын Яна, ппалк. польск. войскаў. У паўстанні ппалк., 22.12.1830 кіраваў корпусам жандармерыі, з 27.12.1830 ппалк. 1 ул. палка. 17.4.1831 атрымаў залаты крыж. Памёр у Пултаску (Польшча) ад халеры. *Księga pamiątkowa. S. 113; Źródła do dziejów. T. 2; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 310; PSB. T. 13. S. 564.*

**Кансевіч** – памешчык з Гродзенскай губ. Кіраваў асобным атрадам (40 чал.), пасля адыходу да Вількаміра далучыўся да атрада Вінцэнта Матусевіча. *РДВГА-2, арк. 157.*

**Кантрымовіч Юзаф** (н. 17.9.1809) – н. у Віленскай губ., сын Матэвуша і Марыі, б. вучань Дынабургскай школы ппрап., унтэр-афіцэр Эстляндскага пях. палка. Актыўна ўдзельнічаў у распаўсюджванні паўстання ў Дзісенскім пав., складаў Акт канфедэрацыі, удзельнічаў у бітве пад Дзіснай, з 15.6.1831 ппар. 21 палка лін. пяхоты, 12.7.1831 далучыўся да 19 палка лін. пяхоты, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Авіньёне. 2.3.1833 высланы ў Бержэрак. З крас. 1848 член ПДТ. 5.1.1856 уступіў у дывізію султанскіх казакаў, служыў ппар. 1 палка лін. пяхоты. Па заканчэнні ваен. дзеянняў вярнуўся ў Францыю. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, які скарыстаў. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1833 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 18 адв.; РДВГА-11, арк. 166; AGAD, PFR, nr 7, 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 311; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 61, 252, 278; Dangel S. Rok 1831. S. 135; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 306.*

**Каперніцкі Нарцыз** (1807–9.10.1841) – н. у Рэчыцкім пав. Мінскай губ., сын Францішка, карнет Курляндскага ул. палка. У паўстанні ппар. оўруцкага апалчэння. Адышоў у Галіцыю. Па рашэнню МГСК ад 24.9.1832 аднесены да 2 разр. зл. У 1835 прыбыў у Францыю. У 1837 далучыўся да АПЭ. Памёр ад ран. *НГАБ-3, арк. 14 адв.; РДВГА-11,*

*арк. 167; ND. 1843. S. 138; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 217; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 312; Dangel S. Rok 1831. S. 135*.

**Капчынскі Ян (Юзаф)** (н. 5.5.1813) – з в. Талуш Мінскай губ., сын Караля і Цэцыліі. У паўстанні радавы 12 ул. палка, адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, у 1837 член АПЭ. Па рашэнню МГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 14 адв.; РДВГА-11, арк. 167; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 197; Dangel S. Rok 1831. S. 118*.

**Карабевіч Эдмунд** (23.12.1803 (1804) – 18.4.1875) – шляхціц з Гродзенскай губ., н. у в. Міткуны, у 1826 скончыў мед. ф-т Віленскага ун-та. У паўстанні штабс-лекар 10 ул. палка, аўтар адозвы "Заклік літвінаў да бітвы". Эмігрыраваў у Францыю, вывучаў медыцыну ў Страсбургу (1836–37) і Парыжы, у 1837 атрымаў дыплом. Адзін з заснавальнікаў баціньёльскай школы, працяглы час выконваў там абавязкі ўрача. 23.9.1834 у Парыжы стаў членам ПДТ. Памёр у Парыжы, пахаваны на Пер-Лашэз. *Rps BN, II. 7861; BPP, nr 565; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 217; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 108; Inskrypcje… w Paryżu – Père-Lachaise. S. 5; Konarska B. Polskie drogi. S. 304; PSB; Krawiec L. Lista członków. S. 55; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 306*.

**Караватчык Міхал** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 25*.

**Караза Андрэй** – селянін гр. Грыбоўскага з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага. З'явіўся да ўлад. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 158*.

**Каранацэвіч Аляксандр** – шляхціц з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., сын Ігнацыя, камердынер Ц. Пуслоўскага. Дапамагаў у арганізацыі атрада ў Пінскім пав., збіраў для паўстанцаў зброю. Арыштаваны ў мяст. Любашэва, збег з-пад стражы, але пазней з'явіўся з раскаяннем у Кобрынскі земскі суд. Адпушчаны з-пад арышту. *НГАБ-3, арк. 9; РДВГА-8, арк. 158; ч. 11, арк. 169*.

**Каранецкі Ежы** (н. каля 1798) – селянін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе М. Гедройца. Рашэннем ваен. суда прызначана 20 палак і ссылка на катаргу. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 285*.

**Каратай Юзаф** – з Гродзенскай губ. Служыў у 13 ул. палку атрада Г. Дэмбінскага. Дайшоў да Варшавы. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 139*.

**Караткевіч Ян** (каля 1796–3.9.1857) – н. у Мінскай губ., на вайсковай службе з 1.3.1817 у 1 ул. палку. У паўстанні з 8.6.1831 ппар., 1.7.1831 пар. Эмігрыраваў у Францыю. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 218.*

**Карвецкі Антоній** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 26*.

**Каржанеўскі Адам** – памешчык з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 44; РДВГА-2, арк. 172*.

**Каржанеўскі Адольф** (каля 1812–9.4.1837) – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Сапуніцы, вучань Віленскай гімназіі. У паўстанні ппар. 11 ул. палка. 15.7.1831 у складзе корпуса Ф. Роланда перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Шатору. З 27.12.1833 да 31.7.1836 член ПДТ. У маі 1836 выехаў у Бардо. Памёр у дэп. Манш. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-3, арк. 44 адв.; РДВГА-8, арк. 157; ND. 1843. S. 139; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 319; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 164, 304; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 312*.

**Каржанеўскі Ян** – н. у Віцебскай губ., служыў у корпусе ветэранаў. У паўстанні з 22.4.1831 ппар. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 7.2.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. Пазней эмігрыраваў, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. З 29.8.1834 член ПДТ. *AGAD, KRW, nr 477, 478, 479; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 320; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 61; Krawiec L. Lista członków. S. 54*.

**Карзюк Фелікс** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дапамагаў паўстанцам харчаваннем, пастаўляў кантаністаў. *НГАБ-3, арк. 44 адв.; РДВГА-2, арк. 175*.

**Карзюк Якуб** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Захоўваў пауст. паперы. Дапамагаў паўстанцам харчаваннем, пастаўляў кантаністаў. *НГАБ-3, арк. 44 адв.; РДВГА-2, арк. 175*.

**Карказовіч Каэтан** – з мяст. Глыбокае Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Францішка, брат Фларыяна. Служыў у дзісенскіх паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 10.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 8 адв.; РДВГА-2, арк. 28; ч. 11, арк. 168.*

**Карказовіч Фларыян** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Францішка, брат Каэтана. Падпісаў Акт канфедэрацыі, паставіў 7 кантаністаў, з'яўляўся кандыдатам у члены ўрадавага к-та ў Лужках. Пасля паражэння з'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 23.12.1831 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 7 адв.; РДВГА-11, арк. 168.*

**Карнееў Якуб** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Служыў узбр. у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пры Міхалках, дзе трапіў у палон. Па рашэнню МГСК вернуты ўласніку. *НГАБ-3, арк. 21; РДВГА-11, арк. 148.*

**Карніцкі** – селянін памешчыка А. Горвата з маёнтка Нароўля Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Нароўлі, выконваў абавязкі кучара. Па рашэнню МГСК атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 21; РДВГА-11, арк. 147.*

**Карноўскі (Карвоўскі) Сільвестр** (н. 1802) – з мяст. Мір Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. (г. Відзы Віленскай губ. ?), служыў у расійск. войсках. У паўстанні з 15.6.1831, 21.9.1831 ппар. 26.9.1831 з С. Рожыцкім перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. У 1832 прыбыў у Францыю. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 217; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 254, 259.*

**Каронак Ілья** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 25.*

**Карповіч Андрэй –** з Вілейскага пав. Мінскай губ. У паўстанні пар. 12 ул. палка. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, член ПНК, належаў да закладу ў Безансоне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 255; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Карповіч Канстанцін** – ксёндз з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам і прыводзіў да прысягі жыхароў Ашмян. *РДВГА-2, арк. 33.*

**Карповіч Пётр** – селянін з в. Краснае Сяло Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 140*.

**Карповіч Юзаф** – з Вілейскага пав. Мінскай губ. У паўстанні ппар. 12 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю ў 1832, член ПНК. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 252, 278; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 255; Dangel S. Rok 1831. S. 133*.

**Карпоцкі Ян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 35*.

**Карташэвіч Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 36*.

**Карчэўскі Баляслаў** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 37*.

**Карчэўскі Караль** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ігнація. Дзейнічаў у складзе дзісенскага і вілейскага апалчэння, знаходзіўся пад Відзамі і Коўна. Ппар. 18 палка лін. пяхоты, у складзе атрада Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. Трапіў у палон. Па канфірмацыі мінскага ваен. губернатара адпраўлены на месца жыхарства. Пазней эмігрыраваў, знаходзіўся ў Францыі. З 7.4.1848 член ПДТ. *НГАБ-3, арк. 22; РДВГА-11, арк. 148; WCPL, nr 724, k. 113; Dangel S. Rok 1831. S. 133; Krawiec L. Lista członkyw. S. 116.*

**Карчэўскі Стэфан** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Карчэўскі Сямён** – з Мінскай губ. Удзельнічаў у падзеях у Маладзечне. Месца знаходжання для МГСК засталося не выяўленым, пратакол ад 21.12.1831. *НГАБ-3, арк. 3; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Карчэўскі Эдуард** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 37*.

**Карэнга (Карэга) Дамінік** (16.12.1810–28.8.1873) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Астрончыцы (Астроўчына), сын Вінцэнта і Марыі, кадэт Дынабургскай школы. Пакінуў школу і 20.4.1831 далучыўся да паўстанцаў. Дзейнічаў у атрадзе Т. Тышкевіча,

ппар. 11 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю 4.3.1832, пачаткова працаваў у друкарні, у 1838 паступіў у корпус дарог і мастоў у рангу памочніка, з 1840 – інструктар на будоўлі канала Рэнэм – Марна, з 1851 працаваў шэфам секцыі чыгуначнай лініі Парыж – Страсбург. 25.9.1847 ажаніўся з француженкай, меў дачку. 20.12.1864 атрымаў французскае грамадзянства. Памёр пад Парыжам. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 14; РДВГА-8, арк. 140; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 199; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 92, 252; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 252; Konarska B. Polskie drogi. S. 296.*

**Касакоўскі Леанард** (20.6.1803–14.4.1877) – н. у Віленскай губ., сын Фелікса і Тэклі Кайскай, у 1828 скончыў ф-т права Віленскага ун-та. Дзейнічаў у чыне ппар. сярод навагрудскіх паўстанцаў. Пасля паражэння застаўся на месцы жыхарства, працаваў прыватным настаўнікам. Належаў да справы Ш. Канарскага, у 1838 эмігрыраваў у Францыю. *Rps BN, II. 7861; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 221; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 326; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 215.*

**Касіцкі Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. РДВГА-2, арк. 191.

**Касіяновіч** – ксёндз Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. РДВГА-2, арк. 38.

**Каспяровіч Антоній** – з Мінскай губ., аканом памешчыка В. Пуслоўскага. Удзельнічаў у мерапрыемствах Ц. Пуслоўскага, але заставаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 20; РДВГА-11, арк. 149.*

**Каспяровіч Фларыян** – з Гродзенскай губ., б. пісьмавод. Сумесна з А. Скродскім арганізоўваў паўстанне ў Кобрынскім пав. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 141*.

**Кастравіцкі (Кастравецкі) Адам** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Падпісаў Акт канфедэрацыі. Быў абраны ў дзісенскі ўрадавы к-т, але сваіх абавязкаў не выконваў. Забяспечваў паўстанцаў харчаваннем. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 19.10.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 7; РДВГА-11, арк. 178.*

**Кастравіцкі (Кастравецкі) Караль** (п. 13.5.1873?) – з Мінскай губ., сын Самуэля. У паўстанні пар. 7 ул. палка. 19.8.1831 атрымаў залаты крыж. 2.10.1831 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. Па

рашэнню МГСК атрымаў дараванне. Пахаваны ў Мінску на Кальварыйскіх могілках (?). *AGAD, KRW, nr 478; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 133; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 330; Czerniawska T., Jaroszewicz A. Rzymsko-Katolicki Cmentarz. S. 113; Dangel S. Rok 1831. S. 136.*

**Касцялецкі Ян** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні падхар. 4 палка конных стральцоў, з 4.10.1831 ппар. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне. З 19.12.1833 член ПДТ. *РДВГА-2, арк. 194; BPP, nr 493; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 333; Krawiec L. Lista członków. S. 50*.

**Касцялкоўскі (Кацялкоўскі) Ян** (н. 1808) – з Мінскага пав., н. у Віленскай губ., сын Аляксандра, унтэр-афіцэр Эстляндскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў і актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі паўстання ў Лужках, захопе Дзісны, з 25.3.1831 пхар., 15.6.1831 ппар. 19 палка лін. пяхоты, уваходзіў у склад корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У чэрв. 1832 прыбыў у Францыю на караблі "Эрманюс". Пачаткова знаходзіўся ў Гаўры, затым у Буржэ. З 1834 член ПДТ, у студз. 1840 далучыўся да АПЭ. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 11; РДВГА-11, арк. 179; AGAD, PFR, nr 7, 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 333; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 118, 314; Dangel S. Rok 1831. S. 134; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 318.*

**Катkoўскі Казімір** (каля 1800–1.12.1854) – з Гродзенскай губ., канцылярыст Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. У чэрв. 1832 прыбыў у Францыю. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 224*; *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 335*.

**Катлінскі Сямён** – памешчык з Лепельскага пав. Віцебскай губ., сын Івана. Распаўсюджваў чуткі пра паўст. падзеі. Арыштаваны ў Віцебску. Адпраўлены ў Смаленск для ссылкі ў аддаленыя губерні Расіі пад нагляд паліцыі. *НГАБ, ф. 1430, воп. 1, спр. 2764, арк. 1–7*.

**Катлубай Міхал** – з Мінскай губ, вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. З-за малалецтва па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 3; РДВГА-11, арк. 180.*

**Катлубай Фларыян** – з Мінскай губ., настаўнік Маладзечанскага вуч., кандыдат філасофіі. Прысягнуў паўстанцам, пад час сходу ў Ма-

ладзечне чытаў супрацьурадавыя адозвы. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 49 адв.; РДВГА-11, арк. 180; AGAD, MMK, nr 4*.

**Каўроўскі Ігнацій** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Т. Тышкевіча. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 2; РДВГА-8, арк. 134.*

**Кацуба Сымон** – селянін памешчыка Ю. Крушэўскага з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Служыў у мазырскіх паўстанцаў, пазней апынуўся ў атрадзе Бараноўскага, удзельнічаў у сутыкненнях з расійск. войскамі. Узяты ў палон. Рашэннем МГСК ад 12.11.1831 адпраўлены на ваен. службу. *НГАБ-3, арк. 15 адв.; РДВГА-11, арк. 181.*

**Кацэйба Францішак** – селянін памешчыка С. Горвата з маёнтка Галоўчыцы Мазырскага (?) пав. Мінскай губ., працаваў слесарам. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 20 адв.; РДВГА-11, арк. 180*.

**Качальскі Лявон** – з Гродзенскай губ., падканцылярыст Кобрынскага суда. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 159.*

**Качальскі Фелікс** – з Гродзенскай губ., канцылярыст Кобрынскага суда. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 159*.

**Качан Васіль** – селянін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 45*.

**Качан Казімір** (н. 15.3.1799) – з Гродзенскай губ., н. у в. Яскевічы, сын Яна і Марыі Баянкевіч. У паўстанні радавы 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, з 27.7.1835 у Іспаніі. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 192.*

**Качаноўскі Антоній –** з Вілейскага пав. Мінскай губ. Меў дачыненне да паўстання. Аддадзены на парукі пав. маршалка. *Dangel S. Rok 1831. S. 119*.

**Качаноўскі Дзіянісій –** з Ашмянскага пав. Віленскай губ., пав. казначэй. Прысягнуў паўстанцам, меў стасункі з П. Важынскім, пасля паўстання хаваўся. *РДВГА-2, арк. 47*.

**Качаноўскі Караль** (1800–14.5.1873) – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., н. у Пінску, сын Паўла, скончыў школу вайсковай інжынерыі ў Варшаве, адстаўны ппар. артылерыі польск. войскаў. У паўстанні з 1.1.1831, ппар. Уваходзіў у клуб Згуртаванне братоў. Падпісаў адрас аб арганізацыі асобнага Літ. легіёна. З 1.7.1831 кап. у корпусе А. Гелгуда, пар. артылерыі ў атрадзе Г. Дэмбінскага, у складзе якога прыбыў у Варшаву. 30.8.1831 атрымаў залаты крыж. 26.9.1831 перайшоў з С. Рожыцкім межы Галіцыі, інтэрніраваны. Эмігрыраваў у Францыю, з лют. 1832 у Парыжы, член ПНК, з 23.3.1832 да 15.11.1845 член ПДТ. З 1839 вывучаў тэалогію ў Рыме. Памёр у Рыме. Па рашэнню МГСК ад 13.2.1834 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 408; ф. 299, воп. 1, спр. 242, арк. 530 адв.–536; ф. 561, воп. 1, спр. 3, арк. 23; РДВГА-11, арк. 150; AGAD, WCPL, nr 724, k. 32; EPP, nr 1, k. 18; BPP, nr 565; Księga pamiątkowa. S. 137; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 193; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 234; Dangel S. Rok 1831. S. 132; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 236; Konarska B. Polskie drogi. S. 292; Krawiec L. Lista członków. S. 42; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 271.*

**Качарэўскі Мацвей** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 200.*

**Качынскі Юзаф** – селянін памешчыка Пршэгоцкага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Збег ад свайго памешчыка, агітаваў сялян да ўдзелу ў паўстанні. *РДВГА-2, арк. 49.*

**Качэн** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-2, арк. 48.*

**Кашыц Фелікс** (1803–17.5.1841) – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Купішкі. У паўстанні дзейнічаў у 11 ул. палку. Эмігрыраваў у Францыю. З 17.8.1839 член ПДТ. Памёр у Манпелье. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Перэнтаны канфіскаваны. *НГАБ-3, арк. 24; РДВГА-8, арк. 141; ND. 1843. S. 138; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 202; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 86; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 285.*

**Кашыц Юзаф** (25.11.1795–16.1.1868) – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. на Піншчыне, сын Міхала і Розы Keневіч, з 1830 навагрудскі маршалак. Вучыўся ў дамініканскай школе ў Навагрудку, у 1811 вывучаў матэматыку ў Віленскім ун-це. Удзельнічаў у вайне 1812 на баку Напалеона. Арганізатар паўстання ў Навагрудскім і Слонімскім пав.

Стварыў у сваім маёнтку Ятра асобны атрад, які ў ліп. 1831 налічваў каля 1 тыс. чал. 22.7.1831 выдаў адозву. Меў сутычкі з расійск. войскамі каля в. Гарадзішча, Каменны Брод, Кошалева, Радзюкі, Навіны, нападаў на мяст. Дзятлава, захапіў мяст. Беліцу. У Навагрудку атрад Кашыца разброіў інвалідную каманду, захапіў астрог і вызваліў арыштантаў. 24.7.1831 атрад далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, член штаба, ппалк. атрада навагрудскай конніцы, адышоў у Варшаву. 8.8.1831 абраны паслом на сейм ад Навагрудскага пав. Уваходзіў у склад утворанага 15.8.1831 Літ. к-та. 14.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, прыбыў у Парыж 26.10.1831, разам з ім жыў сын Канстанцін (н. 23.3.1819). Уваходзіў у склад ТЛРЗ. У 1832 выехаў у Чэхію з надзеяй вярнуцца на радзіму. Вярнуўся ў Страсбург. У вер. 1834 выехаў у Парыж. У 1836 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. Уваходзіў у склад групы А. Чартарыйскага, з 1854 з'яўляўся яго саветнікам. 8.11.1849 атрымаў французскае грамадзянства. Знаходзіўся ў сяброўскіх адносінах з А. Міцкевічам. 29.5.1863 па тэстаменту свой маёнтак ахвяраваў бедным і для заснавання помнікаў у Навагрудку Е. Бялапятровічу і А. Міцкевічу. Жанаты на Софіі Раецкай, меў сыноў Юліуша, Караля, Канстанціна і дачку. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 1 разр. зл., маёнтак Ятра канфіскаваны. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры.



**Юзаф Кашыц.**
*Літаграфія*

*Kaszyc J. Do JW senatora; НГАБ-3, арк. 24; РДВГА-8, арк. 142–143; ф. 35, воп. 9, спр. 168; ф. 405, воп. 2, спр. 4288; AGAD, WCPL, nr 724, k. 50; BPP, nr 565; Rps BN, II. 7861; Rps BUW, nr 2327; DS. T. 6. S. 385; Księga pamiątkowa. S. 146; Lelewel J. Listy emigracyjne. T. 2–4; яго ж: Pamiętnik z roku 1830–31. S. 159; Воронков И.А. Восстание; Социальный состав; ЭГБ. Т. 4. С. 158; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 56; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 202; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 261; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 1. S. 119; Gadon L. Z życia Polaków. S. 119; Handelsman M. Adam Czartoryski. T. 3; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 196; Kaczkowski J. Konfiskaty; Katalog portretów. T. 6. S. 241; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 75; Konarska B. Polskie*

*drogi. S. 298; Polacy pochowani. S. 169; PSB. T. 12. S. 212; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; яго ж: Les Polonais.*

**Каюловіч Францішак** – селянін з мяст. Ружаны Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова, адышоў у Прусію. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 152*.

**Квесялевіч Людвік** – святар Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Садзейнічаў распаўсюджванню паўстання. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 143*.

**Квінта Адольф Пётр Павел** (п. 19.8.1898) – з Браслаўскага пав. Віленскай губ., н. у в. Пеліканы, з 10.3.1829 на службе ў расійск. арміі. У паўстанні з 19.3.1831, 2.7.1831 ппар. 13 ул. палка, дайшоў з атрадам Г. Дэмбінскага да Варшавы, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У 1832 утрымліваўся прускімі ўладамі ў турэмным зняволенні ў Гданьску. 4.8.1832 на караблі "Лакс" прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў Буржэ. З 19.6.1833 да 5.1835 член ПДТ, у 1837 далучыўся да АПЭ. Ажаніўся з францужанкай, меў сына Іаахіма. Памёр у Бардо. *DS. T. 6. S. 440; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 247; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 405; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 119, 278; Krawiec L. Lista członków. S. 44; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 357*.

**Квінта Мечыслаў** (н. 1812) – шляхціц з Браслаўскага пав. Віленскай губ., н. у в. Пеліканы, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні з 3.4.1831, 10.5.1831 ппар. атрада пазнанскай конніцы, з атрадам Г. Дэмбінскага дайшоў да Варшавы, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У 1832 знаходзіўся ў Гданьску ў турэмным зняволенні. 4.8.1832 на караблі "Лакс" прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ. Працаваў у друкарні. У 1891 жыў яшчэ ў Францыі. *DS. T. 6. S. 440; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 405; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 119, 279; Bieliński K. Rok 1831. S. 123*.

**Квінта Рудольф** (16.4.1808–12.1873 (1878) – шляхціц з Браслаўскага пав. Віленскай губ., н. у в. Пеліканы, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні з 3.4.1831, 5.5.1831 ппар. 9.8.1831 удзельнічаў у Варшаве ў

Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. У 1832 знаходзіўся ў Гданьску ў турэмным зняволенні. 4.8.1832 на караблі "Лакс" прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў Буржэ. Вучыўся ў Горнай школе ў Сант-Эцьене, з 1833 працаваў у адміністрацыі дарог і мастоў, у 1838 памочнікам інструктара. Ажаніўся з францужанкай, меў сына Караля Рудольфа. *DS. T. 6. S. 440; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 247; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 405; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 119, 279; Bieliński K. Rok 1831. S. 123; Konarska B. Polskie drogi. S. 319*.

**Квінта С.** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ., асэсар Свянцянскага ніжняга суда. Дзейнічаў сярод свянцянскіх паўстанцаў, 20.4.1831 стаў членам часовага ўрада Свянцянскага пав. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 атрымаў дазвол вярнуцца ў свой маёнтак. *Bieliński K. Rok 1831. S. 15–16, 84–85*.

**Квяткоўскі Антоній Уладзіслаў** (п. 1897) – канцылярыст Гродзенскай казённай палаты, вучыўся ў гродзенскай гімназіі. Прысягнуў паўстанцам. Памёр у Гродна, пахаваны на гродзенскіх фарных могілках. *РДВГА-2, арк. 56; Cmentarz farny. S. 102*.

**Квяткоўскі Дамінік** (н. 15.8.1788) – з Віцебскай губ., сын Вінцэнта і Марыі, маёр польск. войскаў. У паўстанні ппалк., 9.6.1831 атрымаў залаты крыж. У чэрв. 1832 прыбыў у Парыж. З 1.11.1832 член ТЛРЗ. У маі 1834 выехаў у Варшаву. *Rps BN, II. 7872; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 402*.

**Квяткоўскі Фелікс** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. *РДВГА-2, арк. 56; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77*.

**Квяткоўскі Францішак** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Андрэя, жыў у мяст. Маладзечна. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 3 адв.; РДВГА-11, арк. 151; Dangel S. Rok 1831. S. 136.*

**Кеневіч Фелікс** (1802–1863) – памешчык з Мазырскага пав. Мінскай губ., н. на Палессі, сын Антонія Нестара і Тэклі, вучыўся ў Віленскім ун-це. Валодаў сумесна з маці і братамі маёнткамі Дарашэвічы, Снядзіна, Лобча. У маі 1831 арганізаваў у Мазырскім пав. пауст. атрад, які разбіў у в. Каралін, Кузмічы, Міхалкі паштовыя станцыі. 11.6.1831 спрабаваў захапіць г. Мазыр. 25.5.1831 атрад разбіты ў Мухаедаўскіх лясах, сам Кеневіч

накіраваўся ў Варшаву. 10.8.1831 абраны паслом на варшаўскі сейм ад Мазырскага пав. Пасля паражэння паўстання перабраўся ў Галіцыю. Па рашэнню МГСК ад 3.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. Рашэннем Мінскай казённай палаты ад 18.5.1832 сродкі, атрыманыя ад продажы рухомай маёмасці Ф. Кеневіча, пераведзены ў казну. 2.7.1832 прасіў літасці. У 1833 прыбыў у Францыю. Меў стасункі з І. Лялевелем. У 1835–36 удзельнічаў у спробах аднавіць паўстанне. Ажаніўся з француженкай, меў сына Гераніма і дачку Феліцыю. Набыў у Францыі маёмасць на грошы, прысланыя сваякамі. У 1857 па амністыі разам з сынам Геранімам (у маі 1864 расстраляны ў Казані за ўдзел у паўстанні 1863) вярнуўся ў Мазыр. Пабудаваў дом ва ўрочышчы Багданка, пахаваны ў Паўлінаве. *НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 170, арк. 12; ф. 561, воп. 1, спр. 3, арк. 62 адв. – 63; РДВГА-11, арк. 192; ф. 405, воп. 2, спр. 2318, арк. 9 адв.; AGAD, MMK, nr 6; Rps BUW, PJK, nr 566, k. 17–18; DS. T. 6. S. 444; Kieniewicz A. Nad Prypecią. S. 30–31; Lelewel J. Listy emigracyjne. T. 1, 3; ЭГБ. Т. 4. С. 162; Barzykowski S. Historia. T. 4. S. 357; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 269; Dangel S. Rok 1831. S. 133; Fajnhauz D. Ruch konspiracyjny; PSB. T. 12. S. 415.*

**Кернажыцкі Алаізій** – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткі час. *РДВГА-8, арк. 144.*

**Керсноўскі Адам** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў у конным палку пад кіраўніцтвам К. Пршэздзецкага. Адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *РДВГА-2, арк. 68; DS. T. 6. S. 440.*

**Керсноўскі Міхал** (1800–14.11.1846) – са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у Свянцянах. Адзін з арганізатараў паўстання ў Свянцянах, кап. артылерыі, затым ппар. 6 палка конных стральцоў, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў прускую мяжу. У сак. 1832 прыбыў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 1834 – у Англіі, з 10.6.1834 і да смерці атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. 1.9.1834 падпісаў у Лондане акт польск. эміграцыі. Памёр і пахаваны ў Лондане. *Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 126; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 204; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 87; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 270; Bieliński K. Rok 1831. S. 122; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 79.*

**Керсноўскі Сідар** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад

8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 25; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 144*.

**Керсноўскі Францішак** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Багуслава і Юзэфы Кабылінскай, скончыў навагрудскую школу і ф-т права Віленскага ун-та, перад паўстаннем жыў у дзядзькі каля Плоцка. У паўстанні пхар. атрада Г. Дэмбінскага, дайшоў да Варшавы, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар. 13 ул. палка. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Буржэ. У маі 1836 далучыўся да польск. легіёна ў Іспаніі. З 1840 член АПЭ. У кастр. 1849 звяртаўся за дазволам аб вяртанні на радзіму, атрымаў яго ў 1857. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 25 адв.; РДВГА-8, арк. 144; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 385; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 270; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 116, 209*.

**Керчукевіч Яршук** – селянін памешчыка Багурскага з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Пакінуты на месцы жыхарства. *РДВГА-8, арк. 145*.

**Кеўліч Стэфан (Кіўліц Сцяпан)** (1809–1863) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., студэнт. У паўстанні падафіцэр 4 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Францыю, дзе і памёр. *РДВГА-2, арк. 72; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 204; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 286*.

**Кеўліч Юзаф –** шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-2, арк. 58*.

**Кікільгорн** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 79*.

**Кілчэўскі Апалінарый** – памешчык з Бабруйскага пав. Мінскай губ. Меў стасункі з паўстанцамі. Па рашэнню МГСК ад 25.2.1832 вызвалены ад суда, па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ўзяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-3, арк. 25; Dangel S. Rok 1831. S. 133*.

**Кіркуць Дзіянісій** – шляхціц з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, трапіў у палон пад Коўна, адпраўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 25.1.1833 адпраўлены ў Каўказскі асобны корпус. 23.4.1833 выехаў на Каўказ. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 101*.

**Кісялеўскі Дзіянісій –** з Гродзенскай губ. У паўстанні з 25.3.1831, 28.3.1831 ппар. атрада К. Залускага. 5.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. У 1832 прыбыў у Францыю, з 7.7.1833 член ПДТ. *Księga pamiątkowa. S. 141; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 276; Krawiec L. Lista członków. S. 44.*

**Кісялеўскі Міхал** (п. 2.1876) **–** н. у Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка. Прыбыў з Гданьска ў Портсмут (Англія) у студз. 1834 на караблі "Мар'яна". З 10.6.1834 і да смерці атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1866 член АПЭ. Быў непісьменным. Памёр у Портсмуце. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 206; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 79.*

**Кіяноўскі Томаш Караль** (н. 1791 (7.3.1794)) – з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Рафала і Ганны Станкевіч. За ўдзел у падзеях 1812 на баку французаў асуджаны на 10 г. цяжкіх работ, сасланы ў Замосце, пасля скіраваны ў 4 полк лін. пяхоты. У паўстанні ппар. 16 палка лін. пяхоты, з 2.9.1831 пар., 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. У 1832 прыбыў у Францыю. З 4.1.1837 член ПДТ. *BPP, nr 408, s. 241; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 117; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 273; Krawiec L. Lista członków. S. 74; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 290.*

**Класоўскі Аляксандр** – селянін з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Сасланы на пасяленне. За спробу ўцёкаў адпраўлены на катаргу. У 1849 пераведзены на пасяленне. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 273.*

**Клачко Антоній** – шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню КГСК атрымаў дараванне. *Dangel S. Rok 1831. S. 134.*

**Клеер Павел** – з Гродзенскай губ., студэнт. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. *РДВГА-8, арк. 145*.

**Клімашэўскі Гіпаліт** (19.1.1802–18.12.1874) – з Мазырскага пав. Мінскай губ., н. у в. Капаткевічы, паэт. Вучыўся ў Мазыры, Оўручы, з 1817 у Крамянецкім ліцэі, у 1817 наместнік прафесара рыторыкі базыльянскай школы ў Любашы. З 1820 вывучаў філалогію ў Віленскім ун-це, меў стасункі з філаматамі. З-за боязі быць арыштаваным у 1823 пакінуў ун-т, хаваўся ў брата. У 1826 аднавіў вучобу ў Вільні, з 1827 настаўнік польск. мовы ў віленскай гімназіі. Пісаў вершы і песні, рэдактар віленскага "Noworocznika litewskiego na rok 1831". 11.5.1831 далучыўся да

паўстанцаў, кіраваў адным з атрадаў акадэмічнай моладзі, затым знаходзіўся ў корпусе А. Гелгуда, паранены, трапіў у палон. Смяротны прыгавор заменены на ссылку. У лют. 1832 уцёк з астрога, перабраўся ў Прусію. У маі 1832 прыбыў у Францыю, застаўся ў Парыжы. З 1.11.1832 член ТЛРЗ. У 1841 разам з А. Астроўскім, В. Звяркоўскім і інш. заснаваў Версальска-віленскую бібліятэку, кіраваў ёю ў Версалі. У 1832 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. Належаў да АПЭ, у 1840–42 сакратар версальскай гміны. У 1847–52 дырэктар баціньёльскай школы, выкладаў польск. мову і гісторыю. Аўтар некалькіх падручнікаў. У 1854 выехаў у Марсель. Памёр у дэп. Гард. *Klimaszewski H. Biblioteka Polska w Wersalu; яго ж: Bibliotheque Polonaise de Versailles; яго ж: Kilka słów Hipolita Klimaszewskego; яго ж: Protestacya byłego dyrektora; яго ж: Skład i rozkład mowy, czyli grammatyka; яго ж: Sprawozdanie naukowe z roku 1850; яго ж: Sprostowanie kilku fałszow umieszczonych; яго ж: Uwiadomienie o możliwości; яго ж: Wiadomości; яго ж: Uwiadomienie o przeniesieniu; яго ж: Żywot Jerzego skalnika Soroki; BPP, nr 408, s. 237; Rps BN, II. 7861, II. 7871, k. 165; Lelewel J. Listy emigracyjne. T. 2, 5; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 208; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 284; Bieliński J. Uniwersytet Wileński. T. 3. S. 416–417; Chropeński M. Szkoła Batignolska. S. 27–34, 40–46, 61; Danek W. Józef Ignacy Kraszewski. S. 23; Gadon L. Z życia Polaków. S. 119; Gruss N. Szkoła Polska; Gulczyński E. Rok 1830–1831. S. 9, 26–28, 49; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 200; Karbowiak A. Dzieje edukacijne; Kraszewski J.I. H. Klimaszewski; PSB. T. 12. S. 618–620; Rabinowiczówna S. Wilno; Rederowa D. Polski emigracijny ośrodek. S. 115, 117–118; Romer-Ochenkowska H. Szkoła Batignolska. S. 73–79; Zieliński S. Bibliografia czasopism. S. 25, 97, 118, 134, 250.*

**Клімовіч Ежы** (каля 1805–10.11.1843) – з Мінскай губ., н. у в. Брэнчыца, брат Яна, студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та, вучыўся разам з Ю. Патрыкоўскім (паводле Б. Канарскай гады жыцця – 1806–7.12.1843, н. у Мінску). У паўстанні з 10.5.1831, 10.7.1831 ппар. аўгустоўскага апалчэння, затым пхар. 13 ул. палка, з корпусам Г. Дэмбінскага рушыў у Варшаву. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. У чэрв. 1832 прыбыў у Францыю. У 7.8.1833–24.8.1837 член ПДТ. У 1837–42 вывучаў медыцыну ў Парыжы. Памёр у парыжскім шпіталі. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 208; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 117, 300; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 285; Konarska B. Polskie drogi. S. 301; Krawiec L. Lista członków. S. 44; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 295.*

**Клімовіч Міхал** (15.8.1809–5.12.1854) – з г. Гродна, сын Юзафа і Разаліі. (Паводле Я. Барткоўскага гады жыцця – 1802–11.10.1859). У паўстанні радавы 26 пях. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, разам з якім адышоў у Варшаву. Апынуўся ў Прусіі. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Пасля вяртання жыў у Францыі. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 146; AGAD, WCPL, nr 724, k. 61; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 208; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 190.*

**Клімовіч Ян** – з Мінскай губ., брат Ежы, студэнт Віленскага ун-та, вучыўся разам з Ю. Патрыкоўскім. У паўстанні пхар. 13 ул палка. Эмігрыраваў у Францыю. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 208.*

**Клінеберт (Клінеберс) Мікалай** (14.1.1807–17.10.1856) – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Тамашова, студэнт ф-та права Віленскага ун-та, адвакат (паводле Б. Канарскай гады жыцця – 1809–17.10.1876). У паўстанні з 3.6.1831 ппар. 11 ул. палка. У лют. 1832 эмігрыраваў у Францыю, з 1840 вучыўся ў школе прыгожых мастацтваў у Пуацье, працаваў настаўнікам малявання. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 208; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 285–286; Konarska B. Polskie drogi. S. 301.*

**Клот Бенядзікт** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Фелікса. Член урадавага паўст. к-та ў Лужках і Дзісне. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. Па рашэнню МГСК ад 23.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.5.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі з забаронай пакідаць маёнтак. *НГАБ-3, арк. 28–29; РДВГА-11, арк. 154; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Клот Генрык Міхал Ігнацій** (н. 26.1.1803) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Аўгуста і Тэрэзы Рудамін, брат Яна, Мікалая, Казіміра, Міхала, Рудольфа, асэсар Дзісенскага пав. суда. У паўстанні ппар. дзісенскага апалчэння, затым 10 ул. палка, знаходзіўся пад Дзіснай, належаў да копруса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў прускую мяжу. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. *НГАБ-3, арк. 16; РДВГА-11, арк. 154; AGAD, PFR, nr 7; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 92, 311; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 286; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Клот Ігнацій Леапольд** (н. 5.8.1810) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна. У паўстанні ппар. дзісенскага апалчэння,

удзельнічаў у падзеях пад Дзіснай, затым у 10 ул. палку корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у лют. 1832 у Францыю. Меў дачыненне да дзейнасці ТЛРЗ. *НГАБ-3, арк. 15; РДВГА-11, арк. 155; AGAD, PFR, nr 7; Rps BN, III. 6594; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 92, 311; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 286; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Клот Казімір** (н. 1808) – з в. Залессе Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Аўгуста і Тэрэзы Рудамін, брат Генрыка, Мікалая, Яна, Міхала, Рудольфа. У паўстанні з 1.3.1831, 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. *AGAD, PFR, nr 15; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 61, 312; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 287.*

**Клот Леапольд** (1786–25.7.1856) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Фелікса, вучыўся ў Віленскім ун-це. З 1807 уваходзіў у склад Адукацыйнай камісіі. У вайне 1812 удзельнічаў на баку Напалеона, высланы на Каўказ. Сярод дзісенскіх паўстанцаў кіраваў аддзелам, затым кап. 7 палка лін. пяхоты, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў. У студз. 1834 прыбыў у Гаўр. *НГАБ-3, арк. 11 адв. – 12; РДВГА-11, арк. 156; AGAD, PFR, nr 15; Rps BN, II. 7861; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 287; Dangel S. Rok 1831. S. 133; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 201.*

**Клот Мікалай Ежы Фларыян** (18.3.1799–11.1873) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у Вільна, сын Аўгуста і Тэрэзы Рудамін, брат Яна, Міхала, Казіміра, Генрыка, Рудольфа, пісар Дзісенскага пав. суда. У паўстанні ўзначальваў аддзел у дзісенскім апалчэнні, затым пар. 10 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю ў лют. 1832. З крас. 1834 член Фундатарскай камісіі польск. эміграцыі. *НГАБ-3, арк. 15; РДВГА-11, арк. 156; AGAD, PFR, nr 7; Jełowicki A. Moje wspomnienia. S. 312; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 484–496; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 209; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 287; Dangel S. Rok 1831. S. 134.*

**Клот Міхал Ігнацій** (1807–29.11.1844) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Аўгуста і Тэрэзы Рудамін, брат Яна, Мікалая, Казіміра, Генрыка, Рудольфа. У паўстанні з 1.3.1831, пар. 7 палка лін. пяхоты, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю ў лют. 1832, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. З 10.12.1832 член ТЛРЗ. У крас. 1833 выязджаў у Швейцарыю, пасля вяртання высланы ў Бельгію. З 9.10.1835 да 29.7.1837 член ПДТ. Памёр у Клермоне. *НГАБ-5, арк. 15; РДВГА-11, арк. 156; AGAD, PFR, nr 15; Rps BN, II. 7871, k. 182; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 214; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 209; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 61, 205; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 287; Dangel S. Rok 1831. S. 134; Krawiec L. Lista członków. S. 61; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 295.*

**Клот Рудольф** (6.8.1811–13.3.1835) – дваранін з Мінскай губ., сын Аўгуста і Тэрэзы Рудамін, брат Яна, Мікалая, Казіміра, Генрыка, Міхала, унтэр-афіцэр 1 рэзервовага сап. батальёна, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, удзельнічаў у састаўленні Акта канфедэрацыі, бітве пад Дзіснай. З 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю ў лют. 1832, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. Памёр у дэп. Уаза. *НГАБ-3, арк. 29–30; РДВГА-11, арк. 157; AGAD, PFR, nr 15; ND. 1843. S. 138; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 209; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 61; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 287; Dangel S. Rok 1831. S. 134.*

**Клот Станіслаў** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Падпісаў Акт канфэдэрацыі, ппар. дзісенскага апалчэння, абраны ключовым камендантам, але сваіх абавязкаў не выконваў. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл., пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 8; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 287; Dangel S. Rok 1831. S. 134*.

**Клот Ян Юльян** (18.1.1810–1877) – з Віленскай губ., сын Аўгуста і Тэрэзы Рудамін, брат Генрыка, Мікалая, Казіміра, Міхала, Рудольфа, унтэр-афіцэр 1 рэзервовага сап. батальёна, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, удзельнічаў у састаўленні Акта канфедэрацыі, бітве пад Дзіснай. 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты, належаў да корпу-

са А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, затым у Швейцарыі, ажаніўся, меў сына Станіслава, працаваў гадзіншчыкам. Памёр у Жэневе. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 29–30; РДВГА-11, арк. 155; AGAD, PFR, nr 15; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 209; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 61; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 287; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 1. S. 122; Dangel S. Rok 1831. S. 133; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 76; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; яго ж: Les Polonais.*

**Клюкоўскі Ігнацій** (1806–30.5.1862) – з в. Нарбутоўшчына Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Каэтана, тытулярнага саветніка, і Францішкі Бранецкай. Вучыўся ў Віленскім ун-це, займаўся жывапісам у Я. Рустэма. У паўстанні з 23.3.1831, па загаду ВЦПК рыхтаваў паўстанне ў Ашмянскім пав., пар. штаба ашмянскага апалчэння, затым далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, пар. атрада пазнанскай конніцы, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 14.9.1831 атрымаў залаты крыж. Перайшоў межы Галіцыі. У жн. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Буржэ, без дазволу жыў у Парыжы, дзе вывучаў ваен. тапаграфію, атрымліваў дапамогу ад Т-ва навуковай дапамогі. З 1.11.1832 член ТЛРЗ. З крас. 1834 член Фундатарскай камісіі польск. эміграцыі. З 7.12.1834 да 26.6.1837 член ПДТ. Сродкам для існавання служылі малюнкі на тканіне. Меў блізкія стасункі з А. Міцкевічам. У 1838 уступіў у Італіі ў польск. легіён, узначальваў адну з калон, накіраваных у Медыялан. У 1851 працаваў у чыгуначных майстэрнях Баціньёля. Належаў да суполкі А. Тавянскага. Пакінуў успаміны пра падзеі ў Ашмянскім пав. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *Klukowski J. Powstanie powiatu oszmiańskiego; яго ж: W powiecie oszmiańskim; НГАБ-3, арк. 30; Rps BN, II. 7861, II. 7872; DS. T. 6. S. 440; Jełowicki A. Moje wspomnienia. S. 312; Księga pamiątkowa. S. 146; Listy legionistów; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 54; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 209; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 117; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 288; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 204; Kieniewicz S. Legion Mickiewicza; Krawiec L. Lista członków. S. 57; Polacy pochowani. S. 57–58; PSB. T. 13. S. 28; Szczerbicki E. Rok 1831; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne.*

**Клюц Томаш** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 79.*

**Ключнік Стэфан** (24.8.1804–15.2.1866) – селянін з в. Валіна (Скарабкі ?) Свянцянскага пав. Віленскай губ., сын Марціна і Ганны Федаровіч. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, радавы 3 палка пешых стральцоў, у складзе якога адышоў у Варшаву. Апынуўся ў Прусіі. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–38 у Іспаніі, звольнены ў студз. 1839. Вярнуўся ў Францыю. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 50; Bieliński K. Rok 1831. S. 122; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 209; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 190.*

**Кляноўскі Васіль** – селянін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у нападзенні кантаністаў у фальварку Яніжкі на аканома Бараноўскага і забойстве мешчаніна Ф. Гратулевіча. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў знаходзіўся на ўцёках. *НГАБ-3, арк. 19 адв.; РДВГА-11, арк. 152.*

**Клячкоўскі Эразм** (н. каля 1797) – памешчык з Ігуменскага пав. Мінскай губ. і Сакольскага пав. Беластоцкай вобл., сын Каэтана. У снеж. 1830 высланы ў Тамбоў за ўдзел у тайных т-вах. У 1832 вярнуўся. У 1833 праходзіў па справе М. Валовіча. Па рашэнню МГСК аднесены да 3 разр. зл. з пазбаўленнем шляхецкага стану і сасланы ў Сібір на пасяленне. У 1853 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. 16.5.1853 прыбыў у Мінск. *НГАБ-3, арк. 3 адв.–4 адв.; РДВГА-11, арк. 152; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 270.*

**Кляшэвіч** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў пад кіраўніцтвам К. Пршэздзецкага. *РДВГА-2, арк. 92.*

**Козел Нічыпар** – селянін памешчыка Длужнеўскага з в. Карпаўка Вілейскага пав. Мінскай губ. Захоўваў пікі і косы. Па рашэнню МГСК ад 5.10.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 35; РДВГА-11, арк. 163.*

**Козел Сямён** – селянін памешчыка Длужнеўскага з в. Карпаўка Вілейскага пав. Мінскай губ. Захоўваў пікі і косы. Па рашэнню МГСК ад 5.10.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 35; РДВГА-11, арк. 163.*

**Козел Францішак** – памешчык з маёнтка Швакшты Свянцянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *НГАБ-3, арк. 35 адв.; Bieliński K. Rok 1831. S. 123.*

**Козел Ян** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа, б. пав. маршалак. Член вілейскага ўрадавага к-та. Па рашэнню МГСК ад 29.10.1831 аднесены да 2 разр. зл., аднак 5.5.1832 атрымаў дараванне,

пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 34 адв. – 35; РДВГА-11, арк. 162; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Комар Казімір** – з Мінскай губ., сын Францішка, уніяцкага святара з Мазырскага пав., дазорца каралінскай паштовай станцыі. Знаходзіўся ўзбр. у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю ў Кузьмічах, захопе Мазыра і сутыкненні пад Міхалкамі, дзе трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 аддадзены ў салдаты. *НГАБ-3, арк. 20 адв.; РДВГА-11, арк. 165.*

**Комар-Забажынскі Францішак** (1812–2.5.1843) – з Магілёўскай губ., н. у в. Паўловічы, скончыў кадэцкі корпус. У паўстанні ппар. з 1.1.1831, затым ппар. 14 ул. палка. 16.9.1831 з корпусам Д. Рамарына перайшоў межы Галіцыі. У жн. 1832 прыбыў у Францыю. З 25.11.1833 член ПДТ, 4.8.1834 асудзіў А. Чартарыйскага. Затануў у партовым канале Гаўра. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 214; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 117, 314; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 303; Krawiec L. Lista członków. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 302.*

**Корбут Ян Якуб** (н. 15.8.1810 – каля 1874) – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Завады Беластоцкай вобл., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні з 27.4.1831, 9.5.1831 ппар., затым хар. 7 палка лін. пяхоты. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца. Уваходзіў у склад корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, член ПНК, належаў да закладу ў Безансоне. У сак. 1833 высланы ў Бержэрак. З сак. 1835 вывучаў медыцыну ў Манпелье, 9.9.1840 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Рона. З 1837 член АПЭ, з сак. 1848 член ПДТ. У жн. 1848 выехаў у Італію з намерам далучыцца да легіёна А. Міцкевіча. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 43 адв.; РДВГА-8, арк. 156; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 315; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 105, 258, 263; Konarska B. Polskie drogi. S. 305; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 308.*

**Коркуц Дзіянісій** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ўзбр. сярод паўстанцаў. Узяты ў палон у Коўна. Па рашэнню ГГСК 10.2.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 47; РДВГА-8, арк. 157.*

**Корсак Антоній** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Член урадавага к-та ў Лужках і Дзісне. Ахвяраваў на паўстанне грошы. Удзель-

нічаў у бітве пад Дзіснай. Арыштаваны з іншымі членамі к-та і ўтрымліваўся ў Дынабургу. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. і зняволены ў астрозе на 1 г. *НГАБ-3, арк. 45; РДВГА-11, арк. 169; Dangel S. Rok 1831. S. 121–122, 135.*

**Корсак Антоній** (н. 27.7.1810) – з Мінскай губ., н. у в. Чарневічы (Навагрудскі пав. ?), сын Яна і Эльжбеты, служыў радавым. У паўстанні радавы 19 ул. палка, адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, працаваў капялюшнікам. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 198.*

**Корсак Антоній** (н. 1805) – з г. Браслаў Віленскай губ., вывучаў філасофію і медыцыну ў Віленскім ун-це. У паўстанні ппар. У чэрв. 1832 эмігрыраваў у Францыю. З 30.7.1833 член ПДТ. 7.9.1834 асудзіў А. Чартарыйскага. У 1837 вучыўся ў школе мастацтваў і рамёстваў, у 1838 памочнік інструктара 3 кл. Па рашэнню МГСК ад 29.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-3, арк. 10; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 316; Konarska B. Polskie drogi. S. 305; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 309.*

**Корсак Вінцэнт** (н. 17.4.1803) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ. У паўстанні ппар. 10 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. У 1832 прыбыў у Францыю. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Ажаніўся з француженкай, меў чацвёра дзяцей. *НГАБ-3, арк. 16; РДВГА-11, арк. 171; AGAD, PFR, nr 7; Księga pamiątkowa. S. 169; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 317; Dangel S. Rok 1831. S. 135–136*.

**Корсак Вінцэнт** – селянін з казённага маёнтка Густаты Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў кантаністам сярод дзісенскіх паўстанцаў, удзельнічаў у бітвах супраць расійск. войскаў, а таксама ў нападзенні на фальварак Яніжкі і забойстве аканома Бараноўскага і мешчаніна Ф. Гратулевіча. Пакараны 25 палкамі і сасланы на катаргу. *НГАБ-3, арк. 19 адв.; РДВГА-11, арк. 172*.

**Корсак Вінцэнт** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа. Служыў кап. у атрадзе І. Адахоўскага. Перадаваў паведамленні С. Радзішэўскага дзісенскім паўстанцам. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 1; РДВГА-11, арк. 171; Dangel S. Rok 1831. S. 135.*

**Корсак Гіпаліт** – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Кромлеўшчына, сын Яўхіма. Складаў пад час паўстання супрацьурадавыя вершы, выдаваў каталог садаводаў, дзе змяшчаліся палітычныя паведамленні, падтрымліваў перапіску з сынам Казімірам. Прынята рашэнне аб пазбаўленні шляхецтва і ссылцы ў Сібір на пасяленне. Маёнтак у 1833 канфіскаваны. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 391; ф. 333, воп. 24, спр. 154; РДВГА-11, арк. 174; Dangel S. Rok 1831. S. 135; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 285*.

**Корсак Іван** – селянін з казённага маёнтка Густаты Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў кантаністам у дзісенскіх паўстанцаў, удзельнічаў у сутыкненнях супраць расійск. войскаў, а таксама ў нападзенні на фальварак Яніжкі і забойстве аканома Бараноўскага і мешчаніна Ф. Гратулевіча. Пакараны 25 палкамі і сасланы на катаргу. *НГАБ-3, арк. 19 адв.; РДВГА-11, арк. 173.*

**Корсак Ігнацій** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ігнація. Знаходзіўся ў паўстанні 2 тыдні радавым. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 10.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 8; РДВГА-11, арк. 173.*

**Корсак Ігнацій** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія, засядацель Дзісенскага суда. Выконваў абавязкі каменданта мяст. Глыбокае. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 7.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 47; РДВГА-11, арк. 174; Dangel S. Rok 1831. S. 135.*

**Корсак Казімір** – навіцыянт Глыбоцкага кармяліцкага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 16; РДВГА-11, арк. 176; Dangel S. Rok 1831. S. 159*.

**Корсак Казімір** – дваранін са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Гіпаліта, унтэр-афіцэр 1 сап. батальёна, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Здзейсніў пабег са сваёй каманды і далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі паўстання ў Лужках. Складаў Акт канфедэрацыі. Удзельнічаў у падзеях пад Дзіснай. Ппар. 27 палка лін. пяхоты, 13.7.1831 у складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, у снеж. 1832 – у Безансоне. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 19; РДВГА-11, арк. 175; AGAD, PFR, nr 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 316; яго ж:*

*Zarys rozproszenia. S. 61; Dangel S. Rok 1831. S. 135; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2.*

**Корсак Люцыян** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Міхала. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, ездзіў да В. Брахоцкага. Па рашэнню МГСК ад 10.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 7; РДВГА-11, арк. 177; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Корсак Маўрыцый** – з Мінскай губ. У паўстанні ппар. 4 палка пешых стральцоў, затым кап., належаў да корпуса С. Рожыцкага, які пакінуў і накіраваўся ў Каліш. 7.11.1831 прыбыў у Варшаву. Аднавіў прысягу на адданасць расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 478; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 317.*

**Корсак Фларыян** (10.5.1794) – з Мінскай губ., ппар. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 пар., 3.5.1831 кап. 10.11.1831 аднавіў прысягу на адданасць расійск. ураду. *РДВГА-8, арк. 158; AGAD, KRW, nr 478, 479, 555; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 316.*

**Корсак Францішак** (н. каля 1806) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у в. Асінаўшчына, ксёндз. Служыў у паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Францыю. З 24.4.1846 член ПДТ. *РДВГА-2, арк. 175; Krawiec L. Lista członków. S. 95.*

**Корсак Юзаф** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Рыгора. З’яўляўся членам урадавага к-та ў Лужках, вёў допыты палонных. Па рашэнню МГСК ад 10.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 7 адв.; РДВГА-2, арк. 181; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Корсак Ян** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія, брат Яўхіма. Служыў у вілейскіх паўстанцаў, затым пар. 12 ул. палка. 26.2.1832 эмігрыраваў у Францыю. У 1832 член ПНК. З 26.5.1834 член ПДТ, 7.8.1834 асудзіў А. Чартарыйскага. У сак. 1846 удзельнічаў у кракаўскім паўстанні. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 46 адв.; РДВГА-11, арк. 173; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 96, 298; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 316; Dangel S. Rok 1831. S. 135; Krawiec L. Lista członków. S. 53; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 310.*

**Корсак Янка** (н. каля 1808) – селянін з Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, арыштаваны, спрабаваў збегчы з-пад канвоя. Па канфірмацыі І. Паскевіча атрымаў 25 палак і сасланы на катаржныя работы. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 286.*

**Корсак Яўстафій** – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., засядацель Барысаўскага пав. суда. Служыў у вілейскіх паўстанцаў афіцэрам. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 23.6.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 17 адв.; РДВГА-11, арк. 172; Dangel S. Rok 1831. S. 135.*

**Корсак Яўхім** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія, брат Яна. З 3.4.1831 афіцэр вілейскага апалчэння, удзельнічаў у нападзенні на пошту ў Маладзечне. Затым ппар. 12 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. 26.2.1832 прыбыў у Францыю, член ПНК. У сак. 1846 падпісаў акт кракаўскага паўстання. *НГАБ-3, арк. 47; РДВГА-11, арк. 175; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 96, 278; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 316; Dangel S. Rok 1831. S. 135.*

**Корсун Аляксандр** – з Мінскай губ. Маёнтак канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Косаў Геранім –** памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа. Дастаўляў паўстанцам у Лужкі порах, ахвяраваў грошы. *НГАБ-3, арк. 17; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 490.*

**Кострыца Якуб** – шляхціц з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Хаваў І. Адахоўскага. Узяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-3, арк. 49; РДВГА-11, арк. 178.*

**Кот Павел** (н. каля 1808) – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., сын Рыгора, уніят. Пакінуў месца жыхарства і дайшоў да Варшавы, служыў у 5 ул. палку, затым у Модліне. Па заканчэнні ваен. дзеянняў бадзяўся, пасля чаго вярнуўся ў Пружаны, дзе быў арыштаваны і дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 27.7.1834 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. 14.8.1834 выехаў на Каўказ. *НГАБ-3, арк. 50; НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк 50; РДВГА-8, арк. 156.*

**Коўзан Баніфацый** – шляхціц з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Міхала, брат Мацвея. Дапамагаў хавацца І. Адахоўскаму. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 3.6.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 32; РДВГА-11, арк. 159.*

**Коўзан Казімір** – шляхціц з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 3; РДВГА-11, арк. 160.*

**Коўзан Мацвей** – шляхціц з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Міхала, брат Баніфацыя. Дапамагаў хавацца І. Адахоўскаму. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 3.6.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 32; РДВГА-11, арк. 160.*

**Коўзан Міхал** – шляхціц з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Дапамагаў хавацца І. Адахоўскаму. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 3.6.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 32; РДВГА-11, арк. 160.*

**Коцык** – ксёндз з мяст. Зельва Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Аказваў дапамогу атраду Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 160*.

**Крамкоўскі Вінцэнт –** з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Красінскі Генрык** (15.7.1804–16.9.1876) – з Пінскага пав. Мінскай губ., н. у в. Лясковічы, сын Яна Хрызастома і Людвікі Аржэшка, брат Баляслава, пляменнік ген. І. Красінскага, гісторык і публіцыст. З 1824 у польск. арміі. У паўстанні з 1.8.1831 кап. 14 палка лін. пяхоты. 5.9.1831 атрымаў залаты крыж. 16.9.1831 з корпусам Д. Рамарына перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. У снеж. 1832 апынуўся ў Парыжы, дзе пражыў 6 г. У 1838 перабраўся ў Англію, дзе ў чэрв. 1838–20.5.1850 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, 1.5.1841 жыў у Лондане, 24.7.1850 атрымаў англійскае грамадзянства. Пачаў пісаць на англійскай мове, працаваў настаўнікам. Пасля 1843 надрукаваў 3-томную аповесць “Паляк у семнаццатым стагоддзі”. Памёр у Лондане. *Rps BN, II. 7861; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 233; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 361; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 81; PSB. T. 15. S. 174.*

**Краскоўскі Караль** – з Пінскага пав. Мінскай губ. Не паведаміў уладам пра з’яўленне паўстанцаў у Лагішынскім ключы. Па рашэнню МГСК ад 15.2.1832 вызвалены з-пад следства. *Dangel S. Rok 1831. S. 136.*

**Краскоўскі (Красоўскі) Тадэвуш (Томаш)** (н. 1803) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., вучыўся ў Віленскім ун-це, сакратар гродзенскага губернатара. У крас. 1831 узначальваў тайны гродзенскі к-т. Адышоў у Белавежскую пушчу, кіраваў аддзелам. У складзе фарміравання Д. Хлапоўскага накіраваўся ў Віленскую губ., кап. 8 лін. палка. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. У 1832 эмігрыраваў у Францыю,

пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Член ПНК. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *[Kraskowski T.] Pamiętniki; яго ж: Almanach historique; НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 5526; ф. 1430, воп. 1, спр. 2923; РДВГА-8, арк. 160; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Rps BN, II. 7861; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 48; Księga pamiątkowa. S. 166; Wielołocki J. Krótki rys; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 84, 240; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 362; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 224; Kaczkowski J. Konfiskaty; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 106.*

**Краснадэнбскі Казімір** (п. 4.6.1837) – з в. Сядзельнікі Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. пазнанскай конніцы. У снеж. 1831 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Авіньёне, член ПНК. 4.8.1834 асудзіў А. Чартарыйскага. Памёр у дэп. Ланды. *AGAD, EPP, nr 1, k. 18; ND. 1843. S. 139; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 74, 252; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 363.*

**Красоўскі Вінцэнт** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 161*.



**Юзаф Ігнацій Крашэўскі.**
*Літаграфія*
*А. Пршыбыльскага*

**Краўцэвіч** – ксёндз з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 202.*

**Крачко Томаш** – селянін памешчыцы Несялоўскай з мяст. Рось Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Узяты кантаністам пад час знаходжання паўстанцаў у Росі. Збег каля мяст. Масты. Адпраўлены на месца жыхарства. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 72 адв.; РДВГА-8, арк. 161*.

**Крашэўскі Юзаф Ігнацій** (28.7.1812–19.3.1887) – шляхціц з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у Варшаве, сын пружанскага харунжага, пісьменнік, гісторык. Вучыўся ў Любліне, скончыў Свіслацкую гімназію, з 1829 у Віленскім ун-це. У ліст. 1830 заснаваў у асяроддзі віленскіх студэнтаў Т-ва мнезераў, члены якога рыхтаваліся да паўстання. Перапісваўся з І. Лялевелем.

4.12.1830 арыштаваны і на працягу паўстання ўтрымліваўся ў астрозе. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 15.7.1831 асуджаны да адпраўкі радавым у асобны Каўказскі корпус, аднак у сак. 1832 вызвалены з няволі, пакаранне заменена на паліцэйскі нагляд. З 1834 жыў у в. Доўгае Пружанскага пав. і на Валыні. У 1841–51 выдаваў у Вільні польскамоўны часопіс "Athenaeum". З 1859 у Варшаве, рэдактар "Gazety Polskiej". Пасля паўстання 1863 у эміграцыі. У 1865 ганаровы член Гісторыка-літаратурнага т-ва. У 1870–71 у Дрэздане выдаваў тыднёвік "Tydzień Polityczny, Naukowy, Literacki i Artystyczny". Аўтар 223 літаратурных твораў, шэрагу гістарычных прац. *Крашевский Ю. Из времен семилетней войны; яго ж: Хата за вёскай; РДВГА, ф. 35, воп. 9, спр. 121; Rps BN, II. 7861; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2. С. 114–115; ЭГБ. Т. 4. С. 256–257; Album biograficzne. S. 65–77; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 235; Danek W. Józef Ignacy Kraszewski. S. 21–24; Gadon L. Z życia Polaków. S. 120; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 225–226.*

**Кржачкоўскі Канстанцін** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 214*.

**Кржываблоцкі Ігнацій** – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., б. пав. суддзя. Далучыўся да паўстанцаў Белавежскай пушчы, кап. 11 ул. палка. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца ў Гродзенскую губ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *Krzywobłocki I. Pamiętnik; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 163; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 381; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 92; Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Кржыжаноўскі Вацлаў (Венцаслаў) –** з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Пятра, засядацель Навагрудскага земскага суда. Знаходзіўся ў атрадзе Ю. Кашыца, затым падафіцэр атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. 9.8.1834 выступаў супраць А. Чартарыйскага. У 1840 член АПЭ. У сак. 1846 удзельнічаў у кракаўскім паўстанні. 2.4.1846 знаходзіўся ў Арлеане. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскавана сума ў 480 руб. серабром. *НГАБ-3, арк. 54; РДВГА-8, арк. 163; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 386;*

*Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 69, 229; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 383; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Кржыжаноўскі Дамінік** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 218*.

**Кржыжаноўскі Эразм** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 218*.

**Кржыжаноўскі Юзаф** – з Гродзенскай губ. Ппар. 11 ул. палка, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. Вярнуўся на месца жыхарства. *AGAD, PFR, nr 20*.

**Круковіч** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў, пастаўляў кантаністаў. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 5240, арк. 193.*

**Крулікоўскі Казімір** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў з паўстанцамі. *РДВГА-2, арк. 228*.

**Круповіч Антоній** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 55; РДВГА-8, арк. 162.*

**Круповіч Аўгуст** (н. 24.8.1812) – з в. Круповічы Гродзенскай губ., сын Ігнація і Брыгіты Насовіч. У паўстанні радавы 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, 27.7.1835 запісаўся на службу ў Іспанію. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 162; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 214.*

**Круповіч Геранім** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., частка яго зямлі адышла ў казну. *РДВГА-8, арк. 162; Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Круповіч Францішак** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-2, арк. 229.*

**Крупскі Лявон** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 230.*

**Кручкоўскі Герасім** – селянін памешчыка Гласкі з в. Малошак Дзісенскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Па рашэнню МГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-11, арк. 184.*

**Крушынскі Адам –** з Гродзенскай губ. Урач сярод слонімскіх стральцоў, адышоў з Г. Дэмбінскім у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *AGAD, WCPL, nr 724; DS. T. 6. S. 386; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 374.*

**Крушэўскі Леапольд –** з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 386.*

**Крушэўскі Юзаф –** памешчык з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., тытулярны саветнік. Узначальваў аддзел у фарміраванні Бараноўскага. *НГАБ-3, арк. 55 адв. – 56; РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 2318, арк. 28.*

**Крушэўскі Юзаф** (13.2.1809–18.5.1837) **–** н. у Беластоцкай вобл., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні хірург 6 палка конных стральцоў. У пачатку 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладаў у Авіньёне, Люнэлі, Ле Пюі. У снеж. 1832 перабраўся ў Манпелье для заканчэння мед. адукацыі, у 7.8.1833 атрымаў ступень д-ра медыцыны. 17.3.1835 пераехаў у Егіпет, дзе і памёр. *ND. 1843. S. 139; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 238; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 373; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 186, 275; Konarska B. Polskie drogi. S. 314.*

**Крыкун Пракоп** – селянін памешчыка Ф. Кеневіча з Мазырскага пав. Мінскай губ. Служыў у атрадзе свайго памешчыка, удзельнічаў ва ўсіх падзеях, узяты ў палон пад Міхалкамі. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 аддадзены ў салдаты. *НГАБ-3, арк. 54 адв.; РДВГА-11, арк. 183.*

**Кубліцкі Адольф –** шляхціц з маёнтка Палессе Свянцянскага пав. Віленскай губ., сын Юзафа, брат Станіслава, студэнт Віленскага ун-та. Адзін з ініцыятараў паўстання ў Свянцянскім пав. Уваходзіў у склад тайнага свянцянскага к-та. Член часовага ўрада Свянцянскага пав. Удзельнічаў у захопе Свянцян. Пасля адступлення далучыўся да атрада К. Залускага, пар. Адышоў у Прусію, адкуль прасіў літасці. Па рашэнню ВГСК ад 10.4.1833 аднесены да 3 разр. зл., пакінуты да 18.5.1837 пад пільным наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 56; РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4203; Bortkiewicz W. Historyczne opisanie. S. 262–270; Bieliński K. Rok 1831. S. 87–90; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 92; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 231.*

**Кубліцкі Мацвей** (п. 1836 ?) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Памёр у Іспаніі (?). *РДВГА-2, арк. 236; ND. 1843. S. 139*.

**Кубліцкі Станіслаў –** шляхціц з маёнтка Палессе Свянцянскага пав. Віленскай губ., сын Юзафа, брат Адольфа. Адзін з ініцыятараў паўстання ў Свянцянскім пав. Удзельнічаў у захопе Свянцян. Пасля адступлення далучыўся да атрада К. Залускага, пар. 1 ул. палка. 5.10.1831 адышоў у Прусію ў складзе корпуса М. Рыбінскага, прасіў літасці. Па рашэнню ВГСК аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 56 адв.; Bortkiewicz W. Historyczne opisanie. S. 262–270; Bieliński K. Rok 1831. S. 87–90*.

**Кубліцкі Юзаф** – памешчык са Свянцянскага пав. Віленскай губ., уладальнік маёнтка Палессе. Удзельнічаў у паўстанні. *Bieliński K. Rok 1831. S. 123.*

**Кудароўскі Францішак** (18.12.1799–8.9.1834) – з Гродзенскай губ. У паўстанні кап. 4 ул. палка, з 9.3.1831 маёр, 4.10.1831 ппалк. 15.3.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 2.4.1832 прыбыў у Францыю. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 77, 309; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 387.*

**Кузьмін (Кузьмінскі) Міхал** – з Мінскай губ. Дзейнічаў у паўстанні. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-3, арк. 57; РДВГА-11, арк. 184; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Кузьмінскі Станіслаў** – мешчанін з г. Гродна. Служыў у 3 пях. палку. Удзельнічаў у бітве пад Грохавам. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў бадзяўся ў КП. Па рашэнню ГГСК ад 3.9.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 106–107; РДВГА-8, арк. 164.*

**Кузьміч Аўгуст** (н. каля 1807) – селянін памешчыка Радзівіла з в. Шчарбовічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Райманда. Добраахвотна далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, радавы атрада навагрудскай конніцы, дайшоў да Варшавы, служыў у 13 і 8 ул. палках. Пасля капітуляцыі Варшавы ўваходзіў у склад Модлінскага гарнізона. Узяты ў палон і дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 14.5.1832 аднесены да 2 разр. зл., адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. 26.7.1832 выехаў на Каўказ. *НГАБ-3, арк. 57 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4,*

*воп. 1, спр. 64, арк. 18–26; РДВГА-8, арк. 164; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 322.*

**Кукалеўскі Тадэвуш** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 241.*

**Куковіч Аляксандр** (11.10.1809–1 (7).8.1836) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Ружаны, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні з 27.4.1831, 10.5.1831 ппар. 4 палка конных стральцоў. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. У 1835 вывучаў права ў Пуацье, працаваў выкладчыкам права. 4.12.1834 выступаў супраць А. Чартарыйскага. Памёр у дэп. В'ена. *ND. 1843. S. 139; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 242; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 105, 164; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 388; Konarska B. Polskie drogi. S. 316; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 349.*

**Кулакоўскі** – дваранін з Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 165*.

**Кулакоўскі Юрый** – селянін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 242*.

**Кулікоўскі Каэтан** – дваранін з аколіцы Кулікі Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Д. Хлапоўскага, затым Г. Дэмбінскага, з якім дайшоў да Варшавы. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 166*.

**Кулікоўскі (Кулакоўскі) Міхал** – дваранін з аколіцы Вялікія Ядкевічы Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр, дзейнічаў у складзе корпуса Д. Рамарына, у 1832 знаходзіўся ў Прусіі. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. *НГАБ-3, арк. 58; РДВГА-8, арк. 167; BPP, nr 408, s. 215.*

**Кульвановіч Клеменс –** пробашч з в. Параф'янава Вілейскага пав. Мінскай губ. 24.4.1831 чытаў у Сіцкай уніяцкай царкве адозву вілейскага ўрадавага пауст. к-та. *Dangel S. Rok 1831. S. 159*.

**Кульвіч Юзаф** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да 11 ул. палка, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. Адпраўлены на месца сталага жыхарства. *НГАБ-3, арк. 58; РДВГА-8, арк. 165; AGAD, PFR, nr 20.*

**Кунаковіч (Кунаховіч) Феадосій** – з в. Пашукі Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., сын уніяцкага святара. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 58 адв.; РДВГА-8, арк. 167.*

**Кундзіч Ян Непомуцен** – ксёндз Ашмянскага касцёла Віленскай губ., у 1817–20 вывучаў тэалогію ў Віленскім ун-це, магістр тэалогіі. Актыўна дзейнічаў з ашмянскімі паўстанцамі, займаўся агітацыяй сярод насельніцтва. Эмігрыраваў. *НГАБ-3, арк. 59; РДВГА-2, арк. 253; Rps BN, II. 7861; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 29; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 236.*

**Куневіч Ксаверый** – з Гродзенскай губ., суддзя Навагрудскага суда. Дзейнічаў у фарміраванні Г. Дэмбінскага, ппар. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 59; РДВГА-8, арк. 167; AGAD, WCPL, nr 724, k. 65; DS. T. 6. S. 385; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Куній Вінцэнт** – селянін з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *НГАБ-3, арк. 59 адв.; РДВГА-2, арк. 254*.

**Кунцэвіч Вінцэнт** (н. каля 1800) – селянін з в. Ціхаволя Пружанскага пав. Гродзенскай губ., уніят. Служыў у 1 ул. палку, удзельнічаў у бітвах. Пасля паражэння паўстання знаходзіўся каля Сувалак, дзе быў арыштаваны. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. 8.11.1832 выехаў на Каўказ. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 47; РДВГА-8, арк. 168*.

**Кунцэвіч Матэвуш** (21.9.1792–10.10.1865) – з Гродзенскай губ., працаваў пісарам у маёнтку Дубай Пінскага пав. У паўстанні з 6.2.1831 пар., 3.4.1831 кап., 27.9.1831 маёр. 17.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 18.10.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. *НГАБ-3, арк. 60; РДВГА-8, арк. 168; AGAD, KRW, nr 571; Rps BUW, nr 2327; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 244*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 77; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 393.*

**Куратнікаў Ігнацій** – селянін памешчыка А. Шпакоўскага з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Марка. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Пад Не-

велем збег і вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 15 адв.; РДВГА-11, арк. 187.*

**Кураўскі Адам** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Гаўрылы. Прысягнуў паўстанцам. Кандыдат у члены ўрадавага к-та ў Лужках, член дзісенскага к-та. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 23.12.1831 аднесены да 3 разр. зл., пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 16 адв.; РДВГА-11, арк. 189; ч. 2, арк. 265; Dangel S. Rok 1831. S. 136.*

**Кураўскі Міхал** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Выконваў абавязкі сакратара ўрадавага к-та ў Лужках, уваходзіў у склад дзісенскага к-та, аўтар Акта канфедэрацыі. Паставіў 7 кантаністаў. Прычынны да знішчэння архіва лужкоўскага к-та. З'явіўся да ўлад. Утрымліваўся 7 мес. у Дынабургскай крэпасці. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 16 адв.; РДВГА-11, арк. 189; ч. 2, арк. 265; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 493; Dangel S. Rok 1831. S. 36, 136.*

**Курашоў Мікіта** – селянін памешчыка І. Валовіча з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ф. Кеневіча, затым у атрадзе Бараноўскага. Узяты ў палон. Рашэннем МГСК ад 12.11.1831 аддадзены на ваен. службу. *НГАБ-3, арк. 15 адв.; РДВГА-11, арк. 187.*

**Курнатоўскі Віктар** – з г. Слуцка Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Самавольна пакінуў ун-т і на месца жыхарства і вучобы не вярнуўся. *РДВГА-2, арк. 264; ч. 11, арк. 188.*

**Курнушка Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 265.*

**Курпінскі Фелікс** – селянін памешчыцы Сухадольскай з маёнтка Заблоцце Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Служыў лёкаем пры Д. Хлапоўскім. Захоплены ў палон. Сядзеў у Дынабургскай крэпасці, адкуль адпраўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 1.2.1833 атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 169*.

**Курскі Адам** – з Гродзенскай губ. Кіраваў асобным атрадам, які дзейнічаў на тэрыторыі Гродзенскай губ. *РДВГА-2, арк. 265.*

**Курыловіч Тадэвуш** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 261.*

**Курыльчык Каліна** – селянін памешчыка Андржэйковіча з Пінскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон. Рашэннем МГСК ад 29.2.1832 прыгавораны да ссылкі ў аддаленыя губерні Расіі. *НГАБ-3, арк. 60 адв.; РДВГА-11, арк. 188; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв*.

**Кухальскі Ян** – селянін з Мінскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 268.*

**Кухоўскі Вінцэнт** – з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 61*.

**Кучынскі Ануфрый** – селянін памешчыка Ю. Крушэўскага з маёнтка Холмеч Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Далучыўся да мазырскіх паўстанцаў, затым да атрада Бараноўскага, удзельнічаў у сутыкненнях з расійск. войскамі. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аддадзены на ваен. службу. *НГАБ-3, арк. 15 адв.; РДВГА-11, арк. 190.*

**Кучынскі Вінцэнт Францішак** (н. каля 1808) **–** шляхціц са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у Нясвіжы, ураднік. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, з якімі дайшоў да Варшавы, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. З 10.6.1834 да 18.6.1849 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1841 ажаніўся з англічанкай, меў сына і дачку. 27.8.1848 атрымаў англійскае грамадзянства, набыў ва ўласнасць дом. *DS. T. 6. S. 440; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 82; яго ж: Polacy naturalizowany. S. 91.*

**Кучынскі Пётр Уладзіслаў (?)** (н. 1.12.1801) – дваранін з мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (па звестках Б. Канарскай – н. у Вільні), студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні батальённы ўрач. Эмігрыраваў. З 1833 вывучаў медыцыну ў Манпелье, 9.5.1834 атрымаў дыплом д-ра медыцыны. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 61 адв.; РДВГА-8, арк. 169; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 316.*

**Кушалевіч Адам** – святар Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Забіты 15.4.1831 пад час ашмянскай бітвы. *РДВГА-2, арк. 268.*

**Кушнер Антоній** – селянін кн. М. Радзівіла з в. Арэшкавічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю, порах, кулі. Па рашэнню МГСК ад 23.9.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 62; РДВГА-11, арк. 191.*

# Л

**Лабачэўскі Фаусцін** – з Гродзенскай губ., стражнік Белавежскай пушчы. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 177.*

**Лабудзь Ануфрый –** ксёндз Свянцянскай парафіі Віленскай губ., сын Матэвуша і Мар'яны. Адзін з арганізатараў паўстання ў Свянцянскім пав. Забіты 11.4.1831 пры захопе Свянцян. *Смит Ф. История польского восстания. Т. 2. С. 358; Bortkiewicz W. Historyczne opisanie. S. 262–270; Bieliński K. Rok 1831. S. 9.*

**Лабуньскі Антоній** (29.12.1813–21.6.1857 (пасля 1875) – н. у Дынабургу, сын Дамініка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. (па іншых звестках вывучаў філасофію і мастацтва ў Віленскім ун-це), ппрап. 1 рэзервовага сап. батальёна. У паўстанні з сак. 1831, дзейнічаў сярод дзісенцаў, знаходзіўся сярод арганізатараў выступлення ў Лужках. Адзін з аўтараў Акта канфедэрацыі. З 15.5.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 належаў да закладу ў Авіньёне, 2.8.1833 перабраўся ў Тулузу, у 1835 вучыўся на літаратурным ф-це ун-та ў Тулузе, у 1839 агент польск. кнігарні ў Тулузе. У 1837 працаваў памочнікам інструктара, з 1852 інструктарам 4 кл. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 67 адв. – 68; РДВГА-11, арк. 193; AGAD, PFR, nr 15; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 60; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 62; Dangel S. Rok 1831. S. 137; Konarska B. Polskie drogi. S. 326; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2.*

**Лавецкі Юзаф** – з Мінскай губ., студэнт Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, сын святара. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-2, арк. 300.*

**Лавінскі Юсцін** (11.12.1805–3.1.1851) – з Віленскай губ., н. у мяст. Камаі Свянцянскага пав. У паўстанні радавы 12 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 269.*

**Лаеўскі Аляксандр Ян** (н. 27.1.1792) **–** з г. Магілёва Магілёўскай губ. На ваен. службе з 6.7.1812, пачаткова падафіцэр 21 ул. палка, з 27.9.1812 ппар., удзельнічаў у кампаніі 1812 на баку Напалеона, трапіў у палон пад Барысавам. З 14.4.1815 ппар. 3 палка конных стральцоў, 24.5.1830 атрымаў ганаровы знак за 15 г. бездакорнай афіцэрскай службы. У паўстанні кап. 4 палка конных стральцоў, 14.7.1831 маёр. 17.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 адышоў у складзе атрада М. Рыбінскага ў Прусію, інтэрніраваны. 13.2.1832 прыбыў у Варшаву, дзе аднавіў прысягу расійск. ураду. 23.8.1832 залічаны ў корпус ветэранаў. *AGAD, KRW, nr 478, 545, 563; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 157; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 71*.

**Лаеўскі Тэадор** – селянін памешчыка А. Галіноўскага з Мінскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, прыслужваў І. Адахоўскаму. Па рашэнню МГСК ад 1.12.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 64; РДВГА-11, арк. 193; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 72; Dangel S. Rok 1831. S. 138.*

**Лажко Андрэй** – селянін памешчыка П. Барэйшы з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 178*.

**Лазіцкі Якуб** – шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. Пад Мухаедамі ўзбр. трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 аддадзены ў рэкруты. *РДВГА-11, арк. 203; Dangel S. Rok 1831. S. 118*.

**Лазоўскі Ян Якуб** (н. 1812) – мешчанін з Гродзенскай губ., н. у в. Адамаў Віленскай губ., фельчар кляштара ў Картуз-Бярозе. Служыў у абозе атрада Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон пад Невелем. Утрымліваўся ў Бабруйскай крэпасці. Рашэннем ГГСК ад 29.2.1832 аддадзены на ваен. службу. (Па звестках Л. Краўца, Р. Бялецкага – эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, з 10.4.1834 член ПДТ). *НГАБ-3, арк. 73; РДВГА-11, арк. 203; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 69; Krawiec L. Lista członków. S. 54*.

**Лакуціеўскі** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Аказваў дапамогу паўстанцам. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-2, арк. 419*.

**Ламановіч Аляксандр –** з Магілёўскай губ. Дзейнічаў у паўстанні. Сасланы ў Сібір на пасяленне. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 5972, арк. 1–3*.

**Лапата Міхал –** шляхціц з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 82 адв.*

**Лапацінскі Аляксандр** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Мікалая, уладальнік маёнткаў Юдзічын, Мачкі. З'яўляўся ініцыятарам паўстання ў Дзісенскім пав., узначальваў тайны паўст. к-т. Паставіў у апалчэнне 20 кантаністаў. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 вызвалены ад суда, па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі пакінуты пад паліцэйскім наглядам. *НГАБ-3, арк. 70 адв.; РДВГА, ф. 1, воп. 1, спр 12031, ч. 11, арк. 204; AGAD, MMK, nr 6, s. 26–35.*

**Лапацінскі Аляксандр** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Марціна і Ганны Валовіч, б. засядацель Віленскай адукацыйнай камісіі. Адзін з арганізатараў паўстання ў Дзісенскім пав. 10.8.1831 абраны паслом на варшаўскі сейм ад Дзісенскага пав. Уваходзіў у склад утворанага 15.8.1831 Літ. к-та. 7.9.1831 забіты пры абароне Варшавы. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 1 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 65; РДВГА-11, арк. 205; AGAD, MMK, nr 6; DS. T. 6. S. 444; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 72; Dangel S. Rok 1831. S. 138; Lelewel J. Pamiętnik. S. 159.*

**Лапацінскі Ігнацій** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша, дзісенскі маршалак. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, ад'ютант палк. Агінскага, з 2.7.1831 ппар. 26 палка лін. пяхоты. Паведаміў пра свае дзеянні ўладам. Па рашэнню МГСК 11.1.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 70; РДВГА-11, арк. 205; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 72; Dangel S. Rok 1831. S. 138.*

**Лапацінскі Казімір** (1810 – крас. 1857) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінкай губ., сын Юзафа і Клацільды Рушчыц, брат Юзафа. У сак. 1831 далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, ппар. 12 ул. палка. Дзейнічаў у бітве пад Дзіснай. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у лют. 1832, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне. У 1839 член Гісторыка-літаратурнага т-ва, з 1846 член Польск. клуба ў Парыжы. 15.9.1840 атрымаў дазвол на жыхарства ў Парыжы. Удзельнічаў у падзеях 1848, выехаў з Парыжа ў Познань, аднак дабраўся толькі да Дрэздэна. Не атрымаў дазволу на вяртанне ў Францыю і вымушаны быў застацца ў Брусэлі, дзе ў ліст. 1851 зноў звяртаўся з просьбай выехаць у Францыю. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *НГАБ-3, арк. 65 адв.; РДВГА-11, арк. 205–206; Biele-*

cki R. Zarys rozproszenia. S. 90; *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 72; Dangel S. Rok 1831. S. 138; Polacy pochowani. S. 151.*

**Лапацінскі Людвік** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Тадэвуша і Ганны Гласко. У сак. 1831 далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў. Удзельнічаў у сутыкненнях з расійск. войскамі. Эмігрыраваў у лют. 1832 у Францыю, са жн. 1832 жыў у Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 66 адв.; РДВГА-11, арк. 207; ф. 405, воп. 2, спр. 2290, арк. 1206; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 203; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 72; Dangel S. Rok 1831. S. 138.*

**Лапацінскі Марцін** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ігнацiя. Меў дачыненне са сваім сынам Аляксандрам да паўстання. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 вызвалены з-пад следства. *НГАБ-3, арк. 71; Dangel S. Rok 1831. S. 138.*

**Лапацінскі Тадэвуш (Томаш)** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Шэф батальёна пяхоты стральцоў і касінераў у дзісенскім апалчэнні, кіраваў аддзелам, паставіў 15 кантаністаў. Узяты ў палон пад Дзіснай. Па рашэнню МГСК 12.11.1831 з-за адсутнасці дакладных даных вызвалены ад адказнасці, рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 11.2.1832 аддадзены пад ваен. суд, пастановай якога ад 8.6.1832 паўторна атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 70 адв.; РДВГА-11, арк. 207; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 484–496; Dangel S. Rok 1831. S. 138.*

**Лапацінскі Юзаф** (п. 11.11.1853) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа і Клацільды Рушчыц, брат Казіміра. У сак. 1831 далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў. Дзейнічаў у бітве пад Дзіснай. Ппар. 12 ул. палка, адышоў з Г. Дэмбінскім у Варшаву. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю, прыбыў туды ў лют. 1832. У 1839 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. *НГАБ-3, арк. 65 адв.; РДВГА-11, арк. 205; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 90; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 72; Dangel S. Rok 1831. S. 138; Gadon L. Z życia Polaków. S. 121.*

**Лапіцкі Ігнацій** – селянін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 322.*

**Ласінскі Максім** – селянін памешчыка Юндзіла са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 179.*

**Лаўржынец (Лаўрынец) Андрэй** (23.6.1806) – з в. Клетна Бельскага пав. ці Кляцішча Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., сын Яна і Ганны Зуруч. У паўстанні радавы 13 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. У ліст. 1837 прыбыў у Тур. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 169; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 236.*

**Лахань Раман** (н. каля 1792) – селянін памешчыка Я. Дамброўскага з маёнтка Ружмонты Дзісенскага пав. Мінскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, служыў у апалчэнні, але вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 16.3.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 68 адв. – 69; РДВГА-11, арк. 194; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 125; Dangel S. Rok 1831. S. 137.*

**Лашкевіч Ігнацій** – селянін памешчыка Вейса з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся прымусова ў атрадзе Г. Дэмбінскага. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 170.*

**Леановіч Аляксандр** – дваранін з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў з імі за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. *НГАБ-3, арк. 69 адв.; РДВГА-8, арк. 173.*

**Леанюк Мацвей** – селянін памешчыка Слатвінскага з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 аддадзены на ваен. службу. *НГАБ-3, арк. 77; РДВГА-11, арк. 197.*

**Лебель Ігнацій** (25.9.1792–28.3.1861) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Грыбава, сын Вацлава і Лізаветы Ігнатовіч. Скончыў школу дамініканаў у Гродна, у 1811 пачаў вывучаць медыцыну ў Вільні, у 1819 атрымаў ступень урача 1 кл. Практыкаваў у Сувалках, затым у Варшаве. У паўстанні з 13.1.1831 урач шпіталя ў Варшаве. 4.9.1831 атрымаў залаты крыж. Пасля капітуляцыі Варшавы аднавіў прысягу расійск. ураду. Практыкаваў у Варшаве. У 1839 атрымаў ступень д-ра медыцыны. У 1840–51 рэдактар "Pamiętnika Towarzystwa Lekarskiego", аўтар навуковых прац. *Księga pamiątkowa. S. 140; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 23; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 244; Peszke J. Stulecie Towarzystwa; PSB. T. 16. S. 589; Szarejko P. Słownik lekarzy. T. 1.*

**Левандоўскі Каэтан** (н. 24.10.1788) – з Браслаўскага пав. Віленскай губ., сын Ігнація і Барбары, кап. польск. войскаў. У паўстанні пар. 4 палка конных стральцоў, затым кап. 21.10.1831 прыбыў у Варшаву. Аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 34.*

**Леванеўскі Пётр** – дваранін з Гродзенскай губ., аканом гр. Касакоўскага. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў з імі за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 69; РДВГА-8, арк. 172.*

**Легенза Міхал** (п. 25.6.1831) **–** шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., дваравы пісар памешчыка Ю. Крушэўскага. Арганізаваў уцёкі да паўстанцаў дзевяці сялян Крушэўскага. 18.6.1831 у наваколлі Брагіна дзейнічаў на чале паўст. аддзела, які ўваходзіў у склад оўруцкага атрада Бараноўскага. Забіты ў сутыкненні пад Мухаедамі. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 77; РДВГА-11, арк. 195; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 39; Dangel S. Rok 1831. S. 137.*

**Ледуховіч –** шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 69; РДВГА-11, арк. 195; Dangel S. Rok 1831. S. 137.*

**Ледыкевіч** – з Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні маёнтак канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Леліговіч Тэадор (Фёдар) –** вікарый з в. Даўгінава Вілейскага пав. Мінскай губ., брат Філіпа. Хаваў прыгатаваную для паўстанцаў зброю, прыводзіў да прысягі. Па рашэнню МГСК ад 19.10.1831 утрымліваўся 3 мес. у астрозе, узяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-3, арк. 74; РДВГА-11, арк. 196; Dangel S. Rok 1831. S. 159.*

**Леліговіч Філіп** – пробашч Даўгінаўскай парафіі Вілейскага пав. Мінскай губ., брат Тэадора. Паставіў у апалчэнне 7 кантаністаў, рыхтаваў пікі і аддзенне. Перад прыходам расійск. войскаў збег, але затым вярнуўся. Па рашэнню МГСК ад 12.5.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 74; РДВГА-11, арк. 196; Dangel S. Rok 1831. S. 159.*

**Ленартовіч Каміль Каэтан** (2.7.1804 (1805) – 3.9.1862) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Дзісне. Скончыў Віленскі ун-т, сябраваў з А. Міцкевічам, судовы ўраднік па крымінальных справах Ашмянскага суда. Знаходзіўся сярод тых, хто распачаў паўстанне ў Ашмянах, дзейнічаў у чыне ппар., затым падафіцэр 10 і 13 ул. палкоў. Адышоў з

Г. Дэмбінскім да Варшавы, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрніраваны. 1.2.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. Працаваў механікам. Ажаніўся з францужанкай. 7.6.1837 далучыўся да АПЭ, з 29.7.1837 член ПДТ. 24.9.1841 перабраўся ў Марсель, дзе загінуў. *РДВГА-2, арк. 356–357; ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 8 адв.; DS. T. 6. S. 440; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 252; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 69; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 27; Krawiec L. Lista członków. S. 79; Rederowa D. Polski emigracijny ośrodek. S. 104; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 366–367.*

**Ленартовіч Пётр** (н. 5.6.1802) – з в. Купрэлішкі Мінскай губ., сын Барталамея і Эльжбеты, састаяў на вайсковай службе радавым. У паўстанні радавы 12 ул. палка. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, 27.7.1835 запісаўся на службу ў Іспанію. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 227.*

**Лібер Юзаф** (н. 22.4.1799) – з г. Слоніма Гродзенскай губ., сын Якуба і Людвікі Пільчэўскай, ппар. польск. войскаў. У паўстанні ппар. 4 ул. палка, з 6.2.1831 пар., 3.4.1831 кап., 1.7.1831 маёр 11 ул. палка, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. *AGAD, PFR, nr 7, 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 37.*

**Лібергай Юзаф** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Уваходзіў у склад атрада Ю. Кашыца, з якім адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 78; РДВГА-8, арк. 174.*

**Лібрэхт –** з Барысаўскага пав. Мінскай губ., урач з маёнтка Барысаў кн. М. Радзівіла. Захоўваў пісталеты. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ўзяты пад нагляд паліцыі на 4 мес. *НГАБ-3, арк. 71 адв.*

**Ліневіч Канстанцін** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў з дзісенскімі паўстанцамі, затым ппар. 11 ул. палка, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 78 адв.; РДВГА-11, арк. 200; AGAD, PFR, nr 7; Dangel S. Rok 1831. S. 137.*

**Ліпінскі Канстанцін** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Ліпінскі Томаш** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 398*.

**Ліпінскі Францішак** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Ліпніцкі Дамінік** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ўзбр. у атрадзе Ю. Кашыца, разам з якім увайшоў у Навагрудак. Удзельнічаў у ваен. сутыкненнях. *РДВГА-8, арк. 175*.

**Ліпніцкі Лаўрэнцій** – з Ігуменскага пав. Мінскай губ., пісар маёнтка Смілавічы памешчыка Манюшкі. Меў зносіны з палоннымі паўстанцамі. Па рашэнню МГСК пакінуты пад тайным паліцэйскім наглядам. *РДВГА-11, арк. 200.*

**Ліпскі Адам** – шляхціц з Мінскай губ., вучань рэзчыка Юневіча з г. Глуска. Хаваў зброю, порах, шрот. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 71 адв.; РДВГА-11, арк. 201.*

**Ліпскі Аляксандр** – селянін памешчыка А. Горвата з Мазырскага пав. Мінскай губ. Служыў у атрадзе Ф. Кеневіча, дастаўляў коней Д. Горвата з Караліна ў Нароўлю. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 76 адв.; РДВГА-11, арк. 200.*

**Ліпскі Караль** (4.11.1806–1851) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Стабінова (каля Слоніма), з 1.1.1824 на службе ў Літ. корпусе. З 10.4.1831 у складзе рэгулярнай польск. арміі, пар. 2 ул. палка. 22.9.1831 атрымаў залаты крыж. Адышоў у Галіцыю, інтэрніраваны. 10.2.1834 выехаў з Трыеста ў Амерыку, пасля вярнуўся ў Францыю. З 22.12.1840 член ПДТ. 12.10.1842 знаходзіўся ў Тулузе. Служыў у складзе легіёна А. Міцкевіча, затым у польск. легіёне ў Грэцыі. Памёр у Афінах. *Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 169; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 258; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 46; Krawiec L. Lista członków. S. 90; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 376.*

**Ліпскі Станіслаў** (н. 1805) – з Ігуменскага пав. Мінскай губ., н. у Варшаве, уладальнік часткі маёнтка Сяргеевічы, сын Ксаверыя і Тэклі Пякарскай, скончыў Калішскі кадэцкі корпус, юнкер лейб-гвардыі Падольскага кірасірскага палка, знаходзіўся ў Варшаўскай школе юнкераў. У паўстанні з 2.1.1831, ппар. 1 кав. палка Кракаўскага ваяв. 5.2.1831 пераведзены ў 6 ул. полк, 22.4.1831 пар. Эмігрыраваў. Па рашэнню

МГСК ад 10.11.1834 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак у 1834 канфіскаваны. *НГАБ-3, арк. 81–82; РДВГА-11, арк. 201; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 46; Dangel S. Rok 1831. S. 137.*

**Ліпчык Мікалай** – селянін памешчыка Пуслоўскага з мяст. Хомск Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Прыцягнуты да паўстання Ц. Пуслоўскім. Арыштаваны 8.8.1831 пад Невелем. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 176.*

**Лісевіч Міхал** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 403.*

**Лісоўскі Андрэй** (п. 13.1.1879) – з Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка. У студз. 1834 прыбыў з Гданьска на караблі "Мар'яна" ў Портсмут (Англія), з чэрв. 1838 да 20.5.1850 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 1850 некалькі год знаходзіўся ў Амерыцы. Памёр у Лондане. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 259; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 84.*

**Лісоўскі В.** – ксёндз Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 408.*

**Лісоўскі Леапольд** – дваранін з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., фельчар маёнтка Нароўля памешчыка А. Горвата. Служыў у атрадзе Ф. Кеневіча, выконваў абавязкі казначэя. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 76 адв.; РДВГА-11, арк. 202.*

**Ліхадзіеўскі Францішак** – шляхціц з Мінскай губ., ключвойт з мяст. Радашковічы. Знаходзіўся ў атрадзе І. Адахоўскага, распаўсюджваў сярод памешчыкаў яго загады. Па рашэнню МГСК узяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-3, арк. 74; РДВГА-11, арк. 202.*

**Ліцінскі Ігнацій** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 176.*

**Лішэўскі Антон** – дваранін з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні служыў у конным палку Літ.-Вал. легіёна. Па заканчэнні ваен. дзеянняў застаўся ў КП. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 116–117; РДВГА-8, арк. 177.*

**Лопала Міхал** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 178.*

**Лукашук Васіль –** дваровы памешчыка Пуслоўскага з маёнтка Зубачы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. На месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-8, арк. 181.*

**Лукашэвіч** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ., каваль. Вырабляў пікі для паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 441*.

**Лукашэвіч Антоній** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. слонімскіх стральцоў, з 4.10.1831 у 3 палку пешых стральцоў. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. Адпраўлены на месца жыхарства. *НГАБ-3, арк. 83 адв.; РДВГА-8, арк. 179; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 78.*

**Лукашэвіч Вінцэнт** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка фарміравання Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 180; AGAD, WCPL, nr 724, k. 71.*

**Лукашэвіч Іван** – селянін памешчыка Андржэйковіча з в. Парэчыны Лідскага пав. Гродзенскай губ. Збег ад памешчыка і накіраваўся да паўстанцаў. Захоплены казакамі ў палон. *РДВГА-8, арк. 180.*

**Лукашэвіч Юзаф** – селянін памешчыка Дзівава з маёнтка Крынкі Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў узбр. сярод беластоцкіх паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК ад 22.7.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-3, арк. 84; НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 53; РДВГА-8, арк. 181*.

**Лукша Міхал** (н. каля 1775) – з Гродзенскай губ., каваль. Удзельнічаў у паўстанні і забойстве яўрэя Шэмеловіча. Рашэннем ваен. суда атрымаў 15 палак і сасланы на пасяленне ў Сібір. 26.8.1856 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 355*.

**Лук'яновіч Аляксандр** – селянін з Гродзенскай губ. У паўстанні служыў у пях. палку. Па заканчэнні ваен. дзеянняў з'явіўся да ўлад Сандамірскага старостаа. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-3, арк. 84; РДВГА-8, арк. 182.*

**Лук'яновіч Каспер –** селянін са Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 81; Bieliński K. Rok 1831. S. 124.*

**Лук'янскі Венядзікт** – дваранін з Мінскай губ., дазорца міхалкаўскай паштовай станцыі. Перадаў паўстанцам коней са станцыі. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 208.*

**Лункевіч Францішак –** з Мінскай губ., сын Антонія, канцылярыст Вілейскага земскага суда. Дзейнічаў у вілейскім апалчэнні ў чыне афіцэра. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 30.7.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 79; РДВГА-11, арк. 208.*

**Лушкоўскі Іван** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Адышоў у Прусію. Прасіў літасці. *РДВГА-2, арк. 458–459*.

**Любавіцкі Міхал –** шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ. Служыў у паўст. апалчэнні. Удзельнічаў у нападзенні на пошту ў Крыпулах у складзе атрада Ф. Адахоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 12.5.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 80 адв.; РДВГА-11, арк. 210; Dangel S. Rok 1831. S. 125*.

**Любавіцкі Сідар** – селянін памешчыка Стравінскага са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Прыцягнуты ў паўстанне кантаністам. *РДВГА-2, арк. 474*.

**Любаньскі Бенядзікт** – памешчык з Мінскай губ. У час паўстання захоўваў супрацьурадавыя паперы і адозву. Па рашэнню МГСК высланы ў Вяцкую губ. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 520, арк. 116; РДВГА-11, арк. 209*.

**Любаньскі Віктар** (н. 4.6.1785 ці 4.5.1789) – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Любань, сын Міхала і Розы Пласкавіцкай, адстаўны кап. польск. войскаў. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў. Адзін з арганізатараў падзей у Вілейскім пав., шэф штаба вілейскага апалчэння, маёр 13 ул. палка, адышоў з Г. Дэмбінскім у Варшаву. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. З сак. 1848 стаў членам ПДТ. У 1857 атрымаў дазвол на вяртанне ў Вілейскі пав. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 74 адв.; РДВГА-11, арк. 209; AGAD, KRW, nr 573; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 77, 96; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 52; Dangel S. Rok 1831. S. 137; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 111–129; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 381*.

**Людвінскі Тадэвуш** – селянін памешчыцы Браніцкай з маёнтка Ставы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні служыў у 18 лін. палку. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 182*.

**Лявінскі Мацвей** – дваранін з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. *НГАБ-3, арк. 69; РДВГА-8, арк. 172*.

**Лядзінскі Іван** – з мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 183*.

**Ляйко Францішак** – дваранін з аколіцы Крукаўшчына (Крупаўшчына ?) Лідскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ў 11 ул. палку, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл., частка маёнтка канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 75; РДВГА-8, арк. 172; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Ляневіч Канстанцін** – н. у Ашмянскім пав. Віленскай губ. У паўстанні дзейнічаў сярод ашмянцаў, затым у Лідскім пав. Адышоў у Прусію. Эмігрыраваў у Францыю ў 1832. З 1.11.1837 член ПДТ. *Krawiec L. Lista członków. S. 76*.

**Лянкевіч Тадэвуш** (5.5.1804–13.6.1867) – са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у в. Макнішкі, сын Ануфрыя і Кацярыны Нарбут, вучыўся ў Віленскім ун-це, настаўнік матэматыкі ў Коўна. У паўстанні з 1.7.1831 ппар. 6 палка конных стральцоў. 22.9.1831 атрымаў залаты крыж. Далучыўся да фарміравання А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 адышоў у Прусію, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, член ПНК. 7.4.1833 прыбыў у Швейцарыю, арыштаваны ў Жэневе і адасланы ў Англію. З 10.6.1834 да чэрв. 1867 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 15.8.1834 да 15.4.1835 член ПДТ. З 1.5.1841 жыў у Лондане, дзе і памёр. *Rps BN, II. 7861; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 253; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 98; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 29; Cygler B. Zjednoczenie. S. 125; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 83; PSB. T. 17. S. 58; Krawiec L. Lista członków. S. 55; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 367.*

**Лянкевіч Томаш –** памешчык з Бабруйскага пав. Мінскай губ., б. мазырскі маршалак. У час паўстання захоўваў забароненую літаратуру, за што ўтрымліваўся ў Бабруйскай крэпасці. Па рашэнню МГСК ад

26.11.1831 узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-3, арк. 71; Dangel S. Rok 1831. S. 137.*

**Лянкоўскі Адольф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у конным палку П. Важынскага ў чыне пхар. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-2, арк. 361.*

**Лясковіч Уладзіслаў Юзаф Андрэй** (25.4.1811–26.6.1891) – шляхціц з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Быхаўшчына, сын Вінцэнта і Монікі, з 1829 студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні пхар. у корпусе А. Гелгуда. Эмігрыраваў у Францыю, у 1836 скончыў школу гандлю ў Парыжы. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манпарнасе. *Domeyko I. Listy do Władisława Laskowicza; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 249; Hoesick F. Paryż. S. 143; Inskrypcje… w Paryżu – Montparnasse S. 40; Konarska B. Polskie drogi. S. 320; PSB.*

**Ляскоўскі (Ласкоўскі) Антоній** (п. 1.4.1837) – з в. Ляскова Гродзенскай губ. (па звестках Л. Краўца – н. у Суражы Беластоцкай вобл.), вывучаў філасофію ў кляштары дамініканаў у Расіенах. У паўстанні з 4.4.1831, 30.7.1831 ппар. 19 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 адышоў з Ф. Роландам у Прусію, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 10.6.1834 да 1.1837 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 16.8.1835 да 23.5.1840 член ПДТ. *ND. 1843. S. 140; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 84, 279; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 21; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 83; Krawiec L. Lista członków. S. 66; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 359.*

**Ляскоўскі Банавентура** – клірык Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Меў тайныя зносіны з паўстанцамі. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 183.*

**Ляскоўскі (Ласкоўскі) Юзаф** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна. У паўстанні камісар Глыбоцкага ключа, распаўсюджваў пісьмовыя загады паўст. урадавага к-та. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 85; РДВГА-11, арк. 211; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Ляснеўскі Амбросій** – ксёндз Навагрудскага дамініканскага кляштара Гродзенскай губ. Меў тайнае дачыненне да паўстання. *РДВГА-8, арк. 173.*

**Лястоўскі Сцяпан** – селянін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ў 19 ул. палку, удзельнічаў у баях. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў бадзяўся ў Віленскай губ. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-3, арк. 85 адв.; РДВГА-8, арк. 183*.

**Ляўдансkі Рафал (?)** (16.9.1801–20.5.1865) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Вільна. У паўстанні радавы 3 палка пешых стральцоў. Памёр у Лондане. *РДВГА-2, арк. 496; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 250*.

**Ляўковіч Баніфацый** (1811–23.8.1842) – з Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка. Эмігрыраваў. З 24.12.1833 член ПДТ. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 256; Krawiec L. Lista członków. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 372*.

**Ляўковіч Вінцэнт –** шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Бенядзікта, адстаўны пар. польск. войскаў. Дзейнічаў у чыне палк. сярод вілейскіх паўстанцаў, кіраваў аддзелам пяхоты з 80 чал., удзельнік бітвы пад Вілейкай, кіраваў аддзелам стральцоў. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 2.11.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 79 адв.; РДВГА-11, арк. 194; Dangel S. Rok 1831. S. 137; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 111–129*.

**Ляховіч Юзаф** – селянін памешчыцы Стравінскай з в. Ганчары (Гончыцы ?) Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ў 3 лін. палку, знаходзіўся ў Варшаве пад час яе захопу. Па рашэнню ГГСК ад 20.8.1832 адпраўлены ў Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-3, арк. 85 адв.; РДВГА-8, арк. 183; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 325*.

**Ляхоўскі Станіслаў** – селянін з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Па рашэнню ГГСК ад 17.9.1832 адпраўлены ў Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 54*.

**Ляшкевіч Фларыян** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., служыў у маёнтку Барбарава памешчыка А. Горвата. У паўстанні ў атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у нападзенні на паштовыя станцыі ў Кузьмічах, Караліне, Міхалках. Узяты ў палон пад Міхалкамі. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 аддадзены на ваен. службу. *НГАБ-3, арк. 76; РДВГА-11, арк. 198.*

**Ляшко –** селянін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. *РДВГА-8, арк. 173*.

**Ляшчынскі Вінцэнт** (н. 5.5.1810) – з Мінскай губ., н. у в. Уткевічы (Лука), сын Тараса і Марыі Ляшчынскай, на службе ў расійск. арміі. У паўстанні радавы 8 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію, утрымліваўся да канца 1833 у Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Пасля вяртання ў Францыю жыў у По, з 21.5.1837 у Ош. З 20.7.1846 член ПДТ. МГСК рашэння не вынесла, 25.12.1834 справа накіравана для разгляду ў Мінскае губ. праўленне. *НГАБ-3, арк. 80; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 229; Dangel S. Rok 1831. S. 118; Krawiec L. Lista członków. S. 106.*

**Ляшчынскі Юзаф –** вольны селянін з маёнтка М. Тышкевіча Ізабелін Вілейскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 79 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

# М

**Магільніцкі Аляксандр Фелікс** (н. 1815) – дваранін з Белага Двара Наваградскага пав. Гродзенскай губ., сын Мікалая Францішка і Розы Карэйва, студэнт. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–38 у Іспаніі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 113; РДВГА-8, арк. 206; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 259.*

**Мадэрт Юсцін** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 667.*

**Маеўскі Казімір –** з Гродзенскай губ. У паўстанні маёр 7 палка лін. пяхоты. 10.3.1831 адзначаны залатым крыжам. Адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 386; Księga pamiątkowa. S. 97.*

**Мажэйка Кандрат** – селянін памешчыка Верашчакі з Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў атрадзе Д. Хлапоўскага. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 207*.

**Мажэйка Яўхім** (10.2.1808–1891) – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у Клодна. У паўстанні з 3.4.1831, ппар. 13 ул. палка. Адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Авіньёне, у студз. 1833 знаходзіўся ў Безансоне, 22.3.1833 адпраўлены ў Бержэрак. У 1837 член АПЭ. У ліст. 1837 выехаў у Манпелье, дзе з 1838 вывучаў медыцыну, 11.8.1843 атрымаў ступень д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Жыронда. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, што скарыстаў, аднавіў прысягу расійск. ураду, аднак праз некалькі гадоў зноў вярнуўся ў Францыю ў дэп. Жыронда. Член ПДТ. *DS. T. 6. S. 440; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 173; Bieliński K. Rok 1831. S. 125; Konarska B. Polskie drogi. S. 348*.

**Мазуркевіч Аляксандр** – з Мінскай губ., аканом маёнтка Лужкі. Паставіў з маёнтка 214 узбр. пікамі і косамі кантаністаў, харчаванне, сам застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 97 адв.; РДВГА-11, арк. 225; Dangel S. Rok 1831. S. 119*.

**Майманоўскі (Нейманоўскі) Антоній** (16.4.1795–22.2.1836) – з Мінскага пав. Мінскай губ., сын Яна і Тэрэзы, афіцэр польск. войскаў. У паўстанні кап., з 24.1.1831 узначальваў рэзервовы артыл. атрад, 6.2.1831 маёр. 25.5.1831 атрымаў кавалерскі крыж. Быў паранены, знаходзіўся ў шпіталі. Пасля капітуляцыі Варшавы аднавіў прысягу расійск. ураду. Аддадзены пад нагляд паліцыі. *Księga pamiątkowa. S. 116; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 184*.

**Макарэвіч Аляксандр –** дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., служыў у польск. войсках. У ліст. 1830 знаходзіўся ў КП, далучыўся да паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 17.8.1833 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 86*.

**Макоўскі** – шляхціц з Мінскай губ., пісар дубойскай паштовай станцыі. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 110 адв.; РДВГА-11, арк. 227*.

**Макоўскі Аляксандр Казімір** (30.3.1804–3.8.1874) – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., сын Яна і Лізаветы Бараноўскай, брат Антонія, б. адвакат гродзенскіх прысутных месц, скончыў школу ў Гродна і ф-т права Віленскага ун-та. Адзін з арганізатараў паўстання на Гродзеншчыне, ппар. 2 лін. палка, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 3.10.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. У вер. 1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. У ліст. 1834 перабраўся ў Страсбург. З 1837 член АПЭ, з 1838 карэспандэнт Гісторыка-літаратурнага т-ва. Працаваў пачаткова бухгалтарам. У 1847 перабраўся ў Гданьск, дзе заснаваў гандлёвы дом. Прыняў прускае грамадзянства. Калекцыяніраваў мастацкія вырабы, падтрымліваў сувязі з палякамі ў Гданьску. У 1868 перабраўся ў Кракаў. У 1870 удзельнічаў у стварэнні Галіцыйскага банка, быў яго старшынёй. 20.9.1859 ажаніўся з Ганнай Маер, меў сына Аляксандра. Памёр у Седлецкай губ. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., дом канфіскаваны. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 6887; РДВГА-8, арк. 186; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 48; DS. T. 6. S. 385; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 80, 206; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 91; Gadon L. Z życia Polaków. S. 121; PSB; Spazier R.O. Historia powstania. T. 2. S. 210.*

**Макоўскі Антоній** (12.6.1797 (20.1.1798) – 30.4.1849) – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., н. у Гродна, сын Яна і Лізаветы Бараноўскай, брат Аляксандра Казіміра, пар. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 пар., ад’ютант батарэі, 3.5.1831 кап. 2 палка лін. пяхоты. 17.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. У студз. 1834 перабраўся ў Страсбург, 27.10.1835 стаў членам політэхнічнага т-ва, у 1837 далучыўся да АПЭ. Памёр у Страсбургу. *НГАБ, ф. 1297, воп. 1, спр. 6887; Księga pamiątkowa. S. 152; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 275; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 80; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 91.*

**Макржэцкі Людвік Напалеон Панталеон** (26.12.1812–2.5.1855) – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у Марачоўшчыне, сын Яўхіма і Саламеі, адвакат. У паўстанні хар. 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–38 у Іспаніі, адзначаны ордэнам св. Фердзінанда 1 кл., 17.1.1839 звольнены са службы.

31.1.1839 прыняты паўторна: у 1839–54 служыў у Афрыцы, у 1854–55 у Крыму. Забіты пад Севастопалем. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 113 адв.; РДВГА-8, арк. 207; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 259.*

**Макржэцкі Эдвард** (н. 18.3.1815) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Вільні, сын адваката. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў з сак. 1831, 2.7.1831 ппар. 10 ул. палка, ад'ютант палк. К. Пршэздзецкага. У снеж. 1831 прыбыў у Францыю. З 18.3.1832 член ТЛРЗ, у 1832 член ПНК. У ліп. 1832 належаў да закладу ў Нанце. З 9.6.1835 да 31.12.1837 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, затым вярнуўся ў Францыю. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца ў Віленскую губ. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 11 адв.; Rps BN, III. 6594, II. 7871, II. 7872; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 165–166; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 87.*

**Максімовіч –** з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4109.*

**Маладоўскі Міхайла –** дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 198*.

**Малаховец Іасафат –** дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Францішка. У паўстанні выконваў пасаду наглядальніка за шпіталямі ва ўрадавым паўст. к-це ў Лужках. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 вызвалены з-пад следства, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-4, арк. 98 адв.; РДВГА-11, арк. 228; Dangel S. Rok 1831. S. 132.*

**Малахоўскі Казімір** (24.2.1765–5.1.1845) – з в. Вішава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сын Станіслава і Мар'яны Каменскай, вучыўся ў Галоўнай артыл. школе ў Варшаве, удзельнічаў у паўстанні 1794, сябар Т. Касцюшкі, адышоў з Данброўскім у Італію. У крас. 1807 вярнуўся ў Варшаву, удзельнічаў у кампаніі 1812, у снеж. 1815 камендант крэпасці Модлін, у 1818 выйшаў у адстаўку. 10.12.1830 вярнуўся на службу, 20.8.1831 намеснік галоўнакамандуючага польск. войскаў, ген. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрніраваны. У жн. 1832 прыбыў у Францыю. 4.10.1835 маёнтак канфіскаваны. У эміграцыі выдаў успаміны пра ўласны ўдзел у паўстанні. *Małachowski K. Opowiadanie działań wojennych; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 200; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 278; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 101; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 115; T. 3. S. 171; PSB.*

**Малахоўскі Ян** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні ппар. палка К. Пршэздзецкага, затым далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, радавы 13 ул. палка. *РДВГА-2, арк. 526; AGAD, WCPL, nr 724, k. 72*.

**Малашэвіч Кастан** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-2, арк. 527.*

**Малевіч Гілярый** (24.7.1808–1.3.1874) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Рось, скончыў Свіслацкую гімназію, студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні памочнік хірурга. Эмігрыраваў у Францыю, у 1833 выехаў у Манпелье для працягу вучобы, 22.8.1834 атрымаў дыплом д-ра медыцыны. Член АПЭ, з 20.7.1834 член ПДТ. Рашэннем гродзенскага губ. праўлення ад 14.2.1835 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ, ф. 1416, воп. 4, спр. 4373, арк. 1; РДВГА-2, арк. 527; ч. 8, арк. 185; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 276; Konarska B. Polskie drogi. S. 333; Krawiec L. Lista członków. S. 54; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 407.*

**Малевіч Ігнацій** (н. каля 1791) – з в. Цыборы Гродзенскай губ. У паўстанні з 2.4.1831, 29.5.1831 ппар., у складзе 3 палка пешых стральцоў атрада Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. 5.10.1831 з атрадам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 26.2.1832 прыбыў у Францыю. З 12.9.1833 член ПДТ, у маі 1838 далучыўся да АПЭ. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 49; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 121, 300; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 95; Krawiec L. Lista członków. S. 48; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 407*.

**Малеўскі Іван** – дваранін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў з імі ў Віленскую губ. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 87 адв.; РДВГА-8, арк. 185*.

**Малеўскі (Мялоўскі) Марк** (1795–14.10.1867) – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у Лідзе. У паўстанні падафіцэр 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. Эмігрыраваў у Францыю. З 21.9.1834 да 27.4.1846 член ПДТ. Памёр у Парыжы. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскавана частка маёнтка Мізаны. *НГАБ-3, арк. 87 адв.; РДВГА-8, арк. 186; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 276; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 55.*

**Малеўскі Фларыян** (1809–19.7.1857) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Галынка. У паўстанні падафіцэр 7 ул. палка.

Эмігрыраваў у Францыю, працаваў пісарам і натарыусам, меў чацвёра дзяцей. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 276.*

**Малецкі (Маліцкі) Тэадор** (15.12.1815–30.3.1878) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні ппар. 6 палка конных стральцоў. Эмігрыраваў, памёр у Францыі. *РДВГА-2, арк. 528; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 276.*

**Маліноўскі Антон** – з Гродзенскай губ., б. суддзя Навагрудскага межавага суда. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 186.*

**Маліноўскі Вінцэнт** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., б. пав. страпчы. У паўстанні падпісаў Акт канфедэрацыі. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-2, арк. 529.*

**Маліноўскі Францішак Ксаверый** (12.9.1809–17.2.1856) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та (па звестках М. Тыровіча – н. у 1811). У паўстанні падафіцэр (ппар.) 12 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю, у 1841–43 вывучаў медыцыну ў Манпелье, 9.1.1843 атрымаў дыплом д-ра медыцыны. Член АПЭ, з 1.8.1832 да 6.5.1836 член ПДТ, 23.3.1838 уступіў паўторна. У ліп. – каст. 1850 разам з Ф. Строўскім і Л. Ятржэбскім рэдагаваў "Dziennik Emigracji". 4.3.1851 прыбыў у Ліверпуль, адкуль пазней выехаў у Францыю, дзе працаваў спачатку хатнім урачом, а з 1854 урачом на караблі Марсель – Стамбул, затым Марсель – Алжыр. Памёр у Марселі. *РДВГА-2, арк. 531; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 182; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 277; Konarska B. Polskie drogi. S. 333; Krawiec L. Lista członków. S. 42; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 409.*

**Маліноўскі Юзаф** – з Гродзенскай губ., пісар. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, ппар. 3 палка пешых стральцоў, адышоў у Варшаву. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 186; AGAD, WCPL, nr 724, k. 49.*

**Малуха Емяльян** – селянін памешчыка А. Горвата з Мазырскага (?) пав. Мінскай губ., ямшчык каралінскай паштовай станцыі. У паўстанні ў атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пры Міхалках, дзе трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 прысуджаны да аддачы ў салдаты, дзякуючы хадайніцтву памешчыка атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-3, арк. 87; РДВГА-11, арк. 227.*

**Малыка Антоній** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 535.*

**Малыка Тадэвуш** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 535.*

**Малышэвіч Ігнацій** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Выконваў загады паўстанцаў, захоўваў зброю. *НГАБ-4, арк. 101 адв.; РДВГА-2, арк. 535.*

**Малышэвіч Кастан** – з Віленскай губ. Знаходзіўся сярод арганізатараў паўстання ў Ашмянах. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 8 адв.*

**Малышэўскі Станіслаў** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў у атрадзе В. Матусевіча. Трапіў у палон пад Вільняй. Сасланы ў Сібір. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 366.*

**Малькевіч** – ксёндз Лужкоўскага піярскага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод лужкоўскіх паўстанцаў. *Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 486.*

**Мальчэўскі Францішак** (н. 25.9.1801–8.2.1852) – з в. Пухавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., ппар. польск. войскаў. У паўстанні ппар., 29.3.1831 пар., затым кап. Пасля капітуляцыі Замосця адышоў у Тамашова. Арыштаваны і сасланы ў Сібір на цяжкія работы. 2.6.1835 знаходзіўся ў Іркуцку. Памёр у Нерчынску. *AGAD, KRW, nr 351; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 94; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 361.*

**Малянковіч Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 677.*

**Манарховіч Томаш** – селянін памешчыка Керсноўскага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК ад 12.11.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-4, арк. 113 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 63; РДВГА-8, арк. 208.*

**Манастырскі Адам** – дваранін з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., пісар маёнтка Нароўля памешчыка А. Горвата. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 93 адв. – 94; РДВГА-11, арк. 246.*

**Манкевіч Апалінарый** – шляхціц з Бабруйскага пав. Мінскай губ., сын Сямёна, брат Юзафа, калежскі рэгістратар, аканом маёнтка Устай-

лава памешчыка А. Булгака. У час паўстання захоўваў зброю, меў зносіны з Ф. Кабылінскім. Па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.2.1832 вызвалены ад адказнасці, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 92; РДВГА-11, арк. 247; Dangel S. Rok 1831. S. 141.*

**Манкелевіч Казімір** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Перайшоў да паўстанцаў КП. *РДВГА-2, арк. 694.*

**Мановіч Мацей** (н. каля 1775) – селянін з Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, удзельнічаў у забойстве яўрэя. Па рашэнню сената атрымаў 10 палак і сасланы ў Сібір на пасяленне. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 399.*

**Манстовіч** – іераманах Будслаўскага бернардзінскага кляштара Вілейскага пав. Мінскай губ. Чытаў у касцёле пауст. адозву, прыводзіў да прысягі. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў. Адышоў за мяжу. МГСК рашэння па яго справе не вынесла. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 746; ф. 561, воп. 1, спр. 4, арк. 101; РДВГА-11, арк. 247; Dangel S. Rok 1831. S. 160.*

**Манцэвіч** – шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка Барбарава памешчыка А. Горвата. У час паўстання выконваў загады Ф. Кеневіча, але ў ваен. дзеяннях удзелу не прымаў. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 89; РДВГА-11, арк. 229; Dangel S. Rok 1831. S. 139.*

**Манцэвіч** – памешчык з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., уладальнік в. Замосце. Па данясенню спраўніка меў дачыненне да паўстання, заклікаў да яго сялян. Па рашэнню МГСК ад 1.2.1832 вызвалены з-пад следства з-за недахопу доказаў. *НГАБ-3, арк. 99; Dangel S. Rok 1831. S. 146.*

**Мардасевіч Караль** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Кантаніст у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пры Міхалках, дзе ўзяты ў палон. МГСК ад 31.12.1831 вынесла рашэнне аб аддачы ў салдаты, аднак дзякуючы хадайніцтву Абуховіча палявы аўдытарыят дазволіў вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-3, арк. 89 адв.; РДВГА-11, арк. 249.*

**Мардуховіч Арон** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 53.*

**Маркевіч Дамінік Францішак** – мешчанін з г. Навагрудка Гродзенскай губ. У паўстанні служыў у атрадзе Ю. Кашыца. Эмігрыраваў. Па ра-

шэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл., дом канфіскаваны. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 187; Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Маркевіч Ян (?) –** са Свянцянскага пав. Віленскай губ., студэнт. У паўстанні з сак. 1831, 2.7.1831 ппар. 25 палка лін. пяхоты. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 108; Bieliński K. Rok 1831. S. 124.*

**Маркоўскі Фелікс –** са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. Адпраўлены на месца жыхарства. *НГАБ-3, арк. 89 адв.; РДВГА-8, арк. 187; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76.*

**Марос Францішак** (п. 17.5.1886) **–** з Мінскай губ., доктар Віленскага ун-та. Маёнтак канфіскаваны. Пахаваны ў Мінску на Кальварыйскіх могілках. *Czerniawska T., Jaroszewicz A. Rzymsko-Katolicki Cmentarz. S. 33; Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Марос Ян** – селянін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 699.*

**Марцінкевіч Дамінік** – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Сцяпана, служыў у маёнтку Плянта В. Пуслоўскага. У паўстанні дзейнічаў узбр. у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Эмігрыраваў. *НГАБ-4, арк. 110 адв.; РДВГА-11, арк. 229; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 32.*

**Марцінкевіч Марцін** – селянін з Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Рашэннем палявога аўдытарыята атрымаў 25 палак і сасланы на цяжкія работы ў Сібір. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 369*.

**Марціноўскі (Мартыноўскі) Геранім** (1807–1861) – дваранін з Мінскай губ., у 1827 скончыў гімназію ў Вінніцы, вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. Пакінуў ун-т, далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, у 1838 перабраўся ў Бельгію. Працаваў рэпетытарам па матэматыцы. У 1849 стаў прафесарам. *РДВГА-11, арк. 231; Rps BN, II. 7861; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 477*.

**Марціноўскі Сцяпан** – селянін памешчыка А. Бронскага са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дастаўлены Бронскім у атрад Г. Дэмбінскага, з якім адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 188*.

**Марціноўскі Юльян** – са Слуцкага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Далучыўся да паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Эмігрыраваў у Францыю, член ПНК. *РДВГА-2, арк. 559; AGAD, EPP, nr 1, k. 18.*

**Марціноўскі Ян** (6.1.1811–12.1835) – з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Радашковічы, студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні з 11.5.1831, пхар. пешай артылерыі. Эмігрыраваў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў Пуацье, у 1835 вывучаў медыцыну ў Манпелье. Скончыў жыццё самагубствам. *РДВГА-2, арк. 558; ч. 11, арк. 230; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 279; Konarska B. Polskie drogi. S. 336.*

**Марцэўскі Станіслаў** (1801–25.11.1857) – з г. Магілёва. Удзельнічаў у паўстанні, трапіў у палон, адкуль спрабаваў збегчы. Арыштаваны пад час уцёкаў і асуджаны на цяжкія работы ў Сібір. 7.7.1836 прыбыў у Іркуцк, адкуль высланы за Байкал. 2.12.1850 атрымаў дазвол перайсці на пасяленне. 31.5.1851 ажаніўся з дачкой ссыльнага Пятра Сабурава Марыяй. Памёр пад Культумой. *Giller A. Opisanie Zabajkalskiej Krainy. S. 240–243; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 368*.

**Марэт Францішак –** дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Узяты ў палон параненым. *РДВГА-8, арк. 209*.

**Масіцкі Фердзінанд** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 703.*

**Маскоўскі Аляксандр** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні канфіскавана належачая яму частка дома. *Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Масленнікаў Пётр –** купец з г. Навагрудка Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 188*.

**Маслоўскі Сцяпан** (н. каля 1807) – селянін памешчыка Я. Дамброўскага з маёнтка Ружмонты Дзісенскага пав. Мінскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, служыў у апалчэнні. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 16.3.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 98 адв.; РДВГА-11, арк. 231; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 125; Dangel S. Rok 1831. S. 137*.

**Маслоўскі Тадэвуш** – памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 564.*

**Мастоўскі Эдвард –** гр., памешчык з Мінскай і Свянцянскага пав. Віленскай губ., пав. маршалак. З'яўляўся членам тайнага свянцянскага к-та. Ад пасады старшыні часовага ўрадавага к-та адмовіўся. Узначальваў часовы ўрад Свянцянскага пав., актыўных дзеянняў не прадпрымаў. Па рашэнню ВГСК ад 11.10.1831 пакінуты вольным, астаўлены на пасадзе маршалка. *НГАБ-3, арк. 100; Bieliński K. Rok 1831. S. 83–84*.

**Матусевіч Антоній (?)** – шляхціц з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод ашмянскіх і вілейскіх паўстанцаў, затым далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, радавы атрада навагрудскай конніцы. З'явіўся да ўлад. Рашэннем МГСК ад 14.12.1831 атрымаў дазвол застацца на месцы жыхарства. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 78; Dangel S. Rok 1831. S. 139*.

**Матусевіч Ігнацій –** шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Мацвея. З вілейскімі паўстанцамі ўдзельнічаў у бітве пад Вілейкай. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 19.1.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 100; РДВГА-11, арк. 231; Dangel S. Rok 1831. S. 139.*

**Матусевіч Мацвей** – памешчык з в. Калядзічы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці. Адпраўлены на месца жыхарства. *НГАБ-3, арк. 90 адв.; РДВГА-8, арк. 189*.

**Матусевіч Юзаф** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Станіслава. Меў сувязь з паўстанцамі. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 вызвалены з-пад следства, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-4, арк. 98 адв.; РДВГА-11, арк. 232; Dangel S. Rok 1831. S. 139.*

**Матусевіч Юльян** (1765–10.2.1834) – з Гродзенскай губ. У паўстанні кап. 3 палка пешых стральцоў. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Авіньёне. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 90 адв.; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 282; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 114–115; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 62, 236.*

**Матучкевіч Вінцэнт –** з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Ашмянах. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію. *РДВГА-2, арк. 575.*

**Матушэвіч Аляксандр Адам** (н. 15.3.1815) – шляхціц з Гродзенскай губ., н. у мяст. Высокае. У паўстанні ппар. Эмігрыраваў у Францыю, вывучаў ваенныя навукі, здаў экзамен на інструктара дарог і мастоў у 1842, з 1849 працаваў у Лілі. *Konarska B. Polskie drogi. S. 337.*

**Матушэвіч Міхал** – у паўстанні кіраваў аддзелам ашмянскага апалчэння. Адпраўлены салдатам у Сібір. Памёр у Кірэнску. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 374.*

**Матушэвіч Павел –** селянін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. *НГАБ-3, арк. 91.*

**Матушэвіч Раман** – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. На пачатку паўстання знаходзіўся ў КП. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 190.*

**Матушэвіч (Матусевіч) Сымон** (н. 8.12.1787) – з в. Куранец Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Марціна і Мар'яны Васілеўскай. У паўстанні радавы 1 ул. палка. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, 27.7.1835 запісаўся на службу ў Іспанію. Па рашэнню МГСК прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-3, арк. 96; РДВГА-11, арк. 232; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 248; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Мацінкевіч Аляксандр** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 556.*

**Мацінкевіч Лявон** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 556.*

**Мацінкевіч Сільвестр** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 556.*

**Мацінкевіч Станіслаў** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 556.*

**Мацінкевіч Юзаф** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў пад кіраўніцтвам І. Адахоўскага. *РДВГА-2, арк. 555.*

**Мацкевіч** (п. 4.1831) – пробашч мяст. Гарадок Вілейскага пав. Мінскай губ., уніят. Прыводзіў да прысягі. *Dangel S. Rok 1831. S. 163.*

**Мацкевіч Ігнацій** – шляхціц з Мінскай губ., аканом памешчыка А. Мурашкі, сын Мацвея. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад далейшага праследавання. *НГАБ-3, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 233; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Мацкевіч Рыгор** – дзейнічаў сярод свянцянскіх паўстанцаў у атрадзе В. Барткевіча. Высланы ў Іркуцк. Вярнуўся на месца жыхарства ў 1858. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 359.*

**Мацкевіч Станіслаў** (1802–2.12.1850) – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., б. суддзя. У паўстанні далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, ппар. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву. 15.8.1832 эмігрыраваў у Францыю. З 30.12.1833 да 25.2.1838 член ПДТ, у жн. 1838 далучыўся да АПЭ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 91 адв.; РДВГА-8, арк. 191; AGAD, WCPL, nr 724, k. 65; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 272; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 165; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 84; Krawiec L. Lista członków. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 400–401.*

**Мацкевіч Тадэвуш** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод гродзенскіх паўстанцаў. *Niemcewicz K.U. Pamiętnik. S. 70.*

**Мацыеўскі Андрэй** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-2, арк. 591.*

**Мацыеўскі Юзаф** – селянін з в. Крывілі Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў дзеншчыком. Апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 191.*

**Мацыеўскі Ян** (н. каля 1802) – шляхціц з в. Марачы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сын Адама. У ліп. 1831 далучыўся ў Дзярэчыне да паўстанцаў, каля в. Нараўка збег, вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК ад 17.7.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 99 адв.*

**Мацюшка Даніла** – селянін памешчыка А. Чаркоўскага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Разам са сваім памешчыкам знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, 8.8.1831 узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 192.*

**Мачульскі Гілярый** – з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 з-за малалецтва пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 250.*

**Мачульскі Яўхім** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 706.*

**Машынькі Пётр** (н. 1810) – н. у Гродзенскай губ., служыў у расійск. арміі. У паўстанні далучыўся да польск. войскаў, адышоў у

Прусію. Эмігрыраваў у Францыю. З 16.4.1838 член ПДТ. *Krawiec L. Lista członków. S. 82*.

**Машэўскі Отан –** з Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні маёнтак канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157*.

**Медушэвіч (Медушэўскі) Павел** (н. каля 1806) – селянін кн. Радзівіла з в. Пенічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага ў Навагрудскім пав. Дайшоў да Варшавы, служыў у 13 ул. палку. Пасля капітуляцыі Варшавы знаходзіўся ў Модлінскім гарнізоне. Узяты ў палон і дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 14.5.1832 аднесены да 2 разр. зл., адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 18–26; РДВГА-8, арк. 193.*

**Мельнік Яфім –** селянін памешчыка А. Горвата з Мазырскага (?) пав. Мінскай губ. У паўстанні служыў узбр. у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пры Міхалках. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 93 адв.; РДВГА-11, арк. 254.*

**Меляшкевіч Міхал –** з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 з-за малалецтва вызвалены ад далейшага праследавання. *НГАБ-3, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 234*.

**Меляшынскі Адам** – селянін памешчыка Маліноўскага з маёнтка Лозаўцы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Яна. У паўстанні служыў у 8 ул. палку атрада Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК ад 15.6.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-3, арк. 95 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 39; РДВГА-8, арк. 193.*

**Менахім** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 598*.

**Мержаеўскі Антоній –** дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ўваходзіў у склад атрада Ю. Кашыца. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 103; РДВГА-8, арк. 194*.

**Мержаеўскі Калікст** – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Мержаеўскі Мікалай** (5.12.1787 (6.12.1788) – 26(27).11.1856) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Данаў (?), сын Яна і Тэрэзы Рымшы, адстаўны кап. польск. войскаў. Разам з Ю. Кашыцам арганізатар паўстання ў Навагрудку, дзейнічаў у чыне маёра, кіраваў навагрудскім апалчэннем. 9.7.1831 захапіў эстафетную каманду ў Беліцы. 15.7.1831 зліўся з атрадам Г. Дэмбінскага, з 5.8.1831 маёр 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 14.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. З 1835 у Англіі, дзе знаходзіўся разам з жонкай і дачкой, з 9.6.1835 да 10.4.1845 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1840 перабраўся ў Францыю, у 1843–45 жыў у Парыжы. З 7.3.1848 член ПДТ. Памёр у Баціньёлі, пахаваны на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 1 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 95 адв.; РДВГА-2, арк. 634; ч. 8, арк. 194; ф. 405, воп. 2, спр. 4258, арк. 3; AGAD, WCPL, nr 724, k. 64; DS. T. 6. S. 385; Budzyński M. Wspomnienia. T. 1. S. 333; Księga pamiątkowa. S. 146; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 140; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 86; Polacy pochowani. S. 152; Krawiec L. Lista członków. S. 112; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 439.*

**Мержаеўскі Павел** – падафіцэр 26 палка лін. пяхоты. 30.8.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Эмігрыраваў. З 18.6.1834 да 17.5.1845 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна. *Księga pamiątkowa. S. 137; Krawiec L. Lista członków. S. 53.*

**Мецыхоўскі Адольф** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., адстаўны пар., б. член Барысаўскага земскага суда. Меў сувязь з паўстанцамі, але актыўнага ўдзелу не прымаў. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 30.11.1831 пакінуты вольным, узяты пад нагляд паліцыі. *Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Мігановіч (Міхановіч) Станіслаў** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія, адстаўны калежскі сакратар. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, паставіў у апалчэнне 50 кантаністаў з маёнтка Мікалаева. Ппар. 10 ул. палка, 15.7.1831 у складзе корпуса Ф. Роланда перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, член ПНК. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 104–104 адв.; РДВГА-11, арк. 237; AGAD, PFR, nr 7; EPP, nr 1, k. 19; Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Мізгер Пётр** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 196.*

**Мізгер Францішак –** дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 196.*

**Мікіта (Мікуціс) Іван** – з Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 196; AGAD, WCPL, nr 724, k. 73.*

**Міклашэўскі Варфаламей** – селянін памешчыка Мазеўскага з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўст. абозе. Арыштаваны ў Коўна ў шпіталі. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-2, арк. 605; ч. 8, арк. 197*.

**Мікоша Казімір** – з Гродзенскай губ. У паўстанні знаходзіўся ў атрадзе Ю. Кашыца. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 197*.

**Мікоша Міхал –** шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод свянцянскіх паўстанцаў, з 20.4.1831 член часовага ўрада Свянцянскага пав. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 загадана аднавіць прысягу расійск. ураду. *Bieliński K. Rok 1831. S. 15–16, 84–85*.

**Міксевіч Антоній** – прыёр кляштара трынітарыяў мяст. Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, садзейнічаў распаўсюджванню паўстання ў Маладзечне і Вілейцы, 17.4.1831 адслужыў урачыстую службу. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 аднесены да 3 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 10.3.1832 пазбаўлены на 3 мес. волі, затым справа накіравана касцельным уладам. *НГАБ-4, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 238; Dangel S. Rok 1831. S. 160; Powstanie Listopadowe 1830–1831. Dzieje wewnętrzne. S. 203.*

**Мікульскі Дамінік** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам, служыў пад кіраўніцтвам І. Адахоўскага. *РДВГА-2, арк. 610.*

**Мікульскі Ежы** (н. 1791) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Ашмянах, сын Яна і Эльжбеты Драўноўскай, сержант польск. войскаў. У паўстанні ппар., з 13.6.1831 пар. 12.10.1831 прыбыў у Варшаву. Аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 478, 571; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 145.*

**Мікульскі Ісідор** (4.4.1800–8(9).12.1878) – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Вензавец (с. н. Вязавец), сын

Міхала і Юзэфы Валовіч, брат Юзафа, вучыўся ў Віленскім ун-це. Дзейнічаў сярод слонімскіх паўстанцаў, затым ппар. 1 ул. палка. (31).5.1831 далучыўся да атрада Д. Хлапоўскага, афіцэр штаба, з 10.6.1831 ад'ютант А. Солтана. 15.7.1831 адышоў у Прусію, інтэрніраваны. У эміграцыі першапачаткова знаходзіўся ў Гамбургу, у снеж. 1833 перабраўся ў Францыю, асеў у Парыжы, у 1834 быў паранены ў паядынку. У 1839 член Гісторыка-літаратурнага т-ва, з 1846 Польск. клуба. Працаваў у банку Ельскага, з'яўляўся яго прадстаўніком у Бруселі. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-4, арк. 105; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 58, арк. 4 адв.; РДВГА-8, арк. 198; BPP, nr 565; Krasiński Z. Listy do Adama Sołtana. S. 3; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 291; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 145; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 62; яго ж: I. Pamiętniki. S. 24; Gadon L. Z życia Polaków. S. 121; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 284; Kaczkowski J. Konfiskaty; Polacy pochowani. S. 159.*

**Мікульскі Юзаф** (1796 (1799) – 29.3.1856) – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сын Міхала і Юзэфы Валовіч, брат Ісідора, працаваў памочнікам бібліятэкара. (31).5.1831 далучыўся да атрада Д. Хлапоўскага, радавы 1 ул. палка, затым ппар. 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У снеж. 1831 (лют. 1832 ?) прыбыў у Францыю, з ліп. 1832 знаходзіўся ў Парыжы, 12.2.1832 член ТЛРЗ. У 1832 член ПНК. У 1834–46 член Польск. клуба. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-4, арк. 105; РДВГА-8, арк. 198; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Rps BN, III. 6594, II. 7861, II. 7871; BPP, nr 565; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 291; Domeyko I. Pamiętniki. S. 21; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 145–146; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 62; Kaczkowski J. Konfiskaty; Polacy pochowani. S. 160.*

**Міладоўскі Міхал** (п. 6.5.1854) **–** н. у Гродна. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў у Францыю, з 30.3.1848 член ПДТ. Памёр у парыжскім шпіталі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-4, арк. 105; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; DS. T. 6. S. 385; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 292; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 116.*

**Міладоўскі Феафіл** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 198.*

**Мілачэўскі Юзаф –** з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Па матэрыялах МГСК маёнтак падлягаў канфіскацыі. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Мілашкевіч (Міляшкевіч) Юзаф** (каля 1812–7.7.1835) – з Мінскай губ. У паўстанні радавы 16 ул. палка. Эмігрыраваў, з 10.6.1834 да 8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 10.2.1835 член ПДТ. Памёр у Портсмуце. *ND. 1843. S. 141; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 292; Krawiec L. Lista członków. S. 59; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 86.*

**Мілашэўскі** (**Мілачэўскі) Міхал** (н. 1806) – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Слоніме, ппар. артылерыі польск. войскаў. У паўстанні 1.7.1831 ппар. коннай артылерыі. 13.7.1831 перайшоў з корпусам А. Гелгуда ў Прусію, інтэрніраваны. У сак. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, у 1834 пераехаў з Бержэрака ў Манпелье вывучаць медыцыну. З 12.6.1834 да 1.8.1837 член ПДТ, у 1837 член АПЭ, у 1846 член Польск. клуба ў Парыжы. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца ў Гродзенскую губ. *НГАБ-4, арк. 105; РДВГА-8, арк. 198; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 72, 253; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 150–151; Konarska B. Polskie drogi. S. 345; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 444.*

**Мілашэўскі Станіслаў** (н. 1794) – з Магілёўскай губ., н. у в. Бобча (фальварак Бабчын Магілёўскага пав. ?), сын Мельхеора і Багумілы, пар. польск. войскаў. У паўстанні пар., з 3.4.1831 кап., 1.7.1831 маёр, кіраваў 10 ул. палком, затым брыгадай, складзенай з 10 і 11 ул. палкоў. Належаў да корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 13.2.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 478, 571; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 151.*

**Мілер** – з Гродзенскай губ., аканом памешчыка Свечына. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 200.*

**Мілер Якуб** – з Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 200.*

**Мілеўскі Францішак** (1805–4.1.1845) – з мяст. Індура Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. У

паўстанні з 29.4.1831, 16.6.1831 ппар. 19 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 у складзе атрада А. Гелгуда перайшоў у Прусію, інтэрніраваны. 18.3.1832 прыбыў у Францыю. *РДВГА-2, арк. 618; ч. 8, арк. 200; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 292; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 122, 218; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 149.*

**Мілішкевіч Ян** – з Мінскага пав. Мінскай губ. Прымаў удзел у паўстанні. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 31.10.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-4, арк. 109–110 адв.; РДВГА-11, арк. 238; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Мінкевіч Фаусцін** – ксёндз з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 631.*

**Мінкелевіч Казімір** – з Гродзенскай губ. Займаўся агітацыяй. Адышоў на тэрыторыю КП, дзе далучыўся да паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 201.*

**Мінучыц Антоній** (каля 1807–1.7.1879) – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ., служыў у маёнтку Масты памешчыка Кіркілы. 12.4.1831 разам з К. Нямцэвічам адышоў з Гродна ў Белавежскую пушчу, дзейнічаў у складзе атрадаў К. Нямцэвіча, Я. Ронкі, Я. Жылінскага. Затым ппар. 11 ул. палка, разам з якім адышоў у Прусію. 25.2.1832 прыбыў у Францыю. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Астравок канфіскаваны. *НГАБ-4, арк. 106; РДВГА-8, арк. 201; AGAD, PFR, nr 15; [Kraskowski T.] Pamiętniki; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 293; Kaczkowski J. Konfiskaty; Spazier R.O. Historia powstania. T. 2. S. 210.*

**Мірановіч** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., музыкант Будслаўскага бернардзінскага кляштара. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў. Эмігрыраваў. *РДВГА-11, арк. 239.*

**Мірановіч Юзаф** (н. 12.8.1812) – з г. Мінска, сын Людвіка і Вікторыі Вырвіч, ппар. польск. войскаў. У паўстанні ппар. батарэі ветэранаў, затым пар. 12 ул. палка. У сак. 1832 эмігрыраваў у Францыю. З 1.7.1833 да 6.1.1836 член ПДТ, у 1837 далучыўся да АПЭ. У 1840 ажаніўся, меў 2 сыноў. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 155; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 209; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 449.*

**Мірановіч Ян** – шляхціц з Ігуменскага пав. Мінскай губ., сын Мікалая, б. служачы мінскай казённай палаты, з 1830 падафіцэр Велікалуц-

кага егерскага палка. Далучыўся да паўстанцаў, паранены ў бітве пад Грохавам, застаўся ў шпіталі ў Сямяцічах, затым адасланы ў Драгічын. Уступіў у склад польск. рэгулярных войскаў, пад час капітуляцыі знаходзіўся ў Модліне. Пасля падаўлення паўстання жыў у Варшаве, дзе ў чэрв. 1833 арыштаваны. У студз. 1834 адпраўлены ў Мінск. МГСК з-за недахопу дакладных звестак рашэння па яго справе не вынесла, пратакол пасяджэння ад 10.11.1834. *НГАБ-3, арк. 96; РДВГА-11, арк. 239; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 155; Dangel S. Rok 1831. S. 140*.

**Мірскі Геранім** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад чэрв. 1831 аддадзены на парукі І. Лапацінскага. *НГАБ-4, арк. 99; РДВГА-11, арк. 240; Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Мірскі Ігнацій** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Угляны. Меў дачыненне да паўстання. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад чэрв. 1831 аддадзены на парукі І. Лапацінскага. *НГАБ-4, арк. 106 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Мірскі Мікалай** (н. 1791) – з г. Паставы Дзісенскага пав. Мінскай губ. У паўстанні ппар. 19 палка лін. пяхоты, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. У сак. 1832 прыбыў у Францыю. У 1832 член ПНК. 10.4.1842 знаходзіўся ў Францыі. *AGAD, PFR, nr 7, 15; EPP, nr 1, k. 19; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 253, 280; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 155*.

**Мірскі Фердзінанд** (н. 1808) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ігнацiя. У паўстанні з сак. 1831, ппар. дзісенскага апалчэння, ездзіў на Віцебшчыну для збору звестак аб дыслакацыі расійск. войскаў. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. З 1.7.1831 ппар. 11 ул. палка, у складзе якога перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У снеж. 1832 прыбыў у Францыю, стаў членам ПНК, з 25.4.1832 член АПЭ, з 12.11.1832 член ТЛРЗ. У чэрв. 1854 знаходзіўся ў Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 106 адв.-107 адв.; РДВГА-11, арк. 240; AGAD, PFR, nr 7, 15; Rps BN, II. 7871, k. 171; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 93; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 155; Dangel S. Rok 1831. S. 140; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 117.*

**Місевіч Антоній** – з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 з-за малалецтва пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 242.*

**Місевіч Геранім** (п. 1832) – з Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. 4 палка лін. пяхоты. Прыбыў у Францыю, забіты ў паядынку ў Ваклюзе. *ND. 1843. S. 141; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 293.*

**Місевіч Ігнацій** – селянін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Збег ад памешчыка і далучыўся да паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 638.*

**Місевіч Мацвей** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у пях. палку І. Адахоўскага. *РДВГА-2, арк. 639*.

**Місленік Марк** – селянін памешчыка Насаржэўскага з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Д. Хлапоўскага. Узяты ў палон. *РДВГА-8, арк. 202.*

**Міхайлаў Сцяпан** – з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., лёкай памешчыка С. Горвата з маёнтка Галоўчыцы. У паўстанні знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 94; РДВГА-11, арк. 243.*

**Міхайлаў Фёдар** – селянін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 641.*

**Міхайлоўскі Аляксандр** – дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У час паўстання вырабляў пікі. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-2, арк. 646.*

**Міхайлоўскі Аляксандр** – з г. Пінска Мінскай губ., адстаўны ппрап. лейб-гвардыі Літ. корпуса. Падазраваўся ў намеры ўзняць паўстанне ў Мінску. Утрымліваўся ў Бабруйску. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 справа накіравана галоўнакамандуючаму 1-й арміі, рашэннем якога ад 11.2.1832 вызвалены ад адказнасці, пакінуты пад пільным наглядам паліцыі. *РДВГА-11, арк. 243; Dangel S. Rok 1831. S. 139.*

**Міхайлоўскі Антоній** – дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У час паўстання вырабляў пікі. *РДВГА-2, арк. 646.*

**Міхайлоўскі Раман** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Па сведчанню К. Жудры некалькі дзён знаходзіўся сярод паўстанцаў, пасля чаго вярнуўся на месца жыхарства. *Dangel S. Rok 1831. S. 156*.

**Міхалоўскі Адам** (н. 4.4.1802) – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні служыў у атрадзе Ю. Кашыца, у складзе якога далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, уваходзіў у атрад навагрудскай

конніцы, з 22.7.1831 пхар. 13 ул. палка, з якім накіраваўся ў Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрніраваны. 5.2.1832 прыбыў у Францыю. У жн. 1838 стаў членам АПЭ. У 1853 заставаўся ў Францыі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-4, арк. 111; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 58, арк. 1; РДВГА-8, арк. 202; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 385; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 96, 224; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 130; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Міхалоўскі Аляксандр** – радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 77.*

**Міхалоўскі Казімір** (1807–28.2.1861) – з в. Янава (с. н. Іванава) Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні з 1.3.1831. Адышоў у складзе атрада Г. Дэмбінскага ў Варшаву. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі. Арыштаваны і ўтрымліваўся ў турме г. Гданьска. 4.8.1832 прыбыў у Францыю. У 1840 член АПЭ. У крас. 1841 перабраўся ў Парыж, дзе і памёр. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 121; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 133.*

**Міхалоўскі Павел** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Казіміра. Прысягнуў паўстанцам, пастаўляў у апалчэнне кантаністаў, з'яўляўся членам урадавага к-та ў Лужках. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад ад 23.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.5.1832 вызвалены ад адказнасці з забаронай пакідаць маёнтак. *НГАБ-4, арк. 107 адв.–109; РДВГА-11, арк. 245; Dangel S. Rok 1831. S. 139.*

**Міхалоўскі Юльян** (18.6.1807–24.5.1878) – шляхціц з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Востраў, з 1823 на вайсковай службе. 31.5.1831 у Лідзе далучыўся да Д. Хлапоўскага, з 12.7.1831 кап. 25 палка лін. пяхоты. Эміграваў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 1835 наведваў лекцыі па палітэхніцы, у 1836–38 вучыўся ў школе дарог і мастоў, з 1839 працаваў інструктарам дарог і мастоў у дэп. Сена. З 1845 пачаў займацца журналістыкай, супрацоўнічаў з "Le Courier Francais". У 1849–51 знаходзіўся ў Турцыі, працаваў на будоўлі чыгункі, пасля вярнуўся ў Францыю і паступіў у корпус дарог і мастоў. У 1875 стаў інструктарам 1 кл. Жанаты, меў сына. *РДВГА-8, арк. 204; BPP, nr 565; Domeyko I. Powstanie 1830–1831. S. 7; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 287; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 84; Konarska B. Polskie drogi. S. 342*.

**Міхановіч Аляксандр** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. Дзейнічаў сярод пав. паўстанцаў. Эмігрыраваў. 20.2.1834 яго справу разглядала МГСК. *Dangel S. Rok 1831. S. 139*.

**Міхановіч Антоній** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. і Шавельскага пав. Віленскай губ. Меў стасункі з паўстанцамі. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 пакінуты вольным. *Dangel S. Rok 1831. S. 139–140*.

**Міхановіч Ігнацій** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. *Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Міхаэліс Жыгімонт Юзаф** (5.8.1810–1858) – з г. Гродна, сын Яна, вывучаў медыцыну ў Віленскім ун-це. З 18.4.1831 ппар. 13.7.1831 перайшоў у складзе атрада А. Гелгуда межы Прусіі. Утрымліваўся прускімі ўладамі ў гданьскай турме. 4.8.1832 прыбыў у Францыю. 5.4.1833 узнавіў заняткі па медыцыне, 23.9.1834 атрымаў ступень д-ра медыцыны. 25.8.1834 у Манпелье стаў членам ПДТ, у ліст. 1838 далучыўся да АПЭ. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 121; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 128; Krawiec L. Lista członków. S. 55; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 428.*

**Міхневіч** – дваранін з Гродзенскай губ., вучань Свіслацкай гімназіі. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 205.*

**Міхневіч Рудольф** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў афіцэрам пях. батальёна Ваньковіча. Дзейнічаў у бітве пад Вілейкай, ппар. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 100 адв.; РДВГА-11, арк. 245; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 134; Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Міхневіч (Міхновіч) Юзаф** – з Гродзенскай губ., афіцыяліст. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 112–112 адв.; РДВГА-8, арк. 204*.

**Міхнюкевіч Юзаф** – селянін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. *РДВГА-8, арк. 205.*

**Міцкевіч Францішак Бранісlaў** (1796–13.11.1862) – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Навагрудку, сын Мікалая і Барбары Маеўскай, брат Адама, меў калецтва (кульгавы і гарбаты). Служыў у атрадзе Ю. Кашыца, ппар. 13 ул. палка, адышоў у складзе атрада

Г. Дэмбінскага ў Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм, атрымаў сярэбраны крыж. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. З-за калецтва вызвалены, застаўся ў Польшчы. Пакінуў успаміны. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *Mickiewicz F. Pamiętnik; НГАБ-4, арк. 113; РДВГА-8, арк. 206; DS. T. 6. S. 386; Mickiewicz W. Pamiętniki; яго ж: Żywot A. Mickiewicza. T. 1; Kamiński A. Polskie związki; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 135; PSB. T. 20. S. 706–707.*

**Міцюта Юзаф Бернард –** шляхціц з Мінскай губ., сын Антонія, пісар Вілейскага земскага суда. Знаходзіўся сярод паўстанцаў у чыне ппар., дзейнічаў у бітве пад Вілейкай. 26.2.1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне. У 1832 член ПДТ. 7.3.1833 высланы ў Бержэрак. 1.9.1834 знаходзіўся ў Тулузе. У лют. 1838 далучыўся да АПЭ. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-11, арк. 246; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 135; Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Мойша** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 665.*

**Монка** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 680.*

**Мора (Мор) Пётр** – селянін памешчыка Грыгаровіча з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні ўзбр. *РДВГА-2, арк. 700; ч. 8, арк. 208.*

**Мразоўскі Віктар (Вінцэнт)** (каля 1806–1856) – шляхціц з Віцебскай губ., сын Паўла, афіцэр польск. войскаў. Удзельнічаў у паўстанні, адышоў у Галіцыю, дзе знаходзіўся пад чужым прозвішчам. Сасланы ў Сібір на пасяленне з пазбаўленнем правоў. 19.12.1835 прыбыў у Іркуцк. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 409.*

**Мрачкоўскі Адам** (1809–11.11.1835) – з Гродзенскага пав. У паўстанні ў 13 ул. палку. У вер. 1832 прыбыў у Францыю. Забіты ў паядынку. *ND. 1843. S. 142; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 299.*

**Мрачкоўскі Валяр'ян** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У паўстанні дзейнічаў у 4 ул. палку. Пасля капітуляцыі Варшавы вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ад 13.10.1832, зацверджаным Мікалаем І, адпраўлены ў Каўказскі асобны корпус з пазбаўленнем правоў. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 406.*

**Мрачкоўскі (Мракоўскі) Мікалай** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., сакратар лідскага маршалка. Падазраваўся ў садзейнічанні Д. Хлапоўскаму. Аддадзены пад ваен. суд. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 92, арк. 1; РДВГА-2, арк. 706.*

**Мрачкоўскі Ян** – ксёндз картэзіянскага кляштара ў Картуз-Бярозе Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Уваходзіў у склад атрада ксяндза Камінскага. Удзельнічаў у сутыкненнях. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 210; ф. 405, воп. 2, спр. 4281, арк. 1 адв*.

**Мсціхоўскі Адольф** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Гняздзілава, адстаўны пар., засядацель Барысаўскага земскага суда. Удзельнічаў у Барысаве ў захопе расійск. абоза з правіянтам, пар. З'явіўся з раскаяннем. У лют. 1832 рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-3, арк. 92; РДВГА-11, арк. 251; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 175; Dangel S. Rok 1831. S. 141.*

**Мукасей Сымон** – селянін памешчыка А. Орды з Пінскага пав. Мінскай губ. Добраахвотна далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-3, арк. 99; РДВГА-11, арк. 252.*

**Мукcontainerановіч Юзаф** – селянін памешчыка Агінскага з маёнтка Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Кастана. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 251*.

**Мураўскі –** мешчанін з г. Дзісна Мінскай губ. Дзейнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў. З'явіўся да ўлад. *Dangel S. Rok 1831. S. 141.*

**Мураўскі Антоній** – селянін з маёнтка Дамбровы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Служыў у 2 ул. і 4 пях. палках. Па рашэнню ГГСК ад 19.6.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-4, арк. 115 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 61; РДВГА-8, арк. 210.*

**Мурашка Антоній** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, займаўся агітацыяй у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-4, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 252; Dangel S. Rok 1831. S. 141*.

**Мурашка Ксаверый –** шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў. Узяты ў палон у Вілейцы. Ра-

шэннем МГСК ад 30.7.1831 справа накіравана ў ВГСК. *РДВГА-2, арк. 708; Dangel S. Rok 1831. S. 141.*

**Мурашка Ксаверый** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., музыкант Будслаўскага кляштара. Знаходзіўся ў паўст. апалчэнні, у кляштар не вярнуўся. *НГАБ-4, арк. 116; РДВГА-11, арк. 253.*

**Мурашка Томаш –** з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 708.*

**Мусялевіч** – юнкер. Дзейнічаў з паўстанцамі на тэрыторыі Мінскай губ., эмігрыраваў. Вынесена рашэнне аддаць пад ваен. суд. *РДВГА-11, арк. 253.*

**Муха Мікалай** (н. 15.5.1812) – з в. Лішкі Гродзенскай губ., сын Марціна і Марыі, служачы. У паўстанні радавы 4 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 210; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 260.*

**Мучынскі Вінцэнт** (п. 24.7.1838) **–** з Мінскай губ. (па звестках Я. Бартко ўскага **–** з Гродзенскай губ.), ппар. У паўстанні пар. 11 ул. палка. 4.3.1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Ваклюзе. Па рашэнню палявога аўдытарыята падпадаў пад ваен. суд. *НГАБ-3, арк. 96 адв. – 97; РДВГА-11, арк. 254; ND. 1843. S. 142; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 299.*

**Мыслоўскі –** ксёндз піярскага кляштара ў Лужках Дзісенскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод лужкоўскіх паўстанцаў. *Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 485.*

**Мышкоўскі (Нешкоўскі) Андрэй** (н. 7.7.1788) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Ашмянах, сын Антонія і Марцэліі Тышкевіч. У паўстанні радавы 7 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію, утрымліваўся да канца 1833 у Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, 13.12.1835 звольнены са службы. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 261, 264.*

**Мядзведзеў Дамінік** (п. 22.11.1831) – селянін памешчыка Шырына з Дзісенскага пав. Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні ўтрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці, дзе і памёр. *Dangel S. Rok 1831. S. 140.*

**Мялешка Васіль –** селянін памешчыка Я. Дамброўскага з маёнтка Ружмонты Дзісенскага пав. Мінскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, але пасля вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 16.3.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 98 адв.; РДВГА-11, арк. 233; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 125*.

**Мялешка Данііл** (н. каля 1792) – селянін памешчыка Я. Дамброўскага з маёнтка Ружмонты Дзісенскага пав. Мінскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, але вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 16.3.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 98 адв.; РДВГА-11, арк. 233; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 125*.

**Мялкоўскі** – з Гродзенскай губ., аканом. Далучыўся да паўстанцаў у Брэсцкім пав. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 212*.

**Мянчынскі** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка Барбарава памешчыка А. Горвата. Выконваў даручэнні Ф. Кеневіча пад час знаходжання паўстанцаў у Барбарава, але застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-3, арк. 93–93 адв.; РДВГА-11, арк. 234*.

**Мянчынскі Томаш (Тадэвуш)** (21.12.1811–1.2.1843) – з Магілёўскай губ., н. у в. Трушкі (па звестках Б. Канарскай – у Оўручы), студэнт ф-та права Віленскага ун-та. 7.4.1831 далучыўся да ашмянскіх паўстанцаў, затым ппар. 3 палка пешых стральцоў, паранены пад Шаўлямі. У ліп. 1832 прыбыў у Францыю. 16.4.1835 перабраўся ў Тулузу, дзе вывучаў права. Са студз. 1840 член АПЭ. *РДВГА-2, арк. 599; ч. 11, арк. 234; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 285; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 121, 128; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 124; Konarska B. Polskie drogi. S. 340*.

**Мянькоўскі Юсцін** – селянін памешчыка Галко з в. Мінчакі Вілейскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе С. Радзішэўскага прымусова. Прымаў удзел у сутыкненнях. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 18.4.1832 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-4, арк. 97 адв.; РДВГА-11, арк. 235; Dangel S. Rok 1831. S. 151.*

**Мярло Ян** (н. каля 1802) – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Вінцэнта. Служыў у паўстанцаў. У маі 1831 выехаў на Валынь, адышоў у Аўстрыю, інтэрніраваны. Па рашэнню МГСК аднесены да 2 разр. зл. і адпраўлены на службу салдатам, звольнены 29.3.1843. *НГАБ, ф. 295, воп. 1,*

*спр. 502; ф. 319, воп. 1, спр. 170; ф. 561, воп. 2, спр. 1; РДВГА-11, арк. 235; Dangel S. Rok 1831. S. 139; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 377.*

**Мясаед (Менсаяд) Казімір** (п. 7.1.1857) – з в. Пеліканы Браслаўскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы 6 палка конных стральцоў. Прыбыў у Францыю, быў легіянерам. Памёр у Арлеане. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 290.*

## Н

**Навасельскі Люцыян** – дваранін з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Пакінуў ун-т, эмігрыраваў. З чэрв. 1838 да 21.7.1849 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, 1.5.1841 жыў у Лондане. *РДВГА-11, арк. 263; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 88.*

**Навасельскі Сільвестр** – з Мінскай губ., сын Антонія, адстаўны губ. сакратар, служыў у слуцкай гарадской паліцыі квартальным наглядальнікам. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне, застаўся на месцы жыхарства. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 3.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 122; РДВГА-11, арк. 264; Dangel S. Rok 1831. S. 141, 118.*

**Навасельскі Феліцыян** (н. 3.5.1810) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Вішава, сын Марціна і Рахелі. Удзельнічаў у паўстанні. Эмігрыраваў, працаваў у паперні. З 17.5.1846 член ПДТ. Ажаніўся з француженкай. *Krawiec L. Lista członków. S. 98.*

**Навіцкі Аляксандр** – з Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 218.*

**Навіцкі Антоній** – шляхціц з Лепельскага пав. Віцебскай губ., сын Пятра. Знаходзіўся ў атрадзе І. Адахоўскага ў чыне афіцэра. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 15.2.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 121 адв.; РДВГА-11, арк. 261; Dangel S. Rok 1831. S. 141.*

**Навіцкі Антоній** – з Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 218.*

**Навіцкі Васіль** (18.4.1792) – з в. Валавец (Валувец ?) Гродзенскай губ., радавы вайсковай службы. У паўстанні 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, 27.7.1835 запісаўся на службу ў Іспанію. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 219; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 267.*

**Навіцкі (Навінскі) Міхайла** (п. 12.12.1842) – дваранін з Гродзенскай губ., аканом маёнтка Бяневічы. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Эмігрыраваў у Францыю, член ПНК. З 10.6.1834 да 12.1842 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. Рашэннем ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 123 адв.; РДВГА-8, арк. 219; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; EPP, nr 1, k. 19; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 88.*

**Навіцкі Станіслаў** – з Гродзенскай губ., адстаўны унтэр-афіцэр лін. палка. Знаходзіўся сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы, удзельнічаў у забойстве расійск. афіцэра. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 220*.

**Навіцкі Фелікс** (1809–24.10.1842) – з Гродзенскай губ., з 20.2.1827 на службе ў польск. арміі. У паўстанні з 9.1.1831 ппар. 8 ул. палка, затым уваходзіў у склад атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. 8.8.1831 удзельнічаў у Варшаве ў Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 17.8.1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Буржэ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 124 адв.; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; DS. T. 6. S. 386; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 209; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 123, 329*.

**Навіцкі Юзаф** (н. каля 1816) – шляхціц з в. Невяры Вілейскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у атрадзе Адахоўскага. У маі 1831 вярнуўся на месца жыхарства. Арыштаваны і сасланы ў Арэнбург. *Dangel S. Rok 1831. S. 131; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 421.*

**Навіцкі Ян (?)** (1807–23.6.1884?) – з Мінскай губ., ппар., кіраўнік вілейскай інваліднай каманды. Прысягнуў паўстанцам, падаў І. Ада-

хоўскаму рапарт аб стане інваліднай каманды. Утрымліваўся пад арыштам каля 1 г. Рашэннем ваен. суда забаронены ўдзел у дваранскіх выбарах, пакінуты пад наглядам паліцыі. Пахаваны ў Мінску на Кальварыйскіх могілках (?). *НГАБ-4, арк. 123 адв.; РДВГА-11, арк. 263; Czerniawska T., Jaroszewicz A. Rzymsko-Katolicki Cmentarz. S. 124.*

**Назароўскі Вінцэнт –** селянін памешчыцы Сулістроўскай з Мазырскага пав. Мінскай губ. Кантаніст у атрадзе Ф. Кеневіча. Вярнуўся на месца жыхарства. Рашэннем МГСК ад 31.12.1831 вызвалены ад суда. *НГАБ-4, арк. 120 адв.; РДВГА-11, арк. 255.*

**Назароўскі Мацвей** – селянін памешчыцы Сулістроўскай з Мазырскага пав. Мінскай губ. Кантаніст у атрадзе Ф. Кеневіча. Вярнуўся на месца жыхарства. Рашэннем МГСК ад 31.12.1831 вызвалены ад суда. *НГАБ-4, арк. 120 адв.; РДВГА-11, арк. 255*.

**Намніцкі Юзаф –** з Браслаўскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, з якімі адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 440*.

**Наркевіч Міхал** – з Мінскай губ. Маёнтак пасля паўстання канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157*.

**Нарэйка Пётр** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *НГАБ-4, арк. 125 адв.; Bieliński K. Rok 1831. S. 125*.

**Невяровіч Алаізій Легенза** (1802–1888) – скончыў Мінскую гімназію. Пад час вучобы заснаваў сярод вучняў тайнае т-ва. У паўстанні ппар. 1 кракаўскага коннага палка, дайшоў да Варшавы. Эмігрыраваў у Прусію. У 1873 вярнуўся ў Кракаў. Пакінуў успаміны пра А. Міцкевіча і падзеі 1831. *Niewiarowicz A.L. Ze wspomń. S. 448–480; Rps BN, II. 7861; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 201*.

**Невяровіч Аляксандр** – шляхціц з маёнтка Выгаленіты Свянцянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *НГАБ-4, арк. 118; Bieliński K. Rok 1831. S. 125*.

**Невяровіч Міхайла** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 118 адв.; РДВГА-8, арк. 212.*

**Невяровіч Міхал** (27.2.1808–6.4.1885) – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у Свянцянах. Удзельнічаў у паўстанні.

Эмігрыраваў у Францыю, у 1840 вывучаў фармацэўтыку ў Пуацье, затым у Манпелье, 2.6.1846 атрымаў дыплом, працаваў у аптэцы ў Ле Пюі. З 29.11.1834 да 14.9.1837 член ПДТ. *НГАБ-4, арк. 118; Bieliński K. Rok 1831. S. 125; Konarska B. Polskie drogi. S. 352; Krawiec L. Lista członków. S. 57.*

**Невяровіч Уладзіслаў** (н. 1814) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Яўхіма, скончыў Мінскую гімназію, студэнт Віленскага ун-та. У час паўстання захоўваў супрацьурадавыя паперы. Быў прыгавораны да аддачы ў салдаты, аднак у Вілейцы збег. Эмігрыраваў. *НГАБ-4, арк. 118; РДВГА-11, арк. 255; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 301.*

**Невяровіч Якуб** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Францішка. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 122; РДВГА-11, арк. 256; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Незабітоўскі (Незабытоўскі) Геранім Томаш Ежы** (7.3.1807–1.3.1880) – памешчык з Навагрудскага і Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у маёнтку Горка (Слонімскі пав.), сын Стэфана і Крысціны Бузгак, брат Калікста. У паўстанні член тайнага паўст. гродзенскага к-та, затым ппар. 1 ул. палка. У маі 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладаў у Авіньёне, Люнэлі, Ле Пюі. 1.4.1833 выехаў у Дзіжон для заняткаў правам. З чэрв. 1838 да 9.7.1839 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1842 вучыўся ў Горнай школе ў Парыжы. З 1852 у Бельгіі. Ажаніўся з францужанкай, меў сына Оскара Гераніма (4.4.1850–1925). З 1859 жыў у Парыжы, дзе і памёр, пахаваны на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-4, арк. 118 адв.; РДВГА-8, арк. 213; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 307; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 189, 200, 308; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 202; яго ж: Polacy w Legii. S. 265; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 353; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 87; Polacy pochowani. S. 115.*

**Незабітоўскі (Незабытоўскі) Калікст** (н. 1808) – памешчык з Навагрудскага і Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у маёнтку Горка Слонімскага пав., сын Стэфана і Крысціны Бузгак, брат Гераніма. Вывучаў матэматыку ў Віленскім ун-це. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага. 21.9.1833 прыбыў у Фран-

цыю, пачаткова знаходзіўся ў Ам'ене. У 1837–41 вучыўся ў аграрнай школе ў Грыньёне. У лют. 1842 прыбыў у Парыж. У 1848 вярнуўся па амністыі на радзіму. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., частка маёнтка канфіскавана. *НГАБ-4, арк. 118 адв.; РДВГА-8, арк. 214; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 200, 308; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 202; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 353*.

**Незабітоўскі (Незабытоўскі) Стэфан** (15.12.1783–15.6.1849) – памешчык з Навагрудскага і Слонімскага пав. Гродзенскай губ., сын Яна і Барбары Завішы, афіцэр польск. войскаў. Удзельнічаў у кампаніі 1812. Арганізаваў у Слонімскім пав. асобны атрад, які пазней далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, кап. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 14.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У 1833 прыбыў у Францыю. У 1834 працаваў комівояжорам, перабраўся ў Парыж. У 1838 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. 22.5.1841 падпісаў акт аб стварэнні Бацін'ёльскай школы. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 1 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-4, арк. 119; РДВГА-8, арк. 214; AGAD, AOU, nr 189, k. 1–4; WCPL, nr 724, k. 64; DS. T. 6. S. 385; Księga pamiątkowa. S. 146; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 308; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 202; Gadon L. Z życia Polaków. S. 122; Kaczkowski J. Konfiskaty; Polacy pochowani. S. 116.*

**Незабітоўскі Юзаф Цыпрыян** (п. 10.7.1837) – канонік з Мінскай губ. У паўстанні капелан. 3.6.1833 прыбыў у Францыю. Скончыў жыццё самагубствам у Нанце. *AGAD, KRSW, nr 7170, k. 217; ND. 1843. S. 139; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 308; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 46.*

**Некілкоўскі Міхал** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 216.*

**Некраш Міхайла** – селянін з в. Плёхава Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся ў Навагрудскім пав. да атрада Г. Дэмбінскага. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 215.*

**Некрашэвіч Ян** – памешчык з Мазырскага пав. Мінскай губ., сын Яна. Знаходзіўся сярод оўруцкіх паўстанцаў. Утрымліваўся пад арыштам у Ма-

зыры, затым у Бабруйскай крэпасці. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 16.3.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-4, арк. 119 адв.; РДВГА-11, арк. 257; AGAD, MMK, nr 8; Dangel S. Rok 1831. S. 141.*

**Нелюбовіч Томаш** (1813–28.5.1854) – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Масталовічы, вучань Мінскай гімназіі. У паўстанні радавы навагрудскай конніцы, ппар. 13 ул. палка, адышоў з атрадам Г. Дэмбінскага ў Варшаву. 5.10.1831 у складзе атрада М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. 24.6.1832 з Гданьска на караблі “Лакс” выехаў у Францыю, прыбыў 22.7.1832. Належаў да закладаў у Буржэ, Шатору. З 3.9.1833 член ПДТ. Памёр у парыжскім шпіталі. Па рашэнню ГГСК ад 26.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскавана частка маёнтка Бушчызна. *НГАБ-4, арк. 119 адв.; РДВГА-8, арк. 215; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 305; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 193; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 148, 167; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 48; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 468.*

**Неманові Людвік –** са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, з якімі адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 440.*

**Несцяровіч Васіль** – селянін з в. Дарава Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дастаўлены ў атрад Г. Дэмбінскага памешчыкам А. Бронскім, з якім апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 217.*

**Несялоўскі Францішак Ксаверый** (18.12.1771–15.9.1845) – з Навагрудскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Ляхавічы, сын Юзафа і Кацярыны Масальскай, у 1785–88 вывучаў у Віленскім ун-це права і літ-ру, удзельнічаў у паўстанні 1794 і вайне 1812 на баку Напалеона, пасля чаго эмігрыраваў. У 1814 вярнуўся на Беларусь, прадаў радавыя маёнткі і пераехаў у Польшчу. У час паўстання намеснік губернатара Варшавы, удзельнічаў у абароне горада. Узначальваў утвораны 15.8.1831 Літ. к-т. 30.9.1831 вярнуўся ў Варшаву, пасля паражэння паўстання аднавіў прысягу расійск. ураду. Сасланы ў Волагду, вярнуўся ў 1837. Памёр у сваім маёнтку Юзэфава. *AGAD, KRW, nr 477, k. 110; Rps BUW, PJK, nr 566, k. 19–21; DS. T. 1. S. 3, 9, 244, 403, 407; T. 2. S. 274; T. 3. S. 318; T. 4. S. 155; T. 6. S. 224, 295, 297, 578, 610; Księga pamiątkowa. S. 47; Lelewel J. Pamiętnik. S. 159; Niewiarowicz A.L. Ze wspomń. S. 448–480; Puzynina G. W Wilnie; Źródła do dziejów. T. 1, 2, 4; ЭГБ. Т. 5. С. 322; Askenazy S. Napo-*

*leon. T. 1, 3; Barzykowski S. Historia. T. 1. S. 466; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 197–198; Handelsman M. Adam Czartoryski. T. 1; Iwaszkiewicz J. Wykaz dóbr. S. 30; Kaczkowski J. Konfiskaty. S. 31, 33; PSB. T. 23. S. 57–59; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 417.*

**Нецыеўскі (Нечаеўскі) Антоній** (п. 22.11.1858) – шляхціц з мяст. Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Сцяпана. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК аднесены да 3 разр. зл. (па звестках В. Слівоўскай – сасланы ў Сібір, служыў у расійск. войсках у Іркуцку). *НГАБ-4, арк. 122 адв.; РДВГА-11, арк. 258; Dangel S. Rok 1831. S. 118; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 414.*

**Нівінскі Вільгельм** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні канфіскавана 10 дзесяцін зямлі. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Ніжоўскі Антоній** (н. 11.5.1795) – з в. Чулковічы Гродзенскай губ., сын Міхала і Крысціны, пар. польск. войскаў. У паўстанні пар., з 6.2.1831 кап. 2.10.1831 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 205.*

**Нікіфараў Мікалай** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пры Міхалках, дзе трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 аддадзены ў салдаты. *НГАБ-4, арк. 120 адв.; РДВГА-11, арк. 259.*

**Новацкі Вінцэнт** – дваранін з Гродзенскай губ. Служыў унтэр-афіцэрам у фарміраванні А. Гелгуда. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 217.*

**Норніцкі Ян** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, выконваў пасаду паўст. каменданта Празарокскага ключа. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 аднесены да 3 разр. зл., паўгода ўтрымліваўся ў астрозе ў Дынабургу. *НГАБ-4, арк. 121; РДВГА-11, арк. 265; Dangel S. Rok 1831. S. 122–123.*

**Нэйман Васіль** (н. 1.7.1780) – з в. Фецінічы Мінскай губ., сын Нестара і Таццяны Наумавай, радавы вайсковай службы. У паўстанні радавы 4 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, з 1835 у

Іспаніі. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-11, арк. 256; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 263; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Нэттэ Фрэдэрык** – шляхціц з г. Брэста Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Высланы ў Арэнбургскі корпус. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 413*.

**Нядзвецкі Аляксандр** – з Гродзенскай губ., студэнт. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эміграраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 118 адв.; РДВГА-8, арк. 213.*

**Нядзвецкі Лаўрэнцій** – селянін памешчыка Шымкевіча з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Мацвея. У паўстанні радавы. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 19.1.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-4, арк. 122 адв.; РДВГА-11, арк. 256; Dangel S. Rok 1831. S. 141*.

**Нямкоўскі Міхал** (н. 27.9.1805) – з мяст. Лапеніца Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 2 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, з ліст. 1837 жыў у Туры, затым у Парыжы. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 264*.

**Нямцовіч Давыд** – купец 3-й гільдыі з г. Пінска Мінскай губ. У час паўстання прадаў 11 пудоў свінцу і 4 пуды шроту. Рашэннем МГСК ад 19.10.1832 вызвалены ад суда, пакінуты пад паліцэйскім наглядам. *НГАБ-4, арк. 121; РДВГА-11, арк. 258.*

**Нямцэвіч Караль Урсын** (1797(1779) – 9.2.1867) – дваранін з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., сын Яна і Тэклі Выганоўскай, пляменнік Ю. Нямцэвіча. Скончыў школу ў Свіслачы, вучыўся ў Віленскім ун-це на аддзяленні мастацтва, з 1817 вывучаў літ-ру і мастацтва ў Варшаўскім ун-це, у 1828 маршалак Брэсцкага пав. Пасля пачатку паўстання інтэрніраваны ў Гродна, дзе стаў членам тайнага паўст. к-та. У крас. 1831 перабраўся ў Белавежскую пушчу, займаўся цывільнымі пытаннямі. Аўтар адозвы "Мы палякі". Пасля падзелу агульных сіл, кіраваў асобным атрадам. 8.8.1831 абраны на сейм як прадстаўнік Гродзеншчыны. Уваходзіў у склад утворанага 15.8.1831 Літ. к-та. 14.9.1831 атрымаў залаты крыж. Пасля паражэння паўстання адышоў у Гамбург, затым у

Дрэздэн, адкуль, дзякуючы дапамозе Ю. Нямцэвіча, у Францыю. 1.8.1834 прыбыў у Парыж, быў звязаны з А. Чартарыйскім. Член ТЛРЗ, у 1835 член Гісторыка-літаратурнага т-ва, з 1844 гістарычнага аддзела т-ва. У 1863 напісаў успаміны аб падзеях 1831. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 1 разр. зл., частка маёнтка канфіскавана. *Niemcewicz K.U. Pamiętnik; НГАБ-4, арк. 122 адв.; ф. 1297, воп. 1, спр. 5526; ф. 1430, воп. 1, спр. 2923; РДВГА-8, арк. 216; Rps BN, II. 7861; BPP, nr 565; DS. T. 6. S. 385; Księga pamiątkowa. S. 146; Lelewel J. Pamiętnik. S. 159; Wielobłocki J. Krótki rys. S. 9; ЭГБ. Т. 5. С. 341; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 305; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 50; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 193; Gadon L. Z życia Polaków. S. 122; Gerber R. Studenci. S. 393; Kaczkowski J. Konfiskaty; Polacy pochowani. S. 70–71; PSB. T. 22.*

**Нямцэвіч Юльян Урсын** (16.2.1758–21.5.1841) – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Скокі, сын Марцэлія і Ядвігі Сухадольскай, пісьменнік, гісторык. У 1794 ад'ютант і сакратар Т. Касцюшкі. У паўстанні член адміністрацыйнай рады Часовага ўрада, утворанага 4.12.1830, выконваў абавязкі сенатара-кашталяна. Напрыканцы паўстання пасланы з дыпламатычнай місіяй у Англію. Эмігрыраваў у Францыю, затым з'яўляўся прадстаўніком А. Чартарыйскага ў Англіі. Адзін з заснавальнікаў Гісторыка-літаратурнага т-ва. Пакінуў успаміны. Памёр у дэп. Сена. *Niemcewicz J.U. Pamiętniki; BPP, nr 492, 565; Lelewel J. Nieznane listy. S. 47; ND. 1843. S. 139; ЭГБ. Т. 5. С. 341; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 305; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 208; Gadon L. Z życia Polaków. S. 122; Katalog portretów. T. 6. S. 434; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 100; Katalog wystawy. S. 45; Rederowa D. Polski emigracyjny. S. 105–121; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; яго ж: Les Polonais; Żurawski vel Grajewski R. Wielka Brytania.*



**Юльян Урсын Нямцэвіч.**
*Літаграфія*

# О

**Окунь Францішак –** з мяст. Воўпа Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў узбр. *РДВГА-8, арк. 223.*

**Орда Міхал –** з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Орда Напалеон** (11.2.1807–26.4.1883) – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Варацэвічы, сын Міхала, б. кобрынскага маршалка, і Юзэфы Бутрымовіч, мастак, кампазітар, піяніст. Скончыў Свіслацкую гімназію, з 1823 вучыўся на фіз.-матэм. ф-це Віленскага ун-та. Уваходзіў у склад т-ва "Заране". Арыштаваны, 15 мес. знаходзіўся ў турэмным зняволенні, затым адпраўлены салдатам у Літ. корпус. У паўстанні з 13.4.1831 ппар. 4 палка конных стральцоў. 25.5.1831 атрымаў залаты крыж. 16.9.1831 адышоў з атрадам Д. Рамарына ў Галіцыю, інтэрніраваны. У жн. 1833 прыбыў у Францыю, вучыўся жывапісу ў П. Жэрара, музыцы ў Ф. Шапэна. З крас. 1834 член Фундатарскай камісіі польск. эміграцыі. Падарожнічаў па Англіі, Шатландыі, Галандыі, Партугаліі, рабіў пейзажныя замалёўкі. У 1838 выдаў у Парыжы "Альбом твораў польскіх кампазітараў". З 1839 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. У 1847 дырэктар Італьянскай оперы ў Парыжы. У 1843 ажаніўся з француженкай. У 1856 атрымаў дазвол вярнуцца з эміграцыі на радзіму. Вярнуўся з Парыжа ў Варацэвічы, жыў у сваёй сястры памешчыцы Гартэнзіі Скірмунт у Пінску (жонка засталася ў Парыжы). Нейкі час працаваў хатнім настаўнікам музыкі ў ген. А. Ржавускага на Валыні. Сын Вітольд у 1870 вярнуўся на ра-



**Напалеон Орда.**
*Літаграфія М. Фаянса*

дзіму і ажаніўся з полькай. У 1873–83 выйшаў “Альбом гістарычных відарысаў Польшы” з 260 працамі Н. Орды. Памёр у Варшаве. Па рашэнню ГГСК ад 26.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 3492, арк. 5; ф. 561, воп. 1, спр. 4, арк. 136 адв.; РДВГА-8, арк. 226; BPP, nr 565; Jełowicki A. Moje wspomnienia. S. 312; Księga pamiątkowa. S. 115; Беларусь у малюнках Напалеона Орды; ЭГБ. Т. 5. С. 352–353; Potrykowski J. Tułactwo Polaków; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 318; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 234; Gadon L. Z życia Polaków. S. 122; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 313; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Świadomość narodowa emigrantów. S. 173; яе ж.: Polskie drogi. S. 357; PSB. T. 24. S. 161–163.*

# П

**Пабаеўскі (Павалеўскі) –** пробашч Ашмянскага пав. Віленскай губ. Вырабляў для паўстанцаў пікі, сёдлы, захоўваў 3 стрэльбы. Справа накіравана ВГСК. *НГАБ-4, арк. 164 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 162.*

**Павалеўскі Францішак –** з Мінскай губ. Маёнтак пасля паўстання канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Пагонка (Пачонка) Парфён** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., валасны галава казённага маёнтка Залессе. Сабраў для паўстанцаў 50 кантаністаў, 150 руб. серабром. Па рашэнню МГСК ад 16.3.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 171; РДВГА-11, арк. 309.*

**Пагонскі Казімір (Антоній)** – удзельнічаў у паўстанні ў Маладзечне. *Dangel S. Rok 1831. S. 127.*

**Пагоскі Антоній** – шляхціц з Лепельскага пав. Віцебскай губ., адвакат. У паўстанні далучыўся да вілейскіх паўстанцаў, служыў ад’ютантам І. Адахоўскага, удзельнічаў у захопе паштовай станцыі ў Ба-

чэйкава. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 атрымаў дараванне, рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі аддадзены пад ваен. суд. *НГАБ-4, арк. 157 адв. – 158; РДВГА-11, арк. 300; Dangel S. Rok 1831. S. 145*.

**Падбіпента Рамуальд** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Пліса, сын Антонія, б. маршалак. У паўстанні старшыня ўрадавага к-та ў Лужках, распаўсюджваў адозвы, загадваў дастаўляць кантаністаў. Па рашэнню МГСК ад 23.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.5.1832 пакінуты пад наглядам паліцыі з забаронай пакідаць маёнтак. *НГАБ-4, арк. 155 адв. – 156; РДВГА-11, арк. 300; Dangel S. Rok 1831. S. 145.*

**Падбярэскі Фартунат** (22.2.1783–14.1.1872) – з Браслаўскага пав. Віленскай губ., сын Якуба і Тэклі, скончыў школу ў Трашкунах, губ. суддзя, удзельнічаў у кампаніі 1812. У паўстанні пар. 26 палка лін. пяхоты, з атрадам Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Безансоне. У чэрв. 1834 высланы ў Англію, з 10.6.1834 да 8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У ліп. 1834 вярнуўся ў Парыж, з 17.8.1834 член ПДТ. *НГАБ-4, арк. 165; DS. T. 6. S. 440; Księga pamiątkowa. S. 137; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 309; Krawiec L. Lista członków. S. 54; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 90.*

**Падгаскі Руфін** – з Гродзенскай губ., адстаўны кап. 36 егерскага палка. Дзейнічаў сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы. Памёр да вынясення рашэння. *РДВГА-8, арк. 243.*

**Падгурскі Антон** – селянін гр. Л. Паца з Гродзенскай губ. У паўстанні знаходзіўся пры Т. Тышкевічу поварам. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 242*.

**Падліпка (Падліпны) Іван (Ян)** (н. 6.7.1805) – селянін з в. Мірацічы Слонімскага (Навагрудскага ?) пав. Гродзенскай губ., сын Антонія і Юсціны Шашкевіч. У паўстанні радавы 12 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, жыў у Туры. У 1837 член АПЭ. *РДВГА-8, арк. 243; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 288.*

**Падляк Сымон** – селянін памешчыка І. Шырына з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод дзісенскіх паўстанцаў. Адышоў у Прусію, пазней вярнуўся на месца жыхарства. Рашэнне не прынята. *РДВГА-11, арк. 302*.

**Пазняк Антоній** – селянін з мяст. Картуз-Бяроза Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 244*.

**Пазняк Міхал –** памешчык з Сенненскага пав. Магілёўскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў на тэрыторыі Мінскай губ. *НГАБ-4, арк. 152 адв.; ф. 1297, воп. 1, спр. 5240, арк. 398 адв. Dangel S. Rok 1831. S. 146*.

**Пазняк Напалеон** (н. 11.1.1806) – з Магілёўскай губ., сын Міхала і Розы Скарабагатай. У паўстанні з мая 1831, пар. Літ.-Вал. легіёна, са жн. 1831 кап., быў паранены. Эмігрыраваў у Англію, з 10.6.1834 да 8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 15.8.1834 да 26.5.1835 член ПДТ. У лют. 1835 перабраўся ў Францыю. У 1837 член АПЭ. Належаў да фундатараў дзённіка "Trzeciego Maja". З крас. 1851 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 333; Gadon L. Z życia Polaków. S. 123; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 91; Krawiec L. Lista członków. S. 55; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 545*.

**Палікоўскі –** з Гродзенскай губ., пісар Пружанскага ніжняга земскага суда. Знаходзіўся сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.*

**Палкоўскі Аляксандр** (4.7.1804 (1.7.1805) – 17.11.1839) **–** з Гродзенскай губ., н. у в. Дварэц (Слонімскі пав.), скончыў школу ў Свіслачы, ураднік Пружанскага земскага суда. Дзейнічаў сярод слонімскіх паўстанцаў, 4.10.1831 ппар. 3 палка пешых стральцоў. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 26.1.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. У 1836–39 вывучаў медыцыну ў Манпелье. З 1837 член АПЭ, з 3.2.1839 член ПДТ. Памёр у Манпелье. *Rps BUW, nr 2327; ND. 1843. S. 144; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 342; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 64, 237; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 317; Konarska B. Polskie drogi. S. 371; Krawiec L. Lista członków. S. 85; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 538.*

**Палкоўскі Людвік** – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні член часовага ўрадавага к-та, 20.4.1831 увайшоў у склад часовага ўрада Свянцянскага пав. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 атрымаў дазвол вярнуцца ў свой маёнтак. *Bieliński K. Rok 1831. S. 12–16, 84–85*.

**Палкоўскі Нікадзім –** са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, з якімі адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Вілейскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 440*.

**Палкоўскі Ян** (24.11.1787–23.4.1865) – з в. Градзішкі Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні ппар. 10 ул. палка, 15.7.1831 у складзе корпуса Ф. Роланда перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне, член ПНК. *AGAD, PFR, nr 7; EPP, nr 1, k. 19; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 342; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 317; Bieliński K. Rok 1831. S. 126.*

**Палоньскі Караль –** з Мінскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. 10.8.1831 удзельнічаў у Варшаве ў Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 444*.

**Палубінскі Ігнацій** – памешчык са Слонімскага і Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., уладальнік маёнткаў Грыўда і Курчаўцы, брат Францішка, прэзідэнт Слонімскага земскага пав. суда. Паплечнік Ц. Пуслоўскага ў арганізацыі паўст. атрада, далучыўся да яго ў ліп. 1831. Пасля разгрому атрада пад Невелем адышоў у Валынскую губ. Арыштаваны, сядзеў у гродзенскім кляштары кармелітаў. Па рашэнню ГГСК ад 2.7.1832 аднесены да 2 разр. зл. і адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. Маёнткі, якімі валодаў сумесна з братам Францішкам, канфіскаваны ў 1832. *НГАБ-4, арк. 166; НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 73; РДВГА-8, арк. 244; Швед В.В. Падзеі і постаці. С. 139; Dangel S. Rok 1831. S. 145; Kaczkowski J. Konfiskaty; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 473.*

**Палубінскі Францішак** – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., у 1804 гарадскі суддзя, уладальнік маёнткаў Грыўда і Курчаўцы, брат Ігнація. У паўстанні дзейнічаў у складзе атрадаў С. Незабытоўскага і А. Бронскага. Пры адступленні атрада Г. Дэмбінскага далучыўся да яго, ппар. 13 ул. палка, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, прасіў літасці. Па рашэнню сената ад 22.7.1833 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, што выканаў 26.7.1833.

У кастр. 1831 звярнуўся з просьбай аб вяртанні канфіскаванай маёмасці. Атрымаў маёнткі з умовай выплаты ў казну працэнтаў з долі брата Ігнацыя. *НГАБ-4, арк. 165 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 58, арк. 1; РДВГА-8, арк. 245; AGAD, WCPL, nr 724, k. 66; DS. T. 6. S. 385; Швед В.В. Падзеі і постаці. С. 139–140; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 318*.

**Палубінскі Яўстафій** – з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 з-за малалецтва пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 146 адв.; РДВГА-11, арк. 303.*

**Палямон (Палімон) Антон** – селянін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў узбр. сярод паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-4, арк. 143 адв.; РДВГА-8, арк. 232*.

**Палянскі (Паланьскі) Віктар** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Івана, канцылярыст паліцыі ў Радашковічах. Дзейнічаў сярод радашковіцкіх паўстанцаў у чыне афіцэра, удзельнічаў у бітве пад Вілейкай. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню палявога суда, зацверджанага галоўнакамандуючым 1-й арміі, вызвалены ад адказнасці ў маі 1832, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-4, арк. 151; РДВГА-11, арк. 303; Dangel S. Rok 1831. S. 145.*

**Палянскі Міхал** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Юсціна, пісьмавод радашковіцкай паліцыі. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў у званні ппар. Удзельнічаў у нападзенні на паштовыя станцыі і радашковіцкага паліцмайстара Галіеўскага, у якога адабраў кнігу з данясеннямі аб вілейскіх паўстанцах, падрыхтаваную для кіраўніцтва. Быў у бітвах пад Вілейкай і Вільняй. Адышоў у Шавельскі пав., 21.8.1831 прыбыў у Мінск і з'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-4, арк. 158 адв. – 159; РДВГА-11, арк. 303–304; ф. 405, воп. 2, спр. 4109*.

**Палячанскі Станіслаў** – дваранін з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., служыў у маёнтку Нароўля памешчыка А. Горвата. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Нароўлі. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 161; РДВГА-11, арк. 303.*

**Пангоўскі Аляксандр** (11.3.1810 – пасля 1858) – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Аполіна (?), сын Юзафа, унтэр-афіцэр Рэвельскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. (па звест-

ках Б. Канарскай – вывучаў 2 г. медыцыну ў Віленскім ун-це). Выконваў абавязкі шэфа штаба апалчэння ў Лужках. З 15.6.1831 ппар. 27 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 у складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі. 5.2.1832 прыбыў у Францыю, з 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. У студз. 1833 прыбыў у Манпелье вывучаць медыцыну, 18.8.1835 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, займаўся медыцынскай практыкай у Тулузе, затым у дэп. Дром, з 1858 у Ваклюзе. У снеж. 1837 далучыўся да ПДТ. Ажаніўся з француженкай, меў дзяцей. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 145; РДВГА-11, арк. 304; AGAD, PFR, nr 15; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 274; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 63, 275; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 1. S. 122; Dangel S. Rok 1831. S. 144; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 108; Konarska B. Polskie drogi. S. 363; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 510; Straszewicz J. Les Polonais*.

**Пангоўскі Станіслаў** (сак. 1800–20.1.1867) – з Віцебскай губ., сын Станіслава і Марыі Казаноўскай, з 1827 ад'юнкт ген. Красінскага. У паўстанні ппар., з 24.9.1831 маёр. Удзельнічаў у бітвах пад Грохавам, Варшавай. 21.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з корпусам М. Рыбінскага межы Прусіі, інтэрніраваны. У 1832 прыбыў у Францыю, з 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, член мясцовай эміграцыйнай рады, член ПНК. З чэрв. 1834 да 1.1.1837 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. Знаходзіўся ў Іспаніі, Тунісе. Дапамагаў Хржаноўскаму ў арганізацыі войска ў Турцыі. У 1865 атрымаў дазвол вярнуцца ў Гродзенскую губ. Пасля вяртання ў Гродна арыштаваны і ўтрымліваўся на працягу 9 мес., сярод яго папер знойдзены ліст ад І. Дамейкі з Сант'яга (Чылі). Быў асуджаны да ссылкі ў Сібір, аднак у ліп. 1866 адпушчаны ў Прусію, адкуль перабраўся ў Францыю. *AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Księga pamiątkowa. S. 158; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 63; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 275; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 130; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 90; Żurawski vel Grajewski R. Wielka Brytania. S. 140.*

**Паніквіцкі Фелікс** – памешчык з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-4, арк. 167 адв.; РДВГА-8, арк. 245.*

**Паніквіцкі Юзаф** – падафіцэр атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. З 4.10.1831 ппар. 13 ул. палка. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; BPP, nr 493.*

**Пануфнік** – ксёндз з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Меў тайныя зносіны з паўстанцамі Белавежскай пушчы. *РДВГА-8, арк. 233.*

**Панько Сымон** (н. каля 1812) – селянін памешчыцы Абуховічавай з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., садоўнік. У паўстанні служыў у 6 ул. палку, у складзе якога прыбыў у Варшаву. Узяты ў палон, спрабаваў збегчы, дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 11.6.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-4, арк. 143 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 28; РДВГА-8, арк. 232.*

**Папейка Ігнацій** – з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. З-за малалецтва па рашэнню МГСК ад 21.12.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 146 адв.; РДВГА-11, арк. 305.*

**Папейка Сымон** – уніяцкі святар з мяст. Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, займаўся агітацыяй. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 вызвалены з-пад следства, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-4, арк. 167 адв.; РДВГА-11, арк. 306; Dangel S. Rok 1831. S. 163.*

**Папоўскі Адольф** – дваранін з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў з паўстанцамі, з якімі адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 168; РДВГА-8, арк. 247.*

**Паразінскі Сымон** – пробашч Радашковіцкага касцёла Вілейскага пав. Мінскай губ. Чытаў у касцёле паўст. адозвы, прыводзіў да прысягі жыхароў Радашковіч. Арыштаваны, утрымліваўся ў турме. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 168 адв.; РДВГА-11, арк. 307; ф. 405, воп. 2, спр. 4109; AGAD, MMK, nr 42, s. 13; Dangel S. Rok 1831. S. 160.*

**Парфяновіч Антоній** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, служыў у дзісенскім апалчэнні. Па рашэнню МГСК ад 8.2.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-4, арк. 157; РДВГА-11, арк. 287; Dangel S. Rok 1831. S. 128.*

**Парфяновіч Бернард** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. *Dangel S. Rok 1831. S. 144.*

**Парфяновіч Ян** (п. 31.10.1831) – шляхціц з в. Валожын Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Якуба, настаўнік дзяцей памешчыка Сальмантовіча. Прымусова знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў, выконваў абавязкі пісара. Узяты ў палон. Утрымліваўся ў Мінску, дзе і памёр. *НГАБ-4, арк. 150 адв.; РДВГА-11, арк. 287; Dangel S. Rok 1831. S. 144.*

**Пасяніцкі Антоній** – з Мазырскага пав. Мінскай губ., аканом памешчыка Н. Яленскага. Удзельнічаў у падрыхтоўцы да паўстання, якую праводзіў Яленскі. Утрымліваўся ў Бабруйскай крэпасці. Па рашэнню МГСК ад 2.11.1831 вызвалены ад адказнасці, памёр да вынясення рашэння. *НГАБ-4, арк. 169; РДВГА-11, арк. 307; Dangel S. Rok 1831. S. 132.*

**Патапенка Савелій** – селянін памешчыка Ю. Крушэўскага з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў. Дзейнічаў у сутыкненнях у складзе атрада Бараноўскага. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 12.11.1831 аддадзены ў салдаты. *НГАБ-4, арк. 154 адв.; РДВГА-11, арк. 308.*

**Паткоўскі Ян** (н. 1800) – з Гродзенскай губ. Скончыў школу ў Любліне, з 1823 студэнт ф-та права Варшаўскага ун-та. У паўстанні з 10.2.1831 пхар. Літ.-Вал. легіёна. 26.9.1831 адышоў з С. Рожыцкім у Галіцыю. 7.4.1832 прыбыў у Францыю. З 3.1.1834 член ПДТ. У крас. 1850 знаходзіўся ў Нанце. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 125, 329; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 269; Gerber R. Studenci. S. 170; Krawiec L. Lista członków. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 508*.

**Патніс Адам –** манах Лужкоўскага піярскага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці. *Dangel S. Rok 1831. S. 160*.

**Патрыкоўскі Казімір** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. У паўстанні служыў у канцылярыі ўрадавага к-та, сфарміраванага ў Лужках. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 150 адв.; РДВГА-11, арк. 309; Dangel S. Rok 1831. S. 145.*

**Патрыкоўскі Юзаф Альфонс** (14.3.1805–3.8.1863) – шляхціц са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Старынкі, сын Алаізія і Барбары Бянклеўскай, скончыў Віленскі ун-т, кандыдат філасофіі, навіцыянт бернардзінаў у Вільні. У паўстанні з 2.4.1831, ппар. 2 палка пешых стральцоў, затым 1 ул. палка. 15.7.1831 з Д. Хлапоўскім адышоў у Прусію, інтэрніраваны. У сак. 1832 прыбыў у Францыю, знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, сакратар мясцовай рады, член ПНК, ТЛРЗ, у 1837 член АПЭ. У 1834 вывучаў дакладныя навукі ў Канах, у 1839–43 вучыўся ў Горнай школе ў Парыжы, з 1853 працаваў у Нацыянальным банку ў Парыжы. У 1838–39 у Парыжы разам з Ю. Літаслаўскім і Ф. Гардашэўскім рэдактар перыядычнага выдання “Korespondent Emigracji Polskiej”. У 1844 выступіў з праектам заснавання калоніі Новая Польшча ў Амерыцы. Да 1859 вёў

дзённік, дзе змяшчаў матэрыялы аб жыцці ў эміграцыі. Ажаніўся з францужанкай, меў сына Вітольда. Памёр у Парыжы. *Potrykowski J. Tułactwo Polaków; НГАБ-4, арк. 170 адв.; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Rps BN, III. 6594; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 330; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 331; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 155; Konarska B. Polskie drogi. S. 373; PSB; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 544*.

**Паўлаў Міхал** – селянін памешчыка А. Горвата з Мазырскага пав. Мінскай губ., ямшчык каралінскай паштовай станцыі. У паўстанні ў атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у нападзенні на Мазыр, трапіў у палон пры сутыкненні пад Міхалкамі. Рашэннем МГСК ад 31.12.1831 асуджаны да аддачы ў салдаты, аднак дзякуючы хадайніцтву Горвата палявы аўдытарыят дазволіў вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-4, арк. 145 адв.; РДВГА-11, арк. 285.*

**Паўловіч Іпацій** – іераманах Ракаўскага базыльянскага кляштара Мінскага пав. Мінскай губ. У паўстанні знаходзіўся сярод ашмянцаў. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 пакінуты вольным, узяты пад тайны паліцэйскі нагляд. *НГАБ-4, арк. 142; РДВГА-11, арк. 284; Dangel S. Rok 1831. S. 163.*

**Паўловіч Фаусцін** (1790–9.5.1848) – з Гродзенскай губ., сын Якуба і Агаты Казакоўскай, кап. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 маёр 1 палка пешых стральцоў. 4.6.1831 атрымаў залаты крыж. Пасля капітуляцыі Варшавы застаўся на месцы, аднавіў прысягу расійск. ураду. Памёр у Варшаве. *AGAD, KRW, nr 478; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 271*.

**Паўлоўскі** – дваранін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 143; РДВГА-8, арк. 231*.

**Паўлоўскі –** прыёр Слуцкага бернардзінскага кляштара Слуцкага пав. Мінскай губ. Укрываў паўстанца. *Dangel S. Rok 1831. S. 160.*

**Паўлоўскі Людвік** (24.6.1813–30.7.1834) – з в. Аглона Віцебскай губ., сын Міхала і Дароты Казлоўскай. У паўстанні радавы 10 ул. палка. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834 у Афрыцы. Памёр у вайсковым шпіталі ў Аране. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 280.*

**Паўлюц (Паўліч) Фелікс** (н. 19.5.1809) – з в. Хадалова Мінскай губ., сын Францішка і Кацярыны Ходаль, на службе ў расійск. арміі. У паўстанні радавы 7 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. У 1863 жыў у Ніёры. Па рашэнню МГСК прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-4, арк. 143; РДВГА-11, арк. 286; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 280; Krawiec L. Lista członków. S. 88.*

**Пац Людвік Міхал** (19.5.1780–31.8.1835) – гр., памешчык з Гродзенскай губ., удзельнік напалеонаўскіх войнаў, ген., сенатар КП. У паўстанні ген., кіраваў корпусам, часовы галоўнакамандуючы (1830). Эмігрыраваў у Францыю, знаходзіўся ў Парыжы, член рады, якой падпарадкаваліся ўсе эміgranцкія заклады, у снеж. 1832 член рады Т-ва навуковай дапамогі, у 1833 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. Выехаў у Грэцыю, памёр у Смірне. Маёнтак канфіскаваны. *Rps BUW, nr 2327; MWP, 41 H; РДВГА-8, арк. 233; Janowski J.N. Notatki autobiograficzne; Konarski S. Dziennik. S. 19; Krasiński Z. Listy do Adama Sołtana. S. 5, 13; Lelewel J. Listy emigracyjne. T. 1; яго ж: Nieznane listy. S. 46; ND. 1843. S. 143; Sapieha L. Wspomnienia; Źródła do dziejów. T. 5; ЭГБ. T. 5. C. 456; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 325; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 218; Dutkiewicz J. Francja a Polska; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 50–69, 100–119, 295; T. 3. S. 44–47, 241–242; Handelsman M. Adam Czartoryski. T. 1; Kaczkowski J. Konfiskaty; Mościcki H. Pod znakiem Orła i Pogoni; Katalog portretów. T. 7. S. 7; Katalog wystawy. S. 45; PSB. T. 24. S. 719; Rostocki W. Władza wodzów; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; яго ж: Les Polonais.*



**Людвік Міхал Пац.**
*Літаграфія Марэна*

**Пацэвіч Казімір** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., настаўнік Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам, удзельнічаў у сходзе ў мяст. Маладзечна. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831

вызвалены ад суда. *НГАБ-4, арк. 160; РДВГА-11, арк. 288; Dangel S. Rok 1831. S. 144*.

**Пашкоўскі Валенцій** (10.2.1810–10.2.1899) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у в. Налібокі, сын Казіміра, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні з 22.3.1831, 7.4.1831 пар. пры К. Пршэздзецкім. Адышоў з Г. Дэмбінскім у Варшаву ў складзе 13 ул. палка, вахмістр. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У 1832 утрымліваўся ў турме ў Гданьску. 4.8.1832 прыбыў у Францыю. Працаваў 16 гадоў у адміністрацыі дарог і мастоў на канале Беры, затым да 1875 у Тулузе. Ажаніўся з француженкай. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 328; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 268.*

**Пашкоўскі Станіслаў** (1794–7.10.1840) **–** памешчык з Мінскай губ., н. у в. Карпуцішкі. У паўстанні з 23.3.1831, член ашмянскага ўрадавага к-та, кіраваў аддзелам, кап. Арганізаваў асобны атрад, які дзейнічаў да 25.9.1831 у Налібоцкіх лясах. Адышоў у КП, 10.10.1831 расфарміраваў атрад. Перабраўся ў Прусію, 16.4.1832 прыбыў у Францыю, 7.7.1840 у Манпелье, дзе і памёр. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 153; РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 2441, арк. 12 адв.; ND. 1843. S. 143; Воронков И.А. Польское восстание; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 328; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 125; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 268; Mościcki H. Powstanie listopadowe na Litwe. S. XVI.*

**Пенчыкоўскі Ян** – з мяст. Дзярэчын Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ўдзельнік выступлення 29.11.1830, з 9.12.1830 ппар., 13.6.1831 пар. 5 палка пешых стральцоў. Завочна прыгавораны да смяротнага пакарання. У 1834 маёнтак канфіскаваны. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 286.*

**Перахожанка Іван** – селянін памешчыка А. Горвата з маёнтка Барбарава Мазырскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў узбр. у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у нападзенні на паштовыя станцыі і сутыкненні пад Міхалкамі, дзе трапіў у палон. МГСК ад 31.12.1831 прынята рашэнне аб аддачы на ваен. службу. *НГАБ-4, арк. 160 адв.; РДВГА-11, арк. 289.*

**Пертажыцкі** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., наглядальнік паштовай станцыі. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4109*.

**Песляк Караль** (16.6.1810–19.2.1880) – дваранін з г. Барысава Мінскай губ., сын Станіслава, студэнт Віленскага ун-та. 30.3.1831 далу-

чыўся да вілейскіх паўстанцаў, з 18.4.1831 ппар. 12 ул. палка корпуса А. Гелгуда. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. У 1832 член ПНК. Працаваў краўцом. Памёр у Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 12.7.1833 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 153; РДВГА-11, арк. 290; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 332; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 286; Dangel S. Rok 1831. S. 144*.

**Петрашкевіч Ануфрый** (1793–7.12.1863) – шляхціц з мяст. Шчучын Лідскага пав. Гродзенскай губ., сын Феліцыяна і Вікторыі, скончыў пав. піярскую школу ў Шчучыне, ф-т прыродазнаўчых і фізічных навук Віленскага ун-та, затым Варшаўскі ун-т, у 1821 атрымаў ступень магістра філасофіі, у 1822–24 працаваў у архіве Радзівілаў у Вільні, паэт. Адзін з заснавальнікаў т-ва філаматаў, сасланы ў Пецярбург, Міністэрствам асветы накіраваны ў Маскоўскі ун-т, дзе на працягу 1825–31 працаваў бібліятэкарам. За арганізацыю ўцёкаў разам з афіцэрамі Літ. корпуса ў паўст. войска і сувязь з маскоўскім гуртком М. П. Сунгурава 16.4.1831 арыштаваны. 17.11.1831 пастановай суда прыгавораны да пакарання смерцю. 13.1.1832 пакаранне заменена на пажыццёвую ссылку ў Сібір з пазбаўленнем шляхецтва і навуковай ступені. 7.2.1832 сасланы ў Табольск. У 1856 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, у 1860 вярнуўся ў Вільню да брата Юзафа. Памёр і пахаваны ў Вільні. *Rps BN, II. 7861; Філаматы і філарэты. С. 231–237; ЭГБ. Т. 5. С. 487; Gerber R. Studenci. S. 439; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 333; Jackiewicz M. Wileńska Rossa; PSB. T. 26; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 456–458*.



**Ануфрый Петрашкевіч.**
*Партрэт невядомага мастака*

**Петрашкевіч Казімір Антоній** (н. 4.3.1805 ці 1807) – з Мінскай губ. У паўстанні з 28.3.1831, 20.4.1831 ппар., адышоў у Прусію, адкуль інтэрніраваны. 15.8.1832 прыбыў у Францыю. У ліп. 1837 далучыўся да АПЭ. Ажаніўся з француженкай. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 168; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 288.*

**Петрашэўскі Міхал –** з Мінскай губ., н. у Мінску. У паўстанні ппар. У 1832 прыбыў у Францыю. Са студз. 1838 да кастр. 1838 атрымліваў грашовую дапамогу ан-

глійскага ўрада. З вер. 1848 член ПДТ. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 288; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 90; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 519.*

**Петрашэўскі Феафіл (Тэадор)** (1789–2.1869) – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Сядзельнікі, сын Юзафа, вучыўся ў Свіслацкай школе, удзельнічаў у кампаніі 1812, адстаўны ппар. уфімскага пях. палка. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага, пар. Трапіў у палон, утрымліваўся ў турме ў Гродна, збег і перабраўся ў Галіцыю. У 1834 прыбыў у Англію, дзе знаходзіўся яшчэ 25.8.1840, з 10.6.1834 да 7.1838 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1844 трапіў пад амністыю. Памёр у Лондане. Па рашэнню ГГСК ад 6.7.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 154; РДВГА-8, арк. 234; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 333; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 288; Dangel S. Rok 1831. S. 144; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 90; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 519.*

**Петрусевіч Мікалай** (н. 1786) – з Магілёўскай губ., сын Міхала і Іааны Валужыніч. З 1812 на службе ў польскай арміі, пачаткова ппар. 22 пях. палка, удзельнічаў у кампаніі 1812 на баку Напалеона. У 1815 служыў у 3 палку пешых стральцоў, з 1825 кап. 24.5.1830 атрымаў знак за 15 г. бездакорнай афіцэрскай службы. З 1.1.1831 кап. 3 палка пешых стральцоў, 19.3.1831 маёр. 11.3.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з корпусам М. Рыбінскага ў Прусію, інтэрніраваны. *Księga pamiątkowa. S. 103; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 279*.

**Петрыкевіч Іван** (28.9.1806 (1809) – 4.11.1850) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у засценку Далматаўшчына, сын Стэфана і Петранэлі Кавальскай, брат Сымона, аканом маёнтка Далматаўшчына. У паўстанні радавы 13 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю і да 1848 жыў у Арлеане. З 10.12.1837 член ПДТ. Памёр у Арлеане. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 234; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 330; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 281; Krawiec L. Lista członków. S. 81.*

**Петрыкевіч Сымон** (15.5.1808 (1804) – 31.12.1868) – з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Янава (с. н. Іванава), сын Стэфана і Петранэлі Кавальскай, брат Івана. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка. Ады-

шоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. 10.7.1837 вярнуўся ў Арлеан і жыў там да 1848. З 10.12.1837 член ПДТ. Памёр у Арлеане. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 234; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 330; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 281; Krawiec L. Lista członków. S. 81*.

**Петрыкоўскі (Патрыкоўскі, Петржыкоўскі) Антоній –** памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў. Рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі з-за адсутнасці дакладных звестак пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 309; Dangel S. Rok 1831. S. 117, 144.*

**Петрыцкі Вінцэнт** (н. каля 1799) – шляхціц з Мінскай губ., сын Яна. Удзельнічаў у паўстанні. У 1831 сасланы ў Сібір з пазбаўленнем правоў. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 451*.

**Піваварчык Аляксандр –** селянін з в. Янавічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. Апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 236; AGAD, WCPL, nr 724, k. 69.*

**Пігута Павел –** селянін памешчыка В. Пуслоўскага з Хомска Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., масцеравы суконнай фабрыкі. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон пад Невелем. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 прызначаны да аддачы ў салдаты, аднак памёр пад час знаходжання ў Бабруйскай крэпасці. *НГАБ-4, арк. 146; РДВГА-11, арк. 296; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.; LVIA, f. 378, ap. 39, b. 841, lp. 3.*

**Пілецкі** – з мяст. Глыбокага Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у бітве пад Дзісной. *Dangel S. Rok 1831. S. 144.*

**Пілецкі Аляксандр** – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Прасіў літасці. Атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 237.*

**Пілецкі Леапольд** – з Гродзенскай губ., прап. драгунскага палка. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Аддадзены пад ваен. суд. *РДВГА-8, арк. 238*.

**Пілецкі Канстанцін –** памешчык з Гродзенскай губ. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага на тэрыторыі Пінскага пав., пасля

сутыкнення пад Невелем далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, ппар. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Аднавіў прысягу расійск. ураду. *НГАБ-4, арк. 150; AGAD, WCPL, nr 724, k. 65; DS. T. 6. S. 385; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 291.*

**Пілецкі Паўлін** – памешчык з Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 162; РДВГА-8, арк. 238; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; DS. T. 6. S. 386.*

**Пілецкі Станіслаў** – з Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, адышоў у Прусію ў складзе 4 палка пешых стральцоў. Эмігрыраваў. З 28.3.1848 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 162; РДВГА-8, арк. 237; AGAD, PFR, nr 6; Krawiec L. Lista członków. S. 116.*

**Пілiновіч Павел** – селянін памешчыка Фрыча з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 узяты ў палон пад Невелем. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 239*.

**Піляўскі Гілярый** – з Мінскай губ. Прымаў удзел у паўстанні. *РДВГА-11, арк. 297.*

**Пітракевіч Адам** – з Мінскай губ., студэнт. Прымаў актыўны ўдзел у паўстанні. Перайшоў межы Прусіі, у 1832 эмігрыраваў у Францыю. Па рашэнню МГСК ад 1.9.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 160 адв.; РДВГА-11, арк. 297; Dangel S. Rok 1831. S. 128.*

**Пкалеўскі Францішак** – дваранін з Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Адышоў у Прусію. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 162 адв.; РДВГА-8, арк. 241.*

**Планкоўскі Гіпаліт –** са Слуцкага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. 10.8.1831 удзельнічаў у Варшаве ў Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 444.*

**Плаўскі Ануфрый** – з Віленскай губ., адвакат. Знаходзіўся сярод пачынальнікаў выступлення ў Ашмянах, выконваў абавязкі паўст. каменданта Ашмян. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 8 адв.; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 20.*

**Плінкоўскі Андрэй** – з Мінскай губ., сын Мацвея, палясоўшчык памешчыка В. Пуслоўскага з маёнтка Целяханы. У паўстанні ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 164; РДВГА-11, арк. 299*.

**Плужанскі Міхал** (1799–28.5.1838) – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., н. на Валыні, сын Якуба і Кацярыны, меў брата блізнюка, ппар. польск. войскаў. У паўстанні з 3.5.1831 пар. 4 палка пешых стральцоў, належаў да корпуса Двярніцкага, у складзе якога 27.4.1831 адышоў у Галіцыю, інтэрніраваны. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Іоне. *AGAD, KRW, nr 581; ND. 1843. S. 144; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 339; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 98; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 309.*

**Плушчэўскі (Плюшчэўскі) Ламберт** – ксёндз картэзіянскага кляштара з Картуз-Бярозы Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у Ваўкавыску. У паўстанні з 2.4.1831, удзельнічаў у арганізацыі атрада каля мяст. Картуз-Бяроза. 27.8.1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Буржэ. З 21.10.1837 у Парыжы. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 20, спр. 709; РДВГА-8, арк. 170; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 308; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 126*.

**Плюцынскі Фелікс** – уніяцкі святар з в. Харашэвічы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Прыводзіў да прысягі ў Белавежскай пушчы. Адхілены ад прыхода. *РДВГА-8, арк. 241*.

**Плятэр Люцыян Станіслаў** (25.11.1808–12.6.1857) – гр., памешчык з Мінскай губ., сын Тадэвуша і Рахелі Касцюшка, брат Фердзінанда, ппрап. Рэвельскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. У сак. 1831 пакінуў сваю каманду, далучыўся да паўстанцаў у Лужках і актыўна ўдзельнічаў у распаўсюджванні паўстання, прымаў удзел у састаўленні Акта канфедэрацыі, уваходзіў у склад атрада В. Брахоцкага. З 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. Выступіў адным з ініцыятараў заснавання ТЛРЗ, быў яго першым старшынёй. З 9.9.1833 член ПДТ. У 1835

дзейнічаў як эмісар у краі. 21.9.1835 выехаў у Англію, з чэрв. 1838 да 29.8.1839 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У вер. 1839 перабраўся ў Аўстралію, дзе працаваў кандытарам. Памёр каля Сіднея. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 163 адв.; РДВГА-11, арк. 298; AGAD, PFR, nr 15; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 48–49; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 303; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 64; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 1. S. 122; Dangel S. Rok 1831. S. 145; Gadon L. Emigracja polska. T. 2, 3; PSB. T. 26. S. 678; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 110; Krawiec L. Lista członków. S. 46; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 90; Rederowa D. Polski emigracijny ośrodek. S. 103; Trzy powstania narodowe; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 529; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; яго ж: Les Polonais.*

**Плятэр Уладзіслаў** (7.11.1808–22.4.1889) – з Віленскай губ., н. у Вільні, брат Цэзара, вучыўся ў Віленскім ун-це, афіцэр польск. войскаў, публіцыст. У чэрв. 1831 далучыўся да фарміравання Д. Хлапоўскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. 10.8.1831 абраны паслом на варшаўскі сейм ад Вілейскага пав. Эмігрыраваў у Францыю, затым перабраўся ў Англію. Выступіў адным з ініцыятараў заснавання ТЛРЗ, выконваў абавязкі сакратара. У 1832 ганаровы член Гісторыка-літаратурнага т-ва. У эміграцыі адзін з прыбліжаных А. Чартарыйскага. У 1833–37 разам з Ю. Страшэвічам рэдактар штомесячніка “Le Polonais. Journal des Interets de la Pologne”, у 1841–48 у Парыжы разам з Ф. Вратноўскім, Я. Каласоўскім, Ю. Верашчынскім рэдактар тыднёвіка “Dziennik Narodowy”. Заснаваў 23.10.1870 Польск. нац. музей у Раперсвілі (Швейцарыя). Памёр у Брольсбергу каля Цюрыха. *BPP, nr 565; DS. T. 6. S. 444; Domeyko I. Pamiętniki. S. 23; яго ж: Moje podróże. T. 1. S. 64; Janowski J.N. Notatki autobiograficzne; Lelewel J. Listy emigracyjne. T. 1, 4; Niewiarowicz A.L. Ze wspomń. S. 448–480; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 48–49; Giller A. Muzeum Narodowe; Mickiewicz W. Żywot A. Mickiewicza. T. 3; Dangel S. Rok 1831. S. 145; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 205, 215, 228; T. 3. S. 285; яго ж: Z życia Polaków. S. 123; Handelsman M. Adam Czartoryski. T. 1, 2; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 341; PSB. T. 26. S. 686–691; Muzeum; Rosz J. Szkic dziejów; Wasilewski Z. Rzut oka; Żurawski vel Grajewski R. Wielka Brytania.*

**Плятэр Фердзінанд** (н. 1808) – гр., памешчык з Мінскай губ., сын Тадэвуша і Рахелі Касцюшка, брат Люцыяна Станіслава, ппрап. Рэвельскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. У сак. 1831 пакінуў сваю каманду, далучыўся да паўстанцаў у Лужках і актыўна

ўдзельнічаў у распаўсюджванні паўстання. Прымаў удзел у састаўленні Акта канфедэрацыі. З 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, з 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. У вер. 1839 перабраўся ў Аўстралію, дзе працаваў кандытарам. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 161 адв.; РДВГА-11, арк. 298; AGAD, PFR, nr 15; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 64, 206; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 302; Dangel S. Rok 1831. S. 145.*

**Плятэр Ян** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, з якімі адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 440.*

**Пляшчынскі Леў** – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. Захоўваў захопленыя паўстанцамі ў Дзісне рэвізскія сказкі, а таксама паперы ўрадавага к-та, якія спаліў. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 157; РДВГА-11, арк. 299.*

**Понтус Пётр** – з Мінскай губ., пісьмавод вілейскай паліцыі. У паўстанні дзейнічаў на тэрыторыі Вілейскага пав., прымаў удзел у захопе пошты ў Маладзечне. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 19.1.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 146 адв. – 147; РДВГА-11, арк. 305; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 8; Dangel S. Rok 1831. S. 146.*

**Пракаповіч Андрэй** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў у бітве пад Вілейкай у чыне афіцэра. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 184; ф. 561, воп. 1, спр. 4, арк. 174; РДВГА-11, арк. 312; Dangel S. Rok 1831. S. 146.*

**Пракаповіч Францішак** – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар., 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Сталпавец канфіскаваны. *НГАБ-4, арк. 174; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 248; Rps BUW, nr 2327; DS. T. 6. S. 386; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 335; Kaczkowski J. Konfiskaty; Szczapiński J. Powstanie w puszczy Białowieskiej. S. 251.*

**Пракаповіч Юзаф** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў у бітве пад Вілейкай у чыне афіцэра. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 184; ф. 561, воп. 1, спр. 4, арк. 174; РДВГА-11, арк. 312; Dangel S. Rok 1831. S. 146; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Пракапчук Міхал** – селянін з Мінскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў у паўстанні. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 334.*

**Пракурацык Людвік** – селянін памешчыка Міцкевіча з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 249.*

**Пралятовіч Сымон** – з Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 174 адв.; РДВГА-8, арк. 249.*

**Прантніцкі Фларыян** (н. 4.5.1796) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у маёнтку Далматаўшчына, сын Юзафа і Антаніны Райкевіч, ппар. польск. войскаў. У паўстанні ппар. 4 ул. палка, з 6.2.1831 пар., 3.4.1831 кап. 6 ул. палка. 24.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрніраваны. 10.2.1832 вярнуўся ў Варшаву і аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 334*.

**Пратасевіч Іван** – шляхціц з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 174 адв.; РДВГА-8, арк. 250.*

**Пратасевіч Казімір** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 251.*

**Пратасевіч Фердзінанд** – шляхціц з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дараванне з пазбаўленнем права ўдзелу ў дваранскіх выбарах. *НГАБ-4, арк. 174 адв.; РДВГА-8, арк. 251; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76*.

**Прашчыцкі Іван** – селянін з засценка Ляўкі Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў складзе атрада Г. Дэмбінскага, дайшоў да Полацка. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 252.*

**Прохаў Ян** (н. 24.4.1813) – з в. Воласава Мінскай губ., сын Ігнація Пятра, радавы вайсковай службы. У паўстанні радавы 1 артыл. брыгады. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, 24.6.1837 жыў у Монт дэ Марсане. З мая 1854 у Алжыры. Па рашэнню МГСК ад 29.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-4, арк. 175; РДВГА-11, арк. 313; Dangel S. Rok 1831. S. 117; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 292.*

**Прускі Станіслаў Антоній** (н. 1803) – н. у Гродзенскай губ. У паўстанні дзейнічаў у 1 палку кракусаў. У 1836 прыбыў з Кракава ў Францыю, працаваў інспектарам дарог і мастоў у Парыжы. З 9.4.1837 да 13.12.1846 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна. *Krawiec L. Lista członków. S. 77.*

**Прушынскі Антоній** – з Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 253.*

**Прушынскі Вінцэнт Феліцыян** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ., б. асэсар 2-га дэп. Галоўнага літ. суда. Дзейнічаў сярод свянцянскіх паўстанцаў, 20.4.1831 член часовага ўрада Свянцянскага пав. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 загадана аднавіць прысягу расійск. ураду. *Bieliński K. Rok 1831. S. 15–16, 84–85.*

**Прушынскі Кастан** – селянін памешчыка Дамброўскага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 узяты ў палон пад Невелем. Па рашэнню ГГСК адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 253*.

**Прушынскі (Прошынскі) Прот Фелікс** (1799–19.1.1849) – памешчык з Мінскага пав. Мінскай губ., сын Станіслава і Ганны Сямашка, уладальнік сумесна з братам Яўстафіем маёнтка Лошыца (у 1825 сваю долю ўступіў брату), адстаўны прап. польск. войскаў. З 30.6.1831 кап. 2 конна-егерскага палка. 19.8.1831 ад’ютант Скшынецкага, затым шэф штаба корпуса Умінскага, 19.9.1831 ппалк. 9.9.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 перайшоў з атрадам М. Рыбінскага межы Прусіі, інтэрніраваны. Эмігрыраваў у Бельгію. У 1832 быў адным з заснавальнікаў Гісторыка-літаратурнага т-ва. З 31.3.1832 ппалк. бельгійскай арміі. У 1839 прымаў удзел у вайне з Галандыяй. Памёр у Бельгіі. Па рашэнню МГСК ад 7.12.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 175 адв. –*

*176 адв.; РДВГА-11, арк. 313; AGAD, MMK, nr 37; Księga pamiątkowa. S. 141; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 337–338; Dangel S. Rok 1831. S. 104, 146; Gadon L. Z życia Polaków. S. 9–10, 123.*

**Прушынскі Тадэвуш –** памешчык з Віленскага пав. Мінскай губ., сын Бенядзікта. У паўстанні быў прызначаны камендантам Куранецкага ключа, абавязкаў не выконваў. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-4, арк. 151; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 338; Dangel S. Rok 1831. S. 146.*

**Пршыбыльскі Фларыян (?)** – шляхціц з Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. З 4.10.1831 ппар. 10 ул. палка (?). Памёр да вынясення рашэння. *НГАБ-4, арк. 172 адв.; РДВГА-8, арк. 247; BPP, nr 493; Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Пршысецкі Антоній** (н. 1808) – з Мінскай губ., сын Юзафа, ппрап. Прускага пях. палка прынца Вільгельма, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. У сак. 1831 пакінуў сваю каманду і далучыўся да паўстанцаў, актыўна ўдзельнічаў у падзеях пад Лужкамі, складаў Акт канфедэрацыі. 15.6.1831 ппар. 27 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 з корпусам А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у лют. 1832, з 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. З 21.8.1834 да 26.11.1837 член ПДТ. Па рашэнню МГСК 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 150 адв.; РДВГА-11, арк. 311; AGAD, PFR, nr 15; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 64, 254; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 64, 349; Dangel S. Rok 1831. S. 146; Krawiec L. Lista członków. S. 56; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 553.*

**Пршэбароўскі Антоній –** дваранін з Мазырскага пав. Мінскай губ., вахмістр маёнтка Лахва. Даставіў паўстанцам 3 скрынкі свінцу і шроту. МГСК не здолела даказаць дадзены факт і рашэннем ад 19.10.1831 вызваліла ад суда, пакінуўшы пад паліцэйскім наглядам. *НГАБ-4, арк. 171; РДВГА-11, арк. 310.*

**Пршэздзецкі Караль Дамінік** (1780–10.4.1832) **–** памешчык са Свянцянскага і Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Міхала і Марыі Мастоўскай, брат Канстанціна, дзядзька Аляксандра, уладальнік маёнткаў Міхалішкі, Смаргонь, у 1812 завілейскі маршалак, удзельнічаў у кампаніі 1812 у складзе корпуса Ю. Панятоўскага, выставіў за свой кошт 18 ул. полк, належаў да т-ва філарэтаў. У паўстанні з 5.4.1831, адзін з арганізатараў ашмянскага выступлення, узначальваў апалчэнне, палк., кіраваў пал-

ком конных уланаў. Пасля паражэння пад Ашмянамі далучыўся да фарміравання Д. Хлапоўскага. З 15.6.1831 знаходзіўся пры штабе А. Гелгуда, з якім 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Памёр у мяст. Крулевец. Маёнтак Смаргонь канфіскаваны. *НГАБ-4, арк. 172; Rps BN, II. 7861; Domeyko I. Pamiętniki. S. 21; Listopadowi żołnierze. S. 165; Puzynina G. W Wilnie. S. 152; ЭГБ. Т. 6. Ч. 1. С. 12; Przezdiecki R. Aleksander Przezdiecki. S. 10–11, 46–47; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 20; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 346; Zajewski W. Powstanie. S. 129; Ziółek J. Powstanie Listopadowe na Litwe. S. 398, 405.*

**Пршэцлаўскі Леан** (1806–9.11.1842) – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Ружанах, сын Антонія і Крысціны Гінэт. У паўстанні кап., дзейнічаў у атрадзе А. Гелгуда. 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. У сак. 1832 прыбыў у Францыю, 19.3.1832 знаходзіўся ў Парыжы з намерам працягваць вучобу, з 8.4.1832 член ТЛРЗ, ПНК. У 1836–38 у Люнэлі. З 17.8.1834 да 18.2.1836 член ПДТ, у 1838 у Манпелье стаў членам АПЭ. 4.4.1842 выехаў у Алжыр. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць трапіла пад канфіскацыю. *НГАБ-4,*



**Караль Дамінік Пршэздзецкі.** *Партрэт невядомага мастака*



**Леан Пршэцлаўскі.** *Літаграфія Ш. Базэна*

*арк. 172 адв.; РДВГА-8, арк. 247; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Rps BN, II. 7871, k. 105; BPP, nr 565; Domeyko I. Pamiętniki; Księga pamiątkowa. S. 165; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 341; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 203; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 245; Katalog wystawy. S. 49; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 114; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 54; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; Wójcik Z. Ignacy Domeyko. S. 136.*

**Пршэцлаўскі Рамуальд** – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў за мяжу, прасіў літасці. Атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 58, арк. 1; РДВГА-8, арк. 248; DS. T. 6. S. 386.*

**Псарскі Антоній** (н. 1809) – з мяст. Шчучын Лідскага пав. Гродзенскай губ., сын Віктара і Ганны Слуцкай, вахмістр польск. войскаў. На пачатку паўстання дзейнічаў на баку кн. Канстанціна, 16.12.1830 прызначаны ў 2 полк конных стральцоў. Трапіў у палон, пасля чаго паступіў на расійск. службу. У 1832 вярнуўся ў Варшаву, у 1833 эмігрыраваў у Францыю. У 1840 прыбыў у Алжыр. З 1847 член ПДТ. У 1848 выязджаў у Польшчу, у жн. 1848 вярнуўся ў Алжыр. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 350; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 554.*

**Пузына Аляксандр** (п. 2.6.1831) – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Ігнація, уладальнік часткі маёнтка Гаць. З 1828 жыў у Варшаве. Са студз. 1831 у паўст. апалчэнні КП, ппар. кавалерыі Плоцкага ваяв., затым служыў у варшаўскім ваен. шпіталі. Памёр ад халеры. Па рашэнню МГСК ад 28.1.1834 аднесены да 2 разр. зл. Маёнтак канфіскаваны ў 1834. *НГАБ-4, арк. 161 адв.; РДВГА-11, арк. 315; AGAD, MMK, nr 29; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 356; Dangel S. Rok 1831. S. 105, 147.*

**Пузыноўскі Лаўрэнцій** – з Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 253.*

**Пузыноўскі Якуб** – шляхціц з Мінскага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. 31.3.1831 пакінуў ун-т, дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў у чыне афіцэра. Узяты ў палон, адпраўлены ў Табольскі батальён. Вярнуўся на месца сталага жыхарства, працаваў настаўнікам у Свянцянах. *РДВГА-11, арк. 314–315; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 487.*

**Пулькоўскі Аляксандр** – шляхціц з Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 176 адв.; РДВГА-8, арк. 254.*

**Пуслоўскі Фелікс** (н. каля 1815) – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. артылерыі. У лют. 1832 эмігрыраваў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Член ПНК. У чэрв. 1834 выехаў у Лондан, з 10.6.1834 да 8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1835 прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства з умовай службы радавым у Каўказскім асобным корпусе. 5.10.1835 выехаў у Вільню. 9.1.1836 высланы ў Тыфліс. У 1839 за ваен. заслугі атрымаў чын прап. У 1841 па стану здароўя звольнены з арміі ў чыне пар. *РДВГА-8, арк. 256; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 87; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 354; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 91; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 486.*

**Пуслоўскі Ціт Адам** (4.1.1804 (12.1803) – 5.3.1854) – памешчык з Гродзенскай і Мінскай губ., н. у маёнтку Пескі Слонімскага пав., сын Войцэха і Юзэфы Друцкай-Любецкай, адстаўны карнет Александрыйскага гус. палка. З'яўляўся ініцыятарам паўстання ў Пінскім пав. Арганізаваў атрад, які дзейнічаў на тэрыторыі Слонімскага, Пружанскага і Кобрынскага пав. 8.8.1831 пад Невелем разбіты, паранены, адышоў праз Валынскую губ. у Галіцыю. У 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова знаходзіўся ў Парыжы, затым выехаў у Франкфурт-на-Майне, у 1837 вярнуўся ў Парыж, 1.12.1849 атрымаў французскае грамадзянства. Памёр у Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 аднесены да 1 разр. зл., адпаведнае рашэнне прынята ГГСК ад 24.8.1832, маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-4, арк. 153 адв.; ф. 1297, воп. 1, спр. 7533; РДВГА-8, арк. 255; ч. 11, арк. 316; BPP, nr 565; LVIA, f. 437, ap. 4, b. 205; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 68; Puzynina G. W Wilnie; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 351; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 354; Dangel S. Rok 1831. S. 147; PSB. T. 29. S. 421.*

**Пухоўскі В.** – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 258.*

**Пянткоўскі Пётр** (1810–23.12.1851) – са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у аколіцы Галашчынішча, пісар. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе навагрудскай конніцы, у складзе якога адышоў у Варшаву. Эмігрыра-

ваў. З 10.6.1834 да 12.1851 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 8.1.1835 да 6.5.1836 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 147 адв.; РДВГА-8, арк. 241; Krawiec L. Lista członków. S. 59, 66; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 90*.

**Пяперскі Антоній** (н. 13.6.1803) – з в. Сяхновічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., ппар. 7 палка лін. пяхоты польск. войскаў. У паўстанні ппар. 7 палка лін. пяхоты, з 6.2.1831 пар., 13.6.1831 кап. 21 палка лін. пяхоты, 16.9.1831 у складзе корпуса Д. Рамарына адышоў у Галіцыю, інтэрніраваны. 17.5.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 551; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 276*.

**Пяровіч Ігнацій** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. МГСК ад 31.12.1831 прынята рашэнне аб аддачы на ваен. службу. *НГАБ-4, арк. 160 адв.; РДВГА-11, арк. 289*.

**Пясецкі Францішак** – селянін з мяст. Драгічын Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага, збег і вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 259*.

**Пясецкі Юзаф** – селянін з мяст. Драгічын Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 узяты ў палон пад Невелем. Па рашэнню ГГСК адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 259*.

**Пяткевіч Медард** (23.5.1812–1848) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у Мінску, вывучаў права і літаратуру ў Віленскім ун-це. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў, ппар. 10 ул. палка. 15.7.1831 з Ф. Роландам перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У крас. 1832 прыбыў у Францыю, працаваў гадзіншчыкам. З 16.7.1832 член ТЛРЗ, з 28.5.1846 член ПДТ. З 2.3.1840 жыў у Версалі, дзе і памёр. *РДВГА-11, арк. 317; AGAD, PFR, nr 7; Rps BN, II. 7872; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 93; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 287; Krawiec L. Lista członków. S. 99; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 517–518*.

**Пяткевіч Станіслаў** – з Гродзенскай губ. У паўстанні з 26.3.1831 ппар. 6 палка лін. пяхоты. 8.3.1831 атрымаў сярэбраны крыж. 16.9.1831 адышоў з корпусам Д. Рамарына ў Галіцыю, інтэрніраваны. 4.4.1832 вяр-

нуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 525; Księga pamiątkowa. S. 92; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 287.*

**Пяткевіч Валяр'ян Ян Багуслаў** (5.1.1805–22.10.1843) – са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у в. Мацэвічы Ігуменскага пав. (?), б. студэнт Віленскага ун-та, у 1828 ад'юнкт гісторыі рымскага права. У паўстанні сакратар ЦВПК, дзейнічаў у атрадзе універсітэцкай моладзі, кіраваў аддзелам, у складзе атрада Ю. Заліўскага прыбыў у Варшаву, 10.8.1831 абраны паслом на сейм ад Слуцкага пав. Уваходзіў у склад утворанага 15.8.1831 Літ. к-та. 20.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. 24.11.1831 прыбыў у Францыю, першапачаткова знаходзіўся ў Парыжы, затым у Туры. Адзін з заснавальнікаў ТЛРЗ, з'яўляўся сакратаром ПНК, цесна звязаны з І. Лялевелем. Удзельнік экспедыцыі Ю. Заліўскага. Асеў у Туры. *РДВГА-11, арк. 317; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Rps BN, II. 7861, II. 7871; Dziennik Narodowy. 1843; DS. T. 6. S. 444; Księga pamiątkowa. S. 157; Lelewel J. Pamiętnik. S. 159; яго ж: Nieznane listy. S. 54; Orzeł Biały. 1843. № 23; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 50; Chołodecki B.J. Emisariusz Henryk Dmochowski; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 332; Dangel S. Rok 1831. S. 144; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 191, 250–268; T. 3. S. 47, 90, 276, 328–343; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 333; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 518.*

**Пятразалінава Анэля** – памешчыца з Вілейскага пав. Мінскай губ. Нарыхтоўвала для паўстанцаў пікі, косы, захоўвала 4 стрэльбы. Па рашэнню МГСК ад 25.1.1832 вызвалена з-пад следства. *НГАБ-4, арк. 159 адв.; РДВГА-11, арк. 296; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Пятрашка Міхал** – селянін памешчыка В. Пуслоўскага з Кобрынскага пав. Мінскай губ., працаваў на Хомскай суконнай фабрыцы. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон. *РДВГА-11, арк. 291.*

**Пятрашка Ян** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ. Актыўна дзейнічаў сярод паўстанцаў. Узяты ў палон і адасланы ў Пскоў. Па рашэнню галоўнакамандуючага 1-й арміі ад мая 1832 вызвалены ад адказнасці, пакінуты пад наглядам губ. начальства. *НГАБ-4, арк. 159 адв.; РДВГА-11, арк. 291; Dangel S. Rok 1831. S. 144.*

**Пятрашчык (Пятрушчык) Міхалка** – селянін памешчыка Ц. Пуслоўскага з в. Куляшова Слонімскага пав. Гродзенскай губ., масцеравы Хомскай суконнай фабрыкі. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ўзбр. у палон. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 аддадзены ў салдаты.

Памёр у Бабруйскай крэпасці. *НГАБ-4, арк. 146; РДВГА-11, арк. 292; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.*

**Пятркоўскі Кесар** (п. вер. 1831) – дваранін з Ігуменскага пав. Мінскай губ. З пачатку паўстання адправіўся ў КП. Памёр у Варшаве. *РДВГА-11, арк. 292.*

**Пятровіч Леапольд (Леанард)** – шляхціц з Мінскай губ., падлоўчы з маёнтка Барысаў кн. М. Радзівіла. Захоўваў зброю і порах. Па канфірмацыі мінскага ваен. губернатара ад 27.1.1832 утрымліваўся 2 тыдні ў барысаўскай земскай паліцыі. *НГАБ-4, арк. 165 адв.; РДВГА-11, арк. 293; Dangel S. Rok 1831. S. 129.*

**Пятровіч Людвік** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы, пар. 13 ул. палка, адышоў у Варшаву ў складзе фарміравання Г. Дэмбінскага. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар. У складзе корпуса М. Рыбінскага 5.10.1831 адышоў у Прусію. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-4, арк. 148; РДВГА-8, арк. 235; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 386.*

**Пятровіч Якуб** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў за мяжу. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-4, арк. 148 адв.; РДВГА-8, арк. 235*.

**Пятроўскі Адам** – дваранін з в. Валькевічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў, быў паранены. Па рашэнню ГГСК ад 2.8.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-4, арк. 148; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 160; РДВГА-8, арк. 235*.

**Пятроўскі Вінцэнт** (н. 1780) – н. у Гродзенскай губ., сын Яна і Барбары Дабравольскай. Удзельнічаў у кампаніі 1812. У паўстанні ппар., пар., з 15.6.1831 кап. корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 10.1.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 478; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 299.*

**Пятроўскі Міхал** (п. восень 1831) – з Мазырскага пав. Мінскай губ. Падазраваўся ў нарыхтоўцы зброі і амуніцыі для паўстанцаў. Утрымліваўся ў Бабруйскай крэпасці, справа разглядалася МГСК 7.12.1831. Памёр у турме. *Dangel S. Rok 1831. S. 46, 145.*

**Пятроўскі Рамуальд** – шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ., пісар маёнтка Барбарава А. Горвата. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-4, арк. 161; РДВГА-11, арк. 294; Dangel S. Rok 1831. S. 145.*

**Пятроўскі Тэлясфор** (п. 15.4.1886) – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. каля Барысава, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 4 палка пешых стральцоў, адышоў з А. Гелгудам у Прусію, інтэрніраваны. 15.8.1832 прыбыў у Францыю, скончыў Горную школу. Ажаніўся з француженкай (меў 6 дзяцей, сын Тэлясфор вучыўся ў баціньёльскай школе). Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-11, арк. 295; AGAD, PFR, nr 6; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 336; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 298.*

**Пятроўскі Юзаф** – з Мінскай губ. У паўстанні падафіцэр 2 палка конных стральцоў. 15.4.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Маёнтак пасля паўстання падлягаў канфіскацыі. *Księga pamiątkowa. S. 112; Dangel S. Rok 1831. S. 157*.

**Пятроўскі Ян Корвін** (10.5.1801 (1792) – 6.3.1835) – са Свянцянскага пав. Віленскай губ., кап. польск. войскаў. Кіраваў конніцай у свянцянскім апалчэнні, з 2.7.1831 маёр 13 ул. палка, у складзе фарміравання Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. 5.10.1831 з атрадам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 15.3.1832 прыбыў у Францыю разам з жонкай і дзіцем, 18.10.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, член ПНК. Па рашэнню ВГСК ад 5.2.1833 аднесены да 1 разр. зл., па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 22.6.1833 аддадзены пад ваен. суд. Памёр у Безансоне. *AGAD, PFR, nr 6; WCPL, nr 724, k. 64; Rps BUW, nr 2327; ND. 1843. S. 144; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 335*; *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 294; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 77; Bieliński K. Rok 1831. S. 97-98.*

**Пячонка** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Выконваў загады Шумскага, займаўся паўст. агітацыяй. Па рашэнню МГСК ад 28.3.1832 вызвалены ад адказнасці. *Dangel S. Rok 1831. S. 144*.

**Пячыскі Пётр** – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., камердынер гр. Грыбоўскага. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 150; РДВГА-8, арк. 236; DS. T. 6. S. 386.*

# Р

**Раганскі Казімір** – з Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 324*.

**Рагатка Рыгор** – селянін з маёнтка Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Д. Хлапоўскага, з якім апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 268.*

**Рагоза Мікалай** (6.12.1811–7.9.1901) – шляхціц, н. у Станіслававa, сын Казіміра і Барбары Шыбека, скончыў Віцебскую базыльянскую школу, з 1829 вывучаў матэматыку ў Віленскім ун-це. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання, вывозіў з Вільні зброю. У паўстанні з 27.3.1831, 29.5.1831 ппар. 10 ул. палка пад кіраўніцтвам Г. Агінскага. 15.7.1831 з атрадам Ф. Роланда адышоў у Прусію, інтэрніраваны. 5.3.1832 прыбыў у Францыю, у сак. – крас. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Член ПНК, з 12.11.1832 член ТЛРЗ. Працаваў на суконнай фабрыцы. 1.4.1849 атрымаў французскае грамадзянства. Працаваў дарожным наглядальнікам 1 кл. у дэп. Ньеўр. У 1860 вярнуўся на радзіму, у 1863 зноў эмігрыраваў. Ажаніўся з француженкай. *AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Rps BN, II. 7871, k. 171; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 113; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 355; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 106; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 368; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 165; яго ж: Z życia Polaków. S. 123; Konarska B. Polskie drogi. S. 378; PSB*.

**Рагускі Аляксандр** (25.12.1796–25.12.1879) – з Мазырскага пав. Мінскай губ., н. у в. Міхавічы, сын Антонія і Марыі Дашкевіч, кап. польск. войскаў. У паўстанні кап., 13.6.1831 маёр 11 палка лін. пяхоты, 8.6.1831 атрымаў залаты крыж. 26.8.1832 прыбыў у Францыю, адзін з ініцыятараў заснавання баціньёльскай школы. Памёр у Парыжы. *AGAD, KRW, nr 573; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 123; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 360; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 77; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 391.*

**Радавіцкі Аляксандр** – з Гродзенскай губ., б. ганаровы наглядальнік вуч. Ваўкавыскага пав. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Адышоў за мяжу. Па рашэнню МГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-5, арк. 1 адв.; РДВГА-8, арк. 261.*

**Радавіцкі Ян Уладзімір** (1812–1.11.1892) – з в. Красная Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні з 1.12.1830, ппар. вольных стральцоў, 2.9.1831 ппар. у атрадзе С. Рожыцкага, у складзе якога 26.9.1831 перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. У кастр. 1832 прыбыў у Францыю, накіраваны ў Буржэ. Займаўся гандлем. У 1837–46 жыў у Парыжы. 20.4.1837 адзін з заснавальнікаў Польск. клуба. З 60-х гг. член Гісторыка-літаратурнага т-ва. У эміграцыі сябар І. Мікульскага. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. Прызнаны выгнаннікам, маёмасць канфіскавана. *РДВГА-8, арк. 261; Rps BUW, nr 2327; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 354*; *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 127; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 364; Gadon L. Z życia Polaków. S. 123; Kaczkowski J. Konfiskaty; Polacy pochowani. S. 160.*

**Радванскі Станіслаў** – са Свянцянскага пав. Віленскай губ., адвакат. Дзейнічаў сярод свянцянскіх паўстанцаў, 20.4.1831 стаў членам часовага ўрада Свянцянскага пав. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 атрымаў дазвол вярнуцца ў свой маёнтак. *Bieliński K. Rok 1831. S. 15–16, 84–85.*

**Радзевіч Марцін** (н. 1806) – з Мінскай губ. У паўстанні ппар. 19 палка лін. пяхоты корпуса А. Гелгуда. Адышоў у Прусію. *AGAD, PFR, nr 15.*

**Радзевіч Міхал** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. У паўстанні абраны ў вілейскі ўрадавы к-т, абавязкаў не выконваў. Па рашэнню МГСК ад 29.10.1831 аднесены да 2 разр. зл., 5.5.1832 па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 14; РДВГА-11, арк. 327; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Радзевіч Станіслаў** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Гедэона. Прысягнуў паўстанцам, выконваў абавязкі памочніка наглядальніка склада. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 вызвалены ад адказнасці, узяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-5, арк. 17; РДВГА-11, арк. 328; Dangel S. Rok 1831. S. 139–140.*

**Радзевіч Эдвард Ігнацій** (н. 1808) – дваранін з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Казіміра і Барбары Аскерка. З сак. 1831 дзейнічаў сярод

слонімскіх паўстанцаў, затым у атрадзе навагрудскай конніцы, ппар. 13 ул. палка атрада Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 10.8.1831 удзельнічаў у Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 5.10.1831 з М. Рыбінскім перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. У кастр. 1845 выехаў у Алжыр, дзе набыў зямлю. Па рашэнню МГСК ад 20.2.1833 аднесены да 2 разр. зл., пасля смерці маці ў жн. 1833 в. Бубны канфіскавана. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 150; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 15–16; РДВГА-11, арк. 328; DS. T. 6. S. 444; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 388; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 70; Dangel S. Rok 1831. S. 147; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 573.*

**Радзецкі Антоній** – шляхціц з Мінскай губ., пісьмавод пры вілейскім земскім спраўніку. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 7; РДВГА-11, арк. 319; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 7; Dangel S. Rok 1831. S. 147.*

**Радзецкі Фаусцін** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе А. Бронскага. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 26.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 1; РДВГА-8, арк. 260.*

**Радзібор Ян** (н. 29.9.1786) – з Мінскага пав. Мінскай губ., н. у Мінску, сын Юзафа і Людвікі Жывотка, кап. 6 палка лін. пяхоты. У паўстанні кап. 6 палка лін. пяхоты, з 13.6.1831 маёр, затым ппалк. 16.9.1831 з атрадам Д. Рамарына перайшоў у Галіцыю, інтэрніраваны. 6.4.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 529; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 365.*

**Радзішэўская Клара** – памешчыца Вілейскага пав. Мінскай губ., жонка Станіслава, народжаная Абрамовічава. Пасля адыходу С. Радзішэўскага з Вілейкі хавалася ў лясах каля Мядзеля. З’явілася з раскаяннем. Пакінута вольнай. *НГАБ-5, арк. 6; РДВГА-11, арк. 319; Puzynina G. W Wilnie. S. 153.*

**Радзішэўскі Станіслаў** (каля 1788–23.7.1844) – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. і Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. каля Нясвіжа, сын Міхала, барскага канфедэрата, і Людвікі Бжастоўскай, уладальнік маёнткаў Ілля, Лебедзева, з 1830 вілейскі маршалак. Удзельнік кампаніі 1812, адстаўны палк. французскіх войскаў. У паўстанні з крас. 1831, узначальваў вілейскае апалчэнне. Пасля бітвы пад Вільняй далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага,

палк., камандзір 26 пях. палка, адышоў у Варшаву, дзе 10.8.1831 удзельнічаў у Мінскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 30.8.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. 25.4.1833 прыбыў у Францыю, знаходзіўся ў Парыжы. (Жонка з 3 малымі дзецьмі засталася ў в. Беніцы Ашмянскага пав.). 20.4.1837 адзін з заснавальнікаў Польск. клуба, са студз. 1838 яго бібліятэкар. У 1838 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1832 аднесены да 1 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 2–3; РДВГА-11, арк. 320; BPP, nr 565; LVIA, f. 437, ap. 1, b. 260; DS. T. 6. S. 444; Chłapowski D. Pamiętniki. Cz. II. S. 76; Konarski S. Dziennik. S. 23; Księga pamiątkowa. S. 137; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 116; Puzynina G. W Wilnie. S. 153; Брэгер Г.М. Разрабаванне маёнтка Ілля; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 355; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 367; Dangel S. Rok 1831. S. 147; Gadon L. Z życia Polaków. S. 123; PSB; Rederowa D. Polski emigracijny ośrodek. S. 127.*

**Радкевіч Адам Ігнацій** (н. 1804) – н. у мяст. Пагост Мінскай губ., студэнт мед. ф-та Варшаўскага ун-та, працаваў 3 г. у вайсковым шпіталі. У паўстанні ппар. 4 палка пешых стральцоў. Перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 15.8.1832 прыбыў у Францыю, займаўся прыватнай практыкай без спецыяльнага дазволу, у 1846 спрабаваў здаць экзамен на д-ра медыцыны, дыплома не атрымаў. У 1838 член АПЭ. Па рашэнню МГСК ад 1.9.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 20; РДВГА-11, арк. 321; AGAD, KRW, nr 478, 553, 581; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 305; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 388; Dangel S. Rok 1831. S. 147; Konarska B. Polskie drogi. S. 381.*

**Радкевіч Эдвард** – з Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю. *Dangel S. Rok 1831. S. 147.*

**Раецкі Ануфрый (Януарый)** (н. 9.7.1794) – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Вінцэнта, пар. польск. войскаў. У паўстанні пар. 3 палка конных стральцоў, з 15.6.1831 кап. 12.10.1831 прыбыў у Варшаву, з'явіўся з раскаяннем, аднавіў прысягу расійск. ураду. Па рашэнню



Станіслаў Радзішэўскі

МГСК ад 20.10.1834 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 4; РДВГА-11, арк. 321; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 369; Dangel S. Rok 1831. S. 147.*

**Раецкі (Дунін-Раецкі) Гіпаліт** (1.3.1812–29.9.1886) – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Крэчавічы. У паўстанні дзейнічаў у 13 ул. палку, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. Эмігрыраваў, працаваў кавалём. Належаў да суполкі А. Тавянскага. З 6.10.1834 да 16.11.1843 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 1 адв.; РДВГА-8, арк. 262; DS. T. 6. S. 386; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 355; Krawiec L. Lista członków. S. 56; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 563.*

**Раецкі Францішак** (н. 13.10.1815) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Навагрудку, студэнт. У паўстанні падафіцэр 4 палка лін. пяхоты. З 1832 у Францыі, вывучаў фармацэўтыку ў Парыжы, 27.5.1843 атрымаў дыплом, працаваў аптэкарам у Парыжы. 29.11.1848 атрымаў французскае грамадзянства. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 4; РДВГА-8, арк. 263; Konarska B. Polskie drogi. S. 379.*

**Ражноўскі Антоній** (н. 25.2.1791) – з в. Янава Віцебскай губ., сын Юзафа і Разаліі Свярчэўскай. У паўстанні радавы 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 306.*

**Разбіцкі (Розбіцкі) Леанард** (1802–29.4.1848) – з в. Жухаўка Гродзенскай губ., пар. Літ. корпуса. У паўстанні з 18.5.1831, 13.6.1831 ппар. 4 палка лін. пяхоты. 15.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію, інтэрніраваны. 15.11.1831 прыбыў у Парыж, у 1832 член ПНК, з 23.4.1832 член ПДТ. Удзельнічаў у экспедыцыі Ю. Заліўскага, 3.2.1833 арыштаваны, вярнуўся ў Францыю, затым знаходзіўся ў Англіі, з 10.6.1834 да 26.3.1849 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 364; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 403; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 236; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 93; Krawiec L. Lista członków. S. 42; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 584.*

**Развадоўскі Тадэвуш** (1795–1848) – шляхціц з г. Гродна. У паўстанні пар. 3 палка пешых стральцоў. 10.3.1831 атрымаў залаты крыж за бітву пад Грохавам. 5.10.1831 адышоў з М. Рыбінскім у Прусію,

інтэрніраваны. У студз. 1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. 23.5.1833 выехаў у Англію, з 9.6.1835 да 1.1.1837 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. Памёр у Рэймсе. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 64; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 64, 404; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 93*.

**Развадоўскі Францішак Ксаверый** (16.6.1806–9.4.1887) – шляхціц з Гродзенскай губ, н. у в. Брыкі. У паўстанні ппар. 11 ул. палка. 31.10.1833 прыбыў у Францыю, у 1836–39 вучыўся ў Ветэрынарнай школе ў Альфоры, атрымаў дыплом аб заканчэнні, працаваў у дэп. Сена. З 12.12.1833 член ПДТ, у 1838 член АПЭ. У 1848 атрымаў французскае грамадзянства. Памёр у Мартэне. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 4 адв.; РДВГА-8, арк. 261, 269; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 404; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 364; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 384; Krawiec L. Lista członków. S. 49; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 582.*

**Разенберг Антоній** – з Гродзенскай губ. У паўстанні з 15.12.1830. У студз. 1831 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 398*.

**Разенфельд Юльян –** шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка памешчыка С. Мігановіча. Знаходзіўся сярод дзісенскіх паўстанцаў, удзельнічаў у нападзенні на казакаў у карчме Міхайлаўскай, даставіў у Дзісну 50 кантаністаў. Па рашэнню МГСК ад 2.11.1831 аддадзены пад ваен. суд, атрымаў дараванне. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 389; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 18; РДВГА-11, арк. 329; Dangel S. Rok 1831. S. 148*.

**Ракіцкі Іван** – з Мінскай губ., вучань Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам. З-за малалецтва па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 7 адв.; РДВГА-11, арк. 330.*

**Ракіцкі Караль** (1.1.1799–14.1.1866) **–** шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., н. у Свянцянах, сын Тадэвуша і Барбары Урбановіч. У паўстанні радавы 12 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю і асеў у Ам'ене, на прыканцы жыцця жыў там у прытулку. Памёр у Бавэ. *Bieliński K. Rok 1831. S. 127; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 303.*

**Ракіцкі Станіслаў** – з Віленскай губ. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў, займаўся агітацыяй. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9–13.*

**Ракоўскі Іван** – дваранін з аколіцы Асіпаўцы Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Д. Хлапоўскага. *РДВГА-8, арк. 263.*

**Ралевіч Станіслаў** – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада А. Бронскага, з якім адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 26.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 269*.

**Ральбецкі Юзаф** (н. 1798) – з Гродзенскай губ., сын Хрыстафора і Люцыі Герке, пар. польск. войскаў. У паўстанні з 11.12.1830. 15.9.1831 атрымаў залаты крыж. Аднавіў прысягу расійск. ураду. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 394.*

**Раманоўскі Лявон** – з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 18 адв. – 19; РДВГА-11, арк. 330; Dangel S. Rok 1831. S. 117, 157.*

**Раманоўскі Юзаф** – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты ў атрад Ц. Пуслоўскага. Збег і вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 270*.

**Рамарына Джыралама** (8.4.1792–22.5.1849) – 24.3.1831 прыбыў у Варшаву ў чыне ппалк. франц. арміі. 31.7.1831 ген. дывізіі. 16.9.1831 на чале корпуса перайшоў межы Галіцыі. Вярнуўся ў Францыю, 2.12.1831 прыбыў у Страсбург. Расстраляны ў 1848. *Пузыревский А.К. Польско-русская война; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 371; Domański T.E. Epoka. S. 293; Kocój H. Losy żołnierzy; PSB; Trzy powstania narodowe.*

**Рамкевіч (Ранкевіч) Міхал** – памешчык з мяст. Будслаў Вілейскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю. Па рашэнню МГСК ад 17.6.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 21; РДВГА-11, арк. 324; Dangel S. Rok 1831. S. 147.*

**Расінскі Караль** – з Мінскай губ., канцылярыст. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю. Па рашэнню МГСК ад 17.6.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 21; РДВГА-11, арк. 331; Dangel S. Rok 1831. S. 147.*

**Расінскі Людвік** – з Мінскай губ., тытулярны саветнік, мінскі прыстаў. Хаваў значную колькасць зброі. Утрымліваўся пад арыштам. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.5.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 17; РДВГА-11, арк. 332.*

**Раўкевіч Напалеон** (н. 1809) – з Мінскай губ. У паўстанні падафіцэр завілейска-дзісенскага батальёна, 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 адышоў у складзе корпуса А. Гелгуда ў Прусію, інтэрніраваны. У лют. 1832 прыбыў у Францыю. З 1837 член АПЭ, з 2.4.1848 член ПДТ. Працаваў у друкарні. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *AGAD, PFR, nr 15; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 384; Krawiec L. Lista członków. S. 116; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 571.*

**Раўкевіч Фелікс** – падафіцэр Эстляндскага пях. палка, сын Вінцэнта, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Пакінуў сваю каманду, актыўна ўдзельнічаў у распаўсюджванні паўстання ў Лужках і бітве пад Дзіснай, складаў Акт канфедэрацыі. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 20; РДВГА-11, арк. 323; Dangel S. Rok 1831. S. 147.*

**Рафаловіч Вінцэнт** – з Мазырскага пав. Мінскай губ., пісар мяст. Лахва. Нарыхтоўваў шрот. Узяты пад паліцэйскі нагляд. *РДВГА-11, арк. 323.*

**Рахульскі Юзаф** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., служыў у памешчыка А. Горвата. У паўстанні ў атрадзе Ф. Кеневіча. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 12 адв.; РДВГА-11, арк. 332.*

**Рацык Трафім** (н. каля 1804) – селянін з Гродзенскай губ. У час паўстання ўдзельнічаў у забойстве 2 яўрэяў. Па рашэнню ваен. суда атрымаў 10 палак і сасланы на катаргу. 12.8.1834 прыбыў у Іркуцк. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 492.*

**Рачкевіч** – з Віленскай губ., старшыня земскага суда. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў, з'яўляўся аўтарам адозваў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 12.*

**Рачынскі Юзаф (?)** – з Гродзенскай губ., адвакат гродзенскіх прысутных месц. У паўстанні вахмістр 1 палка конных стральцоў, з 4.10.1831 ппар. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 263; BPP, nr 493.*

**Рашкевіч Юсцін** – мешчанін з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў за межамі губерні. На месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-8, арк. 264; ч. 11, арк. 356*.

**Рдултоўскі –** памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Рыхтаваўся да паўстання разам з Ю. Кашыцам. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4258.*

**Рожыцкі Самуэль** (19.6.1781–2.2.1834) – польск. ген. На пачатку паўстання палк., арганізатар 9 палка лін. пяхоты. 6.7.1831 на чале корпуса накіраваны на Палессе, дайшоў да Белавежскай пушчы. 28.7.1831 пад Нараўкай аб'яднаўся з корпусам Г. Дэмбінскага, у складзе якога 4.8.1831 вярнуўся ў Варшаву. 6.8.1831 ген. брыгады. 26.9.1831 перайшоў межы Галіцыі. 9.5.1832 эмігрыраваў у Францыю, з 27.8.1832 член ТЛРЗ. Памёр у Берне. *Dembiński H. Pamiętnik; яго ж: Pamiętniki o powstaniu w Polsce; Konarski S. Dziennik; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2; Пузыревский А.К. Польско-русская война; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 408; Domański T.E. Epoka. S. 293; PSB; Trzy powstania narodowe.*

**Роланд Францішак** (1.10.1780–5.7.1860) – польск. ген., на вайсковай службе з 1807. У паўстанні з 6.2.1831 ген. брыгады. У маі 1831 накіраваны ў складзе дывізіі А. Гелгуда для дапамогі на бел.-літ. тэрыторыі. З 9.7.1831 кіраваў асобным корпусам, удзельнічаў у бітвах пад Райгорадам, Вільняй, Шаўлямі. 15.7.1831 перайшоў са сваім корпусам межы Прусіі. 9.1.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. Сасланы ў Волагду, у чэрв. 1833 вярнуўся ў Люблін, дзе і памёр. *AGAD, PFR, nr 6, 7, 9, 15, 20; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2; Пузыревский А.К. Польско-русская война; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 391; PSB; Trzy powstania narodowe*.

**Роман Іван –** з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 270.*

**Ронка Яўген** (1790–1.7.1875) – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. на Стаўраполлі ці Уладзікаўказе, меў швейцарскае паходжанне, тытулярны саветнік, афіцэр расійск. войскаў, з 1820 акружны ляснічы Белавежскай пушчы. У паўстанні выступаў ініцыятарам падзей у Белавежскай пушчы, узначальваў апалчэнне, у маі 1831 далучыўся да атрада Д. Хлапоўскага, адышоў у Прусію. Улады жорстка расправіліся з яго сям'ёй, забіты жонка і дзеці, спалены збудаванні. Эмігрыраваў у

Францыю, у сак. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, перабраўся ў Швейцарыю, працаваў ляснічым. Затым пераехаў у Прусію, працаваў меліяратарам, прускія ўлады выслалі яго ў Францыю. Аднак у 1840 зноў вярнуўся ў Міласлаў, займаўся лясніцтвам. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 1 разр. зл., за яго злаўленне была прызначана сума ў 6 тыс. рублёў. *НГАБ-5, арк. 22; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 270; Konarski S. Dziennik; Niemcewicz K.U. Pamiętnik; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 99; Szretter P. Rys historyczny; Kalinka W. Żywot Tadeusza Tyszkiewicza. S. 146; PSB. T. 32. S. 25.*

**Рор Юльян** – юнкер Віленскага пях. палка. Дзейнічаў у складзе атрада Т. Тышкевіча. На месца жыхарства не вярнуўся. Прынята рашэнне аб аддачы пад ваен. суд. *НГАБ-5, арк. 22 адв.; РДВГА-8, арк. 271; ч. 11, арк. 331.*

**Роўба Тадэвуш** – шляхціц з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 23; РДВГА-8, арк. 272.*

**Рудаміна Ігнацій** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., брат Дамініка. У паўстанні з сак. 1831, кіраваў аддзелам, з 1.7.1831 пар. 10 ул. палка корпуса А. Гелгуда. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 23.6.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 18 адв.; РДВГА-11, арк. 337; Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 411.*

**Рудзінскі Антоній** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., вілейскі пав. казначэй. Садзейнічаў захопу грошай з вілейскага казначэйства. Звольнены з пасады. Маёмасць трапіла пад секвестр да моманту вяртання грошай. *НГАБ-5, арк. 23 адв. – 24; РДВГА-11, арк. 333.*

**Рудзінскі Караль** (1810–10.4.1835) – з Мінскай губ., цывільны ўраднік. У паўстанні падафіцэр 12 ул. палка. 15.8.1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Шатору. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 367.*

**Рудніцкі Рыгор** – з Пінскага пав. Мінскай губ., аканом памешчыка Ю. Крашэўскага з маёнтка Баравая. Далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага, на месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-11, арк. 334.*

**Руперт Генрык Вільгельм** (н. 11.9.1805) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Кошыцы, кадэт. У паўстанні ппар. 20 палка лін. пяхоты, з 26.8.1831 пар., 1.9.1831 кап. У складзе атрада Д. Рамарына 16.9.1831 адышоў у Галіцыю. 14.5.1832 прыбыў у Францыю. У 9.4.1834 член ПДТ.

4.10.1868 атрымаў французскае грамадзянства. *Rps BUW, nr 2327; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 128, 315; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 414; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 590*.

**Русецкі Павел** – селянін памешчыка Брахоцкага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Васіля, радавы лейб-гвардыі ул. палка. Захоўваў зброю. Па рашэнню МГСК ад 21.3.1832 утрымліваўся 2 мес. у мясцовай паліцыі. *РДВГА-11, арк. 338; AGAD, MMK, nr 35; Dangel S. Rok 1831. S. 148*.

**Руткоўскі Аляксандр** (п. 4.3.1834) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Т. Тышкевіча, ппар. Трапіў у палон. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. Эміграваў у Францыю, член ПНК. Памёр у дэп. Ланды. *РДВГА-8, арк. 273; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; ND. 1843. S. 145*.

**Руткоўскі Антон** – селянін кн. Радзівіла з маёнтка Явар Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты ў атрад Г. Дэмбінскага. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 272*.

**Руткоўскі Данат –** навіцыянт Глыбоцкага кармяліцкага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ., у манастве Ігнацій. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, эміграваў. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 17 адв.; РДВГА-11, арк. 339; Dangel S. Rok 1831. S. 160*.

**Руткоўскі Ігнацій** (каля 1798–3.5.1851) – з Мінскай губ., аканом памешчыка В. Пуслоўскага. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў. Дапамог Ц. Пуслоўскаму сфарміраваць з насельніцтва падуладных маёнткаў атрад. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. Эміграваў, з чэрв. 1838 да мая 1851 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. *НГАБ-5, арк. 25; РДВГА-11, арк. 340; ф. 405, воп. 2, спр. 4139; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 94*.

**Руткоўскі Казімір** (1790–28.8.1834) **–** з Віленскай губ., кап. польск. войскаў, удзельнічаў у кампаніі 1812–14. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў, з 22.3.1831 кап. 16.4.1832 прыбыў у Францыю, знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ, член мясцовай рады. З'яўляўся членам ТЛРЗ. На радзіме засталіся 6 дзяцей. Пакінуў успаміны пра падзеі на Ашмяншчыне. *Niektyre szczegyly. S. 249–255; РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9; ND. 1843. S. 145; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 54; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 368; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 128; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 417; Gadon L. Emigracja polska. T. 3. S. 193*.

**Руткоўскі Станіслаў (?)** (п. 14.12.1862) – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні падафіцэр 10 палка лін. пяхоты. 15.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Эмігрыраваў, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 10.6.1834 да снеж. 1862 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 15.8.1834 да 16.5.1837 член ПДТ. *Księga pamiątkowa. S. 148; Bieliński K. Rok 1831. S. 127; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 85; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 94; Krawiec L. Lista członków. S. 55.*

**Рушчэўскі Аляксандр** – з мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., вучань Свіслацкай гімназіі. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 25 адв.; РДВГА-8, арк. 275.*

**Рыбінскі Мацей** (24.2.1784–17.1.1874) – польск. ген., з 1806 пачаткова на службе ў франц., затым польск. арміі. У паўстанні з 10.3.1831 ген. брыгады, 11.9.1831 ген. дывізіі. 10.9.1831 прызначаны вярхоўным галоўнакамандуючым польск. войскаў. 5.10.1831 на чале атрада перайшоў межы Прусіі. З крас. 1832 у эміграцыі ў Францыі. Жыў у Парыжы, дзе і памёр, пахаваны на Манмартры. *Rybiński M. Moje przypomnienia; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі. С. 165; Пузыревский А.К. Польско-русская война. Т. 1; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 420; Domański T.E. Epoka. S. 277; Gadon L. Emigracja polska. T. 3; Polacy pochowani. S. 230–233; Przewalski S. Generał Maciej Rybiński; PSB; Trzy powstania narodowe.*

**Рыбіцкі Мікалай** – з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 266*.

**Рыбчык Томаш** – селянін з в. Пескі Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Пад Невелем быў паранены, вярнуўся ў Пескі 14.8.1831. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 275*.

**Рыдзеўскі Павел –** з Пінскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод пінскіх паўстанцаў. Вынесена рашэнне аб адпраўцы ў Астрахань, збег. *Dangel S. Rok 1831. S. 148*.

**Рыла Ксаверый** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 275*.

**Рымарчук Вінцэнт** – селянін памешчыка А. Горвата з маёнтка Нароўля Мазырскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча, пазней пакінуў яго і вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 51; РДВГА-11, арк. 58.*

**Рымашэўскі Юльян** (1812–1872) – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Паўла і Агаты Валчацкай, студэнт ф-та права Віленскага ун-та. У паўстанні пхар. 26 палка лін. пяхоты, затым 16 палка лін. пяхоты. Эмігрыраваў у Францыю, з 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Вывучаў права, з 1841 медыцыну ў Парыжы (?). У 1856 уступіў у дывізію султанскіх казакаў. Памёр у Парыжы. *Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 294; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 370; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 81; Konarska B. Polskie drogi. S. 387.*

**Рымскі Ягор** – селянін памешчыка Красельскага з в. Навакунцы Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў узбр. *РДВГА-8, арк. 266.*

**Рымша Ігнацій** – з в. Лоўчыцы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 13 ул. палка, адышоў з Г. Дэмбінскім у Варшаву. 5.10.1831 з атрадам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У 1832 утрымліваўся ў турме Гданьска. 4.8.1832 прыбыў у Францыю. З 21.9.1833 да 5.8.1835 член ПДТ. З ліст. 1843 у Парыжы, працаваў у польск. бібліятэцы. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 425; Krawiec L. Lista członków. S. 48; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 595–596.*

**Рыпінскі Аляксандр** (10.9.1809 (1811) – пасля 1886) – з Мінскай губ., сын Фелікса і Лізаветы Зброжак, скончыў школу ў Віцебску, ппрап. Рэвельскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап., пісьменнік, этнограф. У паўстанні з крас. 1831, дзейнічаў у Лужках і Дзісне. Прымаў удзел у састаўленні Акта канфедэрацыі. З 15.6.1831 ппар. 7 палка лін. пяхоты корпуса А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 адышоў у Прусію, інтэрніраваны. 7.2.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, затым у Парыжы. З 7.7.1833 член ТЛРЗ. У 1838 член АПЭ. У 1846 перабраўся ў Лондан, працаваў настаўнікам матэматыкі, малюнка і моў, меў уласную друкарню, займаўся фатаграфіяй. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, што скарыстаў у 1859, жыў у Віцебскай губ. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 ад-

несены да 2 разр. зл. *Rypiński A. Białoruś; яго ж: Nasze wię górą ! Spiew historyczny; яго ж: Niaczyścik. Ballada białoruska; НГАБ-5, арк. 20; РДВГА-11, арк. 341; AGAD, PFR, nr 15; KRSW, nr 7571, k. 205; BPP, nr 565; Rps BN, III. 6594, II. 7871, k. 216; Rps BUW, nr 2327; Пачынальнікі; Каханоўскі Г.А. і інш. Беларуская фальклярыстыка; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX ст.; яго ж: Таямніцы старажытных сховішчаў; Піятуховіч М.М. Рукапісы А. Рыпінскага; ЭГБ. Т. 6. Ч. 1. С. 159; Янушкевіч Я. Дынабург; Barszczewska A. Rola Towarzystwa Litewskiego. S. 55; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 65; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 426; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 1. S. 122; Dangel S. Rok 1831. S. 148; Katalog zbiorów Ludwika Gocla. T. 2. S. 119; Olechnowicz M. Polscy badacze folkloru; PSB. T. 33. S. 546–548; Straszewicz J. Les Polonais; Trzy powstania narodowe.*



**Аляксандр Рыпінскі, Люцыян Плятэр, Ян Клот, Аляксандр Пангоўскі.**
*Літаграфія*

**Рыхлевіч Францішак** – шляхціц з Мінскай губ., б. засядацель Вілейскага земскага суда. Дзейнічаў сярод вілейскіх паўстанцаў, пасля іх адыходу хаваўся ў навакольных лясах. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 4.1.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-5, арк. 14 адв.; РДВГА-11, арк. 341; Dangel S. Rok 1831. S. 148.*

**Рыхліцкі Антоній** (15.11.1800–10.1.1840) – з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., сын Войцэха і Дамінікі Глушынскай, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні з 18.3.1831 пар. коннай артылерыі. 8.3.1831 атрымаў сярэбраны крыж за бітву пад Грохавам. 14.10.1831 прыбыў з Модліна ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду, аднак у вер. 1832 эмігрыраваў у Францыю, затым да 19.1.1835 знаходзіўся ў Англіі, 10.6.1834–8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. Працаваў у друкарні. З 25.1.1839 ппар. бельгійскай арміі. Памёр у Бельгіі. *AGAD, KRW, nr 478; Rps BUW, nr 2327; ND. 1843. S. 145; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 370; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 88; яго ж: Słownik biograficzny. T. 3. S. 421; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 94.*

**Рэвенскі Антон** – з Гродзенскай губ., адстаўны юнкер егерскага палка. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *РДВГА-8, арк. 265.*

**Рэвенскі Казімір** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у Гродна, канцылярыст. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 9.9.1831 атрымаў сярэбраны крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрніраваны. У 1832–33 утрымліваўся ў турме ў Гданьску. У студз. 1834 перабраўся ў Францыю, з 5.3.1834 да 24.2.1840 член ПДТ. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 13; РДВГА-8, арк. 265; AGAD, KRW, nr 573; DS. T. 6. S. 385; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 384; Krawiec L. Lista członków. S. 51; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 571.*

**Рэвенскі Ксаверый** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў за мяжу, прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *РДВГА-8, арк. 264; DS. T. 6. S. 385.*

**Рэмбельскі Раймaнд** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, маёнтак Макавяны канфіскаваны. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Рэнчынскі Лаўрэнцій** – ксёндз Навагрудскага дамініканскага кляштара Гродзенскай губ. Праводзіў агітацыю сярод насельніцтва. Пераведзены ў Віленскі дамініканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 266*.

## С

**Сабалеўскі Адольф** – з в. Сакалоўшчына Вілейскага пав. Мінскай губ. Адышоў з паўстанцамі ў Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 31.10.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 52–52 адв.; РДВГА-11, арк. 365; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Сабалеўскі Апалінарый** – з Гродзенскай губ., калежскі рэгістратар, служачы гродзенскага губ. праўлення. Дзейнічаў сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 53; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 296.*

**Сабаткоўскі Фаусцін** – з Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Прызнаны выгнаннікам. *РДВГА-8, арк. 296*.

**Савельеў Іван** – селянін памешчыка А. Горвата з маёнтка Барбарава Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 27; РДВГА-11, арк. 343*.

**Савіцкі** – дваранін з мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 276.*

**Савіцкі** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у апалчэнні навагрудскіх паўстанцаў, затым у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Памёр да вынясення рашэння. *РДВГА-11, арк. 344.*

**Савіцкі** – з Ігуменскага пав. Мінскай губ., аканом памешчыка І. Сніткі. Хаваў зброю. Узяты пад паліцэйскі нагляд. *РДВГА-11, арк. 345.*

**Савіцкі** – з Мінскай губ., канцылярыст Вілейскага пав. суда. Знаходзіўся ў паўст. атрадзе. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 344.*

**Савіцкі Даніла** – селянін памешчыцы Буйніцкай з в. Патупы Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Бенядзікта. Служыў кантаністам у Лужках. Адышоў у Віленскую губ., затым перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню МГСК ад 29.11.1834 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 28; РДВГА-11, арк. 343; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 138, lp. 1; Dangel S. Rok 1831. S. 148.*

**Савіцкі Лаўрэнцій** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты атрадам Д. Хлапоўскага. Захварэў і быў пакінуты ў Коўна. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 277.*

**Савіцкі Міхал** – з Мінскай губ., калежскі рэгістратар. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па канфірмацыі віленскага ваен. губернатара ад 1.7.1833 сасланы ў Казанскую губ. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 402, арк. 1; РДВГА-11, арк. 344.*

**Савіцкі Піліп** – вольны селянін з в. Ждановічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У маі 1831 узяты атрадам Г. Дэмбінскага, служыў у 13 ул. палку. Затым быў залічаны ў атрад Д. Рамарына, з якім перайшоў у Галіцыю, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 277; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76.*

**Савіцкі Юзаф** – вольны селянін з Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага на Піншчыне, затым у складзе атрада навагрудскай конніцы адышоў у Варшаву. У складзе фарміравання М. Рыбінскага 5.10.1831 перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 27 адв.; РДВГА-8, арк. 276; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78; Rps BUW, SRB.*

**Савіцкі Ян** (н. каля 1801) – памешчык з в. Леляканцы Лідскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. штаба Г. Дэмбінскага. 14.9.1831 адз-

начаны залатым крыжам (?). На месца жыхарства не вярнуўся. Эмігравраваў. З 30.12.1833 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 196, арк. 10; РДВГА-8, арк. 276; Księga pamiątkowa. S. 142; Krawiec L. Lista członków. S. 50.*

**Савіч Адольф** (н. 19.10.1809) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Навагрудку, сын адваката, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 25 палка лін. пяхоты. З 1832 у Францыі, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, 1.5.1833 выехаў у Монт дэ Марсан, 28.6.1834 у Бардо. Працаваў памочнікам інструктара дарог і мастоў у дэп. Жыронда, 1.6.1862 прызначаны інструктарам 1 кл., у 1871 атрымаў пасаду галоўнага інструктара. Ажаніўся з француженкай. *Rps BUW, SRB; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 85; Konarska B. Polskie drogi. S. 390.*

**Садоўскі Баўжынец** – пробашч мяст. Мядзел Вілейскага пав. Мінскай губ. Прыводзіў прыхаджан да прысягі. *Dangel S. Rok 1831. S. 160.*

**Садоўскі Ігнацій** – з Гродзенскай губ., аканом. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 279.*

**Садоўскі Юзаф** – дваранін з аколіцы Сядзельнікі Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. У крас. 1831 прымусова ўзяты атрадам Я. Шрэтара, у складзе якога прабыў 2 тыдні. Узяты пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 279.*

**Садоўскі Ян** (17.9.1807–1.12.1842) – з в. Плісы Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Сільвестра, радавы вайсковай службы. У паўстанні радавы 2 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю і жыў у Бавэ. (Па звестках Я. Барткоўскага – у 20.4.1858 знаходзіўся ў Францыі). Па рашэнню МГСК ад 29.9.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 32; РДВГА-11, арк. 346; Rps BUW, SRB; ND. 1843. S. 145; Bartkowski J. Spis Polakyw zmarłych. S. 373; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 313; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Садоўскі Ян Эдвард** (10.6.1805–1.12.1842) – з Мазырскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Нароўля. У паўстанні радавы 6 палка лін. пяхоты. 22(26).10.1832 прыбыў у Францыю. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 373.*

**Сакалоўскі Антоній** – з Гродзенскай губ., н. у Гродна. У паўстанні радавы 19 палка лін. пяхоты. У складзе корпуса М. Рыбінскага 5.10.1831 перайшоў межы Прусіі. *BPP, nr 408, s. 211.*

**Сакалоўскі Ігнацій** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Кароткачасова знаходзіўся сярод паўстанцаў. Вярнуўся на месца жыхарства. *Dangel S. Rok 1831. S. 156.*

**Сакалоўскі Крысцін** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., адстаўны кап. расійск. войскаў. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, скіраваў у паўстанне 2 сваіх сыноў, якія займаліся канцылярскімі справамі ва ўрадавым к-це. Па рашэнню МГСК ад 8.2.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 60 адв.; РДВГА-11, арк. 365; Dangel S. Rok 1831. S. 149*.

**Сакалоўскі Мацвей (Матэуш)** – мешчанін з г. Гродна. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў, да вер. 1834 знаходзіўся ў Англіі, з 10.6.1834 да 8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 297; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 95*.

**Сакалоўскі Тадэвуш** – манах Лідскага кармяліцкага кляштара Гродзенскай губ. Вітаў паўстанцаў пад час іх прыходу ў Ліду. Пераведзены ў іншы кляштар. *РДВГА-8, арк. 298*.

**Сакалоўскі Францішак** (4.10.1807–8.12.1880) – дваранін са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Мсцібава. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Пазней далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, ппар. 3 палка пешых стральцоў, адышоў у Варшаву. 2.2.1832 прыбыў у Францыю, у 1838–41 вывучаў права ў Пуацье, пасля чаго працаваў там бухгалтарам. Член ПДТ. Памёр у Пуацье. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 54 адв.; РДВГА-8, арк. 297; AGAD, WCPL, nr 724, k. 45; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 391; Konarska B. Polskie drogi. S. 400; Krawiec L. Lista członków. S. 62*.

**Сакалоўскі Ціт** (н. 15.8.1810) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Слоніме, сын Канстанціна і Марыі. У паўстанні падафіцэр 2 ул. палка. Адышоў у Прусію. 4.8.1832 прыбыў у Францыю на караблі "Лакс". Са снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Ле Пюі, 24.6.1833 перабраўся ў Каор. 12.1.1834 уступіў у замежны легіён, у 1834–35 на службе ў Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю і жыў у Каоры, за-

тым у Парыжы. 9.3.1847 паўторна завербаваўся ў легіён, служыў у Афрыцы. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 328.*

**Сакалоўскі Эміль Леапольд Юзаф** (н. 20.7.1813) – н. у Слуцку Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. 8.8.1831 у Варшаве ўдзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў у Францыю, член ПНК, працаваў чарцёжнікам у праектным бюро ў Тулузе. У 1846 зацверджаны інспектарам 3 кл. 2.9.1850 атрымаў французскае грамадзянства. Ажаніўся з французжанкай. *AGAD, EPP, nr 1, k. 19; DS. T. 6. S. 386; Konarska B. Polskie drogi. S. 399*.

**Сакалоўскі Юльян** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, з 4.10.1831 ппар. 13 ул. палка. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-5, арк. 54; РДВГА-8, арк. 296; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 386*.

**Сакальскі (Сокальскі) Уладзіслаў** (п. 1841) – з мяст. Даўгінава Вілейскага пав. Мінскай губ. У паўстанні падафіцэр 3 ул. палка. Эмігрыраваў, знаходзіўся ў Англіі, Амерыцы. Памёр у Новым Арлеане. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 390*.

**Саковіч (Сакевіч) Тадэвуш** (п. 1866) – з мяст. Петрыкаў Мазырскага пав. Мінскай губ., сын Лаўрэнція, прыватны настаўнік. Пар. коннага атрада шавельскіх паўстанцаў. Адышоў у Прусію. 15.8.1832 прыбыў у Францыю, працаваў на фабрыцы. Па рашэнню МГСК ад 1.9.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 29 адв.; РДВГА-11, арк. 347; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 373; Dangel S. Rok 1831. S. 148*.

**Салагуб Мацвей** – з Мінскага пав., сын Аляксандра, унтэр-афіцэр Эстляндскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі паўстання ў Лужках, бітве пад Дзіснай. У складзе польск. арміі пар. 19 палка лін. пяхоты. Эмігрыраваў у Францыю, з 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 55–55 адв.; РДВГА-11, арк. 366; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 65; Dangel S. Rok 1831. S. 149; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2.*

**Салагуб Міхал** – селянін памешчыка Агінскага з маёнтка Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Рыгора. Прысягнуў паўстанцам. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 55; РДВГА-11, арк. 366.*

**Салагубік Андрэй** – селянін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў Белавежскай пушчы. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 299.*

**Саліцкі Казімір** (4.3.1811–28.6.1835) – з в. Наўлока Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Ануфрыя і Разаліі Аўсякевіч. У паўстанні радавы 19 палка лін. пях. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы. *Rps BUW, SRB;Bielecki R. Polacy w Legii. S. 314.*

**Самойлавіч Адам** – з в. Блудзень Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 279.*

**Самуйла (Самойла) Яўхім** (20.3.1810–23.5.1882) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Бернарда і Ганны Кайковіч. У паўстанні радавы 11 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, з 17.9.1839 член ПДТ. Памёр у Бардо. Па рашэнню МГСК ад 29.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 33 адв.; РДВГА-11, арк. 349; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 374; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 315; Dangel S. Rok 1831. S. 117; Krawiec L. Lista członków. S. 87.*

**Сапега Яўстафій Каэтан** (7.8.1797–4.11.1860) – кн., памешчык з Гродзенскай губ., сын Францішка і Пелагеі Патоцкай, уладальнік маёнтка Зэльва, адстаўны пар. Прыбыў у Варшаву 18.6.1831, пар. штаба польск. арміі. 13.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. Эмігрыраваў. Член Гісторыка-літаратурнага т-ва. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., пазней прызнаны выгнаннікам. Маёнтак Зэльва канфіскаваны ў 1836. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 175; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 30 адв.; РДВГА-8, арк. 280; BPP, nr 565; Księga pamiątkowa. S. 142; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 374; Gadon L. Z życia Polaków. S. 124; Handelsman M. Adam Czartoryski. T. 2; Polacy pochowani. S. 171–172; PSB. T. 34. S. 597–598.*

**Сарока Ежы** (каля 1750–10.1831) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у Вільні, скальнік. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў. Член ашмянскага ўрадавага к-та. Арыштаваны, сядзеў у турме. Рашэннем ваен. суда асуджаны да смяротнага пакарання. Памёр у турме. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9 адв.; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 284; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; яго ж: Les Polonais; Zbiór pamiętników. S. 255–261*.

**Сарока Леапольд** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Фелікса. Далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, ппар. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 58; РДВГА-8, арк. 300; AGAD, WCPL, nr 724, k. 65.*

**Сарока Фелікс** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Леапольда, адвакат. Далучыўся да фарміравання Г. Дэмбінскага, кап. 13 ул. палка, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 58; РДВГА-8, арк. 300; AGAD, WCPL, nr 724, k. 64; DS. T. 6. S. 385; Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Сасноўскі** – шляхціц. У паўстанні дзейнічаў у Рэчыцкім пав., удзельнічаў у бітве пад Мухаедамі. Забіў расійск. салдата. Эмігрыраваў. *Dangel S. Rok 1831. S. 149*.

**Сасноўскі Юзаф** (23.5.1799 (1807) – 6.4.1895) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Любча, сын Юзафа і Ганны. У паўстанні падафіцэр 10 ул. палка. Адышоў у Прусію. У 1832 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Буржэ, 16.6.1833 пераехаў у Бержэрак, 30.10.1833 – у Ош. Завербаваўся ў замежны легіён, у 1836–38 служыў у Іспаніі, у 1839–42 у Афрыцы. 29.5.1842 звольніўся са службы. З чэрв. 1836 да 1895 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада.



**Ежы Сарока.**
*Партрэт Ю. Куроўскага*

Непісьменны. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 329; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 96.*

**Саўко Францішак** – селянін з маёнтка Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Т. Тышкевіча. Вярнуўся на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 278.*

**Саўчук Мікалай** – селянін з в. Машковічы Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон пад Невелем. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 прысуджаны да аддачы ў салдаты. *НГАБ-5, арк. 29; РДВГА-11, арк. 345; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.*

**Сахановіч Сымон** (1787–1.6.1835) – з в. Шакі (?) Мінскай губ. У паўстанні ппар. Літ.-Вал. легіёна. 6.4.1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Буржэ. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 372.*

**Сахацкі** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ. У час паўстання перабраўся ў КП. На месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-11, арк. 368.*

**Сахацкі Гіпаліт** (п. 1837) – з Гродзенскай губ., пісар Гродзенскага суда. У паўстанні радавы (падафіцэр) 11 ул. палка. Адышоў за мяжу. Загінуў у Іспаніі. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 301; ND. 1843. S. 146; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 390.*

**Свентаржыцкі Людвік** (10.5.1811–1888) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., н. у в. Крывічы Мінскага пав., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні дзейнічаў сярод ашмянцаў, затым падафіцэр атрада пазнанскай конніцы. Адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Вілейскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 4.8.1832 прыбыў у Францыю, працаваў мулярам. З 12.5.1846 член ПДТ. Памёр у Бардо. *DS. T. 6. S. 440; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 426; Krawiec L. Lista członków. S. 102.*

**Свентаржыцкі Мечыслаў** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Станіслава. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў, але вярнуўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., пазней атрымаў дараванне. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 644; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 41 адв.; РДВГА-11, арк. 352; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Свігач Томаш** – селянін памешчыка Мухлінскага з маёнтка Любча Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў ул. у атрадзе Г. Дэмбінскага. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 283.*

**Свіда Міхал** (1784–19.11.1846) – з в. Валішкі Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна Багуслава і Феліцыі Пршыстаноўскай, адстаўны маёр польск. войскаў. Удзельнічаў у паўстанні. Сасланы ў Табольск. У 1832 вярнуўся на месца жыхарства. У 1846 абвінавачаны ў чытанні забароненай літ-ры, памёр да заканчэння следства. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 617*.

**Свіда Пётр** – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Стэфана, брат Септыма. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 8.8.1831 вызвалены ад адказнасці, узяты на 1 г. пад нагляд паліцыі. *НГАБ-5, арк. 31 адв.; РДВГА-11, арк. 350; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Свіда Септым** – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ., сын Стэфана, брат Пятра. Далучыўся да вілейскіх паўстанцаў, выконваў даручэнні С. Радзішэўскага. Пасля адыходу паўстанцаў хаваўся разам з К. Радзішэўскай і іншымі каля Мядзеля. Пазней з'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК атрымаў дараванне, пакінуты на 1 г. пад наглядам паліцыі. *НГАБ-5, арк. 31 адв*.

**Свідэрскі Ксаверый** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 281; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; DS. T. 6. S. 386.*

**Свірскі Іван** (н. 1805) – н. у в. Зубкаў Гродзенскай губ., аканом. У паўстанні дзейнічаў у складзе 19 палка лін. пяхоты, затым 13 ул. палка. 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю ў 1834, знаходзіўся ў Парыжы. З 12.11.1837 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 282; AGAD, PFR, nr 7; BPP, nr 565; Krawiec L. Lista członków. S. 81.*

**Свірскі Марцін** – селянін памешчыка А. Горвата з Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Барбараве. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 35; РДВГА-11, арк. 351.*

**Свяжынскі Пётр** – памешчык са Слуцкага пав. Мінскай губ., сын Казіміра. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага на Піншчыне. 8.8.1831 пад Невелем паранены і ўзяты ў палон. Памёр ад ран у Бабруйскай крэ-

пасці ў 1831. МГСК ад сак. 1833 прынята рашэнне аб канфіскацыі маёнтка. *НГАБ-5, арк. 35 адв. – 36 адв.; РДВГА-11, арк. 352; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Свянтэцкі Фабіян –** са Свянцянскага пав. Віленскай губ., адвакат. Дзейнічаў сярод свянцянскіх паўстанцаў, 20.4.1831 стаў членам часовага ўрада Свянцянскага пав. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 атрымаў дазвол вярнуцца ў свой маёнтак. *Bieliński K. Rok 1831. S. 15–16, 84–85.*

**Свянціцкі Караль** (17.6.1811–5.1883) – з Віцебскай губ., н. у Віцебску, вывучаў медыцыну. У паўстанні пхар. 4 палка пешых стральцоў. Эмігрыраваў у Францыю, у 1833 знаходзіўся ў Манпелье, з 22.6.1836 вывучаў там медыцыну, 23.1.1838 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Эро. 27.7.1847 атрымаў права сталага жыхарства. Удзельнічаў у паўстанні 1863, сасланы ў Сібір, адкуль вярнуўся ў Францыю праз 6 г. Ажаніўся з француженкай, меў 2 сыноў. *Konarska B. Polskie drogi. S. 417.*

**Святліцкі Аляксандр** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., брат Фларыяна. Дзейнічаў у складзе атрада Ю. Кашыца, затым радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. З-за малалецтва рашэннем ГГСК адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 283; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77.*

**Святліцкі Панталеон** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Рамуальда. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 37; РДВГА-8, арк. 282; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77*.

**Святліцкі Рамуальд** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Панталеона. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 37; РДВГА-8, арк. 282; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77*.

**Святліцкі Фларыян** – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., брат Аляксандра. Дзейнічаў у складзе атрада Ю. Кашыца. З-за малалецтва адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 283*.

**Седлікоўскі Вінцэнт** (6.1.1805–26.4.1869) – з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Свіслач, у снеж. 1830 атрымаў чын пар. У

паўстанні з 13.6.1831 пар. артылерыі. У складзе корпуса М. Рыбінскага 5.10.1831 перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Працаваў архітэктарам. З 16.5.1846 член ПДТ. Атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, але застаўся ў эміграцыі. *BPP, nr 408, s. 241; Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 379; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 88; Krawiec L. Lista członków. S. 102.*

**Седлікоўскі Цыпрыян** – памешчык з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 285*.

**Сельвясюк Адам** – селянін памешчыцы Эйсмантавай з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Меў намер далучыцца да атрада Д. Хлапоўскага, але быў арыштаваны казакамі. *РДВГА-8, арк. 287.*

**Семяновіч Караль** (п. 26.1.1843) – з Гродзенскай губ., н. у Гродна. У паўстанні радавы атрада пазнанскай конніцы. У студз. 1834 прыбыў у Портсмут на караблі “Мар’яна”, з 10.6.1834 да студз.1843 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 3.4.1835 да 29.2.1836 член ПДТ. Памёр у Портсмуце. *Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 379; Krawiec L. Lista członków. S. 63; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 94*.

**Сівіцкі –** памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Сфарміраваў асобны атрад, які дзейнічаў на тэрыторыі Навагрудскага пав., затым далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага. Трапіў у палон і памёр у Мінску. *НГАБ-5, арк. 44 адв.; РДВГА-8.*

**Сівіцкі Мікалай** – селянін з в. Марнікава (?) Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы ул. палка. Пасля захопу Варшавы далучыўся да атрада Д. Рамарына, з якім перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 289*.

**Сівіцкі Міхал** (н. 1809) – з Гродзенскай губ., н. у в. Варацэвічы Кобрынскага пав. У паўстанні радавы. Эмігрыраваў. З 29.12.1838 член ПДТ. Непісьменны. *Krawiec L. Lista członków. S. 85*.

**Сідаровіч Андрэй** – селянін памешчыка Пратасевіча з в. Астроўкі Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Тайна пакінуў свайго памешчыка і меў намер далучыцца да паўстанцаў, але быў арыштаваны казакамі. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 290.*

**Сідаровіч Ігнацій** – селянін памешчыцы Несялоўскай з мяст. Рось Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., сын Сцяпана. З мая 1831 кантаніст

у атрадзе Д. Хлапоўскага. Адпраўлены на месца жыхарства. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 40 адв.; РДВГА-8, арк. 290.*

**Сідаровіч Кандыд (?)** – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын святара. Прымусова ўзяты ў атрад Г. Дэмбінскага, радавы атрада навагрудскай конніцы. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 289; AGAD, WCPL, nr 724, k. 78*.

**Сікорскі Антоній –** з Мінскай губ. За ўдзел у паўстанні маёнтак канфіскаваны. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Сініца Вінцэнт** – селянін памешчыка Тызенгаўза з маёнтка Жуцін Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Андрэя. Кантаніст у атрадзе С. Радзішэўскага. Пакінуў паўстанцаў да заканчэння ваен. дзеянняў. Па рашэнню МГСК ад 9.3.1832 аднесены да 3 разр. зл., рашэннем ад 24.10.1832 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 39 адв.-40; РДВГА-11, арк. 358; Dangel S. Rok 1831. S. 149.*

**Сінкевіч Норберт** – з в. Васілішкі (Весялішкі ?) Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у артылерыі. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК ад 26.10.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 90; РДВГА-8, арк. 291*.

**Сіпайла Васіль** – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 291*.

**Скабалановіч Аляксандр –** адміністратар прыходскай уніяцкай царквы ў Глыбокім Дзісенскага пав. Мінскай губ. Збіраў звесткі пра месцазнаходжанне расійск. войскаў, нейкі час выконваў абавязкі паўст. каменданта мяст. Глыбокае. Па рашэнню МГСК ад 15.10.1831 аднесены да 3 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі амнісціраваны. *НГАБ-5, арк. 40 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 163*.

**Скварцоў Ян Аляксандр** (н. каля 1816) – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., н. у Брэсце, жыў у Варшаве. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў, у 1852 жыў у Шэфілдзе (Англія), займаўся замежным гандлем, жанаты, меў сына Яна. 10.4.1852 атрымаў англійскае грамадзянства. За ўдзел у паўстанні канфіскаваны два дамы. *Kaczkowski J. Konfiskaty; Paszkiewicz M. Polacy naturalizowany. S. 108.*

**Скіндар Люцыян** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 291.*

**Скок Дзяменцій (Дамінік)** (п. 1.1.1843) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы 4 палка пешых стральцоў. Эмігрыраваў у Францыю, дзе загінуў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 292; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 383*.

**Скорын Іван** – селянін з маёнтка Пярэсека Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 292.*

**Скочынскі** – са Слуцкага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Адышоў у Кракаў. Эмігрыраваў у Францыю. З 13.6.1836 член ПДТ. *Krawiec L. Lista członków. S. 70.*

**Скродскі Антоній** – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., б. пав. суддзя. Меў зносіны з паўстанцамі Белавежскай пушчы. Арганізоўваў паўстанне ў Кобрынскім пав. *РДВГА-8, арк. 294*.

**Скродскі Іван** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадах Д. Хлапоўскага і Т. Тышкевіча. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 293.*

**Скруткоўскі Міхал** – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., сакратар пав. маршалка. З'яўляўся членам часовага ўрадавага к-та, выконваў абавязкі сакратара. 20.4.1831 увайшоў у склад часовага ўрада Свянцянскага пав. Напісаў некалькі адозваў. Па рашэнню ВГСК ад 11.1.1832 атрымаў дараванне і пакінуты на пасадзе сакратара маршалка. *Bieliński K. Rok 1831. S. 12–16, 92.*

**Скршыдлеўскі Вінцэнт** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Станіслава. Прысягнуў паўстанцам, дастаўляў харчаванне ў дзісенскае апалчэнне. З'явіўся да ўлад у Дзісне. Па рашэнню МГСК ад 30.7.1831 атрымаў дараванне і магчымасць займаць ранейшую пасаду. *НГАБ-5, арк. 46; РДВГА-11, арк. 360.*

**Скршыдлеўскі Тадэвуш** (1808–1.12.1840) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні ппар. артылерыі. Адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Вілейскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм.

28.9.1831 адзначаны залатым крыжам. Эмігрыраваў у Францыю, затым знаходзіўся ў Англіі, з 10.6.1834 да 11.10.1840 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. Памёр у Тулузе. *DS. T. 6. S. 440; Księga pamiątkowa. S. 161; ND. 1843. S. 146; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 384; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 95*.

**Скрш(ж)ыцкі Юзаф** (19.4.1803–18.12.1849) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., з 3.12.1823 на службе ў расійск. арміі, удзельнічаў у вайне з Турцыяй. У паўстанні з 12.4.1831, вахмістр Літ.-Вал. легіёна. Эмігрыраваў у Францыю, у 1835–37 вывучаў права ў Пуацье, там жа ў 1842–46 вучыўся ў мастацкай школе. Член ПДТ. Памёр у Пуацье. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 46; РДВГА-8, арк. 293; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 384; Konarska B. Polskie drogi. S. 395*.

**Скрш(ж)ыцкі Ян** (1807 – пасля 1869) – з мяст. Ляхаўшчына Дзісенскага пав. Мінскай губ. У паўстанні падафіцэр 7 палка лін. пяхоты. Эмігрыраваў у Францыю, у 1834–35 вывучаў медыцыну ў Пуацье, затым у Манпелье (дыплома не атрымаў). Член ПДТ, з 1844 член АПЭ. *Konarska B. Polskie drogi. S. 395*.

**Славенскі Вінцэнт** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., жыў у мяст. Маладзечна, сталяр. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 3 разр. зл., аднак пазней вызвалены ад адказнасці, што зацверджана галоўнакамандуючым 1-й арміі ад 22.3.1832. *НГАБ-5, арк. 48; РДВГА-11, арк. 36; Dangel S. Rok 1831. S. 149.*

**Славінскі Піліп** – з Гродзенскай губ. Далучыўся да расіенскіх паўстанцаў. *РДВГА-8, арк. 294.*

**Славінскі Юзаф** – манах Маладзечанскага кляштара трынітарыяў Вілейскага пав. Мінскай губ. Прыводзіў да прысягі паўстанцаў, затым падафіцэр 13 ул. палка. Рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 10.3.1832 узяты пад паліцэйскі нагляд, справа накіравана касцельным уладам. *НГАБ-5, арк. 46; РДВГА-11, арк. 360; AGAD, WCPL, nr 724, k. 79; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 323; Dangel S. Rok 1831. S. 160*.

**Славінскі Юзаф** (н. 8.8.1811) – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у Лідзе, сын Юзафа і Юзэфіны. У паўстанні радавы 3 палка пешых стральцоў. У 1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Буржэ, 13.6.1833 перабраўся ў Бержэрак. 6.8.1836 накіраваўся ў Іспанію з

намерам уступіць у легіён. У 1836–38 у Іспаніі, пасля чаго вярнуўся ў Францыю. 6.8.1839 паўторна завербаваўся на 3 г., да 1841 у Афрыцы. У 1846 знаходзіўся ў Алжыры. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 323*

**Слатвінскі Антоній** – памешчык з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю. *РДВГА-11, арк. 362.*

**Слатвінскі Эварыст** – памешчык з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю. Аддадзены пад ваен. суд. Утрымліваўся 2 мес. пад арыштам. *НГАБ-5, арк. 49; РДВГА-11, арк. 362.*

**Слізевіч Ян** (24.12.1809 (1810) – 1879) – шляхціц з Брэсцкай губ., н. у Брэсце, вывучаў фармацэўтыку ў Віленскім ун-це. У паўстанні радавы 3 палка пешых стральцоў (па звестках Я. Барткоўскага – пхар. 4 палка пешых стральцоў). 11.3.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. 20.2.1832 прыбыў у Францыю, член ПНК, з 1839 вывучаў фармацэўтыку ў Манпелье, 20.6.1839 атрымаў дыплом аб заканчэнні вышэйшай фармацэўтычнай школы, працаваў аптэкарам у Марселі, двое з яго пяці сыноў таксама былі аптэкарамі ў Манпелье. З 13.3.1836 да 18.7.1837 член ПДТ. *AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Księga pamiątkowa. S. 104; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 424; Konarska B. Polskie drogi. S. 417; Krawiec L. Lista członków. S. 69*.

**Слізень Отан (?)** (1807–1887) – з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Рыхтаваў разам з Ю. Кашыцам паўстанне. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4258; Rps BN, II. 7861; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 616*.

**Смалюковіч Даніла** – селянін памешчыка І. Скірмунта з Пінскага пав. Мінскай губ. Збег ад свайго памешчыка, далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага. Месца знаходжання пад час вынясення рашэння невядома. *НГАБ-5, арк. 50; РДВГА-11, арк. 363.*

**Смалюковіч Іван** – селянін памешчыка І. Скірмунта з Пінскага пав. Мінскай губ. Збег ад свайго памешчыка, далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага. Месца знаходжання пад час вынясення рашэння невядома. *НГАБ-5, арк. 50; РДВГА-11, арк. 363*.

**Смігельскі Андрэй** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., адзін з уладальнікаў маёнтка Юхнава, сын Казіміра, суддзя Вілейскага межавага суда. У паўстанні афіцэр вілейскага апалчэння. Удзельнічаў у бітве пад Вілейкай. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 49; РДВГА-11, арк. 362; Dangel S. Rok 1831. S. 149*.

**Смялеўскі Яўстафій** – з Гродзенскай губ., студэнт. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 50; РДВГА-8, арк. 295.*

**Смяцюк Юзаф** – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў КП. Пасля паражэння паўстання ўзяты ў палон. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 295.*

**Снарскі Антоній** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Калясанція. Прыязджаў у Вілейку, калі там знаходзіліся паўстанцы. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 50 адв.; РДВГА-11, арк. 363; Dangel S. Rok 1831. S. 117*.

**Снарскі Дзіянісій** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрадаў Д. Хлапоўскага і Т. Тышкевіча. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 302*.

**Снітко** – памешчык з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю. Аддадзены пад ваен. суд, па рашэнню якога ўтрымліваўся 2 мес. пад арыштам, пакінуты пад паліцэйскім наглядам. *НГАБ-5, арк. 51; РДВГА-11, арк. 364.*

**Снітко Іасафат** – дваранін з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю. Па рашэнню МГСК ад 16.11.1831 вызвалены ад суда. *НГАБ-5, арк. 51; РДВГА-11, арк. 364.*

**Снітко Іван** – памешчык з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю. Па рашэнню МГСК ад 16.11.1831 вызвалены ад суда. *НГАБ-5, арк. 51; РДВГА-11, арк. 364.*

**Снядэцкі Юзаф** (1800–1859) – памешчык са Свянцянскага пав. Віленскай губ., сын Андрэя, вучыўся ў Віленскім ун-це. Адзін з актыўных дзеячаў у Свянцянскім пав. У сак. 1831 уваходзіў у склад тайнага свянцянскага к-та. *НГАБ-5, арк. 51 адв.; Bieliński K. Rok 1831. S. 11; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 462.*

**Солтан Адам** (2.7.1792–7.2.1863) – гр., памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у Варшаве, сын Станіслава і Францішкі Радзівіл, адстаўны палк. польск. войскаў. Удзельнік кампаніі 1812. 31.5.1831 зняў коней са слонімскай паштовай станцыі і далучыўся да атрада Д. Хлапоўскага, палк., узначальваў конны атрад. 13.7.1831 у

складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю. У 1833 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. У 1836 падарожнічаў па Швейцарыі, Італіі. Памёр у Познані. Па рашэнню ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-5, арк. 56; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 58, арк. 4–4 адв.; РДВГА-8, арк. 300; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 62; яго ж: Pamiętniki. S. 24; Krasiński Z. Listy do Adama Sołtana; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 392; Dangel S. Rok 1831. S. 149; Gadon L. Z życia Polaków. S. 125; Kaczkowski J. Konfiskaty*.

**Солтан Пётр** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. У паўстанні камендант мяст. Даўгінава, прыводзіў да прысягі. 27.6.1831 з'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 19.10.1831 узяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-5, арк. 56 адв. – 57; РДВГА-11, арк. 368; Dangel S. Rok 1831. S. 149*.

**Солтан Юзаф** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ. Да 10.4.1831 выконваў абавязкі памочніка паўст. каменданта мяст. Даўгінава, пасля ад'езду П. Солтана заняў пасаду каменданта. Аддаваў загады аб дастаўцы кантаністаў. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 19.10.1831 узяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-5, арк. 56 адв. – 57; РДВГА-11, арк. 367; Dangel S. Rok 1831. S. 149*.

**Срок Матэвуш** – з Мінскай губ. Дзейнічаў у паўстанні. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 20.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 58 адв.; РДВГА-11, арк. 369; Dangel S. Rok 1831. S. 117*.

**Станевіч Валяр'ян –** з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 11 адв*.

**Станкевіч Ян** – селянін памешчыка Мілачэўскага са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да пінскіх паўстанцаў, дзейнічаў у атрадзе



**Адам Солтан.**
*Літаграфія А. Вальдова*

Ц. Пуслоўскага. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 29.3.1832 аддадзены ў рэкруты. *НГАБ-5, арк. 61; РДВГА-11, арк. 371; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Станскі Канстанцін** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Роберта, уладальніка маёнтка Крайск, брат Якуба. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. У маі 1832 з-за мяжы прасіў літасці. *НГАБ-5, арк. 62; РДВГА-11, арк. 372; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Станскі Канстанцін** (п. крас. 1831) – з Мінскай губ., маёр польск. войскаў. Удзельнічаў у састаўленні Акта канфедэрацыі. Знаходзіўся ў пaўст. апалчэнні, кіраваў артыл. батарэяй. Забіты ў бітве пад Вілейкай. *НГАБ-5, арк. 62; РДВГА-11, арк. 371; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Станскі Якуб** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Роберта, брат Канстанціна. Служыў у вілейскім апалчэнні вахмістрам. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 61 адв.; РДВГА-11, арк. 371; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Стараў Павел** – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у палку улан, дайшоў да Вільні. Бадзяўся па тэрыторыі КП. *РДВГА-8, арк. 303.*

**Старкевіч Пётр** – селянін з в. Сарацні Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 узяты ў палон пад Невелем. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 302*.

**Сташоўскі Мацвей** – селянін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. На пачатку паўстання знаходзіўся на службе ў КП, дзейнічаў як кантаніст. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 303*.

**Сташэўскі Фартунат** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., жыў у г. Дзісна. Прысягнуў паўстанцам. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. Па рашэнню МГСК ад 21.11.1831 пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 372.*

**Стравінскі Адам** – памешчык са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, адышоў у Варшаву, з 4.10.1831 ппар. 13 ул. палка. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 атрымаў

дараванне. *НГАБ-5, арк. 66 адв.; РДВГА-8, арк. 305; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493; DS. T. 6. S. 386.*

**Страйноўскі Кастан** – з Мазырскага пав. Мінскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-11, арк. 374*.

**Стракоўскі Агатон** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў у Вілейцы, дзейнічаў у чыне афіцэра. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 69; РДВГА-11, арк. 375.*

**Стракоўскі Караль** – ксёндз парафіяльнага касцёла з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Захоўваў 3 стрэльбы і порах. *НГАБ-5, арк. 69 адв.; РДВГА-11, арк. 376.*

**Странгульскі** – з Гродзенскай губ. Служыў ад'ютантам Ц. Пуслоўскага. *РДВГА-8, арк. 307; Dangel S. Rok 1831. S. 126.*

**Страшэвіч Юзаф** (п. 5.5.1838) – са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Эмігрыраваў у Францыю. З ліп. 1832 знаходзіўся ў Парыжы. Член ПНК, ТЛРЗ. У 1833–37 разам з У. Плятэрам рэдактар штомесячніка "Le Polonais. Journal des Interets de la Pologne". Аўтар твораў аб Э. Плятэр, каталога біяграфій і фотаздымкаў эмігрантаў. Памёр у дэп. Сена. *Straszewicz G. Pollacchi della; яго ж: Les Polonais et les Polonaises; яго ж: Emilie Plater; яго ж: The life of countness Emily Plater; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; BPP, nr 565; Rps BN, III. 6594; ND. 1843. S. 147; Bieliński K. Rok 1831. S. 127.*

**Стржалка Гілярый** – з в. Янава (с. н. Іванава) Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., афіцыяліст. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 306.*

**Стржалка Кастан (Караль)** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Міхала, служыў у Цімкавіцкай эканоміі. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 305; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77.*

**Стржалка Міхал** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., брат Кастана. Радавы ў атрадзе навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 305; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75*.

**Стржалкоўскі Гілярый –** з Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1834 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 67 адв*.

**Стржалкоўскі Мікалай** – дваранін з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў у Прусію. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 68; РДВГА-8, арк. 306*.

**Стржалкоўскі Пётр Адольф** (п. 1879) – з Гродзенскай губ., вучань віленскай гімназіі. У паўстанні падафіцэр 4 палка пешых стральцоў. 15.11.1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Ліможы. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 403*.

**Стржалкоўскі Якуб** – дваранін з Гродзенскай губ., служачы маёнтка памешчыка Кернажыцкага. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 307*.

**Стржэцкі Вінцэнт** – шляхціц з Мінскага пав. Мінскай губ., сын Антонія, б. студэнт Віленскага ун-та. Удельнічаў у ваен. сутыкненнях з расійск. войскамі. Адышоў у Прусію, затым праз Пілаў у Францыю. Па рашэнню МГСК ад 1.9.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 68 адв.; РДВГА-11, арк. 374; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Стржэцкі Міхал** (п. 27.1.1832) – з Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. у в. Дзядзілавічы (Дзядулевічы ?), студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні пхар. 2 палка пешых стральцоў. Эмігрыраваў. Памёр ад туберкулёзу ў шпіталі. *ND. 1843. S. 147; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 404.*

**Строк Лявон** – селянін памешчыка Булгарына з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Збег ад памешчыка і меў намер далучыцца да паўстанцаў, але быў арыштаваны казакамі. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 308.*

**Струнеўскі Емяльян** – селянін памешчыка Пуслоўскага з Мінскай губ. Ведаў пра падрыхтоўчыя дзеянні Ц. Пуслоўскага. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 70; РДВГА-11, арк. 376.*

**Струпінскі Юзаф** (н. 1811) – з Гродзенскай губ. (па звестках С. Дангеля – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., Я. Барткоўскага – н. у Вільні), сын Яна, унтэр-афіцэр прускага пях. палка прынца Вільгельма, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў і актыўна

ўдзельнічаў у арганізацыі паўстання ў Лужках. Ппар. 19 палка лін. пяхоты, у складзе якога адышоў у Прусію. Эмігрыраваў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-11, арк. 376; AGAD, PFR, nr 15; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 402; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 81; Dangel S. Rok 1831. S. 150; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2.*

**Стрыжэўскі Якуб –** шляхціц з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 69*.

**Ступніцкі Мікалай** – з Гродзенскай губ., сын святара. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 308*.

**Стыпалкоўскі (Стыпулкоўскі) Люцыян** (20.11.1806–15.4.1849) – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у фальварку Завоссе, сын Вінцэнта і Барбары Міцкевіч, вучань школы ў Навагрудку. У паўстанні дзейнічаў у атрадзе навагрудскай конніцы, ппар. 13 ул. палка, у складзе якога дайшоў да Варшавы, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў у Прусію, адпраўлены ў Гданьскую крэпасць. З 1834 у Францыі. З 21.9.1834 да 24.8.1837 член ПДТ. З 1837 жыў у Парыжы (дазвол на пражыванне атрымаў дзякуючы дапамозе А. Міцкевіча). У 1842 кароткачасова належаў да суполкі А. Тавянскага. У 1848 уступіў у легіён А. Міцкевіча, у групу так званых крыжакоў, з'яўляўся блізкім сябрам яго заснавальніка. Займаўся ксілаграфіяй, шмат яго прац надрукавана. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскаваны маёнткі Завоссе і Бялая. У 1839 ажаніўся, меў 2 дзяцей. Паканчыў жыццё самагубствам у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *НГАБ-5, арк. 70 адв.; РДВГА-8, арк. 309; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; DS. T. 6. S. 386; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 405; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 55; Polacy pochowani. S. 142*.

**Стыпалоўскі Ігнацій –** памешчык з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Пастаўляў кантаністаў. *НГАБ-5, арк. 70 адв.*

**Сувястоўскі Станіслаў** – дваранін з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 71; РДВГА-8, арк. 309.*

**Сузін Калікст** (н. 4.4.1809) – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Войская, на службе ў расійск. арміі. У паўстанні ппар., з 30.7.1831 пар.

Эмігрыраваў у Францыю. Удзельнічаў у экспедыцыі Ю. Заліўскага. З 20.1.1842 член ПДТ. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 407; Krawiec L. Lista członków. S. 91.*

**Сумашэўскі Юзаф** (н. каля 1805) – селянін памешчыка Радамінскага з в. Салевічы Дзісенскага пав. Мінскай губ. З чэрв. 1831 кантаніст у дзісенскім апалчэнні пад камандай Ю. Валасоўскага, затым у складзе корпуса А. Гелгуда, у Шаўлях быў адпушчаны. Наняўся на працу ў Ковенскім пав., дзе быў арыштаваны па падазрэнню ў крадзяжы. Па рашэнню МГСК ад 18.4.1832 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 72; РДВГА-11, арк. 377; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 128, lp. 20; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Супрон Васіль** (н. 12.1.1801) – з в. Галенічы Мінскай губ., сын Даніэля і Разаліі. У паўстанні радавы 4 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію, утрымліваўся да канца 1833 у Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, з 1835 у Іспаніі. Па рашэнню МГСК ад 1.12.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 72 адв.; РДВГА-11, арк. 377; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 338; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Сухаверскі (Сухавецкі) Іван** – селянін з казённага маёнтка Густаты Дзісенскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у нападзенні на фальварак Яніжкі і забойстве аканома Бараноўскага і мешчаніна Ф. Гратулевіча. Па рашэнню МГСК аддадзены пад ваен. суд, пакараны 25 палкамі і сасланы на цяжкія работы ў Сібір. *НГАБ-5, арк. 73 адв.; РДВГА-11, арк. 378; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 581.*

**Сухадольскі Валенцій** (14.2.1808–13.11.1852) – шляхціц з Гродзенскай губ., н. у в. Новая Воля (па звестках Б. Канарскай – з в. Рагозніца), на вайсковай службе з 2.1.1825, мастак. У паўстанні з 10.12.1830 ппар., 15.6.1831 пар. 4 ул. палка. 4.10.1831 адзначаны залатым крыжам. 1.7.1832 прыбыў у Францыю, у 1834–40 жыў у Тулузе. З 1840 вучыўся ў парыжскай школе жывапісу, матэматыкі і скульптуры. Памёр у Парыжы. *Księga pamiątkowa. S. 169; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 405; Konarska B. Polskie drogi. S. 405.*

**Сцельскі** – памешчык з Мінскай губ. Арганізаваў асобны атрад, які дзейнічаў у Налібоцкіх, Бакштанскіх, Вішнеўскіх лясах у жн. 1831. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 2441, арк. 12 адв.*

**Сцязанкоўскі (Сцязалькоўскі) Мікалай** – з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 304*.

**Сцяльніцкі Фелікс** – з Віленскай губ. Удзельнік кампаніі 1812. Знаходзіўся сярод пачынальнікаў паўстання ў Ашмянах. Атрад пад яго кіраўніцтвам 15.4.1831 абараняў Ашмяны. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 8 адв.; Пузыревский А.К. Польско-русская война. Т. 1. С. 165; Klukowski J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 229–249*.

**Сцямпкоўскі (Стэмпкоўскі Юзаф)** – шляхціц з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., аканом. У паўстанні (пар. 1 палка конных стральцоў, 4.10.1831 кап. ?), адышоў за мяжу. З 16.12.1832 да 13.6.1835 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 65; РДВГА-8, арк. 304; BPP, nr 493; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 43.*

**Сцяпанаў Казімір** (н. 1807) – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., н. у Брэсце, сын Казіміра і Марыі. У паўстанні радавы 3 палка пешых стральцоў, служыў у корпусе С. Рожыцкага, у 1832 знаходзіўся ў Прусіі. У крас. 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Буржэ, дзе 26.10.1832 уступіў у замежны легіён на 3 г., у 1833 знаходзіўся ў Афрыцы, 26.10.1833 дэзерціраваў, за што пакараны судом 20.12.1833 на 5 г. грамадскіх работ. Пасля вызвалення застаўся ў Францыі. *BPP, nr 408, s. 213; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 334.*

**Сцяпанаў Мацвей** – селянін памешчыка Мігановіча з в. Арханава Дзісенскага пав. Мінскай губ. Аддадзены ў паўстанне Ю. Разенфельдам. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 389*.

**Сцяпанаў Якуб** – з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 65 адв.; РДВГА-11, арк. 373; Dangel S. Rok 1831. S. 117*.

**Сымановіч Рафал** – селянін памешчыка Агінскага з маёнтка Маладзечна Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Казіміра. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 74 адв.; РДВГА-11, арк. 379.*

**Сымановіч Юрый** – з Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. МГСК 21.12.1834 рашэння не вынесла з-за адсутнасці даклад-

ных звестак аб паходжанні і месцы знаходжання. *НГАБ-5, арк. 74 адв.; РДВГА-11, арк. 379.*

**Сядлецкі Казімір –** з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ануфрыя. Па матэрыялах МГСК маёнтак падлягаў канфіскацыі. *Dangel S. Rok 1831. S. 157.*

**Сядлецкі Фелікс** – дваранін з Ігуменскага пав. Мінскай губ. Захоўваў зброю. Рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.2.1832 пакараны на 1 мес. зняволення ў астрозе, пасля чаго пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 355; Dangel S. Rok 1831. S. 141.*

**Сяклюцкі (Сяклецкі) Аляксандр** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-5, арк. 38; РДВГА-8, арк. 286.*

**Сяклюцкі (Сяклецкі) Клеафаст** – дваранін з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў у Францыю, з 30.11.1833 да 8.10.1837 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-5, арк. 38; РДВГА-8, арк. 286; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 49.*

**Сяклюцкі (Сяклецкі) Станіслаў** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 287; DS. T. 6. S. 386.*

**Сяліцкі Казімір** (4.3.1811–28.6.1834) – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ануфрыя і Разаліі, панамар касцёла. У паўстанні радавы. Адышоў у Прусію, у 1833 адплыў з Гданьска на караблі “Юньён”, прыбыў у Гаўр, адкуль на караблі “Граф Келлі” 27.4.1834 прыбыў у Аран, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. Служыў у Афрыцы, дзе і загінуў. Па рашэнню МГСК ад 29.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 41 адв.; РДВГА-11, арк. 355; Rps BUW, SRB; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Сямашка Мацвей (Матэвуш)** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў паўст. атрадзе. Узяты ў палон. Рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад мая 1832 вызвалены ад адказнасці, пакінуты пад наглядам губ. кіраўніцтва. *НГАБ-5, арк. 38; РДВГА-11, арк. 356; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**Сямашка Міхал** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Ляхаўшчына, сын Станіслава, брат Юзафа. Знаходзіўся сярод паўстанцаў у чыне падафіцэра, дзейнічаў у бітве пад Дзіснай. Ппар. 11 ул. палка, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У лют. 1832 прысылаў прашэнне аб дараванні. 28.5.1832 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму з умовай аддачы пад ваен. суд, не вярнуўся. 10.3.1832 прыбыў у Францыю, член ПНК. У 1841–43 знаходзіўся ў дэп. Кальвадос. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны ў 1833. *НГАБ-5, арк. 42 адв.; РДВГА-11, арк. 357; AGAD, PFR, nr 7; EPP, nr 1, k. 19; Rps BUW, SRB; Dangel S. Rok 1831. S. 105, 149.*

**Сямашка Міхал** – селянін з в. Пескі Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты атрадам Д. Хлапоўскага, дайшоў да Модліна. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 288.*

**Сямашка Юзаф** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Станіслава, брат Міхала. Выконваў абавязкі паўст. каменданта Празарокскага ключа. Кіраваў кав. аддзелам у дзісенскім апалчэнні. Арыштаваны і болей за 6 мес. утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці. Па рашэнню МГСК ад 17.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 38 адв. – 39; Dangel S. Rok 1831. S. 148.*

**Сянкевіч Аляксандр Міхал** (11.3.1808–16.8.1868) – н. у Навагрудскім пав. Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Дзейнічаў сярод навагрудскіх паўстанцаў, затым падафіцэр 4 палка пешых стральцоў. 15.3.1831 адзначаны крыжам. 18.8.1832 прыбыў у Францыю, працаваў механікам. 10.3.1848 член ПДТ. Ажаніўся, меў дзве дачкі. *Rps BUW, SRB; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 379; Krawiec L. Lista członków. S. 113*.

**Сяржпінскі (Сярпінскі) Станіслаў** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., адстаўны пар. польск. войскаў. Удзельнічаў у нападзенні на радашковіцкую паштовую станцыю і паліцмайстара Галіеўскага. Па рашэнню МГСК ад 26.10.1831 аднесены да 3 разр. зл. Рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 27.1.1832 аддадзены пад ваен. суд, які пастанавіў у крас. 1832 узяць яго пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-5, арк. 39; РДВГА-11, арк. 357; Dangel S. Rok 1831. S. 149*.

**Сяўко (Сеўка) Сымон** – селянін з маёнтка кн. Чацьвяртынскай Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна перайшоў мяжу КП і далучыўся да паўстанцаў, удзельнічаў у бітвах. Адышоў у складзе польск. войскаў у Прусію, адкуль вярнуўся і быў арыштаваны. Па ра-

шэнню ГГСК ад 12.6.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 41 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 187; РДВГА-8, арк. 284*.

**Сяўрук Станіслаў** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ, аканом маёнтка Плянта памешчыка В. Пуслоўскага. Нарыхтоўваў харчаванне для атрада Ц. Пуслоўскага, заставаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 37 адв.; РДВГА-11, арк. 354*.

# Т

**Табартоўскі Адам** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 310; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77*.

**Табартоўскі Аляксандр –** з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні рашэннем ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 79 адв.*

**Табартоўскі Валяр'ян –** з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., н. у Навагрудку. У паўстанні радавы 13 ул. палка. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў. З 17.8.1834 член ПДТ. *НГАБ-5, арк. 76; Krawiec L. Lista członków. S. 54.*

**Тадайскі Кастан** – святар Мінскай губ. 2.2.1831 абвясціў пастанову польск. сейма. *РДВГА-11, арк. 381*.

**Тадаровіч –** шляхціц з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., служыў у маёнтку Кужалічын памешчыка В. Пуслоўскага Пінскага пав. афіцыянтам. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. *НГАБ-5, арк. 78 адв*.

**Тамашэўскі Стэфан (Сцяпан)** – з Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, з якімі адышоў у Прусію. Эмігрыраваў, да чэрв. 1835 знаходзіўся ў Англіі, з 10.6.1834 да 8.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 3.4.1835 член ПДТ, 31.5.1846 уступіў паўторна ў Лондане. (М. Пашкевіч узгадвае яшчэ аднаго Стэфана Тамашэўскага (каля 1806–13.1.1881) – з 10.6.1834 да снеж. 1881 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, з 1849 – у Лондане, з кастр. 1868 жыў у прытулку). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 81 адв.; РДВГА-11, арк. 391; Dangel S. Rok 1831. S. 117; Krawiec L. Lista członków. S. 63; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 100.*

**Тамінскі Станіслаў** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў атрадзе Г. Дэмбінскага. *РДВГА-8, арк. 312.*

**Танкевіч Юзаф** (н. каля 1800) – селянін з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні, абвінавачваўся ў забойстве і грабяжах. Пакараны палкамі і сасланы на катаргу ў Сібір. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 622.*

**Таньскі Юзаф (?)** – мешчанін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Член ПНК (?). З 1.11.1832 член ТЛРЗ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 312; AGAD, EPP, nr 1, k. 19; Rps BN, II. 7871, k. 165.*

**Тараевіч (Тарацэвіч) Ісідор** (п. 1862) – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., б. засядацель Навагрудскага земскага суда. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. Эмігрыраваў. З 21.9.1834 да 4.4.1837 член ПДТ, у 1848 уступіў паўторна. Памёр у Бавэ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 76 адв.; РДВГА-8, арк. 310; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; Krawiec L. Lista członków. S. 56.*

**Тараевіч (Цераевіч) Фірмін** (н. 3.5.1809) – з Гродзенскай губ., н. у Гродна ці Тараевічах, сын Бенядзікта і Тэрэзы Аберскай. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка. У 1832 утрымліваўся ў Гданьску. 4.8.1832 прыбыў на востраў Экс на караблі “Лакс”, затым накіраваны ў Бардо, адкуль 25.6.1833 адасланы ў Каор, дзе 10.2.1835 запісаўся на 3 г. у легіён. У 1835 знаходзіўся ў Афрыцы, у 1835–38 у Іспаніі, 31.3.1838 звольнены з легіёна. 2.5.1839 запісаўся ў легіён паўторна і да 1842 служыў у Афрыцы. У 1846–54 у дэп. Уаза. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 354.*

**Тарасевіч Лаўрэнцій** (н. 1809 (1811) – селянін з Гродзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. Пакараны 10 палкамі і сасланы на цяжкія работы ў Сібір. Пакаранне адбываў пад Іркуцкам на саляных шахтах. Вярнуўся на месца жыхарства ў 1861. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 623*.

**Тарасовіч Ян** – шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод мазырскіх паўстанцаў. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню КГСК атрымаў дараванне. *Dangel S. Rok 1831. S. 134*.

**Таргоньскі Аляксандр** – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., б. стражнік. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 311*.

**Таргоньскі Антоній** – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., б. стражнік. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 311*.

**Таргоньскі Юльян** – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., б. стражнік. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 311*.

**Таркоўскі (Тарноўскі) Мікалай** – навіцыянт ордэна баніфратаў з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 77; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 16; РДВГА-8, арк. 312*.

**Тарлецкі Ян** (н. каля 1805) – з Мінскай губ., сын Паўла, сакратар Дзісенскага пав. суда. Служыў у апалчэнні дзісенскіх паўстанцаў. Адышоў за мяжу. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Прысылаў з Прусіі прашэнне аб дараванні. У пачатку 1832 вярнуўся і па рашэнню ваен. суда адпраўлены ў Забайкальскі гарнізон. *НГАБ-5, арк. 79; РДВГА-11, арк. 388; Dangel S. Rok 1831. S. 151; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 628*.

**Тарчынскі Аляксандр** – шляхціц з Бабруйскага пав. Мінскай губ., сын Фларыяна. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. 5.10.1831 з атрадам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. Прысылаў прашэнне аб дараванні. Эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 28.2.1833 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 147; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 82; РДВГА-11, арк. 392; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; Dangel S. Rok 1831. S. 118*.

**Татарчук Міхал** – селянін памешчыка А. Орды з Пінскага пав. Мінскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Добраахвотна вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 78; РДВГА-11, арк. 382.*

**Татур Адам** – ксёндз Лужкоўскага піярскага кляштара Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у в. Плёхава Слонімскага пав., сын Яна, брат Ігнація і Хрызастома. Выкладаў у школе ў Лужках польскую, лацінскую мовы і рыторыку. Некалькі гадоў выконваў абавязкі наглядальніка вучылішчаў Гродзенскай, Мінскай губ. і Беластоцкай вобл. У Лужкі прыбыў у ліст. 1830, адзін з ініцыятараў выступлення. Складаў Акт канфедэрацыі, тэкст прысягі, заклікаў прыхаджан касцёла да паўстання. Прыводзіў да прысягі, 25.4.1831 справіў урачыстую службу. Сакратар паўст. к-та ў Лужках па цывільнай частцы. На прыканцы падзей вывез архіў к-та ў маёнтак Р. Падбіпенты Сялец, дзе спаліў яго. Пасля адыходу паўстанцаў хаваўся ў лясах. У чэрв. 1831 з’явіўся да М. Мураўёва ў Глыбокае. Па рашэнню МГСК ад 13.8.1831 аднесены да 1 разр. зл., аднак за паведамленне пэўных звестак яго справа была накіравана галоўнакамандуючаму 1-й арміі. Трапіў пад ваен. суд, які 12.2.1834 вызваліў яго ад адказнасці і аддаў пад нагляд паліцыі. *НГАБ-5, арк. 77 адв.; ф. 1297, воп. 1, спр. 6118; РДВГА-11, арк. 383; Dangel S. Rok 1831. S. 37, 161; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 484–496.*

**Татур Ануфрый** (н. 20.6.1815) – з Ашмянскага пав. Віленскай губ, н. у Ашмянах, сын Ануфрыя і Барбары. У паўстанні падафіцэр 19 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, з 1837 жыў у Пуацье, дзе ўступіў у ПДТ, з 1847 у Ліверноне. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 353.*

**Татур Хрызастом** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Яна, брат Ігнація і Адама. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 313.*

**Татырыс (Татырша) Якуб** (н. каля 1812) – селянін памешчыцы Любецкай з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Філіпа. З крас. 1831 кантаніст сярод дзісенскіх і вілейскіх паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 18.4.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 77 адв.; РДВГА-11, арк. 384; LVIA, f. 437, ap. 5, b. 128, lp. 22; Dangel S. Rok 1831. S. 133.*

**Твардаманскі Ксаверый** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Адама. Падпісаў Акт канфедэрацыі, прызначаны камендантам Празарокскага ключа, сваіх абавязкаў не выконваў. Па рашэнню МГСК ад 23.10.1831 аднесены да 3 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 29.1.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-5, арк. 80; РДВГА-11, арк. 386; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Твардаманскі Станіслаў** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. Па рашэнню МГСК ад 4.11.1831 аднесены да 3 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 10.2.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад наглядам паліцыі. *РДВГА-11, арк. 387; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Твардоўскі** – памешчык з Гродзенскай губ. Меў стасункі з Ц. Пуслоўскім. Аддадзены пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 314*.

**Твардоўскі Ігнацій** – дваранін з аколіцы Абухова Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў у Прусію. Вярнуўся на тэрыторыю КП. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 314*.

**Твардоўскі Юзаф** – памешчык з Пінскага пав. Мінскай губ, калежскі саветнік. Меў стасункі з Ц. Пуслоўскім. Рашэннем МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 80; РДВГА-11, арк. 385*.

**Тоўсцік (Талпіцкі) Антон** – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Пасля паражэння пад Невелем уступіў у атрад Д. Рамарына, знаходзіўся ў абозе. Пасля завяршэння ваен. дзеянняў перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 317.*

**Тоўсцік Юзаф** – селянін з в. Зеляневічы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты ў атрад Г. Дэмбінскага, з якім адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 316.*

**Трамбіцкі Багуслаў** – з Гродзенскай губ., ппар. польск. войскаў. Служыў у паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 318.*

**Трамбіцкі Уладзіслаў** – з Гродзенскай губ., ппар. польск. войскаў. У паўстанні ппар. 1 коннай батарэі, з 4.10.1831 пар. 14.9.1831 адзначаны

кавалерскім крыжам. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 317; BPP, nr 493; Księga pamiątkowa. S. 144.*

**Трафімаў Сцяпан** – селянін з в. Гарычы Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у 3 ул. палку, адышоў у КП. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 78 адв.; РДВГА-8, арк. 318.*

**Трацяк Аляксандр** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Каэтана, гімназіст. Удзельнічаў сярод рэчыцкіх паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Францыю. Па рашэнню МГСК ад 1.9.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 86; РДВГА-11, арк. 393; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Трацэўскі Казімір** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 11 адв.*

**Тржаскоўскі (Тршаскоўскі) Канстанцін** (1801–11.10.1837) – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., н. у Брэсце. У паўстанні пар. 6 палка лін. пяхоты. У крас. 1832 прыбыў у Францыю. Памёр у дэп. Орн. *ND. 1843. S. 148; Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 257; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 435; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2.*

**Трупкоўскі (Трубкоўскі) Марк** (н. каля 1807) – селянін памешчыка Шукевіча з в. Наваельня Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, радавы атрада навагрудскай конніцы. Удзельнік бітвы пад Модлінам, быў паранены. З'явіўся да ўлад, але не паведаміў сапраўднае імя. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 78 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 29 адв.; РДВГА-8, арк. 319; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77.*

**Трусевіч Фёдар** – селянін памешчыка Эйсманта з в. Ябланова Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. У маі 1831 уступіў у атрад Д. Хлапоўскага, служыў дзеншчыкам у пар. Забельскага. Спрабаваў перабраццa ў КП. Арыштаваны ў Кобрынскім пав. і дастаўлены ў Гродна. Сядзеў у Гродзенскім астрозе. Па рашэнню ГГСК ад 25.4.1832 атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 319; Швед В.В. Падзеі і постаці. С. 140.*

**Трэберт Караль** (п. 1833) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Яна, вучань Мінскай гімназіі. Служыў у вілейскім апалчэнні, удзельнічаў у нападзенні на радашковіцкую паштовую станцыю, ппар. Адышоў у Прусію, далей перабраўся ў Францыю. Па рашэнню МГСК ад

26.10.1831 аднесены да 2 разр. зл. У 1834 справа зноў узбуджана, рашэннем ад 24.9.1834 прызнаны выгнаннікам, маёнтак канфіскаваны. Памёр у Ле Пюі. *НГАБ-5, арк. 83–84 адв.; РДВГА-11, арк. 393; ND. 1843. S. 148; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 434; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Трэберт Ян** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Караля. Па загаду паўстанцаў нарыхтоўваў косы, адпусціў у апалчэнне сына Караля. Заставаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 25.1.1832 вызвалены з-пад следства. *НГАБ-5, арк. 83; РДВГА-11, арк. 392; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Тубартовіч Аляксандр** – з Гродзенскай губ., вучань Навагрудскага дамініканскага вуч. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў за мяжу, прасіў літасці. Атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *РДВГА-8, арк. 321.*

**Тубартовіч Валяр'ян** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 320.*

**Туганоўскі (Туханоўскі) Юзаф** (н. 1798) – памешчык з в. Рутка Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., б. дэпутат гродзенскага дваранскага сходу. Падафіцэр атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. З 4.10.1831 ппар. 13 ул. палка. 5.10.1831 з атрадам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Вярнуўся на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 87; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 196, арк. 9 адв.; РДВГА-8, арк. 321; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; BPP, nr 493.*

**Тукала Вінцэнт** – з Віленскай губ., сын Адама, каморнік. Знаходзіўся сярод вілейскіх паўстанцаў, займаўся цывільнымі справамі ва ўрадавым к-це. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 87; РДВГА-11, арк. 394; Dangel S. Rok 1831. S. 150.*

**Тукала Ігнацій Юрый** (1798–29.12.1883) – дваранін з Ашмянскага пав. Віленскай губ. (па звестках Я. Барткоўскага, М. Тыровіча – н. у мяст. Бялагруда Гродзенскай губ.), на вайсковай службе з 1816. У паўстанні з 5.3.1831, кап. вілейскага апалчэння, удзельнічаў у бітве пад Вілейкай, затым пар. 16 палка лін. пяхоты. 1.4.1832 прыбыў у Францыю, пачаткова належаў да закладу ў Люнэлі. У 1846 член ПДТ. Памёр у г. Нера. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., далей справа накіравана ВГСК. *НГАБ-5, арк. 87 адв.; РДВГА-11, арк. 395; Bart-*

*kowski J. Spis Polakyw zmarłych. S. 436; Dangel S. Rok 1831. S. 132; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 708*.

**Тураў Зіновій** – з Мінскай губ., радавы мазырскай інваліднай каманды. Далучыўся да атрада Ф. Кеневіча ў Караліне, удзельнічаў у нападзенні на паштовую станцыю ў Кузьмічах. *НГАБ-5, арк. 87 адв.; РДВГА-11, арк. 396.*

**Турко Іван** – дваранін з Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 323.*

**Турко Юзаф** – селянін памешчыка Куневіча з в. Туркі Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У ліп. 1831 далучыўся да Г. Дэмбінскага. У складзе 8 ул. палка абараняў Модлін. Арыштаваны па дарозе дамоў. Па рашэнню ГГСК ад 15.6.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 78 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 39; РДВГА-8, арк. 322.*

**Туровіч Карнэль** – з мяст. Брагін Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 85 адв.; РДВГА-11, арк. 396; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Турскі Ксаверый** – памешчык з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў у чыне пар. У складзе корпуса А. Гелгуда адышоў за мяжу, прасіў літасці. Атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-5, арк. 85 адв.; РДВГА-8, арк. 322.*

**Турскі Ян** – памешчык з Барысаўскага пав. Мінскай губ. У паўстанні вахмістр коннай артылерыі ў корпусе Д. Хлапоўскага. 4.10.1831 аздначаны сярэбраным крыжам. У чэрв. 1831 аддадзены на парукі дзісенскага маршалка. *Księga pamiątkowa. S. 164; Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Турчыновіч Пётр** (п. 4.8.1831) – манах Мядзельскага кармяліцкага кляштара Вілейскага пав. Мінскай губ. Прыводзіў да прысягі. Памёр ад халеры. *Dangel S. Rok 1831. S. 161*.

**Турчыновіч Фелікс** – селянін з маёнтка Вензавец Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Д. Хлапоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 323*.

**Тызенгаўз Канстанцін** (3.6.1786–16.3.1853) – гр., памешчык з Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ., н. у мяст. Жалудок Лідскага пав. Гродзенскай губ., вывучаў у Віленскім ун-це прыродазнаўчыя навукі, арнітолаг. Удзельнічаў у кампаніі 1812 у складзе расійск. войскаў. Меў стасункі з А. Лапацінскім у падрыхтоўчы перыяд паўстання, надалей супрацоўнічаў з дзісенскім урадавым к-там, дапамагаў матэрыяльнымі сродкамі, пастаўляў зброю і кантаністаў. Справа накіравана ВГСК. Аўтар польскамоўных твораў “Асновы арніталогіі, або Навукі пра птушак” (1841), “Усеагульная арніталогія, або Апісанне птушак усіх частак свету” (1843–46). У сваім маёнтку Паставы стварыў арніталагічны музей і карцінную галерэю. *НГАБ-5, арк. 88; РДВГА-11, арк. 397; Гарбачова В.В. Мастацкая галерэя; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 494; Мысліцелі і асветнікі Беларусі. С. 574; Dangel S. Rok 1831. S. 152; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 474.*

**Тысевіч Ян** (псеўд. Невяровіч Людвік) (1815 (1816) – 15.1.1891) – шляхціц са Свянцянскага пав. Віленскай губ., студэнт Віленскага ун-та, мастак. У паўстанні з сак. 1831, 14.6.1831 падафіцэр, затым ппар. атрада пазнанскай конніцы. У складзе атрада Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. 5.10.1831 з корпусам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. 2.6.1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Безансоне, 6.10.1832 перабраўся ў Шатору, у жн. 1833 высланы ў Лімож. У 1832 член ПНК, 6.5.1837 член ПДТ. Займаўся жывапісам, ілюстраваў кнігі А. Міцкевіча, у 1839 выстаўляўся ў парыжскім салоне. Пазней займаўся продажам він, што прынесла яму значны даход. Памёр у Парыжы. Па тэстаменту ахвяраваў сваю вілу ў Мантмарэнсі закладу Асалінэум на патрэбы маладых польск. мастакоў. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 307, 438; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 3. S. 201; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 167; Bieliński K. Rok 1831. S. 125; Konarska B. Polskie drogi. S. 352, 423.*

**Тышкевіч Людвік** – з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Меў стасункі з Я. Ронкай. Аддадзены пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 324.*

**Тышкевіч Тадэвуш** (17.9.1774–13.4.1852) – гр., памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., н. у Аўгустова, уладальнік маёнтка Свіслач, сын Станіслава, вучыўся ў Варшаве і Вільні. З 1790 у арміі, ген. польск. войскаў, б. сенатар КП. Удзельнік паўстання 1794. З’яўляўся старшынёй сфарміраванага 11.6.1831 Цэнтральнага літ.

урада. Удзельнічаў у варшаўскім сейме. Узнагароджаны кавалерскім крыжам "Virtuti Militari". Адышоў з атрадам А. Гелгуда ў Прусію, адкуль на пачатку 1832 перабраўся ў Парыж, член АПЭ. У Францыі жыў з дочкамі і пляменнікам. Памёр у Парыжы, пахаваны на Пер-Лашэз, у 1939 прах перавезены ў Варшаву. Па рашэнню ГГСК 19.10.1832 аднесены да 1 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-5, арк. 89 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 24; РДВГА-8, арк. 323; ВРР, nr 565; Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 55; Konarski S. Dziennik. S. 19–30; Гарбачова В.В. Тадэвуш Тышкевіч; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2. С. 480; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 440; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 310; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 332; Inskrypcje… w Paryżu – Père-Lachaise. S. 41; Kalinka W. Żywot Tadeusza Tyszkiewicza; Kaczkowski J. Konfiskaty; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; яго ж: Les Polonais; Wojna na Litwie. S. 63.*

**Тышкевіч Юзаф –** урач кляштара з Картуз-Бярозы Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. *НГАБ-5, арк. 78 адв.*



**Канстанцін Тызенгаўз.**
*Літаграфія*
*Ю. Крыгубера*



**Тадэвуш Тышкевіч.**
*Літаграфія*
*Я. Н. Лявіцкага*

**Тышынскі Аляксандр** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Эразма, брат Казіміра. Прысягнуў паўстанцам у Маладзечне. Застаўся на месцы жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 вызвалены ад адказнасці, пакінуты пад наглядам паліцыі. З 1840 у Варшаве, адзін з заснавальнікаў выдання “Biblioteka Warszawska”. *НГАБ-5, арк. 88 адв.; РДВГА-11, арк. 397; Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач. С. 228; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Тышынскі Казімір** – памешчык з Віленскага пав. Мінскай губ., сын Эразма, брат Аляксандра. Па загаду паўстанцаў нарыхтоўваў кулі. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 88 адв.; РДВГА-11, арк. 398; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

## У

**Уласевіч Антоній** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Міхала, брат Каласанція. Займаўся перапіскай папер для лужкоўскага ўрадавага к-та. Вярнуўся на месца жыхарства. З-за адсутнасці дакладных звестак не прыцягнуты да адказнасці. Пасля з’яўлення новых дадзеных 25.12.1834 справа накіравана для далейшага разгляду ў мінскае губ. праўленне. *НГАБ-5, арк. 90; РДВГА-11, арк. 401; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Уласевіч Каласанцій** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Міхала, брат Антонія, вучань піярскай школы ў Лужках. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, займаўся перапіскай папер для лужкоўскага ўрадавага к-та. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад адказнасці, рашэннем ад 12.5.1832 узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-5, арк. 90; РДВГА-11, арк. 401; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Упяровіч Ігнацій** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да атрада Ф. Ке-

невіча. У сутыкненні пад Міхалкамі трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 прызначаны да адпраўкі ў салдаты. *НГАБ-5, арк. 91 адв.; РДВГА-11, арк. 402.*

**Урбель Мікалай –** ксёндз Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Тайна дзейнічаў сярод паўстанцаў. *РДВГА-8, арк. 325.*

**Усікевіч Марэк** (н. 25.4.1807) – з Гродзенскай губ., н. у Лобчыне, сын Аляксандра і Анелі Шыдлоўскай, радавы вайсковай службы. У паўстанні радавы 4 палка пешых стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. 11.6.1837 прыбыў у Бавэ. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 364.*

# Ф

**Фальковіч Сымон** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Уваходзіў у склад атрада Ф. Кеневіча, дзейнічаў у сутыкненні пры Міхалках, дзе ўзяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 прызначаны да аддачы ў рэкруты. Па хадайніцтву памешчыцы П. Абуховічавай атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-11, арк. 403; Dangel S. Rok 1831. S. 127.*

**Фалькоўскі (Фалкоўскі) Геранім –** з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Меў дачыненне да паўстання. У чэрв. 1831 аддадзены на парукі дзісенскага маршалка. *Dangel S. Rok 1831. S. 119.*

**Фалькоўскі (Фалкоўскі) Юзаф** (н. 19.3.1784) – з в. Васілішкі Лідскага пав. Гродзенскай губ., пар. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 кап., належаў да корпуса Г. Дэмбінскага, служыў у 13 ул. палку, у складзе якога адышоў у Варшаву. 30.8.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 64;*

*GP. 17.2.1831; Księga pamiątkowa. S. 138; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 29–30.*

**Фалькоўскі (Фалкоўскі) Юльян** (1815–1.10.1892) – з в. Дубоўчыкі Браслаўскага пав. Віленскай губ., сын Гіпаліта, кадэт Калішскага кадэцкага корпуса. Удзельнік выступлення 29.11.1830. З 10.1.1831 ппар. гвардыі калішскіх паўстанцаў, 1.3.1831 прызначаны ў 13 полк лін. пяхоты. 17.9.1831 атрымаў залаты крыж за абарону Варшавы. Пасля капітуляцыі Варшавы знаходзіўся ў шпіталі. Аднавіў прысягу расійс. ураду. *Księga pamiątkowa. S. 154; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 30.*

**Фальскі Антон** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 325.*

**Фальскі Вінцэнт** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 326.*

**Фастыкоўскі Юзаф** (н. 15.5.1810) – з в. Ванапаль Віцебскай губ., сын Дамініка і Агаты, служачы. У паўстанні радавы 11 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Пасля вяртання ў Францыю ажаніўся з францужанкай. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 131.*

**Фасцішэўскі (Фашчэўскі) Юзаф** (1812–27.3.1838) – з Гродзенскай губ., вучань Свіслацкай гімназіі. У паўстанні афіцэр 11 ул. палка. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. Памёр у Ля-Рашэлі. *НГАБ-5, арк. 95; РДВГА-8, арк. 326; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 132.*

**Федаровіч Бернард** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, падпісаў Акт канфедэрацыі, паставіў у апалчэнне замест сябе 2 шляхціцаў. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 8.2.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 95 адв.; РДВГА-11, арк. 403; Dangel S. Rok 1831. S. 127–128.*

**Федаровіч Трафім** – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, арыштаваны. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны батальён. *РДВГА-8, арк. 327.*

**Федзюкевіч (Федзюковіч) Ян** – селянін з фальварка Дзяковічы Лідскага пав. Гродзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага каля Навагрудка, дайшоў да Варшавы, служыў у 18 лін. палку, паранены ў нагу. Арыштаваны і дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 26.5.1832 аднесены да 2 разр. зл., адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 97 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 18–26; РДВГА-8, арк. 327; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 156, 161.*

**Фёдараў Юзаф** – з Віцебскай губ, сын Ісака і Соф'і. У паўстанні радавы 12 ул. палка. Адышоў у Прусію. У студз. 1834 прыбыў у Гаўр на караблі "Фрау Элізабет", 21.2.1834 запісаўся на 3 г. у замежны легіён, у 1834–35 у Афрыцы, 27.7.1835 перайшоў на службу ў Іспанію. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 353.*

**Фіжан (Філсьен) Жак (Ігнацій)** (н. каля 1775) – дваранін, дырэктар прыватнага жаночага пансіёна ў Гродна. Падазраваўся ў стасунках з М. Шыманскім. Па канфірмацыі ад 29.12.1833 высланы ў глыб Расіі. Прынята рашэнне аб закрыцці пансіёна. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 306; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 162.*

**Філіповіч –** мешчанін з г. Дзісна Мінскай губ. Дзейнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў. З'явіўся з раскаяннем, пратакол МГСК ад 30.7.1831. *Dangel S. Rok 1831. S. 128.*

**Філіповіч Антоній** – селянін памешчыка Б. Асяцінскага з маёнтка Нястанавічы Барысаўскага пав. Мінскай губ. Разам з паўстанцамі адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 29.9.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 96; РДВГА-11, арк. 404; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Філіповіч Антоній** (1809–1869) – з Мінскай губ., н. у в. Ламаценкі, ліцэіст. У паўстанні з 20.3.1831, 29.5.1831 ппар. літ. конніцы. 4.8.1832 прыбыў у Францыю, займаўся вырабам музычных інструментаў. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 134; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 111–112; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 37; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 168.*

**Філіповіч Бенядзікт (Адольф Бенядзікт)** (21.3.1811–1884) – з в. Лабанава (Лабачова ?) Мінскай губ., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні падафіцэр 2 палка лін. пяхоты. Перайшоў межы

Прусіі. 15.8.1832 прыбыў у Францыю. З 27.12.1833 член ПДТ. У 1839–43 вучыўся ў мед. школе ў Рэне, 14.10.1843 атрымаў дыплом афіцэра марской службы, працаваў у дэп. Ілевілен. Меў сям'ю і дзяцей. Напісаў на французскай мове некалькі ўспамінаў, прысвечаных гісторыі польск. эміграцыі. Па рашэнню МГСК ад 1.9.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 96 адв.; РДВГА-11, арк. 405; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 161, 303; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 37; Dangel S. Rok 1831. S. 128; Konarska B. Polskie drogi. S. 261; Krawiec L. Lista członków. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 168.*

**Філіповіч Дамінік** – з Мінскай губ. Разам з паўстанцамі адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 96 адв.; РДВГА-11, арк. 405; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Філіповіч Ерамей** (н. 1.5.1784) – з Гродзенскай губ., н. у в. Цацянова, пар. польск. войскаў. У паўстанні кап. 3 ул. палка, 16.9.1831 перайшоў у складзе атрада Д. Рамарына межы Галіцыі, інтэрніраваны. 15.3.1832 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, 478, 479; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 38.*

**Філіповіч Міхал** (1.11.1789–18.10.1869) – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у мяст. Глыбокае, удзельнік кампаніі 1812. У паўстанні ппар. 11 ул. палка, затым пар. 4 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, інтэрніраваны. У кастр. 1832 прыбыў з Дрэздэна ў Страсбург, са снеж. 1833 у Парыжы, з чэрв. 1838 да 6.8.1848 знаходзіўся ў Англіі і атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, пасля чаго вярнуўся ў Парыж. З 26.3.1833 член ПДТ, з 29.11.1837 член АПЭ ў Лондане. Працаваў настаўнікам музыкі. У Францыі ажаніўся і меў дзяцей. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 38; Polacy pochowani. S. 23; Krawiec L. Lista członków. S. 43; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 72; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 168.*

**Фішэль Мойша** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-2, арк. 666.*

**Фос-Бергель Юльян** – з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., каморнік. Ппар. сярод слонімскіх паўстанцаў, затым падафіцэр 3 палка лін. пяхоты. 30.8.1831 атрымаў залаты крыж. У складзе атрада М. Рыбінскага 5.10.1831 адышоў у Прусію. У студз. 1834 прыбыў у Гаўр. Па

рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. У лют. 1859 амніціраваны, перабраўся ў Ковенскую губ. *НГАБ-5, арк. 94 адв.; РДВГА-8, арк. 328; Księga pamiątkowa. S. 137; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 311; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 44.*

**Французовіч Канстанцін** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Юзафа, пісар маёнтка Густаты. Прысягнуў паўстанцам, дзейнічаў у апалчэнні. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 вызвалены з-пад следства, загадам галоўнакамандуючага 1-й арміі ўзяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-5, арк. 98; РДВГА-11, арк. 408; Dangel S. Rok 1831. S. 132.*

**Фядоскаў Юзаф** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Прымусова ўзяты ў атрад Ф. Кеневіча, які пазней пакінуў і здаўся ўладам. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 95 адв.; РДВГА-11, арк. 404.*

# Х

**Хабржынскі** – памешчык з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 330*.

**Хабржынскі Антон** – памешчык з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., сын Хабржынскага. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 330.*

**Хадаровіч Адам –** з Віленскай губ., бургамістр. Адзін з арганізатараў паўстання ў Ашмянах. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 9.*

**Хадаровіч Антон** – селянін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., меў дом. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, з якім апынуўся ў Прусіі, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16 адв.; РДВГА-8, арк. 331*.

**Хадаровіч Міхал Напалеон** (1805–12.10.(19.5)1878) – мешчанін з г. Навагрудка Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. 16.9.1831 перайшоў з атрадам Д. Рамарына межы Галіцыі. У жн. 1832 эмігрыраваў у Францыю. З 14.9.1833 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Малыя Косіцы канфіскаваны. *НГАБ-5, арк. 104; РДВГА-8, арк. 330; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 93; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 159; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 295; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 48; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 88.*

**Хадароўскі Гілярый Аляксандр** (18.6.1805–15.5.1893) – са Слуцкага пав. Мінскай губ., скончыў Слуцкую гімназію. У паўстанні з 25.3.1831, 15.5.1831 ппар. Надвіслянскага легіёна. 10.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. 11.9.1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Буржэ. 21.6.1837 ажаніўся з француженкай, меў 5 дачок і 5 сыноў, працаваў у дэп. Кальвадос. З 9.9.1848 член ПДТ. У 1858 з'яўляўся інструктарам 3 кл., займаўся балістыкай і ўдасканальваннем агнястрэльнай зброі. 1.7.1858 узяў бестэрміновы адпачынак і пачаў працаваць на расійск. чыгунцы, выконваў абавязкі нам. кіраўніка віленскай лініі. У 1863 вярнуўся ў Францыю. У 1866 член АПЭ. *DS. T. 6. S. 444; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 94; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 295; Konarska B. Polskie drogi. S. 241; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 88*.

**Хаецкі Ян** – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., вілейскі земскі спраўнік, надворны саветнік. Член вілейскага ўрадавага к-та. Па рашэнню МГСК ад 29.10.1831 аднесены да 2 разр. зл., у адпаведнасці з загадам галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 5.5.1832 атрымаў дараванне, пакінуты пад паліцэйскім наглядам. *НГАБ-5, арк. 104 адв. – 105; РДВГА-11, арк. 414; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Халеўскі Антоній** – з Гродзенскай губ., каморнік. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. На месца жыхарства не вярнуўся. *НГАБ-5, арк. 98 адв.; РДВГА-8, арк. 328*.

**Халецкі Вільгельм** (н. 24.3.1808) – шляхціц з маёнтка Станіслававa Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні ппар. З 1832 знаходзіўся ў Францыі, член ПНК. У 1841 вывучаў медыцыну ў Манпелье, дыплома не

атрымаў. З 1847 жыў у Тулузе. *AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bieliński K. Rok 1831. S. 120; Konarska B. Polskie drogi. S. 238.*

**Халявінскі Віктар** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ. Прымаў у сваім доме паўстанцаў на чале з Ц. Пуслоўскім. Заставаўся на месцы жыхарства. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 105 адв.; РДВГА-11, арк. 415; Dangel S. Rok 1831. S. 123.*

**Халявінскі Марцін** – селянін памешчыка Развадоўскага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся ў Навагрудку да атрада Ю. Кашыца, затым апынуўся ў складзе атрада Г. Дэмбінскага. Вярнуўся ў Навагрудак. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 331.*

**Халявінскі Мікалай** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ., сын Віктара. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага, выконваў абавязкі сакратара. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 106; РДВГА-11, арк. 415; Dangel S. Rok 1831. S. 123.*

**Харашэўскі Аляксандр** (п. 24.3.1836) – шляхціц са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні пар. Эмігрыраваў. Памёр у дэп. Ло і Гарона. Па рашэнню ГГСК ад 20.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 108; РДВГА-8, арк. 333; ND. 1843. S. 134*.

**Хараш(ж)эўскі Міхайла** – шляхціц са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 20.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 108; РДВГА-8, арк. 333; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Харжэўскі Юзаф** – з Вілейскага пав. Мінскай губ., настаўнік Маладзечанскага вуч. Прысягнуў паўстанцам, меў намер далучыцца да паўстання. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 99; РДВГА-11, арк. 409; AGAD, MMK, nr 4; Dangel S. Rok 1831. S. 127.*

**Хілюк Ануфрый** – селянін памешчыка Куржанецкага з маёнтка Дубай Пінскага пав. Мінскай губ. Трапіў у атрад Ц. Пуслоўскага як кантаніст. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 410.*

**Хілюк Рыгор** – селянін памешчыка Куржанецкага з маёнтка Дубай Пінскага пав. Мінскай губ. Трапіў у атрад Ц. Пуслоўскага як кантаніст. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 99 адв.; РДВГА-11, арк. 410.*

**Хлапоўскі Дэзідэрый Адам** (23.5.1788–1879) – польск. ген., на вайсковай службе з 1802. У паўстанні з 15.12.1830, 18.5.1831 на чале атрада накіраваны для дапамогі на бел.-літ. землі, 23.5.1831 уступіў у Белавежскую пушчу. Удзельнічаў у сутыкненнях пад Гайнаўкай, Лідай, Аранамі, Вільняй. 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У жн. 1831 вярнуўся ў Польшчу, 2 г. утрымліваўся пад арыштам у Шчэціне. Пакінуў успаміны. *Chłapowski D. Pamiętniki; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 24, арк. 8; спр. 17, арк. 5 адв.; Domeyko I. Powstanie 1830–1831 r. S. 7; Konarski S. Dziennik. S. 18; Zbiór pamiętników o powstaniu Litwy; Źródła do dziejów; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі; История Польши. С. 448; Смит Ф. История польского восстания. Т. 2. С. 265–266; Askenazy S. Generał Dezydery Chłapowski; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 288; Kocój H. Losy żołnierzy; Krasicki K. Wspomnienia; Powstanie 1831 roku na Litwie. S. 129; PSB; Syta A. Generał; Trzy powstania narodowe; Tupalski J. General Dezydery Chłapowski; Wojna na Litwie. S. 40; Ziółek J. Powstanie Listopadowe na Litwe. S. 394.*

**Хлябзевіч Ян** (20.6.1807–3.1.1837) – з в. Грабічы Мінскай губ., сын Давіда і Юліі Бараўшэвіч. У паўстанні радавы 16 палка лін. пяхоты. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Памёр у шпіталі ад ран. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 105.*

**Хлябовіч (Хлябоўскі) Ян** – з Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 101; РДВГА-11, арк. 411; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Хмялеўскі** – з Гродзенскай губ., камердынер памешчыка Слізеня. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 330.*

**Хмялеўскі Караль** (п. 1837) – н. у Слонімскім пав. Гродзенскай губ., з 2.12.1806 на службе ў польск. арміі, з 5.6.1809 кап., удзельнічаў у кампаніі 1812. У паўстанні з 26.3.1831 ппар. 2 палка пешых стральцоў, затым 4 палка лін. пяхоты. 15.9.1831 адзначаны залатым крыжам. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. У 1832 прыбыў у Францыю, член ПНК, належаў да закладу ў Авіньёне, з чэрв. 1833 знаходзіўся ў Парыжы. У маі 1835 уступіў у політэхнічнае т-ва, член музычнай секцыі. Памёр у Амерыцы. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Догвяты канфіскаваны.

*НГАБ-5, арк. 102; РДВГА-8, арк. 329; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; BPP, nr 565; Rps BUW, PJK, nr 562, k. 2; Księga pamiątkowa. S. 147; ND. 1843. S. 134; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 92; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 291; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Хмялеўскі Яўстафій** – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Дзярэчын, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні радавы 2 палка конных стральцоў, з 11.6.1831 падафіцэр, 8.7.1831 ппар. у фарміраванні А. Гелгуда, у складзе якога 13.7.1831 перайшоў межы Прусіі. У студз. 1834 прыбыў у Францыю. Прызнаны выгнаннікам. З 23.7.1837 член АПЭ. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца ў Гродзенскую губ. *РДВГА-8, арк. 329; BPP, nr 565; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 290.*

**Ходзька Міхал** (1.9.1807–24.5.1879) – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у маёнтку Крывічы, сын Яна, стацкага саветніка, і Клары Корсак, брат Напалеона Фелікса, Станіслава Яна, паэт, перакладчык. Член т-ва філаматаў і філарэтаў. Скончыў Мінскую гімназію, студэнт Віленскага ун-та. Пачаткова знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў. К. Пршэздзецкім накіраваны ў Вілейку, дзе ініцыіраваў выступленне, член вілейскага ўрадавага к-та. Ад'ютант С. Радзішэўскага. У складзе рэгулярнай польск. арміі кап. 12 ул. палка. 13.7.1831 з атрадам А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у лют. 1832. Член ПНК і ТЛРЗ. У ліп. 1832 належаў да закладу ў Безансоне. Удзельнік экспедыцыі Ю. Заліўскага, кіраваў дзеяннямі на тэрыторыі Пінскага і Слуцкага пав. У 1834 вярнуўся ў Францыю. З 12.2.1837 да 24.8.1837 член ПДТ, у 1837–45 член АПЭ, пасля належаў да суполкі А. Тавянскага. У 1837–39 разам з Ю. Мячкоўскім і Ф. Рагіньскім выдаваў квартальнік "Polak". Меў кантакты з А. Міцкевічам, займаўся ў Рыме фарміраваннем легіёна Міцкевіча. Пасля вяртання ў Францыю жыў у Баціньёле. Аўтар успамінаў. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *Chodźko M. Wyprawa do Polski; яго ж: Adam Mickiewicz i Legion Polski; яго ж: Artur Zawisza i Michał Wołłowicz; яго ж: Dziesięć obrazów z wyprawy; РДВГА-11, арк. 412; ф. 35, воп. 9, спр. 274, арк. 11 адв.; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Rps BN, III. 6594, II. 7871, III. 7882; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 65; Konarski S. Dziennik. S. 3; ЭГБ. Т. 6. Ч. 2. С. 73; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 94; Gadon L. Emigracja polska. T. 2. S. 257; T. 3. S. 164; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 95, 199; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 296; Dangel S. Rok 1831. S. 123; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny.*

*S. 67; Krawiec L. Lista członków. S. 76; Polacy pochowani. S. 60; PSB; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 88; Wernicki A. Leonard Chodźko.*

**Ходзька Напалеон Фелікс** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. і Свянцянскага пав. Віленскай губ., валодаў маёнткам Крывічы (Вілейскі пав.), сын Яна і Клары Корсак, брат Міхала і Станіслава Яна. У 1827 скончыў Віленскі ун-т. У паўстанні дзейнічаў у Вілейцы, Глыбокім, выконваў абавязкі шэфа аб'яднаных вілейска-дзісенскіх сіл. У складзе рэгулярнай польск. арміі пар. 12 ул. палка. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю ў лют. 1832, у ліп. 1832 знаходзіўся ў Парыжы, член ТЛРЗ. 16.8.1832 належаў да ПНК, у снеж. 1838 у Парыжы далучыўся да АПЭ. З 1853 член Гісторыка-літаратурнага т-ва. Памёр у Парыжы. *НГАБ-5, арк. 104; РДВГА-11, арк. 413; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; BPP, nr 565; Rps BN, III. 6594, II. 7871, III. 7882; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 202, 204; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 295–296; Dangel S. Rok 1831. S. 123; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 65.*

**Ходзька Станіслаў Ян** (11.3.1811–27.6.1880) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у маёнтку Крывічы, сын Яна і Клары Корсак, брат Напалеона Фелікса, Міхала. У паўстанні пачаткова дзейнічаў пад Ашмянамі, знаходзіўся ў падпарадкаванні К. Пршэздзецкага, пасля паражэння пад Румам далучыўся да атрада В. Барткевіча, затым ппар. 12 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, потым Ф. Роланда, з якім 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у лют. 1832, з 13.8.1832 член ТЛРЗ, ПНК. Па рашэнню МГСК ад 30.6.1833 аднесены да 2 разр. зл. Прафесар хіміі Страсбургскага ун-та. Памёр у Парыжы. *НГАБ-5, арк. 103 адв.; РДВГА-11, арк. 413; AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Rps BN, II. 7871, III. 7882; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 95, 202, 204; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 296; Dangel S. Rok 1831. S. 123; Domeyko I. Moje podróże. T. 1. S. 65; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 68; Wernicki A. Leonard Chodźko.*

**Хомеч Каспер** – селянін памешчыка Ю. Шырына з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў у Прусію, інтэрніраваны. *НГАБ-5, арк. 106 адв.; РДВГА-11, арк. 416.*

**Хоміч Васіль** – селянін памешчыка Багурскага з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 332.*

**Хомскі Адольф** (1800–1876) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у Вілейскім пав., сын Ігнація, брат Аўгуста. Належаў да

арганізатараў паўстання ў Дзісенскім пав., удзельнічаў у бітве пад Дзісnай. Ппар. 10 ул. палка, належаў да корпуса А. Гелгуда, затым у 19 палку лін. пяхоты корпуса Ф. Роланда, у складзе якога 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі. Эмігрываваў у Францыю, куды прыбыў у лют. 1832, пачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. У 1832 член ПНК. 18.5.1846 член ПДТ. Памёр у Парыжы. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 151; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 107 адв.; РДВГА-11, арк. 416; AGAD, PFR, nr 7; EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 74; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 298; Dangel S. Rok 1831. S. 123; Krawiec L. Lista członków. S. 97.*

**Хомскі Аўгуст** (н. 1800) – памешчык з Вілейскага і Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ігнація, брат Адольфа. Належаў да арганізатараў паўстання ў Дзісенскім пав., член пав. урадавага к-та, удзельнічаў у бітве пад Дзісnай. Ппар. 27 палка лін. пяхоты, затым 19 палка лін. пяхоты, 15.7.1831 прыбыў з Ф. Роландам у Прусію. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрываваў у Францыю, куды прыбыў у лют. 1832, з 26.5.1832 у закладзе ў Авіньёне. Меў дачыненне да дзейнасці ТЛРЗ. Прымаў удзел у экспедыцыі Ю. Заліўскага, знаходзіўся ў Галіцыі. З 18.5.1846 член ПДТ, выконваў абавязкі бібліятэкара. 25.1.1861 выехаў у Вільню. *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 151; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 107; РДВГА-11, арк. 416; AGAD, PFR, nr 7, 15; Rps BN, III. 6594; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 59; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 282, 298; Dangel S. Rok 1831. S. 123; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 91.*

**Хомскі Юсцін –** памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Ігнація. Знаходзіўся ў Вілейцы пад час выбуху паўстання. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 108; Dangel S. Rok 1831. S. 117.*

**Храноўскі Францішак** – шляхціц з в. Тапары Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Вінцэнта. Удзельнічаў у паўстанні. Па рашэнню МГСК адпраўлены ў сібірскія батальёны. *Dangel S. Rok 1831. S. 124*.

**Храпавіцкі Міхал** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., б. пар. польск. войскаў, б. дзісенскі маршалак. Адзін з арганізатараў паўстання ў павеце, кіраваў аддзелам, палк. кавалерыі. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 13.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 108 адв.; РДВГА-11, арк. 418; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 484–496; Dangel S. Rok 1831. S. 123–124*.

**Храптовіч Юзаф** (н. 19.3.1793) – з Магілёўскай губ., н. у в. Белявічы. У паўстанні з 6.2.1831 пар., 3.4.1831 кап. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 300.*

**Хржаноўскі** – дваранін з Гродзенскай губ., вучань Навагрудскага дамініканскага вуч. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 333*.

**Хржаноўскі Бенядзікт** – памешчык з Вілейскага і Свянцянскага пав. Прыязджаў у Вілейку пад час паўстання. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 108 адв.; РДВГА-11, арк. 418; Bieliński K. Rok 1831. S. 121; Dangel S. Rok 1831. S. 117, 124*.

**Хруцкі Сымон –** уніяцкі пробашч з Гняздзілава Вілейскага пав. Мінскай губ. Прыводзіў да прысягі. *Dangel S. Rok 1831. S. 163.*

**Хялхоўскі Валяр'ян** (27.12.1811–30.5.1872) – памешчык з Вілейскага і Барысаўскага пав. Мінскай губ., н. у в. Хожаў Вілейскага пав., сын Фелікса, студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву. Эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 належаў да закладу ў Авіньёне. Член ПНК. Працаваў у міністэрстве замежных спраў. Па рашэнню МГСК ад 30.6.1834 страціў права на царскую літасць. Памёр у Парыжы. *НГАБ-5, арк. 100 адв.; РДВГА-11, арк. 410; AGAD, WCPL, nr 724, k. 67; EPP, nr 1, k. 17; BPP, nr 565; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 91; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 68; Dangel S. Rok 1831. S. 123*.

## Ц

**Цаканоўскі Францішак** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Выконваў абавязкі паўст. каменданта, збіраў кантаністаў. З'явіўся з раскаяннем. *РДВГА-11, арк. 421*.

**Цалкоўскі Фёдар** – з Гродзенскай губ., стражнік Белавежскай пушчы. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 334*.

**Цамейка Мікалай** – дваранін з Пінскага пав. Мінскай губ. У час паўстання перабраўся ў КП. На месца жыхарства не вярнуўся. *РДВГА-11, арк. 421*.

**Цашкоўскі Міхал** – дваранін з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да віленскіх паўстанцаў, адышоў у КП. *РДВГА-11, арк. 421*.

**Цвіль Тэадор** – з в. Грышкевічы (Грыцкевічы) Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 110; РДВГА-11, арк. 41; Dangel S. Rok 1831. S. 124*.

**Цвірбут Вінцэнт** – шляхціц з Мінскай губ., палясоўшчык з маёнтка Целяханы В. Пуслоўскага. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 110 адв.; РДВГА-11, арк. 419.*

**Церашкевіч Сымон** – дваранін з аколіцы Яўсевічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Прымусова ўзяты ў атрад Д. Хлапоўскага. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 314.*

**Церпілоўскі Адольф** – з Мінскай губ., сакратар Дзісенскага земскага суда, тытулярны саветнік. Дзейнічаў сярод дзісенскіх паўстанцаў, выконваў пасаду наглядальніка за арыштантамі. Па рашэнню МГСК ад 30.7.1831 атрымаў дараванне і дазвол займаць папярэднюю пасаду. *НГАБ-5, арк. 79 адв.; РДВГА-11, арк. 389.*

**Цімаховіч Ян** (н. 12.4.1805) – з в. Крэмяніца Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., сын Тэадора і Тэадоры Конар. У паўстанні радавы 3 палка конных стральцоў. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі, пасля чаго вярнуўся ў Францыю. Ажаніўся з францужанкай, меў дваіх дзяцей. Атрымаў калецтва (страціў правую руку). *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 108.*

**Цімошэк Андрэй** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. З 3.4.1835 да 29.2.1836 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 334; Krawiec L. Lista członków. S. 63.*

**Цітовіч Вінцэнт** – дваранін з маёнтка Дарагобыль Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 336.*

**Цітовіч Уладзіслаў** – дваранін з маёнтка Дарагобыль Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, дайшоў да Варшавы, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў за мяжу, прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 336; DS. T. 6. S. 386*.

**Ціхановіч Павел** (н. каля 1810) – шляхціц з Гродзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, затым у экспедыцыі Ю. Заліўскага, меў сувязь з М. Шыманскім. Рашэннем ад 18.11.1833 сасланы ў Пермскую губ. З мая 1834 у Пярмі, сустракаўся з А. Герцэнам. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 106*.

**Цішэўскі Рамуальд** – дваранін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., сын аканома з маёнтка Ялаўка, брат Тадэвуша. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 315.*

**Цішэўскі Тадэвуш** – дваранін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., сын аканома з маёнтка Ялаўка, брат Рамуальда. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 315*.

**Цыбульскі Іван** – селянін з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Служыў у 22 пях. палку. Узяты ў палон. *РДВГА-8, арк. 335.*

**Цыбульскі Якуб** (н. 1.5.1778) – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., н. у Трокскім пав. Віленскай губ., сын Войцеха і Леанільды Ракент, брат Францішка. Прывёў у Лужкі атрад з 584 чал., які 7.3.1831 далучыўся да дзісенскага апалчэння. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай. У маі 1831 кап. 19 палка лін. пяхоты. 13.7.1831 у складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі. У студз. 1834 прыбыў на караблі “Фрау Элізабет” у Гаўр. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Памёр у Фларыдзе (Амерыка). *НГАБ, ф. 333, воп. 24, спр. 151; ф. 561, воп. 1, спр. 5, арк. 111; РДВГА-11, арк. 419; BPP, nr 565; ND. 1843. S. 134; Bartkowski J. Spis Polakyw zmarłych. S. 102; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 315; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 311; Dangel S. Rok 1831. S. 124.*

**Цывількоўскі Тадэвуш** – шляхціц з Мінскай губ., пісар з маёнтка Барысаў кн. М. Радзівіла. Меў дачыненне да нарыхтоўкі зброі і пораху пад кіраўніцтвам кап. польск. войскаў І. Гнатоўскага. У якасці пакарання рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 25.1.1832 утрымліваўся 2 тыдні ў астрозе. *НГАБ-5, арк. 112; РДВГА-11, арк. 421; Dangel S. Rok 1831. S. 124, 129.*

**Цыдзік Вінцэнт** – дваранін з Гродзенскай губ. У паўстанні падафіцэр атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 112 адв.; РДВГА-8, арк. 335; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; DS. T. 6. S. 386.*

**Цыдзік Караль** – дваранін з Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і адпраўлены на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 113; РДВГА-8, арк. 335; ч. 11, арк. 421*.

**Цымаховіч Іван** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 334*.

**Цыплінскі Павел** (н. каля 1812) – шляхціц з Гродзенскай губ., сын Ігнацыя, карнет гус. палка. Звязаны з кружком М. П. Сунгурава. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Рашэннем ваен. суда прызначаны да пакарання смерцю. Па канфірмацыі ад 24.12.1831 сасланы на пасяленне ў Сібір. У 1845 атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 107*.

**Цырбут** – шляхціц з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 32.*

**Цытовіч Вінцэнт** – шляхціц з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні аднесены ГГСК да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 113.*

**Цэханоўскі Вінцэнт** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Івана, аканом з маёнтка Гарадзец памешчыка Брахоцкага. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Пасля адыходу польск. рэгулярных войскаў хаваўся, арыштаваны ў Кажангарадку. *НГАБ-5, арк. 113.*

**Цэханоўскі Іван** – з Гродзенскай губ., стражнік. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 337*.

**Цэханоўскі Францішак** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Пятра. Выконваў абавязкі паўст. каменданта мяст. Гарадок. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 18.1.1832 вызвалены ад праследавання, пакінуты пад наглядам паліцыі. *НГАБ-5, арк. 113 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 124*.

**Цюлюк Юрый** – селянін памешчыка М. Мержаеўскага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў разам са сваім памешчыкам. Адышоў у Прусію. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 337*.

# Ч

**Чакерскі Збігнеў** – з Гродзенскай губ., вучань Навагрудскага дамініканскага вуч. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 338*.

**Чаляхоўскі Ігнацій** – селянін памешчыка Воўка з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Адышоў за мяжу, прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 341*.

**Чапліеўскі (Чаплеўскі) Леан** (1.9.1801–8.12.1868) – з Мінскай (Віленскай) губ., н. у в. Гарадзец. У паўстанні з 1.1.1831 ппар. 17 палка лін. пяхоты, пар. 4 палка лін. пяхоты, затым 16 палка лін пяхоты. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у ліст. 1832. 21.8.1838 далучыўся да АПЭ, 13.3.1848 член ПДТ. *MWP, 40 H; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 103; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 110, 316; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 321; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 104.*

**Чапскі Габрыэль** – шляхціц з Барысаўскага пав. Мінскай губ. Выконваў абавязкі сувязнога з ашмянскімі паўстанцамі. Быў адасланы ў Барысаўскі пав. для ўздыму паўстання. Па рашэнню МГСК ад 8.2.1832 узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-5, арк. 114 адв.; РДВГА-11, арк. 422; Dangel S. Rok 1831. S. 124.*

**Чаранкевіч Леапольд** – з Гродзенскай губ., канцылярыст гродзенскай казённай палаты. Служыў у атрадзе Т. Тышкевіча. *РДВГА-8, арк. 341.*

**Чарашэнка Ян** – з Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК ад 19.11.1834 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 119; РДВГА-11, арк. 425; Dangel S. Rok 1831. S. 125*.

**Чаркоўскі Адам** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК ад 13.7.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 114 адв.; РДВГА-8, арк. 338; Dangel S. Rok 1831. S. 124.*

**Чарнаброваў Д.** – з Гродзенскай губ. У 1831 знаходзіўся ў КП. Служыў у 2 конна-егерскім палку. Пасля паражэння паўстання перабраўся ў Галіцыю. Па рашэнню ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 343.*

**Чарнецкі** – селянін памешчыка Т. Дамейкі з Вілейскага пав. Мінскай губ., музыкант будслаўскага кляштара. Дзейнічаў у вілейскім апалчэнні. У кляштар не вярнуўся. *НГАБ-5, арк. 116; РДВГА-11, арк. 423.*

**Чарнецкі Антоній** (1811–7.5.1839) – з Навагрудскага пав. (?) Гродзенскай губ., н. у в. Волкавічы (Водкавічы). У паўстанні ўдзельнік выступлення 29.11.1830, з 6.2.1831 пар., 13.6.1831 кап. Удзельнік атрада Ю. Заліўскага, паранены пад Вільняй. 19.8.1831 уваходзіў у 5 полк лін. пяхоты. 6.4.1831 адзначаны залатым крыжам. Адышоў у Галіцыю. Перабраўся ў Францыю ў ліп. 1832. Маёнтак канфіскаваны ў 1834. У 1838 працаваў у друкарні. Памёр у дэп. Луарэ. *AGAD, KRW, nr 556; MWP, 40 H; Księga pamiątkowa. S. 111; ND. 1843. S. 134; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 110; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 324.*

**Чарнецкі Караль** (н. 28.5.1798) – з Гродзенскай губ., скончыў Калішскі кадэцкі корпус, пар. польск. войскаў. З 6.2.1831 кап. 2 кл., 11.9.1831 атрымаў крыж "Virtuti Militari". 13.10.1831 прыбыў з Модліна ў Варшаву. Аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, 478; Księga pamiątkowa. S. 141; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 325.*

**Чарнецкі Юзаф** (н. 12.10.1808) – з в. Мухаеды Мазырскага пав. Мінскай губ., сын Андрэя і Разаліі Шылінд, карнет. Дэзерціраваў і далучыўся да атрада А. Гелгуда, з мая 1831 пар. Удзельнічаў у бітвах пад Вільняй, Шаўлямі. Трапіў у палон, збег. Эмігрыраваў у 1832 у Францыю,

член ПНК. У 1837 далучыўся да АПЭ. *AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 324; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 231, 270.*

**Чарніцкі Казімір –** з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 11 адв.*

**Чарніцкі Пётр** (29.6.1810–14.10.1874) – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у Пружанах, сын Ігнація і Кунегунды Віткоўскай, конны стражнік. У паўстанні падафіцэр 1 палка конных стральцоў. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келлі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. 29.10.1834 за крадзеж асуджаны на 5 г. цяжкіх работ, адбываў пакаранне ў Тулоне. Пасля працаваў токарам, ажаніўся, меў сына і дачку. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 112.*

**Чарноўскі Іван** – селянін з в. Чортавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ. Збег ад свайго памешчыка і далучыўся да паўстанцаў. *РДВГА-11, арк. 423.*

**Чарнышэвіч Яўхім** – памешчык з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. Эмігрыраваў. З 21.9.1834 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 342; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; DS. T. 6. S. 385; Krawiec L. Lista członków. S. 55.*

**Чарняўскі (Чарнеўскі) Антоній** (н. 13.12.1804) – з Мінскага пав. Мінскай губ., н. у Ракаве. У паўстанні з 2.4.1831 кап. корпуса А. Гелгуда. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у 1832. У 1832 член ПНК, 12.5.1848 член ПДТ. 17.5.1848 уваходзіў у склад легіёна А. Міцкевіча. У студз. 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, што і скарыстаў. *AGAD, EPP, nr 1, k. 17; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 110; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 332; Krawiec L. Lista członków. S. 117; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 109.*

**Чаховіч Антоній** (11.4.1803–22.7.1866) – з маёнтка Аборак Ашмянскага пав. Віленскай губ., сын Юзафа і Барбары Тэклі Шэметыл. У 1826–30 знаходзіўся ў Пецярбургу. 23.3.1831 далучыўся да ашмянскіх паўстанцаў, пар. У крас. 1831 у Трокскім пав. далучыўся да атрада студэнтаў Віленскага ун-та, затым пхар. 4 палка пешых стральцоў корпуса А. Гелгуда. Удзельнічаў у бітве пад Вільняй. У складзе атрада Ф. Роланда 15.7.1831 перайшоў межы Прусіі, адкуль на караблі "Віжылант"

15.8.1832 прыбыў у Францыю. Першапачаткова знаходзіўся ў закладзе ў Бардо, затым у Шатору, адкуль пераехаў у Буржэ. Да 1835 пражываў у вайсковых закладах, затым асеў у Парыжы і авалодаў мастацтвам дрэварыта. У 1843 член Т-ва 3 мая. 25.5.1848 уступіў у легіён Міцкевіча. У 1838 ажаніўся, меў 5 дзяцей. Памёр у Парыжы, пахаваны на Манмартры. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 110, 159, 178; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 328; Polacy pochowani. S. 67.*

**Чаховіч Антоній** (н. 1802) – з Мінскай губ., н. у в. Рымовічы. У паўстанні з 23.3.1831, 1.4.1831 пар. 4 палка пешых стральцоў, паранены пад Вільняй. 13.7.1831 прыбыў з корпусам А. Гелгуда ў Прусію. 18.3.1832 прыбыў у Францыю. Ажаніўся з францужанкай, меў сына. Працаваў настройшчыкам музычных інструментаў. У 1837 член АПЭ, 5.3.1837 далучыўся да ПДТ. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 110, 159, 178; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 328–329; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 107.*

**Чаховіч Бернард** – памешчык са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Увайшоў 20.4.1831 у склад часовага свянцянскага ўрада. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.11.1831 загадана аднавіць прысягу на адданасць. *Bieliński K. Rok 1831. S. 15–16, 84–85.*

**Чаховіч Даніэль Ксаверый** (1810–7.12.1835) – памешчык з маёнтка Свянцянка Свянцянскага пав. Віленскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 10 ул. палка. 10.9.1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Шатору. У ліст. 1834 знаходзіўся ў Парыжы. Памёр у дэп. Сена, пахаваны на Манпарнасе. *ND. 1843. S. 134; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 329; яго ж: Zarys rozproszenia. S. 159; Bieliński K. Rok 1831. S. 121*.

**Чаховіч Юзаф** – памешчык са Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні ппар. У 1833 інтэрніраваны аўстрыйскімі ўладамі з Кракава, высланы з Трыеста ў Паўночную Амерыку. *Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 1. S. 329; Bieliński K. Rok 1831. S. 121*.

**Чахоўскі Іван** – з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 338.*

**Чоган Казімір** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 344*.

**Чудоўскі Люцыян Валяр'ян** (н. 1809) – з маёнтка Вайнілаўцы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., скончыў Свіслацкую гімназію. У паўстанні з 5.9.1831 ппар. 4 ул. палка. Эмігрыраваў у Францыю, куды прыбыў у жн. 1832. З 24.5.1846 член ПДТ. Удзельнічаў у паўстанні 1863, узяты ў палон і сасланы ў Сібір. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 110; яго ж: Słownik biograficzny. T. 1. S. 336; Krawiec L. Lista członków. S. 99; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 113.*

**Чыж Самуэль** – з Гродзенскай губ., ппар. польск. войскаў. У паўстанні кап. У складзе корпуса Д. Рамарына 16.9.1831 перайшоў межы Галіцыі, інтэрніраваны. 12.5.1832 вярнуўся ў Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. *AGAD, KRW, nr 477, k. 548.*

**Чыжык Вінцэнт** – з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёмасць канфіскавана. *Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Чэрнік Аляксандр** (1814–15.12.1886) – шляхціц з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., вучань навагрудскай школы, студэнт Віленскага ун-та (?). У паўстанні радавы атрада навагрудскай конніцы фарміравання Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў у Францыю, у 1840–44 вучыўся ў аграрнай школе ў Грыньёне, дыплома не атрымаў, пэўны час працаваў па спецыяльнасці, меў добры дастатак. З 15.6.1835 член ПДТ, сакратар т-ва былых вучняў польск. школы. Памёр у Парыжы. *НГАБ-5, арк. 118; РДВГА-8, арк. 342; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77; DS. T. 6. S. 386; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 107; Konarska B. Polskie drogi. S. 245; Krawiec L. Lista członków. S. 66.*

# Ш

**Шабанскі Францішак** – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., арандаваў маёнтак Калядзічы. Дзейнічаў сярод паўстанцаў у Слонімскім пав. Прасіў літасці, атрымаў дазвол на вяртанне. Па рашэн-

ню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. У 1833 меў дачыненне да дзейнасці М. Валовіча, дапамог яму пад час хваробы. Арыштаваны і адпраўлены радавым у асобны Каўказскі корпус. У ліст. 1834 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-5, арк. 122; НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 352, арк. 52–53 адв., 237, 414, 422; РДВГА-8, арк. 344; Kaczkowski J. Konfiskaty; Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa emisariusza. S. 34*.

**Шаблоўскі Юзаф** (1807–17.3.1837) – з аколіцы Сорактатар Троцкага пав. Віленскай губ., татарын, б. вучань віленскай гімназіі, юнкер віленскага пях. палка. Дзейнічаў у складзе атрада Д. Хлапоўскага, пад кіраўніцтвам Т. Тышкевіча. 15.8.1832 прыбыў у Францыю. Памёр у дэп. Манш. Прынята рашэнне аб аддачы пад ваен. суд. *РДВГА-8, арк. 345; ND. 1843. S. 147; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 408.*

**Шабуцкі Антоній** – селянін памешчыка Рэута з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Кантаніст у дзісенскім апалчэнні. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-11, арк. 427.*

**Шадурскі** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ. Служыў у дзісенскім апалчэнні. *РДВГА-11, арк. 428*.

**Шалевіч Антон** – з Гродзенскай губ., стражнік Белавежскай пушчы. У яго доме збіраліся асобы, якія рыхтавалі выступленне ў Белавежскай пушчы. Па рашэнню ГГСК узяты пад нагляд паліцыі. *РДВГА-8, арк. 345*.

**Шалевіч Тадэвуш** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 346*.

**Шаленін Адам** – уніяцкі святар з г. Вілейка Мінскай губ. Правёў для паўстанцаў на плошчы ў Вілейцы святочную службу. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 127; РДВГА-11, арк. 431.*

**Шалкоўскі Каспер** – шляхціц з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Рыгора. Знаходзіўся сярод дзісенскіх і вілейскіх паўстанцаў. Узяты ў палон. Вызвалены ад адказнасці на падставе рашэння МГСК ад 18.4.1832. *НГАБ-5, арк. 131; РДВГА-11, арк. 433.*

**Шалюта (Шэлюта) Вінцэнт** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню

ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 128; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 49, арк. 16; РДВГА-8, арк. 348*.

**Шалюта (Шэлюта) Казімір** – селянін з маёнтка Пацэвічы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Аддадзены памешчыкам Абуховічам у атрад Д. Хлапоўскага. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 349*.

**Шалюта (Шэлюта) Францішак** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., жыў у Слуцкім пав. Дзейнічаў сярод навагрудскіх паўстанцаў, дайшоў да Варшавы, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Адышоў у Прусію, прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Пазней справа разглядалася МГСК, якая 21.12.1833 накіравала яе ГГСК. Пры паўторным разглядзе ГГСК вынесла рашэнне аб дараванні. *НГАБ-5, арк. 128; РДВГА-8, арк. 349; DS. T. 6. S. 386.*

**Шамойлавіч Францішак** – з Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Трапіў у палон на тэрыторыі Гродзенскай губ. *НГАБ-5, арк. 123 адв.; РДВГА-11, арк. 429*.

**Шамяціла Фёдар (Тэадор)** – з Пінскага пав. Мінскай губ., пісар памешчыка Ю. Крашэўскага. Далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага. На месца жыхарства не вярнуўся. *НГАБ-5, арк. 128 адв.; РДВГА-11, арк. 431.*

**Шандаровіч Абрам** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 9.*

**Шандэра (Шэндэр) Максім** – селянін памешчыка Куржанецкага з Пінскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага кантаністам. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 129; РДВГА-11, арк. 432.*

**Шанец** – дваранін з Мазырскага пав. Мінскай губ., каморнік. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча прымусова. З’явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 129 адв.; РДВГА-11, арк. 432.*

**Шанціроўскі (Шаціроўскі) Яўхім** – селянін памешчыка Храптовіча з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Ю. Кашыца. Апынуўся ў Варшаве ў складзе 13 пях. палка, трапіў у палон, дас-

таўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 26.10.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 124; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 229; РДВГА-8, арк. 347*.

**Шаняўскі Міхал** – шляхціц з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., аканом маёнтка Барбарава памешчыка А. Горвата. Пад час знаходжання атрада Ф. Кеневіча ў Барбараве выконваў патрабаванні паўстанцаў. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 124; РДВГА-11, арк. 429.*

**Шапялевіч Іван** (н. каля 1813) – селянін памешчыка Рымшы з в. Лоўчыцы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Г. Дэмбінскага, у складзе якога дайшоў да Варшавы. Удзельнічаў у бітве пад Модлінам. Затрыманы ў Ціханаўцы. Па рашэнню ГГСК ад 17.7.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 100; РДВГА-8, арк. 350*.

**Шапяцінскі (Шчапятоўскі, Шчапялеўскі)** (н. 6.12.1799) – з Мінскай губ., н. у Мінску, сын Матэвуша і Стэфаніі. У паўстанні служыў у дзісенскім апалчэнні пад камандай В. Брахоцкага, з якім перайшоў у Віленскую губ. 18.7.1834 у Тулоне запісаўся на 3 г. у замежны легіён, у 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Вярнуўся ў Францыю, жыў у Страсбургу, затым у Гаўры, у лют. 1846 выехаў у Бардо. *РДВГА-11, арк. 434; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 342.*

**Шаркевіч Ігнацій** – з мяст. Дунілавічы Вілейскага пав. Мінскай губ. Далучыўся да паўстанцаў. Адышоў у Прусію, затым эмігрыраваў у Паўночную Амерыку (?). Па рашэнню МГСК прызнаны выгнаннікам. *НГАБ-5, арк. 125; РДВГА-11, арк. 430; Dangel S. Rok 1831. S. 118.*

**Шатоўскі Францішак** – селянін памешчыка Рылы з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Т. Тышкевіча, служыў кучарам у Д. Карэнгі. Узяты ў палон. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 347.*

**Шаўкоўскі Людвік Руфін** (1.8.1814 – пасля 1886) – з Гродзенскай губ., н. у Гродне, вывучаў 1 г. медыцыну ў Віленскім ун-це. У паўстанні падафіцэр. Эмігрыраваў у Францыю, з 1835 вывучаў медыцыну ў Манпелье, 30.8.1836 атрымаў дыплом, працаваў у дэп. Авейрон. 8.5.1850 атрымаў французскае грамадзянства. *РДВГА-8, арк. 347; Konarska B. Polskie drogi. S. 408.*

**Шаціла Ян –** шляхціц з Мазырскага пав. Мінскай губ. Удзельнічаў у паўстанні на тэрыторыі Мазырскага пав. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню КГСК атрымаў дараванне. *Dangel S. Rok 1831. S. 134*.

**Швядоўскі Юзаф** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пад Міхалкамі, дзе трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 31.12.1831 асуджаны да аддачы ў салдаты, пазней атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 126 адв.; РДВГА-11, арк. 430.*

**Шкадэрка Антоній** (н. каля 1814) – селянін памешчыка Гутовіча з засценка Пузаны Вілейскага пав. Мінскай губ. Уваходзіў у склад атрада кн. Т. Мірскага. Па канфірмацыі І. Паскевіча атрымаў 15 палак і адпраўлены на цяжкія работы ў Сібір. 12.3.1834 прыбыў у Іркуцк. 29.3.1858 вярнуўся ў Мінск. *Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 597*.

**Шляхцюк Юзаф** – селянін памешчыка І. Мікульскага з в. Дзеравянчыцы Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у паўстанцаў кантаністам. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў перабраўся ў КП, дзе быў арыштаваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 353.*

**Шныяровіч Абрам** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-5, арк. 9*.

**Шпакоўскі Аляксандр** – памешчык з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., брат Антонія. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 131 адв.; РДВГА-8, арк. 354*.

**Шпакоўскі Антоній** – памешчык з Пінскага пав. Мінскай губ., брат Аляксандра, уладальнік маёнтка Амельная. Прымаў у сваім маёнтку Ц. Пуслоўскага, паставіў кантаністаў. *НГАБ-5, арк. 132; РДВГА-11, арк. 433.*

**Шрэтар Антоній** (22.7.1804–6.2.1884) – шляхціц з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., сын Якуба, брат Яна, Пятра, Юзафа, мастак. У паўстанні з 5.3.1831, дзейнічаў у Белавежскай пушчы ў атрадах К. Нямцэвіча і Я. Шрэтара, падафіцэр. 30.8.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. З 4.10.1831 ппар. 3 палка пешых стральцоў. 26.1.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. Член ПНК. У 1840 скончыў

школу выяўленчага мастацтва і прамысловых навук у Тулузе, працаваў у адміністрацыі дарог і мастоў. У 1857 ажаніўся, пачаў займацца жывапісам. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 132 адв.; РДВГА-8, арк. 356; AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Księga pamiątkowa. S. 137; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 416; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 66; Konarska B. Polskie drogi. S. 412; Losy Polaków. S. 446.*

**Шрэтар Багуслаў** – дваранін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы, затым радавы 11 ул. палка. Эмігрыраваў. Працаваў інспектарам дарог і мастоў. Член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 132; РДВГА-8, арк. 356; Krawiec L. Lista członków. S. 61.*

**Шрэтар Пётр** – шляхціц з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., сын Якуба, брат Антонія, Яна, Юзафа. Дзейнічаў у Белавежскай пушчы ў атрадах К. Нямцэвіча і Я. Шрэтара. Эмігрыраваў у Францыю. У 1832 меў дачыненне да дзейнасці ТЛРЗ. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 132 адв.; РДВГА-8, арк. 356; Rps BN, III. 6594*.

**Шрэтар Юзаф** – шляхціц з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., сын Якуба, брат Антонія, Яна, Пятра. Дзейнічаў у Белавежскай пушчы ў атрадах К. Нямцэвіча і Я. Шрэтара. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 132 адв.; РДВГА-8, арк. 356.*



**Якуб Шрэтар.**
*Літаграфія*

**Шрэтар Якуб** (1771–22.6.1842) – шляхціц з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Гайнаўка Пружанскага пав., сын Хрыстафора і Кацярыны Шуберт, стражнік Белавежскай пушчы са Светлічанскай дачы, удзельнічаў у паўстанні 1794. Дзейнічаў спачатку ў атрадзе К. Нямцэвіча, затым арганізаваў у Светлічанскай дачы асобны атрад, пар. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. 26.1.1832 прыбыў у Францыю, член ПНК. У 1832 меў дачыненне да дзейнасці ТЛРЗ, у 1847 член ПДТ. Памёр у Ло. Па рашэнню ГГСК

ад 24.8.1832 аднесены да 1 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 132 адв.; РДВГА-8, арк. 355; AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Rps BN, III. 6594; Księga pamiątkowa. S. 137; ND. 1843. S. 148; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 417; Catalogue des estampes. Cz. 1. Vol. 2. S. 305; Katalog portretów. T. 7. S. 236; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 1; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 670*.

**Шрэтар Ян** (1799–26.12.1881) – шляхціц з Пружанскага пав. Гродзенскай губ., н. у Віленскай губ., сын Якуба, брат Антонія, Пятра, Юзафа (па звестках М. Тыровіча – н. 1791). Дзейнічаў у Белавежскай пушчы ў атрадах К. Нямцэвіча і Я. Шрэтара, падафіцэр, затым ппар. 3 палка пешых стральцоў. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. Эмігрыраваў у Францыю, у 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне, дзе далучыўся да ПНК. Працаваў на будаўніцтве чыгункі. З 12.9.1846 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. Памёр у Каор. *НГАБ-5, арк. 132 адв.; РДВГА-8, арк. 356; AGAD, EPP, nr 1, k. 20; Księga pamiątkowa. S. 137; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 417; Krawiec L. Lista członków. S. 108; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 670*.

**Шукевіч Цыпрыян –** з Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *DS. T. 6. S. 386.*

**Шукшта Павел** – з Мінскай губ., н. у Мінску, на службе ў расійск. арміі. Пад час паўстання трапіў у палон і ўвайшоў у склад 22 палка лін. пяхоты. Эмігрыраваў. З 30.6.1846 член ПДТ. *Krawiec L. Lista członków. S. 106.*

**Шульц Юзаф** (1807–30.12.1847) – з Мінскай губ., сын Мікалая, унтэр-афіцэр Эстляндскага пях. палка, б. вучань Дынабургскай школы ппрап. Далучыўся да дзісенскіх паўстанцаў, актыўны ўдзельнік падзей у Лужках. Ппар. 19 ул. палка, у складзе якога перайшоў межы Прусіі. Эмігрыраваў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. З чэрв. 1836 да 1.1.1837 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада, 23.10.1838 знаходзіўся ў г. Глазга. Па рашэнню МГСК ад 23.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 133; РДВГА-11, арк. 435; AGAD, PFR, nr 7, 15; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 66; Dangel S. Rok 1831. S. 151; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 98; Straszewicz G. Pollacchi della. Vol. 2.*

**Шульц Ян** – памешчык з Бабруйскага пав. Мінскай губ. Нарыхтоўваў для паўстанцаў зброю. Па рашэнню МГСК ад 10.11.1831 вызва-

лены ад адказнасці, узяты пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-5, арк. 132 адв.; РДВГА-11, арк. 435; Dangel S. Rok 1831. S. 151.*

**Шумборскі (Шымборскі) Антоній** – дваранін з мяст. Азёры Дзісенскага пав. Мінскай губ. Знаходзіўся сярод дзісенскіх паўстанцаў, адказваў за фураж. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 23.6.1831 атрымаў дараванне. У 1833 меў сувязь з М. Шыманскім, абяцаў стварыць атрад колькасцю ў 100 чал., не паспеў здзейсніць сваіх намераў з-за арышту. *НГАБ-5, арк. 133; РДВГА-11, арк. 435; Dangel S. Rok 1831. S. 151; Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa emisariusza. S. 73.*

**Шумская Брыгіта** – памешчыца з Вілейскага пав. Мінскай губ. Па патрабаванню паўстанцаў у яе маёнтку Лукавец выраблялі пікі. Па рашэнню МГСК ад 25.1.1832 пакінута вольнай. *НГАБ-5, арк. 133; РДВГА-11, арк. 436; Dangel S. Rok 1831. S. 152.*

**Шумскі Ян** – шляхціц з Мінскай губ. Пастаўляў у Лужкі кантаністаў і харчаванне. Па рашэнню МГСК пакінуты вольным. *РДВГА-11, арк. 436.*

**Шуневіч Напалеон** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Знаходзіўся сярод арганізатараў паўстання ў Ашмянах. Адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Вілейскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Эмігрыраваў. З 17.9.1836 да 24.8.1837 член ПДТ, 15.7.1847 у Парыжы ўступіў паўторна *DS. T. 6. S. 440; РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 8 адв.; Krawiec L. Lista członków. S. 71.*

**Шутоўскі Міхайла** – селянін кн. Радзівіла з в. Шчарбовічы Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., сын Сымона. Добраахвотна далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага ў Навагрудскім пав. У складзе 13 ул. палка дайшоў да Варшавы. Пасля капітуляцыі Варшавы знаходзіўся ў Модлінскім гарнізоне. Узяты ў палон на тэрыторыі Брэсцкага пав., дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 14.5.1832 аднесены да 2 разр. зл., адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 137 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 18–26; РДВГА-8, арк. 357.*

**Шушкевіч Аляксандр** (25.4.1807–12.10.1855) – з Мінскай губ., н. у в. Бобрык Мазырскага (Пінскага ?) пав., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. 19 палка лін. пяхоты. Эмігрыраваў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, пазней у Рэне, дзе вучыўся ў мед. школе, у вер. 1833 высланы ў заклад у Канах за сувязь з рэспубліканцамі. У 1848 выехаў у Кракаў, працаваў у рэдакцыі часопіса "Jutrzenka". 25.8.1852 ат-

рымаў у Парыжы дыплом д-ра медыцыны. У 1832 член ПНК, пазней член ПДТ. *Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 1. S. 227; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 85; Konarska B. Polskie drogi. S. 414.*

**Шчапановіч Фердзінанд** – шляхціц з Мінскай губ., засядацель Вілейскага земскага суда. Знаходзіўся сярод паўстанцаў прымусова, выконваў абавязкі каменданта Вілейкі. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 4.1.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 139; РДВГА-11, арк. 441; Dangel S. Rok 1831. S. 128.*

**Шчапінскі (Шчэпаньскі) Юзаф Пётр** (31.1.1805–5.9.1871) – з Гродзенскай губ., н. у Вільні, у 1828 скончыў мед. ф-т Віленскага ун-та, урач гродзенскага ваен. шпіталя. З'яўляўся членам тайнага гродзенскага к-та. Дзейнічаў у Белавежскай пушчы, затым штабс-лекар 23 палка лін. пяхоты. 21.9.1831 адзначаны сярэбраным крыжам. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл. Эмігрыраваў, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне, у 1833–34 у Швейцарыі, затым у Англіі, з 10.6.1834 да 6.8.1849 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1836 жыў у Парыжы, вывучаў медыцыну, дыплома не атрымаў. Вярнуўся ў Лондан, працаваў скрыпачом у тэатральным аркестры. З 31.5.1846 член ПДТ. У 1869 жыў на Пазнаншчыне. Пакінуў успаміны пра падзеі ў Белавежскай пушчы. *Szczapiński J. Powstanie w puszczy Białowieskiej. S. 241–256; НГАБ-5, арк. 139; ф. 1297, воп. 1, спр. 5526; ф. 1430, воп. 1, спр. 2923; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10; РДВГА-8, арк. 358; Rps BN, II. 7861; Księga pamiątkowa. S. 157; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 410; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 85; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 428; Konarska B. Polskie drogi. S. 408; Krawiec L. Lista członków. S. 104; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 98.*

**Шчарбінскі Антоній** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., брат Сцяпана, сын уніяцкага святара. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, у крас. 1831 удзельнічаў у забойстве 2 казакаў у карчме Мікалаеўскай, у бітве пад Дзіснай. Эмігрыраваў. Па рашэнню МГСК ад 28.3.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 139 адв.; РДВГА-11, арк. 441; Dangel S. Rok 1831. S. 151.*

**Шчарбінскі Сцяпан** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., брат Антонія, сын уніяцкага святара. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, у крас. 1831 удзельнічаў у забойстве 2 казакаў. Устаноўлены паліцэйскі нагляд. *РДВГА-11, арк. 442.*

**Шчука Альфонс** (п. 1858) – н. у Лідскім пав. Гродзенскай губ., на службе ў расійск. арміі з 1824. У паўстанні з 13.6.1831 ппар. 20.2.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 412; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 65*.

**Шчука Аляксандр** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 358.*

**Шчука Юзаф** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 140 адв.; РДВГА-8, арк. 358.*

**Шчуцкі Касьян** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 141 адв.; РДВГА-8, арк. 359.*

**Шчучынскі Сцяпан** (п. 25.8.1832) – шляхціц з Пінскага пав. Мінскай губ., дваравы памешчыка Пуслоўскага. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Дзейнічаў пад Невелем, дзе быў паранены і трапіў у палон. Памёр у Пінску да вынясення рашэння. *НГАБ-5, арк. 141; РДВГА-11, арк. 442; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 39; Dangel S. Rok 1831. S. 151.*

**Шчэрба Платон** (п. 1880) – з Мінскай губ. У паўстанні з 6.4.1831, ппар. 12 ул. палка. 26.2.1832 прыбыў у Францыю. Памёр у Парыжы. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 412*.

**Шыманскі Марцэлін** – дваранін з г. Гродна, студэнт Віленскага ун-та. Арганізаваў атрад, які дзейнічаў у вер. – ліст. 1831 на тэрыторыі Віленскай губ. Эмігрыраваў. У 1833 аб'явіўся на тэрыторыі Віленскай і Гродзенскай губ. у якасці эмісара экспедыцыі Ю. Заліўскага. Арыштаваны ў Вільні, даў шчырыя паказанні пад час следства, улады мелі намер выкарыстаць яго ў якасці шпіёна ў эмігранцкім асяроддзі ў Францыі. Пасля прыбыцця ў Францыю прызнаўся эмігрантам у сваіх учынках. Па рашэнню ГГСК аднесены да 1 разр. зл., адасланы ў Пецярбург на допыт, адкуль па адной версіі збег за мяжу, па другой – перапраўлены туды ўладамі. *РДВГА-8, арк. 350; Солоневич Л. Краткий исторический очерк. С. 32; Gulczyński E. Sprawa Marcelego Szymanskiego; Konarska B. Polskie drogi. S. 415; Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa emisariusza. S. 86–95*.

**Шымкевіч Міхал** (6.11.1803–1868) – шляхціц з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., н. у в. Аполе, вучыўся ў кадэцкай школе. У паўстанні

пар. 17 палка лін. пяхоты. З 1832 у Францыі, у 1833–34 наведваў курсы па гісторыі і літаратуры ў Тулузе. Здаў экзамен на інструктара дарог і мастоў і быў прыняты ў корпус дадзенай установы ў дэп. Аўен, у 1865 з'яўляўся інструктарам 2 кл. З 1848 член ПДТ. *Konarska B. Polskie drogi. S. 416.*

**Шымковіч Ян** (п. 28.6.1831) – памешчык са Свянцянскага пав. Віленскай губ. Адзін з арганізатараў паўстання ў Свянцянскім пав. Член часовага пав. к-та, член часовага свянцянскага ўрада. Арыштаваны, утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці, дзе і памёр. *НГАБ-5, арк. 135; Bortkiewicz W. Historyczne opisanie. S. 266; Bieliński K. Rok 1831. S. 92.*

**Шыпіла Пётр** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Францішка. Дзейнічаў узбр. сярод дзісенскіх і вілейскіх паўстанцаў. Быў паранены, знаходзіўся ў шпіталі ў Коўна, дзе трапіў у палон. Па рашэнню МГСК ад 18.4.1832 справа накіравана часоваму ваен. губернатару, надалей вызвалены ад адказнасці. *НГАБ-5, арк. 135 адв.; РДВГА-11, арк. 437; Dangel S. Rok 1831. S. 151.*

**Шыпіла Юзаф** – з Дзісенскага пав. Мінскай губ., каморнік. Удзельнічаў у паўстанні ў Дзісенскім пав. *РДВГА-11, арк. 437.*

**Шырма** – радавы Мінскага пях. палка расійск. арміі. Перайшоў да паўстанцаў, эмігрыраваў. *НГАБ-5, арк. 137; РДВГА-11, арк. 438.*

**Шырын Антоній** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ігнація. Член урадавага к-та ў Лужках. Распаўсюджваў адозвы, збіраў кантаністаў. З'явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 25.12.1831 аднесены да 2 разр. зл., рашэннем галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 18.5.1832 вызвалены ад адказнасці з забаронай пакідаць маёнтак. *НГАБ-5, арк. 136; РДВГА-11, арк. 437; Dangel S. Rok 1831. S. 151.*

**Шырын Сымон** – селянін памешчыка Яжукевіча з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. У ліп. 1831 у Навагрудку далучыўся да атрада Ю. Кашыца, у складзе якога апынуўся ў корпусе Г. Дэмбінскага і дайшоў да Варшавы. Вярнуўся ў Гродзенскую губ., быў арыштаваны ў Пружанскім пав. і дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 18.4.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 12–14; РДВГА-8, арк. 351.*

**Шышко Казімір** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ. Выконваў абавязкі паўст. каменданта Сіцкага ключа. Распаўсюджваў адозвы. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню МГСК ад 15.2.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 130; РДВГА-11, арк. 432; Dangel S. Rok 1831. S. 151.*

**Шышко Станіслаў –** з Гродзенскай губ. За ўдзел у паўстанні маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-5, арк. 130 адв.*

**Шэль Іван** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., б. пісьмавод гродзенскага губ. пракурора. Далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 348.*

**Шэльцінг** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў. Кіраваў разам з В. Вельямоўскім 10.4.1831 атрадам, які напаў на мяст. Воранава. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 3, спр. 1102, арк. 2–32.*

## Э

**Эйсман Вінцэнт** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Адама. Меў сувязь з дзісенскімі паўстанцамі. Па рашэнню МГСК ад 9.11.1831 пакінуты вольным, узяты пад нагляд паліцыі. *НГАБ-5, арк. 133; РДВГА-11, арк. 124; Dangel S. Rok 1831. S. 132.*

**Эйсман Гілярый** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Антонія. Удзельнічаў у бітве пад Дзіснай, дзе быў забіты. Па рашэнню МГСК ад 19.11.1831 аднесены да 2 разр. зл. Маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-5, арк. 132 адв.; РДВГА-11, арк. 125; Dangel S. Rok 1831. S. 105, 132.*

**Эйсмант** – памешчык з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 109.*

**Эйсмант Агатон** (н. каля 1810) – з в. Снядкова Віцебскай губ. У паўстанні з 20.3.1831, член дзісенскага ўрадавага к-та (?), з 1.9.1831 ппар. атрада кн. Т. Мірскага, 4.10.1831 атрымаў залаты крыж. 1.2.1833 прыбыў у Францыю, з 7.8.1833 член ПДТ. МГСК разглядала яго справу 22.12.1831.

*Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 115, 314; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 220; Dangel S. Rok 1831. S. 127; Krawiec L. Lista członków. S. 45.*

**Эйсмант Актавіян** (н. каля 1812) – памешчык з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., служачы Міністэрства фінансаў у Варшаве, уладальнік маёнтка Ябланова. У паўстанні ппар., 24.4.1831 далучыўся да 6 ул. палка. 1.7.1831 атрымаў залаты крыж. 10.10.1831 прыбыў у Варшаву, аднавіў прысягу расійск. ураду. Па рашэнню ГГСК ад 4.7.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 46; РДВГА-8, арк. 108; AGAD, KRW, nr 477, 478, 479; Księga pamiątkowa. S. 128; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 26.*

**Эйсмант Антоній** (п. 20.10.1849) – дваранін з Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., жыў у Заблоцці, інструктар пры будаўнічай частцы. Служыў падафіцэрам 11 ул. палка, у складзе якога адступіў у Прусію, інтэрніраваны. 15.8.1832 на караблі “Віжылант” прыбыў у Францыю. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 142; РДВГА-8, арк. 107; Швед В.В. Падзеі і постаці. С. 141; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 25.*

**Эйсмант Напалеон** (н. 1809) – з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у фальварку Яхновічы, працаваў у земскай канцылярыі. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Прусію, 18 мес. утрымліваўся ў Гданьску. Эмігрыраваў. З 18.10.1835 да 6.5.1836 член ПДТ. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскавана частка маёнтка Дартвяны. *НГАБ-5, арк. 142 адв.; РДВГА-8, арк. 107; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista członków. S. 67.*

**Эйсмант Станіслаў** (н. каля 1810) – аднадворац Лідскага пав. Гродзенскай губ. Служыў унтэр-афіцэрам 4 лін. палка. Узяты ў палон пад Грохавам. Па рашэнню ГГСК ад 9.8.1834 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. Маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 143; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 70 адв. – 71; РДВГА-8, арк. 108.*

**Эйсмант Ян** (н. каля 1813) **–** шляхціц з г. Гродна Гродзенскай губ., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні ппар., трапіў у палон. Сасланы ў г. Елабугу Вяцкай губ., адкуль вярнуўся ў край. У 1833 дзейнічаў з М. Шыманскім. Па канфірмацыі ад 14.11.1833 прызначаны да адпраўкі ў Каўказскі асобны корпус з пазбаўленнем шляхецтва. *Rps BUW, nr 552; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 25; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 154.*

**Эйсмантовіч (Эйсмановіч) Іван** – з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 142; РДВГА-8, арк. 107*.

**Эйхлер** – з Гродзенскай губ., вартаўнік Белавежскай пушчы. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 111.*

**Эльяшэвіч Аляксандр** – з г. Гродна, студэнт Варшаўскага ун-та. У паўстанні ппар. 5 ул. палка. У жн. 1832 эмігрыраваў у Францыю. У кастр. 1839 выязджаў у Швейцарыю, але хутка вярнуўся назад. У 1857 атрымаў дазвол вярнуцца ў Гродзенскую губ. *Potrykowski J. Tułactwo Polaków. T. 2. S. 405; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 22; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 160.*

**Энгельгарт Антоній** (1792–8.2.1850) – з Гродзенскай губ., н. у мяст. Белавежа Пружанскага пав. У паўстанні кап. пешай артылерыі, з 24.9.1831 ппалк. *Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 130.*

**Энгельгарт Іван** – з Гродзенскай губ., адстаўны кап. Знаходзіўся кароткачасова сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 10, арк. 21 адв.; РДВГА-8, арк. 110.*

## Ю

**Юдзіновіч Караль** – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ., урач. Знаходзіўся ў атрадзе Ц. Пуслоўскага. 8.8.1831 узяты ў палон, адпраўлены ў Бабруйск. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1832 аддадзены ў рэкруты. *РДВГА-11, арк. 443; ф. 405, воп. 2, спр. 4308, арк. 10 адв.; Dangel S. Rok 1831. S. 132; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 251.*

**Южбовіч Антон** – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., повар з мяст. Дзярэчын. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 362*.

**Юзвік (Ёзвік) Людвік** (н. 2.4.1801 – пасля 1875) – шляхціц з Лідскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Шчучын, сын Андрэя і Разаліі Гудновіч, скончыў піярскую школу ў Варшаве, 1822–27 студэнт мед. ф-та Варшаўскага ун-та, урач 1 палка пешых стральцоў. У паўстанні ўрач 1 палка пешых стральцоў, 1 пях. дывізіі, затым галоўнага штаба. 15.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. У маі 1832 прыбыў у Францыю, застаўся ў Парыжы, дзе вывучаў медыцыну, 22.8.1834 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у Парыжы. *Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 202, 205; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 228; Gerber R. Studenci. S. 287; Konarska B. Polskie drogi. S. 291*.

**Юзіровіч Казімір** – мешчанін з г. Пружаны Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 359.*

**Юневіч Ананій** – селянін памешчыка Вішчынскага з маёнтка Касарычы Бабруйскага пав. Мінскай губ., брат Давіда. Захоўваў 14 стрэльбаў, порах і кулі. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 11.5.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 144; РДВГА-11, арк. 443.*

**Юневіч Давід** – вольны селянін з маёнтка Касарычы Бабруйскага пав. Мінскай губ., брат Ананія, разьбяр. Захоўваў зброю, порах і кулі. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 11.5.1832 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 144; РДВГА-11, арк. 444.*

**Юрага** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., межавы суддзя. Знаходзіўся сярод ашмянскіх паўстанцаў. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 11 адв.*

**Юркевіч Сцяпан** – селянін памешчыка С. Незабытоўскага з маёнтка Яноўшчына Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся пры сваім памешчыку кучарам. Адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 360.*

**Юркоўскі Аляксандр** (н. 1790) – шляхціц з Ашмянскага пав. Віленскай губ., вучыўся ў Віленскім ун-це. Працаваў настаўнікам, прэфект школ у Кейданах, Вільні, Цельшах. Знаходзіўся ў ашмянскім апалчэнні. Высланы К. Пршэздзецкім на чале атрада ў Вілейскі пав. з мэтай ар-

ганізацыі там паўстання. Удзельнічаў у бітве пад Вілейкай. Эмігрыраваў. Пісаў гістарычныя аповесці. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 аднесены да 2 разр. зл. *Jurkowski A.J. Historya zakony; НГАБ-5, арк. 144 адв.; РДВГА-11, арк. 445; Rps BN, II. 7861; Bieliński J. Uniwersytet Wileński. T. 2. S. 452; Dangel S. Rok 1831. S. 132; Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny. S. 186.*

**Юроўскі Ігнацій** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, трапіў у палон, утрымліваўся ў Бабруйску. Па рашэнню ГГСК ад 26.2.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 238; РДВГА-8, арк. 360*.

**Юрцэвіч Сымон** – селянін гр. Солтана са Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дастаўлены ў атрад Г. Дэмбінскага памешчыкам А. Бронскім. Адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 361.*

**Юрчанка Міхал** – селянін памешчыка Ю. Крушэўскага з Рэчыцкага пав. Мінскай губ., сын Рыгора. Служыў у атрадзе Ф. Кеневіча. Узяты ў палон. Па рашэнню МГСК ад 1.12.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 145; РДВГА-11, арк. 446*.

**Юрчук Раман** – з Мінскай губ., ямшчык дубойскай паштовай станцыі. Служыў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню МГСК ад 29.2.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 145; РДВГА-11, арк. 447*.

**Юрша Марцін** – з Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Д. Хлапоўскага пад кіраўніцтвам Т. Тышкевіча. *РДВГА-8, арк. 361.*

**Юршноўскі Станіслаў** – манах Драгічынскага францысканскага кляштара Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Займаўся агітацыяй. Пераведзены ў Пінскі францысканскі кляштар. *РДВГА-8, арк. 359*.

**Юрэвіч Юзаф** – шляхціц з маёнтка Пашумін Свянцянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні радавы 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 72; Bieliński K. Rok 1831. S. 122.*

**Юсевіч Бернард –** з Віленскай губ., кандыдат філасофіі. Па канфірмацыі віленскага ваен. губернатара ад 1.7.1833 сасланы ў Варонежскую губ. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 402, арк. 1.*

**Юсовіч Сымон** – з Дзісенсага пав. Мінскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон, утрымліваўся ў Дынабургскай крэпасці. Па распараджэнню каменданта крэпасці адпраўлены ў Рэвель для аддачы ў матросы. На падставе загаду ад 15.6.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 146 адв.; РДВГА-11, арк. 447.*

**Юхневіч Вінцэнт –** з Ашмянскага пав. Віленскай губ. У паўстанні падафіцэр 13 ул. палка ў фарміраванні Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, дзе 9.8.1831 удзельнічаў у Віленскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 71; DS. T. 6. S. 440.*

**Юхневіч (Юхновіч) Міхал** (28.1.1808–8.11.1837) – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., н. у мяст. Дзярэчын, сын Юзафа і Тэрэзы Марачэўскай, повар. У паўстанні радавы 1 ул. палка, адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келлі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834–35 у Афрыцы, у 1835–37 у Іспаніі. Загінуў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 362; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 174.*

**Юхневіч Ян** – шляхціц з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Аўгуста. Служыў у дзісенскім апалчэнні, адышоў у Віленскую губ. Узяты ў палон. Пакінуты вольным, пратакол МГСК ад 13.6.1832. *НГАБ-5, арк. 145 адв.; РДВГА-11, арк. 447; Dangel S. Rok 1831. S. 132.*

**Юшакевіч Марк** – са Слонімскага пав. Гродзенскай губ., повар з мяст. Дзярэчын. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 362*.

**Юшкевіч Ян** (н. 22.6.1798) – з Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., аканом Драгічынскага францысканскага кляштара. У паўстанні капелан, дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага і на Жмудзі. 4.10.1831 адзначаны залатым крыжам. Эмігрыраваў у Францыю, 2 г. вывучаў у Манпелье дакладныя навукі, у 1836 перабраўся ў Страсбург, дзе вывучаў медыцыну. Па рашэнню ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 145 адв.; РДВГА-8, арк. 362; Księga pamiątkowa. S. 168; Konarska B. Polskie drogi. S. 292*.

**Юшко Ян** – з Гродзенскай губ., н. у Гродна. У паўстанні радавы 8 палка лін. пяхоты. 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі. *BPP, nr 408, s. 211.*

# Я

**Яблонскі Леанард** – з Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў, эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскаваны маёнтак Расілаўка. *НГАБ-5, арк. 147 адв.; РДВГА-8, арк. 363; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Яблонскі Леапольд** – памешчык з Гродзенскай губ., суддзя Гродзенскага суда. Падафіцэр атрада навагрудскай конніцы, пхар. 13 ул. палка, адышоў з атрадам Г. Дэмбінскага ў Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. З 4.10.1831 ппар., 5.10.1831 у складзе корпуса М. Рыбінскага адышоў у Прусію, прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне, канфіскавана маёмасць на суму 8 тыс. зл. *НГАБ-5, арк. 148; РДВГА-8, арк. 363; AGAD, WCPL, nr 724, k. 75; DS. T. 6. S. 386; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**Яблонскі Станіслаў** (п. 1836?) – памешчык з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У паўстанні ппар. палка грэнадзёраў, з 30.7.1831 пар. Далучыўся да атрада Г. Дэмбінскага, у складзе якога адышоў у Варшаву, ппалк. штаба 3 палка пешых стральцоў. 30.8.1831 адзначаны залатым крыжам. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. Пахаваны ў Мінску на Кальварыйскіх могілках (?). *РДВГА-8, арк. 363; AGAD, WCPL, nr 724, k. 53; Rps BUW, nr 2327; Księga pamiątkowa. S. 137; Czerniawska T., Jaroszewicz A. Rzymsko-Katolicki Cmentarz. S. 223.*

**Яблонскі (Ябланоўскі) Сымон** – селянін памешчыка Шамплінскага з маёнтка Гронс Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Далучыўся да паўстанцаў Белавежскай пушчы, праз нейкі час збег і хаваўся на тэрыторыі КП. Арыштаваны казакамі, высланы ў Вільню, пасля ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 4.5.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. 9.9.1832 выехаў на Каўказ. *НГАБ-5, арк. 148; РДВГА-8, арк. 364; Śliwowska W. Zesłańcy polscy. S. 223*.

**Яворскі Дамінік** – дваранін з маёнтка Плянта Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся на службе ў КП, дзе далучыўся да паўстанцаў. Па рашэнню ГГСК ад 9.11.1832 і канфірмацыі галоўнака-

мандуючага 1-й арміі ад 12.1.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 116; РДВГА-8, арк. 365.*

**Яворскі Мікалай** – селянін памешчыка Ю. Абуховіча з маёнтка Сядзельнікі Мазырскага пав. Мінскай губ. Служыў у атрадзе Ф. Кеневіча, удзельнічаў у сутыкненні пад Міхалкамі. Узяты ў палон. Рашэннем МГСК ад 21.12.1831 аддадзены ў салдаты. *НГАБ-5, арк. 148 адв.; РДВГА-11, арк. 449.*

**Яворскі Стэфан (Станіслаў)** (21.8.1788–20.11.1871) – са Слуцкага пав. Мінскай губ., н. у Нясвіжы, сын Леана і Эльжбеты, адстаўны ппар. польск. войскаў. У паўстанні з 23.1.1831 ппар. 5 ул. палка, 3.4.1831 пар., 11.8.1831 кап., удзельнічаў у бітве пад Грохавам, 30.8.1831 атрымаў залаты крыж. 4.8.1832 прыбыў у Францыю. З 21.3.1835 член ПДТ. Аслеп, жыў у кляштары св. Казіміра. *Księga pamiątkowa. S. 138; Bartkowski J. Spis Polaków zmarłych. S. 187; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 115, 307; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 213; Krawiec L. Lista członków. S. 63; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 263.*

**Ягалкоўскі Юзаф** – з Гродзенскай губ., ппар. кобрынскай інваліднай каманды. У паўстанні з 3.12.1830, 9.6.1831 ппар. 10 ул. палка, параненый чатыры разы. Прыбыў у Францыю ў крас. 1832. З 6.7.1836 член ПДТ. *РДВГА-8, арк. 366; Bielecki R. Zarys rozproszenia. S. 115; яго ж: Słownik biograficzny. T. 2. S. 186; Krawiec L. Lista członków. S. 69; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 240.*

**Ягнешка Ян** – селянін памешчыцы Эйсмантавай з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Меў намер далучыцца да паўстання, па дарозе арыштаваны казакамі. Па рашэнню ГГСК атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 365.*

**Ядзіда** – з Ашмянскага пав. Віленскай губ., яўрэй. Прысягнуў паўстанцам. *РДВГА-7, арк. 333.*

**Ядко Вінцэнт** – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., сын Ігнацыя. Быў прызначаны памочнікам камендanta Куржанецкага ключа, аднак абавязкаў не выконваў. Па рашэнню МГСК ад 21.12.1831 вызвалены ад суда. *НГАБ-5, арк. 159.*

**Ядко Мікалай** – дваранін з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнню ГГСК ад

8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, пасля вяртання атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 159; РДВГА-8, арк. 132.*

**Ядко Эразм** – дваранін з Гродзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Эмігрыраваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 132.*

**Ядкоўскі Іван** – дваранін з Гродзенскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў атрадзе Д. Хлапоўскага. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 133*.

**Ядкоўскі Леан** – з Гродзенскай губ., студэнт Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Далучыўся да паўстанцаў. Эмігрыраваў. Рашэннем гродзенскага губ. праўлення ад 24.7.1835 прызнаны выгнаннікам. *НГАБ, ф. 1416, воп. 4, спр. 4373, арк. 1; РДВГА-8, арк. 133.*

**Яжэўскі Вінцэнт** – селянін памешчыка Гаціскага з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. З’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 105*.

**Язвінскі Вінцэнт** (н. 1795) – памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., н. у Мінску, ппар. коннай артылерыі польск. войскаў. Дзейнічаў сярод ашмянскіх паўстанцаў, начальнік штаба. Затым ппар. польск. войскаў. Па рашэнню МГСК ад 24.9.1832 яго справа накіравана галоўнакамандуючаму 1-й арміі, загадам якога апошні вызвалены ад пакарання. *НГАБ-5, арк. 149; РДВГА-11, арк. 449; AGAD, KRW, nr 553; Zienkowicz J. Powstanie powiatu oszmiańskiego. S. 39; Bielecki R. Słownik biograficzny. T. 2. S. 215; Dangel S. Rok 1831. S. 131*.

**Язвінскі Ігнацій –** памешчык з Вілейскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Ваўчкі, сын Фелікса. Абраны членам вілейскага ўрадавага к-та, абавязкаў не выконваў. Па рашэнню МГСК ад 29.10.1831 аднесены да 2 разр. зл., аднак 5.5.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 149 адв.; РДВГА-11, арк. 449; Dangel S. Rok 1831. S. 121.*

**Язерскі Васіль** – дваранін з казённага маёнтка Сакалова Слонімскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у атрадзе Ц. Пуслоўскага. Быў паранены. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *НГАБ-5, арк. 131; РДВГА-8, арк. 106*.

**Язерскі Міхал** – з Гродзенскай губ., вучань Навагрудскага дамініканскага вуч. Далучыўся да атрада Ю. Кашыца ў Рыдзюках. З атрадам Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у

Гродзенскім сейміку па абранню дэпутатаў на сейм. Апынуўся за мяжой, прасіў літасці. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 106; DS. T. 6. S. 386.*

**Язерскі Цыпрыян** – селянін памешчыка Гацінскага з маёнтка Пярэсека Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. З'явіўся да ўлад. Па рашэнню ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 105*.

**Якавіцкі** – з Гродзенскай губ., адвакат лідскіх прысутных месц. Меў тайныя зносіны з паўстанцамі, вёў перапіску. Па рашэнню ГГСК аднесены да 3 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 367*.

**Якавіцкі Гілярый** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Казіміра, межавы суддзя. Прызначаны паўст. камендантам, абавязкаў не выконваў. Аддадзены пад паліцэйскі нагляд. *НГАБ-5, арк. 150 адв.; РДВГА-11, арк. 451; Dangel S. Rok 1831. S. 131.*

**Якавіцкі Іван** – памешчык з Дзісенскага пав. Мінскай губ., сын Ксаверыя. Прызначаны паўст. камендантам Курылавіцкага ключа, абавязкаў не выконваў. Па рашэнню МГСК ад 5.11.1831 пакінуты вольным. *НГАБ-5, арк. 151; РДВГА-11, арк. 451.*

**Якімовіч Казімір** – дваранін з маёнтка Стайкі Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Г. Дэмбінскага, з якім адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 367*.

**Якімовіч Юзаф** – з Мінскай губ. Прысягнуў паўстанцам, меў дачыненне да падзей у Маладзечне, пратакол МГСК ад 2.1.1832. *РДВГА-11, арк. 450; Dangel S. Rok 1831. S. 130.*

**Якімчук Андрэй** – селянін памешчыка Высоцкага з Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы. Затым уведзены ў склад 1 пях. палка, з якім адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 367.*

**Якубоўскі Вінцэнт –** з Віленскай губ., сакратар ашмянскага пав. маршалка. 4.4.1831 абвясціў у Ашмянах маніфест і Акт канфедэрацыі. Накіраваны ашмянскім паўст. к-там для разгортвання дзеянняў у Свянцянскі пав. У мяст. Налібокі абвясціў аб вызваленні сваіх сялян з-пад прыгонніцтва. *РДВГА, ф. 405, воп. 2, спр. 4139, арк. 7, 9; Гарбачова В.В. Дыпламатыя. С. 60; Улащик Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы. С. 452*.

**Якубоўскі Ігнацій** (п. 1856 (1860?)) – дваранін з Вілейскага пав. Мінскай губ., ключвойт. Схаваў сабраную ў насельніцтва зброю. Эміграваў у Францыю, член ПНК. (Па звестках М. Пашкевіча 9.6.1835 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. З 17.3.1841 жыў у г. Глазга). *НГАБ-5, арк. 151 адв.; РДВГА-11, арк. 452; AGAD, EPP, nr 1, k. 18; Paszkiewicz M. Lista emigrantów. S. 76.*

**Якубоўскі Міхал** – селянін з Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Служыў у атрадзе Д. Рамарына, пасля заканчэння ваен. дзеянняў бадзяўся ў КП. Арыштаваны і дастаўлены ў Гродна. Па рашэнню ГГСК ад 11.3.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. 15.4.1833 выехаў на Каўказ. *НГАБ-5, арк. 152 адв.; НГАБ у г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 243; РДВГА-8, арк. 368.*

**Якутовіч Іван** – дваранін з Навагрудскага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічаў у складзе атрада Г. Дэмбінскага, з якім адышоў у Прусію, інтэрніраваны. Па рашэнню ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 369*.

**Яленскі** – з Мінскай губ. Знаходзіўся сярод дзісенскіх паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 345.*

**Яленскі Іван** – дваранін з Мазырскага пав. Мінскай губ., сын Паўла. Служыў у апалчэнні, узяты ў палон. У 1838 ведаў пра намеры Ш. Канарскага, але не данёс. Па рашэнню МГСК за ўсе дзеянні прызначаны да высылкі з краю. *НГАБ-5, арк. 134; РДВГА-11, арк. 119.*

**Яленскі Напалеон** – памешчык з Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1831 удзельнічаў у падзеях у Мазырскім пав. У 1833 з’яўляўся эмісарам Булаўскага ў Мінскай губ. У 1835 меў дачыненне да справы Ш. Канарскага, выконваў абавязкі сакратара Саюза польск. народа па Мазырскаму пав. Прынята рашэнне саслаць радавым у Каўказскі асобны корпус да выслугі без пазбаўлення шляхецтва. *РДВГА-11, арк. 122; Швед В.В. Паміж Польшчай і Расіяй. С. 192.*

**Яленскі Юзаф** – уніяцкі пробашч з Дзісенскага пав. Мінскай губ., уладальнік маёнтка Юдзічын. Добраахвотна далучыўся да паўстанцаў, прысягнуў, капелан у палку В. Брахоцкага. Пасля заканчэння ваен. дзеянняў з’явіўся з раскаяннем. Па рашэнню МГСК ад 7.8.1831 аднесены да 2 разр. зл. Па канфірмацыі галоўнакамандуючага 1-й арміі ад 8.6.1832 амнісціраваны. *НГАБ-5, арк. 134 адв.; РДВГА-11, арк. 120*.

